3ок-1
2600

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 1—2.
Студзень—люты 1938 г

БА 476
Инв 1953г

ЗМЕСТ

*Стар.*

---

Адрас рэдакцыі:

Мінск, Чырвонаармейская вул., ЦК КП(б)Б, пакой 8.

Тэлефон рэдакцыі па камутатару 20.000, даб. 50.

# „Права-трацкісцкі блок“ забойцаў, шпіёнаў, здраднікаў

Сёння мы публікуем паведамленне Пракуратуры Саюза ССР *) аб прадстаячым 2 сакавіка г. г. разглядзе ў адкрытым судовым пасяджэнні Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суда СССР справы аб злачыннай дзейнасці змоўніцкай групы пад назвай «права-трацкісцкі блок». Да судовай адказнасці па абвінавачванню ў шпіёнскай, шкодніцкай, дыверсійнай і тэрарыстычнай дзейнасці прыцягнуты Бухарын Н. І., Рыкаў А. І., Ягода Г. Г., Крэсцінскі Н. Н., Ракоўскі Х. Г., Розенгольц А. П., Іваноў В. І., Чэрноў М. А., Грынько Г. Ф., Зеленскі І. А., Бессонаў С. А., Ікрамаў А., Хаджаеў Файзула, Шаранговіч В. Ф., Зубараў П. Т., Буланаў П. П., Левін Л. Г., Плетнёў Д. Д., Казакоў І. Н., Максімаў В. А., Кручкоў П. П.

Сотні мільёнаў рабочых, сялян, чэсных інтэлігентаў ва ўсім свеце ўздрыгнуцца ад абурэння і амярзення, калі даведаюцца аб страшэннай змове, аб кашмарных, ледзянячых душу злачынствах банды гнусных забойцаў, шпіёнаў, фашысцкіх змоўшчыкаў, аб'яднаўшыхся ў «права-трацкісцкі блок».

Выкрытыя слаўнымі органамі НКВД СССР і адданыя зараз суду подлыя змоўшчыкі на працягу доўгага раду год былі шпіёнамі на службе замежных разведак. Следства да канца зрывае заслону, за якой хаваўся закляты вораг совецкага народа, вораг працоўных усяго свету—Троцкі. Устаноўлена, што ён ужо з 1921 г. нёс шпіёнскую службу для адной замежнай разведкі. З 1926 года Троцкі прадаўся і другой замежнай разведцы.

Па прамому заданню Троцкага, Бухарына, Рыкава, па планах, шырока задуманых і распрацаваных у генеральных штабах некаторых замежных дзяржаў, удзельнікі «права-трацкісцкага блока» займаліся шпіянажам, ажыццяўлялі шкодніцкую, дыверсійную і тэрарыстычную дзейнасць у СССР.

Яны задумалі, падрыхтавалі і арганізавалі забойства любімага сына совецкага народа, незабыўнага, дарагога Сергея Міронавіча Кірава. Яны падрыхтоўвалі замахі на жыццё кіраўнікоў партыі большэвікоў і совецкага ўрада. Самымі агіднымі сродкамі, перад якімі спыняецца ўяўленне чэсных людзей, яны ажыццявілі пры дапамозе фашыстаў, катаў-урачоў зладзейскае ўмярцвенне таварышоў В. В. Куйбышэва, В. Р. Менжынскага, А. М. Горкага.

---

*) „Правда“ ад 28 лютага 1938 г.

У лютай, воўчай злобе яны паднялі руку на адданых справе народа барацьбітоў за комунізм, на вялікага рускага пісьменніка Алексея Максімавіча Горкага. Гэта была подлая помста фашысцкіх вырадкаў вялікім і благародным людзям, прысвяціўшым усё жыццё без астатку служэнню працоўнаму чалавецтву.

У сваёй прамове перад выбаршчыкамі ў горадзе Горкім таварыш Ежоў гаварыў па поваду забойства Сергея Міронавіча Кірава: «Гэтай афяры мы ніколі не даруем. Трацкісцка-бухарынская шпіёнская зграя за галаву тав. Кірава нам заплаціць дорага».

Забойцы з «права-трацкісцкага блока» заплацяць дорага і за цудоўныя светлыя галовы таварышоў Куйбышэва, Менжынскага, А. М. Горкага. Гэтыя забойствы былі часткай д'ябальскага плана заняволення нашай радзімы капіталістычнымі драпежнікамі. Троцкі, Бухарын, Рыкаў і іншыя здраднікі абяцалі імперыялістычным захватчыкам забяспечыць паражэнне Чырвонай Арміі—і падрыхтоўвалі гэта паражэнне выдачай ваенных тайн, шпіянажам, дыверсійнымі і тэрарыстычнымі актамі.

Троцкі, Бухарын, Рыкаў і іншыя здраднікі абяцалі імперыялістычным захватчыкам забяспечыць расчляненне Совецкага Саюза, адрыў ад яго Украіны, Беларусі, Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік, Грузіі, Арменіі, Азербайджана, Прымор'я на Далёкім Усходзе—і яны падрыхтоўвалі гэта адтаржэнне зговарам з буржуазнымі нацыяналістамі, агентамі імперыялізма.

«Права-трацкісцкі блок» быў гнуснай бандай прафесіянальных шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў, забойцаў, якія паставілі сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталізма ў СССР. Гэты «блок» сцягваў у свае рады ўсю тую сволач, якая асталася ад разбітых і знішчаных у СССР эксплаататарскіх класаў і варожых народу партый. У «права-трацкісцкім блоку», як устанавіла следства, спяляліся ў брудны клубок эсэры і меншавікі, буржуазныя нацыяналісты і правакатары з царскай ахранкі.

Усіх гэтых бандытаў, шпіёнаў, правакатараў яднала і яднае адно: шалёная, лютая, звярыная нянавісць да соцыялізма, да партыі большэвікоў, да совецкага народа, які будуе соцыялістычнае грамадства. У злачыннай зграі ёсць адна паганая мара: аб рэстаўрацыі капіталізма, аб звароце да ўлады буржуазіі—памешчыкаў, капіталістаў, кулакоў. Бо ўсё сваё жыццё змоўшчыкі служылі інтарэсам капіталізма. Халопы капітала,—яны смяротна ненавідзелі свабодны совецкі народ, распаўсюджвалі гнусны бухарынскі паклёп аб рускім народзе, як аб народзе гультаёў, якім патрэбен бізун капіталіста і памешчыка.

Яны рыхтавалі прыход буржуазіі з дапамогай замежных разведак. Фашысцкая буржуазія глядзела на іх, як на галаўны атрад сваіх шпіёнаў і дыверсантаў, разлічвала на іх, як на «пятую калону», у час будучай вайны. Следам за забойствам Кірава, следам за ўмярцвеннем Куйбышэва, Менжынскага, Горкага яны замышлялі забойства


Акадэміі навук ССР

мільёнаў рабочых і сялян, разгром совецкіх гарадоў, пагібель совецкіх заводаў і калгасаў.

Іх подлым марам не збыцца ніколі! Доблесная совецкая разведка, якая зорка стаіць на варце інтарэсаў радзімы і народа, абарвала гнусную дзейнасць трацкісцка-бухарынскай банды. Разгром права-трацкісцкай бандыварты вялікага выйграшнага бою.

Лава падсудных—апошні этап ганебнага шляху «права-трацкісцкага блока». Імёны гэтых бандытаў совецкі народ навекі закляйміў ганьбай і нянавісцю. Як-бы ні называлі сябе гэтыя мацёрыя здраднікі, правымі ці «левымі», яны заўсёды нападалі на совецкі народ з тылу. Яны карысталіся затрудненнямі ў гераічнай барацьбе рабочых і сялян, каб паспрабаваць зваліць уладу працоўных, падарваць іх перамогі і дасягненні, вярнуць краіну і народ да часоў буржуазнага панавання.

Следства ўстанавіла, што ўжо ў 1918 годзе, непасрэдна ўслед за Кастрычніцкай рэволюцыяй, у перыяд заключэння Брэсцкага міру, Бухарын і бухарынцы арганізавалі змову разам з Троцкім і «левымі» эсэрамі супроць В. І. Леніна, як главы совецкага ўрада. Нягоднікі мелі сваёй мэтай сарваць Брэсцкі мір, звергнуць совецкі ўрад, арыштаваць і забіць В. І. Леніна, І. В. Сталіна і Я. М. Свердлова.

У святле гэтых злачынстваў супроць Леніна і совецкай улады становіцца яснай і зразумелай уся наступная злачынная дзейнасць трацкістаў і бухарынцаў супроць совецкага народа.

Змоўшчыкам не ўдалося ажыццявіць свой чорны замысел. Але яны яго не пакінулі. Перамогі рабочых і сялян, умацаванне совецкай улады, ліквідацыя капіталістычных класаў, дасягненні і трыумф социялізма ўсё больш азлаблялі ворагаў народа. Яны прабавалі сарваць социялістычную індустрыялізацыю совецкай краіны, прабавалі сарваць калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Партыя, пад кіраўніцтвам Ленінска-Сталінскага ЦК, нястомна выкрывала трацкістаў і бухарынцаў як прапаведнікаў капіталістычнай рэстаўрацыі, як агентаў контррэволюцыі, як важакоў асцервянеўшага кулачча.

Чым больш раскрываўся перад усім народам іх сапраўдны твар, тым мацней была іх нянавісць да партыі большэвікоў. Маскуючыся, двурушнічаючы, прымяняючы самыя подлыя прыёмы, трацкісты і бухарынцы ператварыліся ў агалцелых бандытаў, фашысцкіх забойцаў з-за вугла, шпіёнаў, дыверсантаў. Нічога агульнага не было і няма ў іх з совецкім народам, з нашай радзімай. На лаве падсудных яны сядзяць як паддлейшыя здраднікі радзімы, як слугі фашысцкіх разведак, як прадажныя шпіёны, як тое чалавечае атрэб'е, для якога няма месца на зямным шары сярод чэсных людзей.

Злачынствы гэтых вырадкаў сапраўды страшэнныя. І совецкі суд, няма сумнення, аддасць ім па заслугах.

## У Пракуратуры Саюза ССР

У сучасны момант органамі НКВД СССР закончана следства па справе змоўшчыцкай групы пад назвай «права-трацкісцкі блок». Як устаноўлена следствам, гэта група арганізавалася па заданню разведак варожых да СССР замежных дзяржаў і паставіла сваёй мэтай шпіянаж у карысць замежных дзяржаў, шкодніцтва, дыверсіі, тэрор, падрыў ваеннай магутнасці СССР, правакацыю ваеннага нападу гэтых дзяржаў на СССР, паражэнне СССР, расчляненне СССР і адрыў ад яго Украіны, Беларусі, Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік, Грузіі, Арменіі, Азербайджана, Прымор'я на Далёкім Усходзе—у карысць памянёных замежных дзяржаў, нарэшце, звяржэнне ў СССР існуючага соцыялістычнага грамадскага і дзяржаўнага ладу, аднаўленне капіталізма, аднаўленне ўлады буржуазіі.

Следствам устаноўлена, што «права-трацкісцкі блок» аб'яднаў у сваіх радах падпольныя антысовецкія групы трацкістаў, правых, зіноўеўцаў, меншавікоў, эсэраў, буржуазных нацыяналістаў Украіны, Беларусі, Грузіі, Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік, Арменіі, Азербайджана.

**Матэрыяламі следства ўстаноўлена, што ўдзельнікі «права-трацкісцкага блока» усе свае надзеі ў барацьбе супроць совецкага ўрада і** за аднаўленне ўлады буржуазіі ўскладалі выключна на ўзброеную дапамогу замежных агрэсараў, абяцаўшых аказаць змоўшчыкам гэту дапамогу на ўмовах расчлянення СССР і адтаржэння ад СССР Украіны, Беларусі, Сярэдне-Азіяцкіх рэспублік, Грузіі, Арменіі, Азербайджана і Прымор'я.

**Як устаноўлена следствам, многія кіраўнікі і ўдзельнікі гэтай** змовы з'яўляліся даўнейшымі агентамі замежных разведак, ажыццяўляўшымі на працягу многіх год шпіёнскую дзейнасць у карысць гэтых разведак. Гэта, перш за ўсё, адносіцца да аднаго з натхніцеляў змовы—ворага народа **Л. Троцкага,** які, як гэта цяпер устаноўлена, быў звязан, як шпіён, з адной замежнай разведкай ужо з 1921 г. і з другой замежнай разведкай—з 1926 г. Некаторыя з абвінавачваемых па гэтай справе з'яўляліся правакатарамі і агентамі царскай ахранкі.

Устаноўлена, што большасць главароў «права-трацкісцкага блока» ажыццяўляла сваю шпіёнскую, шкодніцкую, дыверсійную і тэрарыстычную дзейнасць па прамому заданню **Троцкага, Бухарына, Рыкава** і па планах, шырока задуманых і распрацаваных у генеральных штабах некаторых замежных дзяржаў.

Па частцы тэрарыстычнай дзейнасці «права-трацкіскага блока» устаноўлена, што абвінавачваемыя арганізавалі і ажыццявілі зладзейскае ўмярцвенне **В. В. Куйбышэва, В. Р. Менжынскага** і **А. М. Горкага** пры дапамозе ўдзельнікаў змовы ўрачоў **Л. Г. Левіна, І. Н. Казакова, А. І. Вінаградава** і праф. **Д. Д. Плетнёва.**

Устаноўлена таксама, што зладзейскае забойства **С. М. Кірава** трацкісцка-зіноўеўскім цэнтрам было зроблена па рашэнню «права-трацкісцкага блока».

Следства ўстанавіла, што гэтыя жудасныя злачынствы не былі выпадковасцю ні для трацкістаў, ні для правых.

Ужо ў 1918 годзе, непасрэдна ўслед за Кастрычніцкай рэвалюцыяй у перыяд заключэння Брэсцкага міру, **Бухарын** і яго група так званых «левых» камуністаў і **Троцкі** з яго групай сумесна з «левымі» эсэрамі арганізавалі змову супроць **В. І. Леніна**, як главы савецкага ўрада.

Бухарын, Троцкі і іншыя змоўшчыкі, як гэта відаць з матэрыялаў следства, мелі сваёй мэтай сарваць Брэсцкі мір, звергнуць савецкі ўрад, арыштаваць і забіць **В. І. Леніна, І. В. Сталіна** і **Я. М. Свердлова** і сфармаваць новы ўрад з бухарынцаў, якія тады для маскіроўкі называлі сябе «левымі» камуністамі, трацкістаў і «левых» эсэраў.

У святле гэтых злачынстваў супроць **Леніна** і савецкай улады ў перыяд 1918 года робіцца яснай і зразумелай уся наступная злачынная дзейнасць трацкістаў і бухарынцаў супроць савецкага народа.

Па справе да судовай адказнасці прыцягнуты: **Бухарын Н. І., Рыкаў А. І., Ягода Г. Г., Крэсцінскі Н. Н., Ракоўскі Х. Г., Розенгольц А. П., Іваноў В. І., Чэрноў М. А., Грынько Г. Ф., Зеленскі І. А., Бессоннаў С. А., Ікрамаў А., Хаджаеў Файзула, Шаранговіч В. Ф., Зубараў П. Т., Буланаў П. П., Левін Л. Г., Плетнёў Д. Д., Казакоў І. Н., Максімаў В. А. і Кручкоў П. П.**

Абвінаваўчае заключэнне зацверджана Пракурорам Саюза ССР і накіравана са справай у Ваенную Калегію Вярхоўнага Суда СССР для разгляду ў адкрытым судовым пасяджэнні.

Справа слуханнем у Ваеннай Калегіі Вярхсуда Саюза ССР назначана на 2 сакавіка г. г.

---

# Прамова таварыша І. В. СТАЛІНА

## на прадвыбарчым сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі горада Масквы 11 снежня 1937 года у Вялікім тэатры

**Старшынствуючы.** Слова прадастаўляецца нашаму кандыдату таварышу Сталіну.

**З'яўленне на трыбуне таварыша Сталіна сустракаецца выбаршчыкамі бурай авацый якая прадаўжаецца на працягу некалькіх мінут. Уся зала Вялікага тэатра стоячы вітае таварыша Сталіна. З залы безупынна раздаюцца воклічы: «Няхай жыве вялікі Сталін, ура!», «Тварцу самай дэмакратычнай у свеце Совецкай Канстытуцыі таварышу Сталіну, ура!», «Няхай жыве правадыр прыгнечаных усяго свету, таварыш Сталін, ура!»**

**Сталін.** Таварышы, прызнацца, я не меў намеру выступаць. Але наш паважаны Нікіта Сергеевіч, можна сказаць, сілком прыцягнуў мяне сюды, на сход: скажы, гаворыць, добрую прамову. Аб чым сказаць, якую іменна прамову? Усё, што трэба было сказаць перад выбарамі, ужо сказана і пераказана ў прамовах нашых кіруючых таварышоў Калініна, Молатава, Варашылава, Кагановіча, Ежова і многіх іншых адказных таварышоў. Што яшчэ можна дадаць да гэтых прамоў?

Патрабуюцца, гавораць, тлумачэнні па некаторых пытаннях выбарчай кампаніі. Якія тлумачэнні, па якіх пытаннях? Усё, што трэба было растлумачыць, ужо растлумачана і перарастлумачана ў вядомых зваротах партыі большэвікоў, комсамола, Усесаюзнага Цэнтральнага Совета Прафесіянальных Саюзаў, Асоавіяхіма, Камітэта па справах фізкультуры. Што яшчэ можна дадаць да гэтых тлумачэнняў?

Вядома, можна было-б сказаць гэткую лёгкую прамову аб усім і ні аб чым **(лёгкі смех).** Магчыма, што такая прамова пазабавіла-б публіку. Гавораць, што майстры па такіх прамовах ёсць не толькі там, у капіталістычных краінах, але і ў нас, у совецкай краіне **(смех, апладысменты).** Але, па-першае, я не майстар па такіх прамовах. Па-другое, ці варта нам займацца справамі забавы цяпер, калі ва ўсіх у нас, большэвікоў, як гаворыцца, «ад работ повен рот». Я думаю, што не варта.

Ясна, што пры такіх умовах добрай прамовы не скажаш.

І ўсё-ж, калі ўжо я вышаў на трыбуну, зразумела, прыходзіцца так ці інакш сказаць хоць-бы сёе-тое **(шумныя апладысменты).**

Перш за ўсё я хацеў-бы прынесці падзяку **(апладысменты)** выбаршчыкам за давер'е, якое яны аказалі **(апладысменты).**

Мяне выставілі кандыдатам у дэпутаты, і выбарчая камісія Сталінскай акругі совецкай сталіцы зарэгістравала мяне, як кандыдата ў дэпутаты. Гэта, таварышы, вялікае давер'е. Дазвольце прынесці вам глыбокую большэвіцкую падзяку за тое давер'е, якое вы аказалі партыі большэвікоў, членам якой я з'яўляюся, і асабіста мне, як прадстаўніку гэтай партыі **(шумныя апладысменты).**

Я ведаю, што значыць давер'е. Яно, натуральна, ускладае на мяне новыя, дадатковыя абавязкі, і стала быць, новую, дадатковую адказнасць. Што-ж, у нас, у большэвікоў, не прынята адмаўляцца ад адказнасці. Я яе прымаю з ахвотай **(бурныя працяглыя апладысменты).**

Са свайго боку я хацеў-бы запэўніць вас, таварышы, што вы можаце смела пакласціся на таварыша Сталіна **(бурная, доўга немаўкаючая авацыя. Воклічы з залы: «А мы ўсе за таварышам Сталіным!»).** Можаце разлічваць на тое, што таварыш Сталін здолее выканаць свой доўг перад народам **(апладысменты),** перад рабочым класам **(апладысменты),** перад сялянствам **(апладысменты),** перад інтэлігенцыяй **(апладысменты).**

Далей, я хацеў-бы, таварышы, павіншаваць вас з наступаючым усенародным святам, з днём выбараў у Вярхоўны Совет Совецкага Саюза **(шумныя апладысменты).** Надыходзячыя выбары—гэта не проста выбары, таварышы. Гэта сапраўды ўсенароднае свята нашых рабочых, нашых сялян, нашай інтэлігенцыі **(бурныя апладысменты).** Ніколі ў свеце яшчэ не бывала такіх сапраўды свабодных і сапраўды дэмакратычных выбараў, ніколі! Гісторыя не ведае другога такога прыкладу **(апладысменты).** Справа ідзе не аб тым, што ў нас будуць выбары ўсеагульныя, роўныя, тайныя і прамыя, хоць ужо гэта само па сабе мае вялікае значэнне. Справа ідзе аб тым, што ўсеагульныя выбары будуць праведзены ў нас, як найбольш свабодныя выбары і найбольш дэмакратычныя ў параўнанні з выбарамі любой іншай краіны ў свеце.

Усеагульныя выбары праходзяць і маюць месца і ў некаторых капіталістычных краінах, так званых дэмакратычных. Але ў якой абстаноўцы там праходзяць выбары? У абстаноўцы класавых сутычак, у абстаноўцы класавай варожасці, у абстаноўцы даўлення на выбаршчыкаў з боку капіталістаў, памешчыкаў, банкіраў і іншых акул капіталізма. Нельга назваць такія выбары, нават калі яны ўсеагульныя, роўныя, тайныя і прамыя, зусім свабоднымі і зусім дэмакратычнымі выбарамі.

У нас, у нашай краіне, наадварот, выбары праходзяць у зусім іншай абстаноўцы. У нас няма капіталістаў, няма памешчыкаў, стала-

быць, і няма даўлення з боку маёмных класаў на немаёмных. У нас выбары праходзяць у абстаноўцы супрацоўніцтва рабочых, сялян, інтэлігенцыі, у абстаноўцы ўзаемнага іх давер'я, у абстаноўцы, я-б сказаў, узаемнай дружбы, бо ў нас няма капіталістаў, няма памешчыкаў, няма эксплаатацыі і няма каму, уласна, давіць на народ для таго, каб сказіць яго волю.

Вось чаму нашы выбары з'яўляюцца адзінымі сапраўды свабоднымі і сапраўды дэмакратычнымі ва ўсім свеце **(шумныя апладысменты).**

Такія свабодныя і сапраўды дэмакратычныя выбары маглі ўзнікнуць толькі на глебе трыумфу соцыялістычных парадкаў, толькі на базе таго, што ў нас соцыялізм не проста будуецца, а ўжо ўвайшоў у быт, у штодзенны быт народа. Год 10 таму назад можна было-б дыскутыраваць аб тым, ці можна ў нас будаваць соцыялізм ці не. Цяпер гэта ўжо не дыскусійнае пытанне. Цяпер гэта пытанне фактаў, пытанне жывога жыцця, пытанне быту, які пранізвае ўсё жыццё народа. На нашых фабрыках і заводах працуюць без капіталістаў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам на справе. На нашых палях працуюць труджанікі зямлі без памешчыкаў, без кулакоў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам у быту, гэта і называецца ў нас свабодным, соцыялістычным жыццём.

Вось на гэтай базе і ўзніклі ў нас новыя, сапраўды свабодныя і сапраўды дэмакратычныя выбары, выбары, прыкладу якім няма ў гісторыі чалавецтва.

Як-жа пасля гэтага не павіншаваць вас з днём усенароднай урачыстасці, з днём выбараў у Вярхоўны Совет Совецкага Саюза! **(Бурная авацыя ўсёй залы).**

Далей я хацеў-бы, таварышы, даць вам параду, параду кандыдата ў дэпутаты сваім выбаршчыкам. Калі ўзяць капіталістычныя краіны, то там паміж дэпутатамі і выбаршчыкамі існуюць некаторыя своеасаблівыя, я-б сказаў, даволі дзіўныя адносіны. Пакуль ідуць выбары, дэпутаты заігрываюць з выбаршчыкамі, ліслівяць перад імі, клянуцца ў вернасці, даюць кучу ўсякіх абяцанняў. Выходзіць, што залежнасць дэпутатаў ад выбаршчыкаў поўная. Як толькі выбары адбыліся і кандыдаты ператварыліся ў дэпутатаў,—адносіны мяняюцца ў корні. Замест залежнасці дэпутатаў ад выбаршчыкаў, атрымліваецца поўная іх незалежнасць. На працягу чатырох або пяці год, г. зн. аж да новых выбараў, дэпутат адчувае сябе зусім свабодным, незалежным ад народа, ад сваіх выбаршчыкаў. Ён можа перайсці з аднаго лагера ў другі, ён можа звярнуць з правільнай дарогі на няправільную, ён можа нават заблытацца ў некаторых махінацыях не зусім патрэбнага характару, ён можа кувыркацца, як яму ўгодна,—ён незалежны.

Ці можна лічыць такія адносіны нармальнымі? Ні ў якім разе,

таварышы. Гэту акалічнасць улічыла наша Канстытуцыя, і яна правяла закон, у сілу якога выбаршчыкі маюць права датэрмінова адклікаць сваіх дэпутатаў, калі яны пачынаюць фінціць, калі яны зварачваюць з дарогі, калі яны забываюць аб сваёй залежнасці ад народа, ад выбаршчыкаў.

Гэта выдатны закон, таварышы. Дэпутат павінен ведаць, што ён слуга народа, яго пасланец у Вярхоўны Совет, і ён павінен весці сябе па лініі, па якой яму дан наказ народам. Звярнуў з дарогі, выбаршчыкі маюць права патрабаваць назначэння новых выбараў, і дэпутата, звярнуўшага з дарогі, яны маюць права пракатаць на вараных **(смех, апладысменты)**. Гэта выдатны закон. Мая парада, парада кандыдата ў дэпутаты сваім выбаршчыкам, памятаць аб гэтым праве выбаршчыкаў,—аб праве датэрміновага адклікання дэпутатаў, сачыць за сваімі дэпутатамі, кантраляваць іх і, калі яны ўздумаюць звярнуць з правільнай дарогі, змахнуць іх з плеч, патрабаваць назначэння новых выбараў. Урад абавязан назначыць новыя выбары. Мая парада—памятаць аб тэтым законе і скарыстаць яго пры выпадку.

Нарэшце, яшчэ адна парада кандыдата ў дэпутаты сваім выбаршчыкам. Чаго трэба наогул патрабаваць ад сваіх дэпутатаў, калі ўзяць з усіх магчымых патрабаванняў найбольш элементарныя патрабаванні?

Выбаршчыкі, народ павінны патрабаваць ад сваіх дэпутатаў, каб яны аставаліся на вышыні сваіх задач, каб яны ў сваёй рабоце не спускаліся да ўзроўню палітычных абываталяў, каб яны аставаліся на пасту палітычных дзеячоў ленінскага тыпу, каб яны былі такімі-ж яснымі і пэўнымі дзеячамі, як Ленін **(апладысменты)**, каб яны былі такімі-ж бясстрашнымі ў баі і бязлітаснымі да ворагаў народу, якім быў Ленін **(апладысменты)**, каб яны былі свабодны ад усякай панікі, ад усякага падабенства панікі, калі справа пачынае ўскладняцца і на гарызонце вырысоўваецца якая-небудзь небяспека, каб яны былі гэтак-жа свабодны ад усякага падабенства панікі, як быў свабодны Ленін **(апладысменты)**, каб яны былі гэтак-жа мудры і непаспешлівы пры вырашэнні складаных пытанняў, дзе патрэбна ўсебаковая арыентацыя і ўсебаковы ўлік усіх плюсаў і мінусаў, якім быў Ленін **(апладысменты)**, каб яны былі гэтак-жа праўдзівы і чэсны, якім быў Ленін **(апладысменты)**, каб яны гэтак-жа любілі свой народ, як любіў яго Ленін **(апладысменты)**.

Ці можам мы сказаць, што ўсе кандыдаты ў дэпутаты з'яўляюцца іменна такога роду дзеячамі? Я-б гэтага не сказаў. Усякія бываюць людзі на свеце, усякія бываюць дзеячы на свеце. Ёсць людзі, аб якіх не скажаш, хто ён такі, ці то ён добры, ці то ён дрэнны, ці то мужны, ці то трусаваты, ці то ён за народ да канца, ці то ён за ворагаў народа. Ёсць такія людзі і ёсць такія дзеячы. Яны ёсць і ў нас, сярод большэвікоў. Самі ведаеце, таварышы, сям'я не без урода **(смех, апла-**

**дысменты).** Аб такіх людзях няпэўнага тыпу, аб людзях, якія нагадваюць хутчэй палітычных абываталяў, чым палітычных дзеячоў, аб людзях такога няпэўнага, неаформленага тыпу даволі трапна сказаў вялікі рускі пісьменнік Гогаль: «Людзі, гаворыць, няпэўныя, ні тое, ні сёе, не зразумееш, што за людзі, ні ў горадзе Багдан, ні ў сяле Селіфан» **(смех, апладысменты).** Аб такіх няпэўных людзях і дзеячах таксама даволі трапна гаворыцца ў нас у народзе: «так сабе чалавек— ні рыба, ні мяса» **(агульны смех, апладысменты),** «ні богу свечка, ні чорту качарга» **(агульны смех, апладысменты).**

Я не магу сказаць з поўнай упэўненасцю, што сярод кандыдатаў у дэпутаты (я вельмі выбачаюся перад імі, вядома) і сярод нашых дзеячоў няма людзей, якія нагадваюць хутчэй за ўсё палітычных абываталяў, якія нагадваюць па свайму характару, па ўсёй фізіяноміі людзей такога тыпу, аб якіх гаворыцца ў народзе: «ні богу свечка, ні чорту качарга» **(смех, апладысменты).**

Я хацеў-бы, таварышы, каб вы ўплывалі сістэматычна на сваіх дэпутатаў, каб ім унушалі, што яны павінны мець перад сабой вялікі вобраз вялікага Леніна і падражаць Леніну ва ўсім **(апладысменты).**

Функцыі выбаршчыкаў не канчаюцца выбарамі. Яны прадаўжаюцца на ўвесь перыяд існавання Вярхоўнага Совета данага склікання. Я ўжо гаварыў аб законе, які дае права выбаршчыкам на датэрміновае адкліканне сваіх дэпутатаў, калі яны зварачваюць з правільнай дарогі. Стала быць, абавязак і права выбаршчыкаў заключаюцца ў тым, каб яны ўвесь час трымалі пад кантролем сваіх дэпутатаў і каб яны ўнушалі ім—ні ў якім разе не спускацца да ўзроўню палітычных абываталяў, каб яны—выбаршчыкі ўнушалі сваім дэпутатам—быць такімі, якім быў вялікі Ленін **(апладысменты).**

Такая, таварышы, мая другая парада вам, парада кандыдата ў дэпутаты, сваім выбаршчыкам. **(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Усе ўстаюць і зварачаюць свае погляды ва ўрадавую ложу, куды праходзіць таварыш Сталін. Раздаюцца воклічы: «Вялікаму Сталіну, ура!», «Таварышу Сталіну, ура!», «Няхай жыве таварыш Сталін, ура!», «Няхай жыве першы ленінец—кандыдат у дэпутаты Совета Саюза—таварыш Сталін! Ура!»).**

---

В. М. Молатаў

# Аб выбарчым блоку комуністаў з беспартыйнымі*

## I. Карэнні нашага блоку з беспартыйнымі

Таварышы, апублікаваўшы свой зварот да выбаршчыкаў, наша партыя поўнасцю разгарнула свой выбарчы сцяг. Гэты сцяг кліча да новых перамог соцыялізма, кліча да падтрымання на выбарах у Вярхоўны Совет як кандыдатаў-комуністаў, так і кандыдатаў-беспартыйных, вылучаемых большэвіцкай партыяй сумесна з беспартыйнымі рабочымі, сялянамі, служачымі і інтэлігенцыяй. Гэты сцяг кліча да стварэння дружнага выбарчага блока комуністаў з беспартыйнымі рабочымі, з беспартыйнымі сялянамі, з беспартыйнымі служачымі, з беспартыйнай інтэлігенцыяй, да стварэння такога блока комуністаў з беспартыйнымі ва ўсёй нашай краіне. **(Апладысменты).**

Правесці выбары ў вярхоўныя органы Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік на аснове блока, на аснове саюза комуністаў з беспартыйнымі—такая наша задача.

Здавалася-б, як гэта проста. Якая, на самай справе, простая мысль, просты заклік, просты і ясны кліч: комуністы, дзейнічайце сумесна з беспартыйнымі працоўнымі, арганізуйце дружны блок для агульнай і святой справы, для выбараў вышэйшых органаў сваёй роднай, совецкай улады. Цяпер нам можа паказацца гэта зусім простай і яснай справай: стварыць блок комуністаў і беспартыйных на выбарах у вышэйшыя органы совецкай улады. Але гэта стала проста і зусім ясна толькі цяпер, к дваццацігоддзю Кастрычніка, калі мы ўступілі ўжо ў трэцяе дзесяцігоддзе Кастрычніцкай рэволюцыі. Нічога падобнага, нічога падобнага такому блоку комуністычнай партыі з усёй беспартыйнай масай народа не магло быць у нас не толькі да рэволюцыі, але і ў першыя годы рэволюцыі.

А ці можна што-небудзь падобнае, падобнае блоку якой-небудзь партыі з усім народам уявіць у якой-небудзь іншай, не совецкай краіне? Чаму-б і там, у буржуазных краінах, якой-небудзь партыі не пайсці па гэтаму простаму і яснаму шляху? Здавалася, не цяжка-б

*) Прамова на сходзе Молатаўскай выбарчай акругі 8 снежня 1937 г.

да гэтага дадумацца, ды вось не выходзіць. Не, такая задача не па плячу ні адной партыі ў буржуазнай дзяржаве. Там, у краінах капіталізма, немінуча раздзіраемых класавай барацьбой, нельга нават аб гэтым і марыць. Ні ў адной буржуазнай партыі не хопіць на гэта сілёнак.

Толькі ў Совецкім Саюзе на 21-м годзе Кастрычніцкай рэволюцыі, толькі большэвіцкая партыя атрымала магчымасць паставіць перад сабой тэту вялікую задачу. Яна і простая і ясная задача, але трэба звараціць вялікія горы, каб атрымаць права і магчымасць ставіць такія задачы. Таму што стварыць выбарчы блок комуністычнай партыі і беспартыйных мас народа, і на гэтай аснове дружна правесці выбары ў вышэйшыя органы ўлады—гэта вялікая справа, гэта справа сусветна-гістарычнага значэння.

Для таго, каб мы маглі падыйсці да гэтай задачы, мы павінны былі дажыць да 20-годдзя Кастрычніцкай рэволюцыі. А дажыць да гэтага 20-годдзя нельга было, не разграміўшы ўшчэнт усіх ворагаў Кастрычніцкай рэволюцыі ў нашай краіне. **(Працяглыя апладысменты).**

У гэтай барацьбе за справу Кастрычніка і складваўся саюз комуністаў і беспартыйных рабочых і сялян. Большэвікі на ўсіх этапах Кастрычніцкай рэволюцыі змагаліся за тое, каб умацоўваць саюз рабочых і сялян, каб згуртоўваць вакол партыі ўсю масу беспартыйных працоўных горада і вёскі. У барацьбе з усімі і ўсякімі ворагамі Кастрычніка выкаваўся гэты саюз комуністаў з беспартыйнымі рабочымі, сялянамі і інтэлігенцыяй. Цяпер у нас ужо ёсць магчымасць рабіць гэты саюз асновай правядзення выбараў у Вярхоўны Совет.

Каб гаварыць аб магчымасці стварэння такога саюза большэвікоў з беспартыйнымі масамі, трэба было дабіцца **перамогі соцыялізма** ў Совецкім Саюзе. Мы гэтага дабіліся. Соцыялізм вызначае цяпер усё жыццё нашай краіны.

Мы не проста разграмілі ворагаў, мы пабудавалі новую дзяржаву, склалі новае грамадства, стварылі новы, совецкі народ. **(Выбух апладысментаў).**

Мы стварылі совецкі народ, дзе няма месца эксплаататарам, дзе ўсе грамадзяне—працоўныя, дзе, значыць, ва ўсяго народа адзін агульны інтарэс. Таму стала магчымым гаварыць аб выбарчым блоку комуністаў з беспартыйнымі рабочымі і сялянамі, з беспартыйнымі служачымі і інтэлігенцыяй. Завяванне гэта тым больш, што аб такім саюзе з беспартыйнымі мы можам гаварыць як ва ўсім Совецкім Саюзе, так і ў кожнай совецкай рэспубліцы паасобку.

Каб падрыхтаваць стварэнне выбарчага блоку комуністаў і беспартыйных у нашай краіне пры выбарах у Вярхоўны Совет, мы павінны былі завяваць **Сталінскую Канстытуцыю.** На аснове гэтай Канстытуцыі, Канстытуцыі перамогшага соцыялізма, будуць праходзіць выбары 12 снежня.

Што нам трэба было для таго, каб атрымаць у свае рукі гэту Сталінскую Канстытуцыю?

Для гэтага нам трэба было, перш за ўсё, заваяваць і адстаяць ад усіх і ўсякіх нападаў уладу советаў. Мы гэта зрабілі з поспехам.

Далей. Для гэтага нам трэба было мець такую партыю, як партыя Леніна—Сталіна. **(Працяглыя апладысменты).**

Для таго, каб заваяваць гэту Канстытуцыю, мы павінны былі, нарэшце, мець на чале ўсёй нашай справы таго, хто заўсёды на пасту, хто заўсёды на сваім капітанскім мосціку, у каго ў руках верны компас, хто ўмее згуртоўваць вакол сцяга большэвізма ўсіх працоўных, чыё імя неразрыўна злучана з перамогамі соцыялізма. Адным словам, мы маем Сталінскую Канстытуцыю таму, што нашу партыю і ўсіх працоўных Совецкага Саюза вядзе наперад тварэц соцыялістычнай Канстытуцыі таварыш Сталін! **(Бурныя апладысменты, крыкі «ура!», усе ўстаюць, воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін!»).**

Пасля гэтага зразумела, як перад намі ва ўвесь свой рост стала асноўная задача выбараў у Вярхоўны Совет: задача забяспечання дружнага саюза комуністаў з беспартыйнымі рабочымі, сялянамі і інтэлігенцыяй на выбарах дэпутатаў у вышэйшы орган нашай дзяржавы. Гэта задача вырасла перад намі ва ўсім размаху, калі мы дабіліся сапраўднага маральнага і палітычнага адзінства совецкага народа, якое з'яўляецца цяпер асновай нашага соцыялістычнага грамадства, якое і ёсць ўвасабленне соцыялізма ў жыцці вялікага совецкага народа. **(Апладысменты).**

Аб якім блоку ідзе гутарка? У нашай партыі два мільёны комуністаў і поўмільёна спачуваючых. Выбаршчыкаў-жа на выбарах у Вярхоўны Совет будзе звыш 90 мільёнаў. Комуністы, як бачым, складаюць толькі невялікую частку ўсёй масы выбаршчыкаў, але іх сіла ў тым, што гэта—авангард народа. Што можа быць лепш з пункту погляду інтарэсаў усяго народа, што можа быць лепш у нашых умовах, як дружны выбарчы саюз комуністаў і беспартыйных ва імя далейшых перамог соцыялізма ў нашай краіне? Вось мы і хочам, каб два мільёны комуністаў разам, дружна, у ногу з гэтымі 90 мільёнамі выбаршчыкаў пайшлі на выбары ў Вярхоўны Совет. **(Апладысменты).**

Гэта—задача не маленькая, таварышы. За такую задачу ўзяцца—значыць, узяцца за вялікую справу. Але настолькі трывала сувязь большэвіцкай партыі з народнымі масамі, што мы ўпэўнены ў тым, што ў нашай партыі ёсць усе падставы з гонарам справіцца з гэтай вялікай задачай. **(Апладысменты).**

Такім чынам, справа ідзе аб блоку комуністаў з усёй масай совецкага народа. На выбарах у Вярхоўны Совет у нас, на свой совецкі лад, павінен стварыцца адзіны народны фронт, адзіны народны фронт нябачанай сілы і значэння. **(Апладысменты).**

Аб такім блоку комуністаў з беспартыйнымі масамі, з усім народам, могуць зараз толькі марыць нашы прыяцелі за-граніцай. Мы да-

біліся гэтага ўпартай барацьбой, не шкадуючы сіл, не баючыся труднасцей, і мы ўсёй душой з нашымі прыяцелямі за-граніцай, якія ўжо зараз з упэўненасцю гавораць: прыдзе час і ў нас гэта выйдзе. **(Бурныя апладысменты).**

## II. Нашы задачы перад знешняй набяспекай

Нам прышлося пачынаць і весці справу ў трудных умовах. Нам да гэтага часу прыходзіцца весці справу будаўніцтва социялізма адным, у варожым акружэнні капіталістычных дзяржаў. У гэтым асаблівасць становішча першай соцыялістычнай рэспублікі рабочых і сялян.

Упэўненыя ў праваце сваёй справы, мы з самага пачатку шукалі толькі аднаго—магчымасці забяспечыць мірную працу народа, прос-тай магчымасці паказаць сілу совецкага ладу, дзе народ вызвален ад усіх гэтых паноў капіталістаў, памешчыкаў і генеральска-ўрадніцкай зграі.

Але і нашы класавыя ворагі разумелі, што вызвалены ад эксплаататараў народ—небяспечная для іх сіла. Таму яны рабілі ўсё, каб сарваць мір, перашкодзіць мірнаму развіццю Совецкай рэспублікі.

Праліта было нямала рабочай і сялянскай крыві, каб адстаяць совецкую ўладу, каб адбіваць у ворагаў пазіцыю за пазіцыяй.

Нам прышлося цярпець некалькі год падрад замежных інтэрвентаў на тэрыторыі сваёй краіны, але ўсё-ж мы іх начыста і назаўсёды вышыблі з нашай дзяржавы. **(Апладысменты).**

Знешняе капіталістычнае акружэнне, аднак, прадаўжае існаваць. Амаль што не кожную вясну нам зноў і зноў прыходзілася чакаць ваенных нападаў з боку імперыялістаў. Сёння пагражалі адны—заўтра другія. Як толькі ні прабавалі сарваць нашу мірную перадышку, за якую мы так змагаліся. Наколькі вяліка была ваенная небяспека для Совецкага Саюза ў асобныя моманты, відаць з таго, што не раз пісаў Ленін у першыя годы існавання совецкай улады, на што пазней шматразова ўказваў таварыш Сталін.

Большэвіцкая партыя і совецкая ўлада рабілі ўсё для таго, каб прадоўжыць мірны перыяд жыцця, каб збавіць совецкі народ ад ваенных сутычак і забяспечыць народу магчымасць прадаўжаць мірную працу.

Нам удалося дабіцца таго, што ўжо звыш 16 год наша краіна жыве ў мірных умовах, і ніхто не можа сказаць, што мы дрэнна скарысталі гэту перадышку, што мы мала зрабілі для ўздыму народнай гаспадаркі, для росту культурнага будаўніцтва, для абнаўлення ўсяго жыцця народа на новай, на соцыялістычнай аснове. **(Апладысменты).**

Народ нашай краіны быў змучан войнамі. Паміж руска-японскай вайной і апошняй імперыялістычнай вайной, у якой удзельнічала Расія, прайшло ўсяго крыху больш васьмі год. У 1905 годзе Расія была біта ў вайне з Японіяй. З сярэдзіны 1914 года яна ўступіла ў

новую, яшчэ больш крывавую, вайну, якая зацягнулася на рад год. Зразумела, што народ прагнуў міру, прагнуў перадышкі ад вайны.

Адной з буйнейшых заслуг совецкай улады трэба лічыць тое, што на працягу апошніх 16 год наш народ быў збаўлен ад ваенных сутычак. **(Апладысменты).**

Мы ведаем, хто цяпер спяшаецца з новымі войнамі. Той, у каго дома не ўсё ў парадку, у каго справы трашчаць. **(Смех).** Уласна кажучы, і царскі ўрад увязаўся ў войны 1905 г. і 1914 г., калі ў яго пад нагамі ўжо гарэла.

У нас не такое становішча, і таму мы хочам міру і ўпарта змагаемся за справу міру. Мы не сумняваемся, што гэта палітыка міру можа і будзе служыць асновай выбарчага блоку комуністаў з беспартыйнымі масамі. **(Апладысменты).**

Мы разбілі нашых ворагаў на-галаву—гэтага ніхто не можа адмаўляць. Але галоўны вораг совецкага народа за межамі нашай краіны, у лагеры ваяўнічага імперыялізма, асабліва ў фашысцкіх краінах. Ён не можа знайсці сабе апоры ў масах нашага народа, але тым больш намаганняў ён прыкладае для таго, каб шкодніцтвам, дыверсіямі, запалохваннямі і тэрорам падкапвацца пад наша будаўніцтва. Для гэтага замежныя разведкі скарыстоўваюць усякія труслівыя душонкі, для гэтага яны завялі ўсякіх шпіёна-троцкістаў і рыкава-бухарынскіх шкоднікаў і дыверсантаў, якія падкапваюцца пад абарону нашай краіны, імкнуцца праз сваіх белагвардзейска-меншавіцкіх агентаў за-граніцай псаваць, расстрайваць адносіны замежных дзяржаў да Совецкага Саюза. Не лічыцца з гэтымі фактамі мы не можам. Мы павінны ўсіх гэтых прадажнікаў, здраднікаў, правакатараў і шпіёнаў выкрываць да канца. **(Апладысменты).**

Мы ведаем цяпер лепш, чым хто-б там ні было, праз якія лазейкі яны забіраюцца ў наш совецкі дом, і мы навучыліся лепш, чым калі-б там ні было, біць іх у самы лоб. **(Бурныя апладысменты).**

Мы таму павінны лічыцца з гэтымі лазутчыкамі замежнай буржуазіі, што іх планы звязаны з падрыхтоўкай ваенных нападаў звонку, што яны мараць аб тым, каб сарваць мірную працу нашага народа.

Усё гэта прымушае нас прымаць сур'ёзныя меры ўмацавання абароны краіны. Мы гэтыя меры настойліва праводзім, мы ўмацоўваем Чырвоную Армію, умацоўваем абаронную прамысловасць і хочам, каб кожны наш завод і кожны наш калгас былі крэпасцю нашай гаспадаркі, культуры і дзяржаўнай абароны. **(Бурныя апладысменты).**

Я думаю, што калі мы робім так і калі мы ва імя патрэб абароны нават урэзваем задаволенне некаторых іншых патрэб, то мы паступаем правільна. **(Працяглыя апладысменты).**

Мы ўпэўнены, што і ў гэтым нас цалкам падтрымае блок комуністаў і беспартыйных мас. **(Бурныя апладысменты).**

Мы за палітыку міру ва імя забяспечання мірнай працы нашых грамадзян, ва імя комунізма, які будуе наш народ. Як вядома, на

гэта некаторыя фашысцкія дзяржавы адказваюць заключэннем ваяўнічых двойственых і тройственых саюзаў супроць комунізма. Гэта робіцца так: бяруцца за рукі, каб не ўпасці, двое... **(Смех. Апладысменты)**, бяруцца за рукі двое, трое, а можа быць і чацвёра, відавочна, з тых, хто ўжо не верыць у свае ўласныя сілы. Але ўзяўшыся за рукі, яны яшчэ не выратоўваюць сябе ад той небяспекі, што глеба якраз з-пад ног у іх уходзіць. **(Апладысменты)**.

Мы не хочам вайны,—усе гэта ведаюць. Мы змагаліся і будзем змагацца за справу міру. Якія яшчэ патрэбны тут доказы?

Паглядзіце, як мірна гараць нашы пяцікандовыя крэмлёўскія зоркі. Іх святло далёка і ўпэўнена свеціць. Гавораць, што гэтыя зоркі бачны з усіх канцоў Масквы. Гавораць яшчэ, што яны бачны амаль што не з усіх канцоў Совецкага Саюза. **(Апладысменты)**.

Ну, а як будзе ў выпадку вайны, у выпадку ваеннага нападу на Совецкі Саюз?

Мы можам сказаць на гэта: у выпадку-ж ваеннага нападу на Совецкі Саюз, нападаючы адчуе як сілу нашай жалезнай самаабароны, так і сілу святла совецкіх рубінавых зорак, якія свецяць далёка за межы нашай краіны. **(Працяглыя апладысменты)**.

## III. Усе на выбары!

З усяго гэтага выходзяць большэвікі, прапануючы выбарчы блок з беспартыйнымі. З гэтага зыходзяць большэвікі, прапануючы комуністам на выбарах у Вярхоўны Совет поўнасцю падтрымаць не толькі партыйных, але і беспартыйных кандыдатаў, і разлічваючы на тое, што ўсе беспартыйныя выбаршчыкі так сама падтрымаюць комуністаў, як і беспартыйных кандыдатаў. **(Апладысменты)**.

Усе на выбары, усе, як адзін, з'явімся 12 снежня для выбараў дэпутатаў у Вярхоўны Совет! Гэта павінен сказаць магутным сваім голасам выбарчы блок комуністаў і беспартыйных грамадзян. Чым лепш выканаем мы гэту задачу, тым большы і тым больш рашучы будзе поспех выбарчага блока комуністаў з беспартыйнымі.

Усім грамадзянам совецкай краіны,—любому з нашых грамадзян!—ёсць месца ў нашым выбарчым блоку. Наш блок аснован на саюзе дзесяткаў мільёнаў совецкіх грамадзян, але мы ведаем, што сілу гэтага блока павялічвае **кожны** асобны яго ўдзельнік, **кожны** асобны выбаршчык сваім удзелам у выбарах 12 снежня. **(Апладысменты)**.

У гэтых выбарах будуць удзельнічаць і ворагі совецкай улады. Мы ажыццяўляем усеагульнае, роўнае, прамое і тайнае галасаванне без якіх-небудзь абмежаванняў. Пры выбарах у Вярхоўны Совет наша задача заключаецца ў тым, каб гэтых паноў пакінуць адзінокімі, у жалкай ізаляцыі ад усяго совецкага народа. **(Апладысменты)**.

Выбары ў Вярхоўны Совет азначаюць, што наша Сталінская Канстытуцыя прыведзена ў дзеянне, што яна ператварылася ў магутную

зброю новага згуртавання народа вакол совецкай улады, вакол большэвіцкай партыі, вакол таварыша Сталіна, што будаўнікі социялізма ў нашай краіне ідуць да новых вялікіх перамог. **(Апладысменты).**

Мы адзначаем выбары ў Вярхоўны Совет стаханаўскімі рэкордамі. Мы памножым гэтыя рэкорды і будзем з дня ў дзень сачыць, вывучаць і распаўсюджваць гэтыя поспехі. Мы зробім з поспехаў аднаго стаханаўскага дня працяглыя поспехі, поспехі цэлых цэхаў, цэлых заводаў. Нашы заводы запрацуюць лепш і прадукцыйней, чым самыя добрыя замежныя заводы. **(Апладысменты).**

Мы адзначаем гэтыя выбары выдатным ураджаем зерна ў 1937 годзе. Ніколі яшчэ наша краіна не збірала столькі хлеба, як у гэтым годзе, калі ўраджай дасягнуў 7 мільярдаў пудоў. **(Апладысменты).** Мы ўпэўнены, што не толькі ўтрымаем, але і павялічым гэтыя поспехі ў сельскай гаспадарцы, ва ўсіх яго галінах і ва ўсіх краях Совецкага Саюза.

Мы адзначаем выбары ў Вярхоўны Совет памнажэннем культурных дасягненняў. Каб пакончыць з астаткамі капіталізма ў свядомасці людзей, мы павінны разгарнуць велізарную работу за соцыялістычны змест нашай культуры ва ўсіх яе нацыянальных формах і на ўсіх мовах. **(Бурныя апладысменты).** Няхай яшчэ быстрэй растуць сілы совецкай інтэлігенцыі. Дадзім шырэй дарогу таленавітым людзям народаў совецкай краіны.

Дружныя выбары ў Вярхоўны Совет, удзел усіх 90 мільёнаў выбаршчыкаў у выбарах 12 снежня, умацуюць сільнейшым чынам магутнасць Совецкага Саюза, узнімуць яшчэ вышэй совецкую ўладу, праславяць вялікі сцяг Леніна—Сталіна ў вачах працоўных усіх краін. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Мы павінны так правесці выбары ў Вярхоўны Совет, каб чырвонае святло крэмлёўскіх зорак заблішчэла яшчэ ярчэй для працоўных СССР і для працоўных усіх краін і каб наша партыя і таварыш Сталін сказалі аб гэтых выбарах адно слова «добра!». **(Бурныя, працяглыя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць. Воклічы: «Ленінска-сталінскаму ЦК—ура!», «Вялікаму правадыру народаў таварышу Сталіну—ура!», «Няхай жыве кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета таварыш Молатаў—ура!», «За блок у выбарах паміж комуністамі і беспартыйнымі! Усе на выбары, таварышы, ура!»).**

---

# Прамова Народнага Камісара Абароны Маршала Совецкага Саюза таварыша К. Е. ВАРАШЫЛАВА

### на мітынгу вайсковых часцей Менскага гарнізона і калгаснікаў Менскага раёна,

### прысвечаным гадавіне Сталінскай Канстытуцыі і выбарам у Вярхоўны Совет СССР,

*8 снежня 1937 г.*

Таварышы калгаснікі і калгасніцы, байцы, камандзіры і палітработнікі, іх жонкі, мацеры і сёстры, таварышы выбаршчыкі Менскай выбарчай акругі, вітаючы вас, прыношу маю самую глыбокую падзяку за давер'е, якое вы аказалі мне, намеціўшы сваім кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета.

Месяц таму назад Совецкі Саюз адсвяткаваў 20-ю гадавіну сваёй гісторыі. Тры дні таму назад совецкі народ адзначыў гадавіну Сталінскай Канстытуцыі. Праз чатыры дні мы ўсе, людзі Советаў, як адзін, пойдзем да выбарчых урнаў і ў святочным настроі выберам свой Вярхоўны Совет.

Са стараны можа паказацца, што мы многа ўдзяляем увагі і часу святам. На справе ўсё гэта выглядае па-іншаму. Мы і нашы святы разглядаем, як вялікую соцыялістычную справу.

Што такое 20-я гадавіна Совецкага Саюза? Гэта вынік вялікіх перамог працоўных нашай краіны. Гэта—веха на гістарычным шляху барацьбы, нашых перамог. Гэта—сапраўднае свята трыумфу ідэалаў нашай партыі Леніна—Сталіна.

Што такое свята 5 снежня? Гэта—дата найвялікшага гістарычнага значэння. Совецкая краіна адзначыла першую гадавіну сваёй сапраўды дэмакратычнай, сапраўды соцыялістычнай Канстытуцыі.

Ужо год, як народы Советаў жывуць па Сталінскай Канстытуцыі. Праз 4 дні мы выберам Вярхоўны Совет на аснове гэтай Канстытуцыі.

Наша краіна, у гэтым няма сумненняў, пад выпрабаваным кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пад геніяльным вадзіцельствам вялікага Сталіна цяпер пойдзе яшчэ больш быстрымі крокамі, яшчэ больш

упэўнена да новых і новых перамог социялізма. Совецкі народ, адзначаючы важнейшыя падзеі сваёй выдатнай гісторыі, законна імянуе іх сваімі святамі. Так, гэта нашы святы, мы іх самі стварылі, мы імі ў праве ганарыцца.

Таварышы, Сталінская Канстытуцыя—гэта дакумент найвялікшай гістарычнай значымасці не толькі для нас, ён прадстаўляе найвялікшае значэнне для мільёнаў працаўнікоў усяго свету. Сталінская Канстытуцыя для ўсіх працоўных, абяздоленых і прыгнечаных будзе пуцяводнай зоркай, маяком у іх барацьбе за права жыць, за сваё разняволенне.

Мы сваю Канстытуцыю разглядаем, як дакумент, якім мы кіруемся, на аснове якога будуюць сваё жыццё мільёны працоўных Совецкага Саюза.

Наша Сталінская Канстытуцыя, якая замацавала, канчаткова ўзаконіла заваяванні социялізма, уключае ў сябе такія выдатныя параграфы, якія па-сапраўднаму могуць адчуваць, зразумець толькі працоўныя капіталістычных краін. Узяць хоць-бы такое пытанне, як права на гарантаваную працу для ўсіх грамадзян СССР. Для совецкага чалавека—гэта толькі пацверджанне таго, што існуе. Гэтае права ўвайшло ў быт. Наша краіна не ведае беспрацоўя. У нас нехапае рабочых рук. Але затое як востра адчуваюць усю найвялікшую социялістычную глыбіню гэтага параграфа нашай Канстытуцыі мільёны і мільёны беспрацоўных усіх капіталістычных краін.

Або другі, такі-ж выдатны пункт нашай Канстытуцыі,—як прадастаўленне жанчыне роўных правоў, нароўні з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, культурнага і дзяржаўнага жыцця. Жанчына Совецкага Саюза гэтым правам карыстаецца поўнасцю, і ёй ужо здаецца дзікім, як гэта яна, чалавек, можа быць абмежавана ў правах, быць прыдаткам, чалавекам ніжэйшага парадку. Гэта сапраўды дзіка. Але гэтая дзікасць існуе ва ўсім капіталістычным свеце. Жанчына краін капіталізма, асабліва жанчына працы, з усёй астрынёй будзе адчуваць сілу і значэнне Сталінскай Канстытуцыі, замацаваўшай навекі роўнапраўе совецкай жанчыны.

Або, нарэшце, роўнапраўе грамадзян СССР незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, замацаванае нашай Канстытуцыяй,—хіба гэта не найвялікшая перамога чалавецтва? І хіба гэтае права не стала ўжо бытам совецкага народа, хіба мы аб гэтым цяпер думаем! Не, мы гэтымі вялікімі здабыткамі социялізма карыстаемся гэтак-жа проста, як карыстаемся святлом сонца і паветрам. Але гэты пункт нашай Канстытуцыі будуць цвёрда помніць усе прыгнечаныя, няроўнапраўныя народы капіталістычных краін, усе тыя, каго прыгнятальнікі лічаць людзьмі ніжэйшых рас.

Так, цяпер многім з вас, асабліва маладым людзям, якія выраслі ў совецкай рэчаіснасці, цяжка ўявіць сабе ўсю веліч таго, што заключана ў Сталінскай Канстытуцыі, што стала непахісным законам.

Вы ўсім гэтым карыстаецеся, гэтым жывеце, аб другім, бяспраўным, цяжкім і горкім жыцці вы, на шчасце, і не ведалі. Але вось мы, старыкі, памятаем праклятае мінулае, мы яго вельмі добра ведаем і часам яшчэ і цяпер прасынаешся з халодным потам на ілбу.

Цар, памешчык, ураднік, поп, кулак, капіталіст, жандар—гэта для маладых людзей катэгорыі не зусім лёгка ўяўляемыя. Для мільёнаў нашай моладзі гэта адцягненае паняцце. Для старых людзей Совецкага Саюза гэта зусім рэальнае, праўда, мінулае, але страшнае, кашмарнае. Таварышы, калі ўчытваешся ў словы Сталінскай Канстытуцыі аб тым, што працоўным Совецкага Саюза забяспечана права на працу, калі ўдумаешся ў змест гэтых залатых слоў,—становіцца неяк асабліва радасна і лёгка на душы, адчуваеш, якую вялікую задачу вырашыла партыя Леніна—Сталіна, якія вяршыні ўжо заваёваны соцыялізмам. Ніколі не быць беспрацоўным, не думаць аб заўтрашнім дні, не дрыжаць, што цябе гаспадар ці яго прыказчык выкіне на вуліцу ў любы міг,—вы разумееце, вы адчуваеце, што гэта азначае, таварышы!

Гэта азначае, што соцыялізм ужо рэальнасць, што вы, наша змена, наша моладзь, ужо выраслі пры соцыялізме і вам цяжка зразумець увесь жах працоўнага чалавека, які, прадаючы сваю працу за грашы, ніколі не бывае ўпэўненым у заўтрашнім дні.

Паглядзіце, што робіцца там—на Захадзе, у капіталістаў: беспрацоўе—пастаянны спадарожнік рабочага класа і ўсё, што з ім звязана—голад, хваробы, прастытуцыя, самазабойствы і інш. Ля варот фабрык і заводаў рабочыя натоўпамі чакаюць, як манны нябеснай, работы, яны чапляюцца за малейшую магчымасць прадаць свае сілы капіталісту.

Мы ўсе помнім, што сабою прадстаўляў капіталізм на працягу апошніх 5—6 год. Найвялікшы крызіс, які ахапіў усе літаральна краіны капіталізма, доўга трымаў іх у сваіх жалезных абдымках. Беспрацоўе, голад, жабрацтва, самазабойствы сярод рабочых дасягнулі ў гэтыя годы асабліва высокага процанта. Цяжкае, знясільваючае жыццё цягнуў рабочы клас капіталістычнага свету.

Пару год таму назад капіталізм стаў як-быццам выкарабквацца з гэтага страшнага крызісу, зменшылася крыху беспрацоўе, але толькі крыху зменшылася, а не знікла. Але вось зноў з'явіліся грозныя сімптомы эканамічнага крызісу, які насоўваецца на Амерыку, а, значыць, трэба чакаць, што ён распаўсюдзіцца і на іншыя капіталістычныя краіны. А гэта, акрамя ўсяго іншага, азначае, перш за ўсё, велізарнае павелічэнне беспрацоўя, новыя рэкі слёз галодных жанчын і дзяцей, новыя і новыя цяжкія беды для рабочага класа. Нічога гэтага, нічога падобнага на гэта ў нас—у краіне перамогшага соцыялізма—няма і быць не можа. Працоўныя Совецкага Саюза, горада і вёскі, усе, як адзін, заняты поўнасцю працай, яны будуюць сваё новае светлае жыццё. Яны будуюць сваю соцыялістычную дзяржаву.

Мы збаўлены ад жахаў крызісаў, беспрацоўя таму, што пад кіраў-

ніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна мы перамаглі капіталізм у нашай краіне і пад тым-жа кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ўмацавалі і развіваем у нашай краіне соцыялізм! **(Бурныя апладысменты).**

Краіна Советаў—адзіная дзяржава ў свеце, дзе ўсе грамадзяне, дзе-б яны ні працавалі, акрамя ворагаў народу, зразумела, адчуваюць радасць працы, радасць творчасці. Колькі фабрык і заводаў, школ і клубаў, дамоў і ўсякіх іншых цудоўных і велічных збудаванняў створана за наш час! Як гіганцкі разгарнулася наша соцыялістычная індустрыя, якія выдатныя машыны featuring розн:астайнейшага прызначэння вырабляюць нашы заводы! Мы цалкам, уласнымі сродкамі ўзбройваем нашу слаўную Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію. Якіх велізарных поспехаў дасягнула советская навука ва ўсіх галінах ведаў! Як далёка мы шагнулі ў галіне культуры, як вырас, як змяніўся совецкі чалавек! Найвялікшыя поспехі соцыялістычнага земляробства прыводзяць нашых ворагаў проста-такі ў паніку.

7 мільярдаў пудоў хлеба ўраджаю гэтага года—гэта такі факт, які не гаворыць, а вяшчае на ўвесь свет аб нашых вялікіх і слаўных перамогах, аб велізарных заваяваннях калгаснага, соцыялістычнага земляробства. Змяніўся, стаў іншым калгасны селянін. Цяпер ужо няма патрэбы даказваць сялянству перавагі калектыўнай гаспадаркі перад аднаасобнай, гэта пройдзеная стадыя. Цяпер сялянства ў сваёй пераважнай масе дасканала на асабістым, ужо вялікім вопыце, праверыла калгасную сістэму і моцна за яе стаіць. Калгаснікі дасканала ведаюць, што калгас—гэта рух наперад да лепшага, заможнага, светлага, культурнага жыцця. Яны дасканала разумеюць, што толькі ў калектыўнай працы, з дапамогай складаных і рознастайных машын, яны прымусяць зямлю быць шчодрай, радзіць заўсёды і многа, што толькі такім шляхам можна безупынна рухацца наперад да новых і новых поспехаў.

Таварышы! Вялікі Сталін папярэджваў нас не раз аб тым, што мы абкружаны з усіх бакоў капіталістычнымі краінамі, а таму павінны быць сугуба пільнымі. Гэта трэба памятаць і ніколі не забываць. Наша краіна і цяпер, як раней, стаіць на варце міру, але мы не можам паруччыца за другіх. Вы ведаеце, як лёгка цяпер пачынаюцца войны і як цяжка яны канчаюцца для тых, хто слабы, хто ў час не падрыхтаваўся, не прыняў мер самаабароны. Ці даўно была на свеце самастойная, нават са сваім каралём краіна, імянуемая Абісініяй, а дзе яна цяпер? Яе, як незалежнай дзяржавы, ужо няма. Яна заваявана, знішчана. А што адбываецца ў Іспаніі? Просты фашысцкі генеральскі бунт супроць законнага рэспубліканскага ўрада быў дастатковым поводам, каб цэлая група фашысцкіх, агрэсіўных дзяржаў, пры патуранні так званых вялікіх дзяржаў, умяшалася ва ўнутраныя справы іспанскага народа, кінуўшы туды і масу зброі і цэлыя рэгулярныя корпусы.

Не лепшыя справы творацца на Далёкім Усходзе. Шматмільённы кітайскі народ падвергся нападу з боку Японіі і цяпер сцякае кроўю, адстойваючы сваю тэрыторыю і незалежнасць. Ваенная агрэсія фа-

шысцкіх краін не ведае ўтрыму. Зараз цяжка сказаць, якая з слабых краін на чарзе, куды накіруе сваё жала змій вайны.

Але мы ўсе, рабочыя і калгаснікі, совецкая інтэлігенцыя і Чырвоная Армія, павінны быць напагатове, трымаць вуха востра, тым больш, што найбольш заўзятыя малайцы з фашысцкага лагера без усякіх абінякоў ківаюць у наш бок, а іншыя, прама пахваляючыся, пагражаюць нам вайной. Мы ведаем, што гэта пакуль бахвальства і наглыя выхадкі зарваўшыхся шутоў. Але мы не ведаем, якія разумнікі зачынаюць у якія дні вайну. Вядома толькі адно, што і ў Абісініі, і ў Іспаніі, і на прасторах Кітая вайна вядзецца самымі сучаснымі сродкамі і самымі жорсткімі метадамі. Быць заўсёды і да ўсяго гатовымі—вось наш абавязак, вось наша задача, вось для чаго неабходна многа, добра, па-бальшэвіцку працаваць.

Таварышы! Наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія—плоць і кроў працоўных нашай краіны—заўсёды будзе ў поўнай баявой гатоўнасці. Ворагі за рубяжом ведаюць, што наша Чырвоная Армія ўжо зараз па-сапраўднаму арганізавана і не дрэнна абучана, аснашчана і ўзброена. Ворагі ведаюць, што нас цяпер нельга голымі рукамі ўзяць. Яны ведаюць, што для таго, каб пазбавіць нас нашых вялікіх дасягненняў, нашых заваяванняў,—ім трэба будзе весці вялікую і ўпартую барацьбу. Яны ведаюць, што наш рабочы клас, наша калгаснае сялянства разам са сваёй арміяй прадстаўляюць цяпер несакрушальную сілу, якую яны сустрэнуць і аб якую могуць расшыбіць сабе ілбы. Усё гэта нашы непрыяцелі добра ведаюць, а таму і рыхтуюцца пакуль.

Няхай іх рыхтуюцца, мы таксама рыхтуемся, будучы заўсёды гатовымі. **(Бурныя апладысменты).** Усё-ж, таварышы, будзем яшчэ больш, чым калі-небудзь, весці ўпартую работу над тым, каб нашы ўзброеныя сілы былі на вышыні таго прызначэння, якое гісторыяй ім прадназначана. Мы будзем працаваць яшчэ больш над тым, каб соцыялістычная гаспадарка нашай краіны, каб фабрыкі і заводы, нашы соўгасы і калгасы былі яшчэ больш арганізаваны і яшчэ больш магутны.

Таварышы! Нашы дасягненні і поспехі—гэта рэзультат мудрага кіраўніцтва нашай вялікай партыі Леніна—Сталіна. **(Апладысменты).** Наша партыя арганізавала рабочы клас на соцыялістычныя перамогі. Наша партыя арганізавала шматмільённыя масы сялянства ў калгасы, і пад яе кіраўніцтвам калгасны лад атрымаў велізарныя поспехі. **(Апладысменты).** Наша партыя Леніна—Сталіна, вялікі Сталін асабіста стварылі і заўсёды мацуюць магутнасць Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Партыя Леніна—Сталіна арганізуе і вядзе на перамогі народы Совецкага Саюза! **(Бурныя апладысменты).**

Адначасова наша партыя вяла і вядзе самую лютую барацьбу з ўсімі ворагамі народа, яна карчуе подлыя гнёзды шкоднікаў, прадажнікаў, здраднікаў прысязі радзіме.

Акружэнне Совецкага Саюза капіталістычнымі краінамі дае сябе ведаць тым, што агенты разведак гэтых краін ўсё робяць для таго, каб

пранікаць у нетры нашай дзяржавы. Гэтага мы не можам цярпець ні адной хвіліны. Большэвіцкая, дзелавая пільнасць павінна быць павышана ва многа раз. Ворагі павінны быць выкарчаваны ўсе без астатку, і мы іх выкарчуем. Няма і не можа быць месца ні аднаму прадажніку і шпіёну, ні аднаму здрадніку і іншым ворагам народа ў нашых радах. Увесь наш вялікі народ разам з сваёй Чырвонай Арміяй прадстаўляе сабой магутную армію соцыялізма, на чале якой стаіць наша слаўная большэвіцкая партыя Леніна—Сталіна. Гэтай магутнай нашай соцыялістычнай арміі процістаіць увесь капіталістычны свет. Мы не можам і не маем права дапускаць у нашы рады агентуру ворага. Мы былі, ёсць і заўсёды будзем адзіным, моцным калектывам соцыялістычных барацьбітоў за вялікую справу комунізма.

Няхай жыве наш вялікі совецкі магутны народ!

Няхай жывуць нашы слаўныя байцы, камандзіры і палітработнікі!

Няхай жывуць слаўныя працаўнікі—калгаснікі і калгасніцы, рабочыя і работніцы ордэнаноснай Совецкай Беларусі!

Няхай жыве большэвіцкая ленінска-сталінская партыя!

Няхай жыве наш вялікі Сталін! **(Бурныя апладысменты, крыкі «ура». «Інтэрнацыянал»).**

---

## Да дваццацігоддзя ВЧК—ОГПУ—НКВД

20 год назад у агні барацьбы за ўмацаванне Совецкай улады і за ўмацаванне перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі быў створан орган дзяржаўнай безапаснасці, орган совецкай разведкі—Усерасійская Надзвычайная Камісія па барацьбе з контррэволюцыяй і сабатажам. Узрошчаная партыяй Леніна—Сталіна, ВЧК хутка стала **«гразой буржуазіі, няўсыпным стражам рэволюцыі, аголеным мечам пролетарыята»** (Сталін). У барацьбе супроць звергнутых эксплаататарскіх класаў совецкая разведка—гэта разячая зброя дыктатуры пролетарыята—на ўсім працягу сваёй 20-гадовай гісторыі выкрывала змовы ўнутраных і знешніх ворагаў совецкай краіны, ахоўвала мірную працу совецкага народа і ачышчала нашу радзіму ад шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і тэрарыстаў.

Капіталістычнае акружэнне з'явілася асноўным фактам, вызначыўшым умовы барацьбы адзінай краіны дыктатуры пролетарыята.

> **«Мы—краіна, акружаная капіталістычнымі дзяржавамі. Унутраныя ворагі нашай рэволюцыі з'яўляюцца агентурай капіталістаў усіх краін. Капіталістычныя дзяржавы прадстаўляюць базу і тыл для ўнутраных ворагаў нашай рэволюцыі. Ваюючы з унутранымі ворагамі, мы вядзем, стала быць, барацьбу з контр-рэволюцыйнымі элементамі ўсіх краін»** (Сталін).

Таму абарона дыктатуры пролетарыята ад усіх прошукаў контррэволюцыі стала самай насушчнай задачай на наступны дзень пасля перамогі Совецкай улады.

Ленін гаварыў:

> **«Усякая рэволюцыя толькі тады чаго-небудзь варта, калі яна ўмее абараняцца»...**

Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна наша Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя быстра навучылася абараняцца.

Улічваючы, што на ўсе прошукі контррэволюцыі дыктатура пролетарыята павінна адказваць **«рэпрэсіяй, бязлітаснай, быстрай, неад-**

**кладнай, апіраючайся на спачуванне рабочых і сялян»** (Ленін), партыя стварыла асобы карны орган абароны рэволюцыі—ВЧК.

> **«Гэты орган быў створан на другі дзень пасля Кастрычніцкай рэволюцыі, пасля таго як выявіліся ўсякія змоўшчыцкія, тэрарыстычныя і шпіёнскія арганізацыі, фінансіруемыя рускімі і заграпічнымі капіталістамі»** (Сталін).

На пасту першага кіраўніка Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі па барацьбе з контррэволюцыяй партыя паставіла лепшага саратніка Леніна і Сталіна, непахіснага большэвіка, стойкага рыцара рэволюцыі, Фелікса Эдмундавіча Дзержынскага.

> **«Буржуазія не ведала больш ненавіснага імені, чым імя Дзержынскага, які адбіваў сталёвай рукой удары ворагаў пролетарскай рэволюцыі. Граза буржуазіі—вось чым быў Фелікс Дзержынскі»** (Сталін).

Формы і метады барацьбы сусветнага капіталізма супроць першай краіны соцыялізма на розных этапах мяняліся. Але на ўсіх этапах гэтай барацьбы нязменнай аставалася пастаянная скрытая вайна агентаў сусветнага капіталізма супроць совецкай краіны шляхам пасылкі ў нашу краіну і вярбоўкі ўнутры краіны тэрарыстаў, шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў.

У годы грамадзянскай вайны агенты сусветнай буржуазіі і яе рознастайная разведка прабавалі тэрорам і дыверсіямі, шпіянажам і змовамі ўзарваць тыл краіны, каб нанесці паражэнне Чырвонай Арміі, якая абараняла совецкі народ ад імперыялістычных захватчыкаў. У годы мірнага будаўніцтва тэрорам і дыверсіямі, шкодніцтвам, шпіянажам і змовамі сусветная буржуазія прабавала падарваць гаспадарчую і ваенную магутнасць нашай краіны, пасеяць замяшанне сярод працоўных мас і палегчыць такім чынам ваенную інтэрвенцыю супроць Совецкага Саюза.

У барацьбе супроць краіны соцыялізма ворагі народа не спыняліся ні перад якімі злачынствамі. Яны ішлі на продаж радзімы, на здзелкі супроць свайго народа з якімі ўгодна чужаземцамі. Калі **«... справа даходзіць да прыватнай уласнасці капіталістаў і памешчыкаў, яны забываюць усе свае фразы аб любві да бацькаўшчыны і незалежнасці... калі справа датычыць да класавых прыбыткаў, буржуазія прадае радзіму і ўступае ў гандлярскія здзелкі супроць свайго народа з якімі ўгодна чужаземцамі»** (Ленін).

Усе контррэволюцыйныя арганізацыі, пачынаючы ад савінкаўскага «Саюза абароны радзімы і свабоды», меншавікоў, эсэраў і канчаючы трацкісцка-бухарынскімі бандамі, прадавалі нашу радзіму імперыялістычным драпежнікам. Яны, як верныя псы і лакеі імперыялістаў, дзейнічалі па заданнях разведчых органаў замежных дзяржаў, каб любой цаною звергнуць дыктатуру рабочага класа, вярнуць свабодны совецкі народ да жахаў капіталістычнага гнёту і эксплаатацыі.

## Разгром органамі ВЧК змоў унутранай і знешняй контррэвалюцыі ў годы грамадзянскай вайны

ВЧК, створаная Совецкай уладай, складвалася і загартоўвалася, як орган абароны дыктатуры пролетарыята, у агні барацьбы з унутранай і знешняй контррэвалюцыяй. Разбітыя ў баях у дні Кастрычніцкага штурму капіталісты і памешчыкі, царскія чыноўнікі і генералы, чорнасоценнае афіцэрства, усе контррэвалюцыйныя партыі кадэтаў, меншавікоў і эсэраў кінуліся з шалёнай ярасцю ў атаку супроць устанавіўшайся новай улады—улады рабочых і сялян. Контррэвалюцыйным сабатажам яны прабавалі прымусіць неўмацаваўшуюся яшчэ дыктатуру пролетарыята адмовіцца ад рашучага зломy старога дзяржаўнага апарата. Спекуляцыяй яны імкнуліся паглыбіць эканамічную разруху, атрыманую ў спадчыну совецкім урадам ад царскага і буржуазна-памешчыцкага панавання, і задушыць рэволюцыю голадам. Яны зацявалі ваенныя мяцежы і змовы, каб аслабіць Совецкую ўладу.

Адбіваючы пры дапамозе ВЧК націск унутранай і знешняй контррэволюцыі, выкрываючы і знішчажаючы змоўшчыкаў, пролетарская дыктатура паказала найвялікшы размах, глыбіню і невычарпальныя сілы перамогшай рэволюцыі.

Вяліка роля ВЧК, як зоркага стража рэволюцыі ў цяжкія годы грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі замежных полчышч.

Совецкая Расія, акружаная арміямі 14 дзяржаў, ператварылася ў асаджаны лагер, апаясаны вогненным кальцом фронтаў і падрываемы знутры лазутчыкамі імперыялістычных разведак.

Буйнейшыя англійскія разведчыкі і правакатары Локарт, Поль Дзюкс, Сідней Рэйлі; германскія шпіёны Рыцлер і Шуберт; кіраўнікі польскай шпіёнска-дыверсійнай і тэрарыстычнай арганізацыі—«Польскай арганізацыі вайсковай» («ПОВ»); арганізатар усіх антысовецкіх авантур у Японіі, глава японскай ваеннай місіі ва Владзівастоку Аракі; агенты французскіх імперыялістаў—усе яны плялі сетку змоў, паўстанняў, насаджалі шпіёнаў і дыверсантаў, рыхтуючыся нанесці ўдар у спіну Совецкай Расіі ў рашаючы момант барацьбы на франтах грамадзянскай вайны.

ВЧК на чале з таварышом Дзержынскім раскрыла і ліквідавала ў 1918 годзе буйнейшую па сваіх размерах змову англійскага разведчыка Локарта, якая па сутнасці была змовай усіх разведак сусветнага імперыялізма. Планы змовы абмяркоўваліся на нарадах замежных дыпламатаў. Змоўшчыкі ставілі сабе мэтай у кантакце з Троцкім і яго бухарынскім ахвосцем сарваць мірную перадышку, сарваць Брэсцкі мір. Яны рыхтавалі правакацыйнае паўстанне воінскіх часцей, арышт усяго складу ВЦВК, забойства Леніна. Подкупам і правакацыямі змоўшчыкі хацелі адкрыць дарогу на Маскву англійскаму экспедыцыйнаму корпусу ў Архангельску.

Паўстанне чэхаславакаў, ваенныя мяцежы контррэвалюцыйнай арганізацыі савінкаўскага «Саюза абароны радзімы і свабоды» у Яраслаўлі, Мураме, Рыбінску, контррэвалюцыйны мяцеж «левых» эсэраў, забойства Урыцкага і Валадарскага, замах на жыццё Владзіміра Ільіча Леніна—усё гэта састаўныя часткі змовы Локарта і яго саўдзельнікаў.

Совецкая ўлада адказала на тэрор і змовы ўнутранай і знешняй контррэволюцыі чырвоным тэрорам, заклікала рабочых і сялян да пільнасці, да рашучай барацьбы з контррэволюцыянерамі. Народныя масы ўзняліся на абарону сваіх заваяванняў, дапамагаючы ВЧК ліквідаваць змову.

ВЧК неўзабаве раскрыла другую буйную ваенную змову ў Петраградзе, арганізаваную англійскім разведчыкам Поль Дзюксам у перыяд наступлення Юдзеніча (1919 г.). Разам з контррэволюцыйнай арганізацыяй «Нацыянальнага цэнтра», дзейнасць якой накіроўвалася і фінансавалася замежнымі разведкамі, шпіёны арганізавалі паўстанне на форту «Красная горка», у маі 1919 г. У іх на службе былі здраднікі і прадажнікі, якія прабраліся ў штабы Чырвонай Арміі, абараняўшай Петраград. У буржуазных асабняках, у будынках дыпламатычных місій захоўваліся вінтоўкі, кулямёты, гранаты і бомбы для ваеннага мяцежу ў Петраградзе.

ВЧК раскрыла гэтую змову, напала на след шпіёнаў і змоўшчыкаў і ліквідавала змову «Нацыянальнага цэнтра».

Разгром гэтай змовы адыграў сур'ёзную ролю ў справе перамогі над Юдзенічам.

ВЧК таксама раскрыла каварныя прошукі і змовы германскай разведкі. Нямецкія імперыялісты рыхтавалі акупацыю Масквы ваеннымі сіламі ў момант контррэволюцыйнага лева-эсэраўскага мяцежу. Яны насаджалі сваіх шпіёнаў на Петраградскім фронце і адпраўлялі белых афіцэраў на поўдзень Расіі для фармавання белагвардзейскай арміі.

ВЧК вяла бязлітасную барацьбу з каварнай, падрыўной дзейнасцю польскай разведкі. Шпіёнская агентура польскіх паноў, імкнучыся ажыццявіць «федэратыўны» план Пілсудскага, г. зн. заняволенне Совецкай Украіны і Беларусі, прыбягала да самых гнусных сродкаў. Узрывы мастоў, падпалы складаў, забойствы партыйных і совецкіх работнікаў, засылка глыбока законспіраваных правакатараў у партыйныя і совецкія арганізацыі—усё гэта ўваходзіла ў арсенал падрыўной дзейнасці польскай разведкі. Гэтыя планы польскіх інтэрвентаў былі разбіты ВЧК.

ВЧК з дапамогай рабочых, сялян, чырвонаармейцаў разграміла шматлікія змовы замежных разведак. Яна паказала сябе

**«разячаю зброяй супроць безлічных змоў, безлічных замахаў на совецкую ўладу...»** (Ленін).

Разгром органамі ВЧК змоў замежных разведак быў у той-жа час разгромам і ўнутранай контррэволюцыі, бо **«унутраныя ворагі нашай рэволюцыі з'яўляюцца агентурай капіталістаў усіх краін»** (Сталін).

Без ВЧК мы-б не перамаглі на фронтах грамадзянскай вайны, мы-б не адстаялі свабоды і незалежнасці нашай радзімы.

## ГПУ ва ўмовах мірнага будаўніцтва

Пераможнае сканчэнне грамадзянскай вайны, выгнанне белагвардзейцаў і інтэрвентаў з межаў нашай радзімы не знішчылі небяспекі капіталістычнага акружэння. Партыя Леніна—Сталіна бачыла гэту небяспеку і папярэджвала аб ёй працоўных. На IX Усерасійскім з'ездзе советаў, у снежні 1921 г. В. І. Ленін заявіў ад імя совецкага ўрада:

> **«Совецкая дзяржава дапускае да сябе замежных прадстаўнікоў пад прадлогам дапамогі, а гэтыя прадстаўнікі дапамагаюць звяргаць Совецкую ўладу, чаму прыклады бывалі. У становішча такой дзяржавы мы не пападзем, дзякуючы таму, што мы будзем цаніць і скарыстоўваць такую ўстанову як ВЧК. Гэта мы можам усім і ўсякаму гарантаваць»** (Ленін).

ВЧК, рэарганізаваная ў канцы 1921 г. у ОГПУ, прадаўжала і далей барацьбу з контррэволюцыйнымі змовамі, са шпіёнамі і дыверсантамі, засылаемымі замежнымі разведкамі, ахоўваючы заваяваную ў баях мірную працу. Адначасова ОГПУ пачало барацьбу з эканамічнай контррэволюцыяй, са шкодніцтвам, з усімі спробамі зрыву мерапрыемстваў Совецкай улады па эканамічнаму адраджэнню краіны.

Капіталістычны свет быў вымушан пайсці на «мірнае» суіснаванне з краінай будуючагася соцыялізма. Але ён не адмовіўся ад мыслі падрыхтаваць новую ўзброеную інтэрвенцыю. Таму «скрытая вайна»—засылка шпіёнаў і дыверсантаў, кіраўніцтва контррэволюцыйнымі арганізацыямі ў тылу СССР не спыняліся ні на адзін дзень.

Поспехі соцыялістычнай індустрыялізацыі выклікалі новы націск міжнароднага імперыялізма на Совецкі Саюз, актыўнасць усіх унутраных і знешніх ворагаў нашай соцыялістычнай радзімы. Белагвардзейскія агенты замежных разведак зрабілі рад дыверсійных актаў унутры СССР. Трацкісты і зіноўеўцы перайшлі ў гэты час да адкрытай антысовецкай дзейнасці, уступілі ў кантакт з белагвардзейцамі, стваралі пры іх дапамозе падпольныя друкарні, адкрыта заклікалі замежную буржуазію да паскарэння ўзброенага нападу на Совецкі Саюз, абяцаўшы дапамагчы ёй у звяржэнні Совецкай улады.

Штурхаемыя нянавісцю да краіны будуючагася соцыялізма, але вымушаныя адмовіцца часова ад ваеннай інтэрвенцыі, ворагі совецкай краіны перайшлі да эканамічнай інтэрвенцыі, як асноўнага метада падрыхтоўкі ўзброенай інтэрвенцыі супроць Совецкага Саюза.

Шкодніцтва—дэзарганізацыя і вывядзенне са строю як асобных прадпрыемстваў, так і цэлых участкаў народна-гаспадарчага фронта было важнейшай формай гэтай эканамічнай інтэрвенцыі. Контррэвалюцыйныя элементы з ліку старых спецыялістаў, цесна звязаных з эмігрыраваўшымі за граніцу былымі гаспадарамі фабрык і заводаў, па прамому заданню разведак капіталістычных краін вялі замаскаваную шкодніцкую работу.

У 1928 годзе ОГПУ была разгромлена банда шахцінскіх шкоднікаў, ставіўшых перад сабой задачу разбурэння Донбаса.

«Шахцінцы» былі звязаны з многімі замежнымі разведкамі. Па заданнях гэтых разведак шкоднікі псавалі электрастанцыі, выводзілі са строю вентыляцыю і водаадлівы ў шахтах, разбуралі транспарт, імкнучыся к поўнаму прыпыненню апалавага забяспечання нашай прамысловасці.

Эканамічная інтэрвенцыя капіталістычнага свету ахапіла не толькі Донбас, але і цэлы рад іншых галін прамысловасці.

ОГПУ разблытала клубок подлай змовы, паказаўшы, што за спіной шкоднікаў стаялі такія акулы міжнароднага капітала, як нафтавы магнат Дэтэрдынг і афіцыяльныя ўстановы замежных дзяржаў.

Эканамічная інтэрвенцыя была разлічана на тое, каб падрыхтаваць глебу к новай ваеннай інтэрвенцыі капіталістычных краін супроць Совецкага Саюза.

Таварыш Сталін гаварыў у 1928 годзе:

> **«Класы існуюць, міжнародны капітал існуе, і ён не можа глядзець спакойна на развіццё краіны будуючагася социялізма. Раней ён, міжнародны капітал, думаў апракінуць совецкую ўладу ў парадку прамой ваеннай інтэрвенцыі. Спроба не ўдалася. Цяпер ён стараецца і будзе старацца надалей аслабіць нашу гаспадарчую магутнасць шляхам нябачнай, не заўсёды прыметнай, але досыць унушальнай эканамічнай інтэрвенцыі, арганізуючы шкодніцтва, падрыхтоўваючы ўсякія «крызісы» у тых або іншых галінах прамысловасці і палягчаючы тым самым магчымасць будучай ваеннай інтэрвенцыі».**

Вялікія перамогі социялізма ў СССР, паспяховы ход ажыццяўлення першай пяцігодкі, паварот сялянства на рэйкі социялізма і пераход да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа—азначалі крах надзей міжнароднай буржуазіі на аднаўленне капіталізма ў СССР. Гэта паслужыла прычынай узмоцненай падрыхтоўкі новай узброенай інтэрвенцыі супроць Совецкага Саюза з боку імперыялістычных дзяржаў.

З гэтай мэтай замежныя разведкі арганізавалі сіламі контррэвалюцыйных элементаў унутры СССР шкодніцтва і шпіянаж у значна большых маштабах, чым раней, каб выклікаць усеагульны гаспа-

дарчы крызiс у нашай краiне к моманту ўварвання на совецкую зямлю iмперыялiстычных армiй.

Саюзнiкамi iмперыялiстаў у падрыхтоўцы ўзброенай iнтэрвенцыi супроць СССР з'явiлiся трацкiсцка-зiноўеўскiя i бухарынска-рыкаўскiя здраднiкi. Барацьба трацкiстаў i бухарынцаў супроць генеральнай лiнii партыi, iх злобныя намаганнi сарваць сталiнскую пяцiгодку поўнасцю адпавядалi iнтарэсам капiталiстычных iнтэрвентаў. Ужо ў гэты перыяд шкоднiкi i шпiёны замежных разведак бачылi ў трацкiстах i зiноўеўцах, у Бухарыне, Рыкаве i iх прыспешнiках сваiх натуральных саюзнiкаў.

Аднак, ОГПУ i на гэты раз сарвала планы iнтэрвентаў. Былi разгромлены асноўныя арганiзацыi шкоднiкаў i шпiёнаў.

ОГПУ разграмiла «Промпартыю», якая прадстаўляла сабой разгалiнаваную шпiёнска-шкоднiцкую арганiзацыю, дзейнiчаўшую пад апекай французскай разведкi. «Промпартыя» была звязана з аб'яднаннем рускiх капiталiстаў за гранiцай «Торгпромам», меўшым сваю базу ў Парыжы (Рабушынскi, Дзенiсаў, Канавалаў, Нобель, Гукасаў i iнш.).

Перадаючы сваiм замежным гаспадарам шпiёнскiя весткi, кiраўнiкi «Промпартыi» ужо дзялiлi памiж сабой мiнiстэрскiя партфелi, гандлюючы нашай радзiмай, абяцаючы iнтэрвентам «уступiць» Баку, правабярэжную Украiну, прадаставiць любыя канцэсii замежным капiталiстам i рыхтуючыся ператварыць СССР у калонiю заходнееўрапейскага iмперыялiзма.

ОГПУ разграмiла таксама партыю кулацкай контррэволюцыi—банду кандрацьеўцаў i чаянаўцаў. Сваю шкоднiцкую, дыверсiйную работу гэта шайка праводзiла пераважна ў вёсцы, у зямельных органах, сельскагаспадарчай кааперацыi. Заахвочваючы кулацкiя гаспадаркi, разбураючы соўгасы i калгасы i ведучы шпiёнскую контррэволюцыйную работу, яна прама апiралася на здраднiкаў Бухарына—Рыкава—Томскага.

Разгром гэтай эсэраўска-кулацкай банды азначаў удар па кулацтву i дапамогу бядняцка-серадняцкiм масам сялянства ва ўмацаваннi вялiкага калгаснага руху.

У 1931 годзе ОГПУ выкрыла i разграмiла шкоднiцка-шпiёнскую арганiзацыю меншавiкоў. Так званае «Саюзнае Бюро» меншавiкоў, разгромленае чэкiстамi, прадстаўляла сабой познавiднасць агентуры замежных разведак, якая дзейнiчала галоўным чынам пад выглядам «эканамiстаў», «планавiкоў» у гаспадарчых органах Совецкай улады.

Шкоднiцтвам i правакацыямi меншавiкi падрывалi матар'яльнае становiшча рабочых мас, iмкнулiся арганiзаваць голад у рабочых раёнах, каб выклiкаць гэтым незадаволенне Совецкай уладай.

Разведкi iмперыялiстычных краiн ажыццяўлялi сваю падрыўную дзейнасць, прыкрываючыся таксама так званай «тэхнiчнай да-

памогай». Але і гэта стаўка інтэрвентаў была біта. ОГПУ выкрыла шкоднікаў і шпіёнаў з англійскай «Інтэліджэнс-Сервіс», якая заслала ў СССР разведчыкаў пад выглядам інжынераў і тэхнікаў англійскай фірмы «Метрапалітэн-Вікерс».

Разгром «шахцінцаў», «Промпартыі», кандрацьеўцаў-чаянаўцаў, меншавікоў-інтэрвенцыяністаў—расстроіў планы ворагаў і нямала дапамог выкананню першай пяцігодкі.

## Барацьба з фашысцкімі разведкамі і іх трацкісцка-рыкаўска-бухарынскай агентурай

Перамога соцыялізма ў нашай краіне, канчатковая ліквідацыя ўсіх эксплаататарскіх класаў, рост маральнага і палітычнага адзінства совецкага народа, згуртаванага вакол партыі большэвікоў і Совецкага ўрада, выклікалі шалёную ненавісць і звярыную злобу фашысцкіх падпальшчыкаў вайны. Бачачы сваю поўную асуджанасць, астаткі разбітых эксплаататарскіх класаў унутры краіны перайшлі да самых крайніх, самых адчайных сродкаў барацьбы супроць перамогшага соцыялізма. Іменна ў гэты перыяд таварыш Сталін папярэджваў:

> **«...чым больш будзем прасоўвацца наперад, чым больш будзем мець поспехаў, тым больш будуць азлабляцца астаткі разбітых эксплаататарскіх класаў, тым хутчэй будуць яны ісці на больш вострыя формы барацьбы, тым больш яны будуць пакасціць совецкай дзяржаве, тым больш яны будуць хватацца за самыя адчайныя сродкі барацьбы, як апошнія сродкі асуджаных»** (Сталін).

У авангардзе астаткаў разбітых эксплаататарскіх класаў сталі наёмныя лакеі фашызма—рыкаўска-бухарынска-трацкісцкія шпіёны, шкоднікі, дыверсанты і забойцы. Яны поўнасцю зліліся з фашысцкімі разведкамі, выконваючы іх заданні па арганізацыі тэрору і дыверсій, шпіянажу і шкодніцтва.

> **«...трацкізм ператварыўся ў агалцелую і беспрынцыпную банду шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойц, дзеючых па заданнях разведчых органаў замежных дзяржаў»** (Сталін).

Двурушнічаючы і прыкрываючыся партыйнымі білетамі, пралязаючы ў партыю і на адказныя пасты, трацкісты і рыкаўцы **«аказаліся прамой знаходкай для разведчых органаў замежных дзяржаў»** (Сталін).

Гэтыя подлыя фашысцкія найміты хацелі аддаць рабочых, сялян і нашу працоўную інтэлігенцыю на разгром фашысцкім бандам, яны хацелі ператварыць нашу квітнеючую радзіму ў калонію японa-нямецкага і польскага фашызма.

Дзеля гэтага яны забілі тав. Кірава. Дзеля гэтага яны збіраліся

забіць другіх кіраўнікоў нашай краіны. Дзеля гэтага яны шпіёнілі, шкодзілі, рабілі чыгуначныя крушэнні, рабілі выбухі на шахтах, падпальвалі заводы, соўгасы, калгасы.

Не адразу ўдалося раскрыць твар глыбока замаскаваных, навостраных у подласці і правакацыі лютых ворагаў народа—Троцкага, Зіноўева, Каменева, Пятакова, Радэка, Бухарына, Сакольнікава, Рыкава, Рудзутака, Енукідзе і іншых менш вядомых, але такіх-жа гнусных ворагаў народа.

Прытупленне класавай пільнасці, злачынная бесклапотнасць, мяжаваўшая са здрадай, якія праявіліся ва многіх звеннях нашага савецкага і партыйнага апарата, доўгі час аблягчалі ворагу магчымасць весці яго гнусную падрыўную работу. Ворагі прабавалі паралізаваць нават совецкую разведку, засылаючы ў яе органы фашысцкіх шпіёнаў.

Толькі дзякуючы празарлівасці кіраўніцтва нашай партыі, якое своечасова ўмацавала органы НКВД і мабілізавала пільнасць усёй нашай партыі, рабочых, калгаснікаў, інтэлігентаў, страшэнныя зладзеянні трацкісцка-рыкаўска-бухарынскай банды былі выкрыты да канца.

Па ініцыятыве партыі і ўрада ў органы НКВД быў накіраван для кіраўніцтва сакратар ЦК ВКП(б) тав. Н. І. Ежоў.

Пад кіраўніцтвам тав. Ежова совецкая разведка стала наносіць бязлітасныя і меткія ўдары трацкісцка-рыкаўска-бухарынскім бандытам. Перад тварам працоўных усяго свету совецкая разведка раскрыла страшэнныя справы і замыслы падпальшчыкаў новай сусветнай вайны, прэзрэчных агентаў фашызма.

У найкарацейшы тэрмін былі выкрыты і ліквідаваны асіныя гнёзды гэтых наёмных лакеяў фашызма, тэрарыстаў, дыверсантаў, шкоднікаў, шпіёнаў.

Слаўныя наркомунудзельцы разблыталі брудны, агідны клубок, у якім пад кіраўніцтвам фашысцкіх разведак спляліся ў адно трацкісты, зіноўеўцы, бухарынцы, рыкаўцы, буржуазныя нацыяналісты, меншавікі, эсэры, белагвардзейскія генералы.

Карта ворагаў аказалася бітай.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) у сваім звароце да выбаршчыкаў у Вярхоўны Совет СССР ад 6 снежня 1937 года даў высокую ацэнку гэтай работы НКВД. ЦК ВКП(б) адзначыў, што наша радзіма мае цяпер у сваім распараджэнні **«праверания карныя органы», «здольныя абясшкодзіць шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і іншых ворагаў совецкага народа».**

### Совецкая разведка—грозная зброя народа

На працягу сваёй дваццацігадовай гісторыі совецкая разведка змагалася на самых небяспечных і перадавых участках класавай барацьбы. Яна заслужыла гарачую любоў совецкага народа і звяры-

ную нянавісць усіх ворагаў працоўных. Яна паказала сябе зоркім стражам рэволюцыі, ахоўваючым заваяванні соцыялізма і мірную працу совецкага народа. У барацьбе са шматлікімі ворагамі нашай радзімы—са змоўшчыкамі, шпіёнамі, шкоднікамі, дыверсантамі—яна вышла пераможцай.

Асабліва вялікі перамогі совецкай разведкі ў барацьбе з фашысцкімі разведкамі і іх троцкісцка-рыкаўска-бухарынскай агентурай.

Сіла і непераможнасць совецкай разведкі—у сіле дыктатуры рабочага класа, у сіле ўлады Саветаў. Створаная і выхаваная партыяй Леніна—Сталіна, совецкая разведка моцна большэвіцкай партыйнасцю, высокай ідэйнасцю ў рабоце, непарыўнай сувяззю з совецкім народам. Працоўныя Совецкага Саюза лічаць справай свайго гонару дапамагаць слаўным наркомунудзельцам у іх цяжкай і ганаровай рабоце. Сувязь совецкай разведкі з працоўнымі масамі нязмерна вырасла ў сучасны момант, калі **«...у нашай краіне стварылася нябачанае раней УНУТРАНАЕ МАРАЛЬНАЕ І ПАЛІТЫЧНАЕ АДЗІНСТВА НАРОДА, маральнае і палітычнае адзінства соцыялістычнага грамадства»** (Молатаў).

Гэта робіць совецкую разведку непераможнай.

Совецкая разведка ў адзнаку ад разведак буржуазных краін адстойвае кроўныя інтарэсы працоўных. Совецкая разведка адстойвае справу міру, змагаецца з падпальшчыкамі вайны.

> **«... У свеце няма ні адной дзяржавы, дзе-б органы дзяржаўнай безапаснасці, органы разведкі былі-б так цесна звязаны з народам, так ярка адлюстроўвалі-б інтарэсы гэтага народа, стаялі-б на варце заваяванняў народа.**
>
> **У капіталістычным свеце органы разведкі з'яўляюцца найбольш ненавіснай часткай дзяржаўнага апарата для шырокіх мас працоўнага насельніцтва, паколькі яны стаяць на варце інтарэсаў пануючай кучкі капіталістаў. У нас, наадварот, органы совецкай разведкі, органы дзяржаўнай безапаснасці стаяць на варце інтарэсаў совецкага народа. Таму яны карыстаюцца заслужанай павагай, заслужанай любоўю ўсяго совецкага народа».** (З прамовы тав. Ежова на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК СССР 27 ліпеня 1937 г.).

У мэтах павышэння рэволюцыйнай пільнасці мас у барацьбе з фашысцкімі разведкамі і іх троцкісцка-бухарынскімі бандамі партыя прыняла неабходныя меры да таго, **«каб нашы таварышы, партыйныя і беспартыйныя большэвікі, мелі магчымасць азнаёміцца з мэтамі і задачамі, з практыкай і тэхнікай шкодніцка-дыверсійнай і шпіёнскай работы замежных разведчых органаў»** (Сталін).

Ажыццяўленне гэтага мерапрыемства партыі ўжо прынесла свае плады. Павысілася рэволюцыйная пільнасць мас, узрасло ўменне распазнаваць замаскаваных ворагаў народа. Барацьба з бухарынска-

трацкісцкай агентурай фашызма, барацьба за захаванасць дзяржаўнай тайны, за непарушнасць соцыялістычнай уласнасці сталі справай мільёнаў.

Совецкі народ памятае словы таварыша Сталіна: **«Пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных разведак».**

Тым больш памятае іх і будзе памятаць наш НКВД.

Совецкі народ ведае, што яго няўсыпны страж—НКВД будзе і надалей бязлітасна граміць і карчаваць ворагаў народа, подлых здраднікаў радзімы.

Такавы слаўныя вынікі дваццацігадовай работы ВЧК—ОГПУ—НКВД.

---

# Інфармацыйнае паведамленне

## аб чарговым Пленуме ЦК ВКП(б)

Гэтымі днямі адбыўся чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта ВКП(б).

Пленум разглядзеў пытанні Сесіі Вярхоўнага Совета СССР і прыняў адпаведныя рашэнні.

Пленум абмеркаваў пытанне «Аб памылках партарганізацый пры выключэнні комуністаў з партыі, аб фармальна-бюракратычных адносінах да апеляцый выключаных з ВКП(б) і аб мерах па ўстараненню гэтых недахопаў» і прыняў адпаведную пастанову, публікуемую ніжэй.

Апрача таго, Пленум ЦК разгледзеў рад гаспадарчых пытанняў і прыняў адпаведныя рашэнні.

Пленум вызваліў тав. Постышэва П. П. са складу кандыдатаў у члены Палітбюро ЦК ВКП(б).

Пленум увёў у склад кандыдатаў у члены Палітбюро ЦК ВКП(б) сакратара Маскоўскага абкома ВКП(б) тав. Хрушчова Н. С. і ў склад Оргбюро ЦК ВКП(б)— тав. Мехліса Л. З.

---

## Аб памылках партарганізацый пры выключэнні комуністаў з партыі, аб фармальна-бюракратычных адносінах да апеляцый выключаных з ВКП(б) і аб мерах па ўстараненню гэтых недахопаў

*Пастанова Пленума ЦК ВКП(б)*

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць неабходным звярнуць увагу партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў на тое, што яны, праводзячы вялікую работу па ачышчэнню сваіх радоў ад трацкісцка-правых агентаў фашызма, дапускаюць у працэсе гэтай работы сур'ёзныя памылкі і скажэнні, якія перашкаджаюць справе ачышчэння партыі ад двурушнікаў, шпіёнаў, шкоднікаў. Наперакор неаднаразовым указанням і папярэджанням ЦК ВКП(б), партыйныя арганізацыі ва многіх выпадках падыходзяць зусім няправільна і злачынна-лёгкадумна да выключэння комуністаў з партыі.

ЦК ВКП(б) не раз патрабаваў ад партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў уважлівага, індывідуальнага падыходу да членаў партыі пры рашэнні пытанняў аб выключэнні з партыі ці аб аднаўленні няправільна выключаных з ВКП(б) у правах членаў партыі.

Пленум ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні ад 5 сакавіка 1937 года па дакладу таварыша Сталіна «Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў» указваў:

> «Некаторыя нашы партыйныя кіраўнікі хварэюць адсутнасцю належнай увагі да людзей, да членаў партыі, да работнікаў. Больш таго, яны не вывучаюць работнікаў, не ведаюць, чым яны жывуць і як яны растуць, не ведаюць наогул сваіх кадраў. Іменна таму ў іх няма індывідуальнага падыходу да членаў партыі, да работнікаў партыі. А індывідуальны падыход складае галоўную справу ў нашай арганізацыйнай рабоце. І іменна таму, што ў іх няма індывідуальнага падыходу пры ацэнцы членаў партыі і партыйных работнікаў, яны звычайна дзейнічаюць наабум: або яны хваляць іх агулам, без меры, або яны збіваюць іх таксама агулам, без меры, выключаюць з партыі тысячамі і дзесяткамі тысяч. Некаторыя нашы партыйныя кіраўнікі наогул стараюцца мысліць дзесяткамі тысяч, не клапоцячыся аб «адзінках», аб паасобных членах партыі, аб іх лёсе. Выключыць з партыі тысячы і дзесяткі тысяч людзей

яны лічаць пусцяковай справай, уцяшаючы сябе тым, што партыя ў нас вялікая і дзесяткі тысяч выключаных не могуць што-небудзь змяніць у становішчы партыі. Але так могуць падыходзіць да членаў партыі толькі людзі, па сутнасці справы глыбока антыпартыйныя.

У рэзультаце такіх бяздушных адносін да людзей, членаў партыі і партыйных работнікаў штучна ствараецца незадаволенне і азлабленне ў адной частцы партыі.

Зразумела, што трацкісцкія двурушнікі лоўка падчапляюць такіх азлобленых таварышоў і ўмела цягнуць іх за сабой у балота трацкісцкага шкодніцтва».

У гэтым-жа рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) сказана:

«Асудзіць практыку фармальных і бяздушна-бюракратычных адносін да пытання аб лёсе паасобных членаў партыі, аб выключэнні з партыі членаў партыі або аб аднаўленні выключаных у правах членаў партыі.

Абавязаць партыйныя арганізацыі праяўляць максімум асцярожнасці і таварыскіх клопатаў пры рашэнні пытання аб выключэнні з партыі або аб аднаўленні выключаных у правах членаў партыі».

У пісьме ад 24 чэрвеня 1936 года «Аб памылках пры разглядзе апеляцый выключаных з партыі ў часе праверкі і абмену партыйных дакументаў» ЦК ВКП(б) указваў на несур'ёзныя, а ў радзе выпадкаў, бяздушна-чыноўніцкія адносіны партыйных органаў да разбору апеляцый выключаных з партыі:

«Наперакор указанням ЦК—гаворыцца ў гэтым пісьме— апеляцыі выключаных разглядаюцца надта марудна. Многія выключаныя месяцамі дабіваюцца разбору паданых імі апеляцый. Вялікая колькасць апеляцый разглядалася завочна, без усякай праверкі заяў апеліруючых, без забеспячэння апеліруючым магчымасці даць падрабязныя тлумачэнні па поваду прычын іх выключэння з партыі.

У радзе раённых партыйных арганізацый было дапушчана зусім нецярпімае сваявольства ў адносінах да выключаных з партыі. Выключаных з партыі за ўтоенне соцыяльнага паходжання і за пасіўнасць, а не па матывах іх варожай дзейнасці супроць партыі і совецкай улады, аўтаматычна знімалі з работы, пазбаўлялі кватэр і т. п.

Такім чынам партыйныя кіраўнікі гэтых партарганізацый, не ўсвоіўшы па-сапраўднаму ўказанняў партыі аб большэвіцкай пільнасці, сваімі фармальна-бюракратычнымі адносінамі да разгляду апеляцый выключаных пры праверцы партыйных дакументаў ігралі на-руку ворагам партыі».

Як відаць, папярэджваючыя ўказанні мясцовым партыйным арганізацыям былі.

І ўсё-ж, не гледзячы на гэта, многія партарганізацыі і іх кіраўнікі прадаўжаюць фармальна і бяздушна-бюракратычна адносіцца да лёсу паасобных членаў партыі.

Вядома не мала фактаў, калі партыйныя арганізацыі без усякай праверкі і, значыць, неабгрунтавана выключаюць комуністаў з партыі, пазбаўляюць іх работы, нярэдка нават абвяшчаюць, без усякіх к таму падстаў, ворагамі народа, чыняць беззаконні і сваявольства над членамі партыі.

Так, напрыклад: **ЦК КП(б) Азербайджана** на адным пасяджэнні 5 лістапада 1937 года механічна пацвердзіў выключэнне з партыі 279 чалавек; **Сталінградскі** абком 26 лістапада зацвердзіў выключэнне 69 чалавек; **Новасібірскі** абком 28 лістапада механічна пацвердзіў рашэнні райкомаў ВКП(б) аб выключэнні з партыі 72 чалавек; у **Орджанікідзеўскай** краявой партыйнай арганізацыі Парткалегія КПК пры ЦК ВКП(б) адмяніла, як няправільныя і зусім неабгрунтаваныя, рашэнні аб выключэнні з партыі 101 комуніста са 160 чалавек, падаўшых апеляцыі; па **Новасібірскай** партыйнай арганізацыі такім-жа чынам прышлося адмяніць 51 рашэнне з 80; па **Растоўскай** партарганізацыі адменены 43 рашэнні з 66; па **Сталінградскай** партарганізацыі—58 са 103; па **Саратаўскай**—80 са 134; па **Курскай** партарганізацыі—56 з 92; па **Вінніцкай**—164 з 337 і т. д.

Ва многіх раёнах Харкаўскай вобласці пад відам «пільнасці» маюць месца шматлікія факты незаконнага звальнення з работы і адмаўлення ў прадастаўленні работы выключаным з партыі і беспартыйным работнікам. У Зміеўскім раёне ў кастрычніку і лістападзе 1937 года беспрычынна зняты з работы 36 настаўнікаў і намечана да звальнення яшчэ 42. У рэзультаце, у школах сёл Таранаўка, Замасцяжнае, Скрыпаеўка і іншых не выкладаюць гісторыю, Канстытуцыю СССР, рускую, украінскую і замежныя мовы.

У г. Зміеве ў сярэдняй школе выкладала біялогію настаўніца Журко, 1904 года нараджэння, дачка калгасніка, маючая васьмігадовы педагагічны стаж, завочніца чацвертага курса педінстытута. У мясцовай газеце з'явілася заметка аб яе браце, які працуе педагогам у г. Ізюме, як аб нацыяналісце. Гэтага аказалася дастатковым для звальнення Журко з работы. У сувязі са звальненнем т. Журко было выказана палітычнае недавер'е яе мужу і паднята пытанне таксама і аб яго звальненні. Пры праверцы-ж выяснілася, што заметка аб браце Журко аказалася паклёпніцкай і ён з работы не знімаўся.

У г. Харкаве па справе адной арыштаванай трацкісткі Горскай органамі НКВД была дапрошана ў якасці сведкі работніца заўкома фабрыкі імя Тінякова Эйнгорн. Аб сваім выкліку ў НКВД яна падзялілася з начальнікам спецчасткі Семянковым, які неадкладна пасля

гэтага паставіў на парткоме завода пытанне аб сувязі Эйнгорн з трацкісткай Горскай. У рэзультаце Эйнгорн была знята з работы ў заўкоме і зволена. Муж сястры Эйнгорн, які працаваў у рэдакцыі мясцовай газеты, зволен за тое, што «не паведаміў аб сувязях сястры яго жонкі з трацкістамі».

Курскі абком ВКП(б) без усякай праверкі завочна выключыў з партыі і дабіўся арышту члена партыі старшыні заўкома Дзмітра-Таранаўскага цукровага завода Іванчэнкавай, прыпісаўшы ёй свядомую контррэволюцыйную падрыхтоўку выступлення беспартыйнага рабочага Кулінічэнка на прадвыбарчым сходзе ў Вярхоўны Совет СССР. Пры праверцы ўстаноўлена, што ўся «віна» Іванчэнкавай заключалася ў тым, што на прадвыбарчым сходзе беспартыйны рабочы Кулінічэнка, пасля таго, як расказаў аб сваім жыцці, збіўся ў выступленні і забыўся назваць прозвішча кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета.

Ва многіх раёнах Куйбышэўскай вобласці выключана з партыі вялікая колькасць комуністаў з матывіроўкай, што яны з'яўляюцца ворагамі народа. Між тым, органы НКВД не знаходзяць ніякіх падстаў для арышту гэтых выключаных з партыі. Напрыклад, Большэ-Чэрнігаўскі райком ВКП(б) выключыў з партыі і абвясціў ворагамі народа 50 чалавек з агульнай колькасці 210 комуністаў, якія састаяць у раённай партарганізацыі, у той час, як у адносінах 43 з гэтых выключаных органы НКВД не знайшлі ніякіх падстаў для арышту. У Парткалегію КПК пры ЦК ВКП(б) па Куйбышэўскай вобласці з'яўляюцца многія выключаныя райкомамі ВКП(б) як ворагі народа з патрабаваннем або іх арыштаваць, або зняць з іх ганебнае кляймо.

ЦК ВКП(б) мае даныя аб тым, што такія факты маюць месца і ў іншых партарганізацыях.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, што ўсе гэтыя і падобныя ім факты маюць распаўсюджанне ў партарганізацыях перш за ўсё таму, што сярод комуністаў існуюць, яшчэ не ўскрыты і не выкрыты **паасобныя кар'ерысты-комуністы, якія стараюцца вызначыцца і вылучыцца на выключэннях з партыі, на рэпрэсіях супроць членаў партыі, якія стараюцца застрахаваць сябе ад магчымых абвінавачванняў у недахопе пільнасці шляхам прымянення агульных рэпрэсій супроць членаў партыі.**

Такі кар'ерыст-комуніст мяркуе, што раз на члена партыі падана заява, хоць-бы няправільная, або нават правакацыйная, ён, гэты член партыі, небяспечны для арганізацыі і ад яго трэба пазбавіцца пахутчэй, каб застрахаваць сябе, як пільнага. Таму ён лічыць залішнім аб'ектыўна разбірацца ў прад'яўленых комуністу абвінавачваннях і загадзя прадрашае неабходнасць яго выключэння з партыі.

Такі кар'ерыст-комуніст, жадаючы выслужыцца, без усякага разбору разводзіць паніку наконт ворагаў народа і з лёгкасцю кры-

чыць на партсходах аб выключэнні членаў партыі з партыі на якой-небудзь фармальнай падставе, або зусім без падставы. Партыйныя-ж арганізацыі нярэдка ідуць на паваду ў такіх крыкуноў-кар'ерыстаў.

Такі кар'ерыст-комуніст абыякава адносіцца да лёсу членаў партыі і гатоў заведама няправільна выключыць дзесяткі комуністаў з партыі для таго, каб самому выглядаць пільным. Ён гатоў па малаважных учынках выключыць членаў партыі з партыі з тым, каб прыпісаць сабе «заслугі» ў выкрыцці ворагаў, а, калі вышэйстаячыя партыйныя органы аднаўляюць няправільна выключаных з партыі, ён ні мала не бянтэжыцца, становіцца ў позу чалавека, задаволенага тым, што ён ва ўсякім выпадку перастрахаваўся наконт «пільнасці».

Партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі замест таго, каб сарваць маску фальшывай пільнасці з такіх «комуністаў» і вывесці іх на чыстую ваду, самі нярэдка ствараюць ім арэол пільных барацьбітоў за чыстату радоў партыі.

**Пара выкрыць такіх, з дазволу кажучы, комуністаў і закляйміць іх, як кар'ерыстаў, якія стараюцца выслужыцца на выключэннях з партыі, стараюцца перастрахавацца пры дапамозе рэпрэсій супроць членаў партыі.**

Вядома, далей, нямала фактаў, калі замаскаваныя ворагі народа, шкоднікі-двурушнікі ў правакацыйных мэтах арганізуюць падачу паклёпніцкіх заяў на членаў партыі і пад выглядам «разгортвання пільнасці» дабіваюцца выключэння з радоў ВКП(б) чэсных і адданых комуністаў, адводзячы тым самым ад сябе ўдар і захоўваючы сябе ў радах партыі.

Выкрыты вораг народа, былы заг. АКПО Растоўскага абкома ВКП(б) Шацкі і яго саўдзельнікі, карыстаючыся палітычнай блізарукасцю кіраўнікоў Растоўскага абкома ВКП(б), выключалі з партыі чэсных комуністаў, выносілі заведама няправільныя спагнанні работнікам, усяляк азлаблялі комуністаў, робячы ў той-жа час усё магчымае, каб захаваць у партыі свае контррэволюцыйныя кадры.

У тым-жа Растове, былы заг. аддзелам школ Растоўскага абкома ВКП(б) вораг народа Шэстова па заданню контррэволюцыйнай арганізацыі правяла ў партыйнай арганізацыі Растоўскага педагагічнага інстытута выключэнне з партыі каля 30 чэсных комуністаў.

Былы сакратар Кіеўскага абкома КП(б)У, вораг народа Кудраўцаў на партыйных сходах нязменна звяртаўся да выступаўшых комуністаў з правакацыйным пытаннем: «А вы напісалі хоць на каго-небудзь заяву?» У рэзультаце гэтай правакацыі ў Кіеве былі паданы палітычна кампраметуючыя заявы амаль на палову членаў гарадской партарганізацыі, прычым большасць заяў аказалася яўна няправільнай і нават правакацыйнай.

Выкрытае зараз варожае кіраўніцтва Барыкаднага райкома ВКП(б) гор. Сталінграда правакацыйна выключыла з партыі і дабілася арышту члена партыі з 1917 года Махнаткіна, былога чырво-

нага партызана, начальніка аднаго з буйнейшых цэхаў завода «Барыкады» за «антысовецкія разгаворы». Як высветлілася ў рэзультаце праверкі, гэтыя «антысовецкія разгаворы» выражаліся ў тым, што т. Махнаткін у гутарцы з таварышамі выказваў незадаволенне па поваду бяздушных адносін сельсовета да дзяцей паўшага ў баі з белымі ў годы грамадзянскай вайны, камандзіра партызанскага атрада, у якім Махнаткін быў памочнікам камандзіра. Тав. Махнаткін адноўлен у правах члена партыі толькі пасля ўмяшання КПК пры ЦК ВКП(б).

Такія факты правакацыйнай работы ворагаў партыі, якія прабраліся ў партыйны апарат, мелі месца таксама ў Варонежскай, Краснадарскай, Чэлябінскай і ў іншых партыйных арганізацыях.

Усе гэтыя факты паказваюць, што многія нашы партарганізацыі і іх кіраўнікі да гэтага часу не здолелі разглядзець і выкрыць **майстэрскі замаскаванага ворага, які стараецца крыкамі аб пільнасці замаскаваць сваю варожасць і захавацца ў радах партыі—гэта папершае,—і, па-другое, які імкнецца шляхам правядзення мер рэпрэсій—перабіць нашы большэвіцкія кадры, пасеяць няўпэўненасць і залішнюю падазронасць у нашых радах.**

Такі замаскаваны вораг—злейшы здраднік—звычайна галасней за ўсіх крычыць аб пільнасці, спяшаецца як мага больш «выкрыць» і ўсё гэта робіць з мэтай скрыць свае ўласныя злачынствы перад партыяй і адцягнуць увагу партыйнай арганізацыі ад выкрыцця сапраўдных ворагаў народа.

Такі замаскаваны вораг—гнусны двурушнік—усяляк імкнецца стварыць у партарганізацыях абстаноўку залішняй падазронасці, пры якой кожнага члена партыі, выступіўшага ў абарону другога комуніста, абнясл аўленага кім-небудзь, неадкладна абвінавачваюць у адсутнасці пільнасці і ў сувязях з ворагамі народа.

Такі замаскаваны вораг—подлы правакатар—у тых выпадках, калі партарганізацыя пачынае правяраць паданую на комуніста заяву, усяляк стварае правакацыйную абстаноўку для гэтай праверкі, сее вакол комуніста атмасферу палітычнага недавер'я і тым самым, замест аб'ектыўнага разбору справы, арганізуе на яго паток новых заяў.

Партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі, замест таго, каб ускрыць і выкрыць правакацыйную работу такога замаскаванага ворага, нярэдка ідуць у яго на паваду, ствараюць яму абстаноўку беспакаранасці за паклёп на чэсных комуністаў і самі становяцца на шлях масавых неабгрунтаваных выключэнняў з партыі, накладанняў спагнанняў і т. п. Больш таго, нават пасля выкрыцця ворагаў, якія прабраліся ў партыйны апарат і паклёпнічаюць на чэсных комуністаў, нашы партыйныя кіраўнікі часта не прымаюць мер да ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў партыйных арганізацыях у адносінах няправільных выключэнняў комуністаў з партыі.

Пара ўсім партыйным арганізацыям і іх кіраўнікам выкрыць і да канца знішчыць **замаскаванага ворага,** які прабраўся ў нашы рады і стараецца фальшывымі крыкамі аб пільнасці скрыць сваю варожасць і захаваць сябе ў партыі, каб прадаўжаць у ёй сваю гнусную здрадніцкую работу.

Чым вытлумачыць, што нашы партыйныя арганізацыі да гэтага часу не выкрылі і не закляймілі не толькі кар'ерыстаў-комуністаў, якія стараюцца адзначыцца і вылучыцца на выключэннях з партыі, але і замаскаваных ворагаў унутры партыі, якія стараюцца крыкамі аб пільнасці скрыць сваю варожасць і захавацца ў партыі, якія стараюцца шляхам правядзення мер рэпрэсій перабіць нашы большэвіцкія кадры і пасеяць залішнюю падазронасць у нашых радах?

**Тлумачыцца гэта злачынна-лёгкадумнымі адносінамі да лёсу членаў партыі.**

Усім вядома, што многія нашы партыйныя кіраўнікі аказаліся палітычна-блізарукімі дзялягамі, дазволілі ворагам народа і кар'ерыстам абыйсці сябе і лёгкадумна аддалі на водкуп другарадным работнікам вырашэнне пытанняў, якія датычаць лёсу членаў партыі, злачынна ўхіліўшыся ад кіраўніцтва гэтай справай.

Абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый і іх кіраўнікі не толькі не выпраўляюць антыпартыйную, чуждую большэвізму практыку ў справе выключэння комуністаў з партыі, але часта самі сваім няправільным кіраўніцтвам насаджаюць фармальныя і бяздушна-бюракратычныя адносіны да членаў партыі і тым самым ствараюць спрыяючую абстаноўку для кар'ерыстаў-комуністаў і замаскаваных ворагаў партыі.

Не было ні аднаго выпадку, каб абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый, разабраўшыся ў справе, асудзілі практыку агульнага, валавога падыходу да членаў партыі, прыцягнулі да адказнасці кіраўнікоў мясцовых партыйных арганізацый за неабгрунтаванае і няправільнае выключэнне комуністаў з партыі.

Кіраўнікі партыйных арганізацый наіўна лічаць, што выпраўленне памылак у адносінах няправільна выключаных можа падарваць аўтарытэт партыі і пашкодзіць справе выкрыцця ворагаў народа, не разумеючы, што кожны выпадак няправільнага выключэння з партыі—на-руку ворагам партыі.

Ва многіх абласных і краявых арганізацыях ляжыць без усякага руху вялікая колькасць неразгледжаных апеляцый. У Растоўскай вобласці не разгледжана больш 2500 апеляцый, у Краснадарскім краі—2000, Смаленскай вобласці—2300, Варонежскай вобласці—1200, Саратаўскай вобласці—500 і т. д.

Абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый, адмовіўшыся ад разгляду апеляцый выключаных, ператварылі, наперакор статуту партыі, рашэнні райкомаў і гаркомаў ВКП(б) па гэтаму пытанню ў безапеляцыйныя і канчатковыя рашэнні.

Усё гэта азначае, што абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый па сутнасці ўхіліліся ад кіраўніцтва дзейнасцю мясцовых партыйных арганізацый у самым важным і вострым пытанні, у пытанні аб лёсе членаў партыі, прадаставіўшы рашэнне гэтага пытання самацёку, а часта і сваявольству.

Абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый самі заахвочваюць практыку масавых, агульных выключэнняў з партыі тым, што пакідаюць беспакаранымі тых партыйных кіраўнікоў, якія дапускаюць сваявольства ў адносінах комуністаў.

Пара пакончыць з чуждымі для большэвікоў фармальнымі і бяздушна-бюракратычнымі адносінамі да людзей, да членаў партыі.

Пара зразумець, што:

> «Партыя стала для члена партыі вельмі вялікай і сур'ёзнай справай і членства ў партыі або выключэнне з партыі—гэта вялікі пералом у жыцці чалавека».

Пара зразумець, што:

> «Для радавых членаў партыі прабыванне ў партыі або выключэнне з партыі,—гэта пытанне жыцця і смерці» (Сталін).

Пара зразумець, што сутнасць большэвіцкай пільнасці заключаецца ў тым, каб умець выкрываць ворага, якім-бы хітрым і зваротлівым ён ні быў, у якую-б тогу ён ні апранаўся, а не ў тым, каб без разбору, або «на ўсякі выпадак» выключаць дзесяткамі і сотнямі з партыі ўсіх, хто трапляе пад руку.

Пара зразумець, што большэвіцкая пільнасць не толькі не выключае, а наадварот прадпалагае ўменне праяўляць максімум асцярожнасці і таварыскіх клопатаў пры рашэнні пытанняў аб выключэнні з партыі або аб аднаўленні выключаных у правах членаў партыі.

Пленум ЦК ВКП(б) патрабуе ад усіх партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў усямернага павышэння большэвіцкай пільнасці партыйных мас, выкрыцця і выкарчоўвання да канца ўсіх вольных і нявольных ворагаў партыі.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць важнейшай умовай паспяховага вырашэння гэтай задачы—ліквідацыю без астатку антыпартыйнай практыкі агульнага, неіндывідуальнага, валавога падыходу да людзей, да членаў партыі.

Пленум ЦК ВКП(б) **пастанаўляе:**

1. Абавязаць абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый і ўсе партыйныя арганізацыі рашуча пакончыць з масавымі, агульнымі выключэннямі з партыі і ўстанавіць на справе індывідуальны, дыферэнцыяваны падыход пры вырашэнні пытанняў аб выключэнні з партыі або аб аднаўленні выключаных у правах членаў партыі.

2. Абавязаць абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый знімаць з партыйных пастоў і прыцягваць да партыйнай адказнасці тых партыйных кіраўнікоў, якія не выконваюць дырэктыў ЦК ВКП(б), выключаюць з партыі членаў і кандыдатаў ВКП(б) без стараннай праверкі ўсіх матэрыялаў і дапускаюць сваявольства ў адносінах да членаў партыі.

3. Прапанаваць абкомам, крайкомам, ЦК нацкомпартый і парткалегіям КПК пры ЦК ВКП(б) у трохмесячны тэрмін закончыць разгляд апеляцый усіх выключаных з партыі.

4. Абавязаць усе партыйныя камітэты ў сваіх пастановах аб выключэнні комуністаў з партыі ясна і дакладна выкладаць матывы, паслужыўшыя падставай для выключэння, каб вышэйстаячыя партыйныя органы мелі магчымасць праверыць правільнасць гэтых пастаноў, а кожную такую пастанову райкома, гаркома, абкома або ЦК нацкомпартый абавязкова публікаваць у друку.

5. Устанавіць, што партыйныя органы, аднаўляючы ў правах членаў партыі няправільна выключаных мясцовымі партарганізацыямі, абавязаны ў сваіх пастановах дакладна ўказваць які райком, гарком ВКП(б) павінен выдаць адноўленаму ў партыі партыйныя дакументы.

6. Абавязаць райкомы, гаркомы партыі неадкладна выдаваць партыйныя дакументы адноўленым у партыі, прыцягваць іх да ўдзелу ў партыйнай рабоце і растлумачваць усім членам пярвічных партарганізацый, што яны адказваюць за большэвіцкае выхаванне аднаўленых у радах ВКП(б).

7. Абавязаць партыйныя арганізацыі прыцягваць да партыйнай адказнасці асоб, віноўных у паклёпе на членаў партыі, поўнасцю рэабілітаваць гэтых членаў партыі і публікаваць у друку свае пастановы ў тых выпадках, калі папярэдне ў друку былі змешчаны дыскрэдытуючыя члена партыі матэрыялы.

8. Забараніць партарганізацыям заносіць ва ўчотную картку комуніста факт выключэння яго з партыі да разгляду апеляцыйнай скаргі і вынясення канчатковага рашэння аб выключэнні.

9. Забараніць няправільную, шкодную практыку, калі выключаных з ВКП(б) неадкладна знімаюць з займаемай імі пасады.

Устанавіць, што ва ўсіх выпадках, калі аказваецца неабходным, у сувязі з выключэннем з ВКП(б), аслабаніць работніка ад займаемай пасады, гэта аслабаненне можна рабіць толькі пасля прадастаўлення яму другой работы.

10. Абавязаць абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый не пазней чым к 15 лютаму 1938 года забяспечыць праз адпаведныя совецкія і гаспадарчыя органы паступленне выключаных з ВКП(б) на работу і надалей не дапускаць такога становішча, каб выключаныя з ВКП(б) аставаліся пазбаўленымі работы.

---

Р. І. Зйхе

# Аб плане сельскагаспадарчых работ на 1938 год*

Таварыш Сталін у справаздачным дакладзе XVII з'езду партыі, аналізуючы становішча сельскай гаспадаркі краіны, сказаў:

> «Па сутнасці справы справаздачны перыяд быў для сельскай гаспадаркі не столькі перыядам быстрага ўздыму і магутнага разбегу, колькі перыядам стварэння прадпасылак для такога ўздыму і такога разбегу ў бліжэйшым будучым».

К 1938 году сацыялістычная сельская гаспадарка знаходзіцца ў тым перыядзе свайго развіцця, калі яна ў стане найбольш поўна рэалізаваць створаныя ў выніку двух сталінскіх пяцігодак прадпасылкі.

Якія гэтыя прадпасылкі для магутнага і быстрага ўздыму сельскай гаспадаркі краіны?

**Першае.** У СССР створана на 1 снежня 1937 года 243.700 калгасаў, у якіх аб'яднана 93 проц. усіх сялянскіх двароў краіны. Каля 15 мільёнаў двароў знаходзяцца ў калгасах звыш пяці год, г. зн. ужо набылі вялікі вопыт і навыкі работы ў калектыўнай гаспадарцы.

**Другое.** Праведзена поўнае пераўзбраенне сельскай гаспадаркі.

У дарэволюцыйнай расійскай вёсцы было больш 10 мільёнаў сох, касулей і драўляных плугоў, 4,5 мільёна жалезных плугоў і каля 18 мільёнаў драўляных барон. Больш складаныя і ўдасканаленыя сельскагаспадарчыя прылады і машыны меліся ў надта мізэрнай колькасці і толькі ў памешчыцкіх і кулацкіх гаспадарках.

Сацыялістычная індустрыя ўзброіла калгасы перадавой тэхнікай, навейшымі машынамі.

К пачатку 1938 года ў краіне ёсць 5.819 МТС, у іх 367 тысяч трактароў, 104,6 тысячы камбайнаў, 62,3 тысячы аўтамабіляў, дзесяткі тысяч іншых першакласных машын. Створаныя дзяржавай машынна-трактарныя станцыі абслугоўваюць сваімі машынамі ўсе калгасы, за малым выключэннем.

Наяўны ў вёсцы машынны парк у даны момант зусім забяспечвае завяршэнне механізацыі ўсіх асноўных сельскагаспадарчых работ. У 1937 годзе, нават пры нездавальняючым выкарыстанні трактарнага парка, механізацыя ворыва пад яравую сяўбу даведзена да 64 проц., пад азімую сяўбу—да 78 проц., па пад'ёму зябліва—да 63 проц. З агульнай плошчы зерневых убрана камбайнамі 30,2 мільёна гектараў, што складае 37 проц. да агульнай плошчы коласавых.

---

* Даклад Народнага Камісара Земляробства Саюза ССР на пленуме Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) 18 студзеня 1938 года.

**Трэцяе.** Створаны кадры кваліфікаваных работнікаў сельскай гаспадаркі.

Кожны трактар, камбайн, малатарня з'явіліся базай для росту новых людзей. Сотні тысяч сялян авалодалі новай тэхнікай, сельскагаспадарчая праца ў значнай ступені стала рознавіднасцю індустрыяльнай працы.

К гэтаму часу па няпоўных даных мы маем у калгаснай вёсцы: трактарыстаў—734 тысячы, камбайнераў—165 тысяч, шофераў—124 тысячы, машыністаў-ільнацерабільшчыкаў—10 тысяч. Большасць з гэтых людзей у самым недалёкім мінулым не мела ніякага ўяўлення аб маторы. А зараз тысячы з іх паказваюць выдатныя ўзоры высокай прадукцыйнай работы.

Калектывізацыя і тэхнічнае пераўзбраенне сельскай гаспадаркі, рост кадраў далі магчымасць ужо ў 1937 годзе дабіцца такіх тэмпаў прыросту сельскагаспадарчай прадукцыі, якіх не ведала і не ведае ні адна капіталістычная краіна і якія да гэтага часу былі ўласцівы толькі сацыялістычнай прамысловасці.

1937 год даў прырост сельскагаспадарчай прадукцыі амаль у паўтара раза большы, чым ва ўраджайным 1935 годзе. Краіна ўшчыльную падышла да вырашэння пастаўленай таварышам Сталіным задачы аб штогодняй вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў зярна. Валавая прадукцыя зернавых культур у 1937 годзе па папярэдніх даных склала каля 7 мільярдаў пудоў.

Поспехі, якія дасягнуты ў сельскай гаспадарцы, з'яўляюцца вынікам выключнай увагі і дапамогі калгасам з боку ЦК ВКП(б) і савецкага ўрада, вынікам велізарнай работы ўсіх партыйных арганізацый, актыўнасці і энтузіязма калгасных мас.

## Быстра і да канца ліквідаваць вынікі шкодніцтва ў зямельных органах

Гаворачы аб цяперашняй рабоце зямельных органаў, трэба прызнаць, што крытыка, якая была дана таварышам Сталіным зямельнаму апарату на XVII з'ездзе партыі, і сёння цалкам адносіцца да зямельных работнікаў.

У зямельных апаратах ёсць не мала добрых работнікаў, асабліва цяпер, калі партыйныя арганізацыі далі ў зямельныя органы многа новых здольных людзей. Але мы яшчэ не здолелі як належыць арганізаваць гэтых таварышоў на барацьбу за выкананне канкрэтных задач, пастаўленых перад зямельнай сістэмай. Завязванне і развязванне вузялкоў—усё яшчэ стыль нашай работы.

Для ілюстрацыі дрэннай работы зямельных органаў можна ўзяць хоць-бы лічбы, якія характарызуюць выкарыстоўванне трактарнага парка. У цэлым радзе МТС сярэдняя выпрацоўка на трактар у 1937 годзе (у пераводзе на ворыва) перавысіла 1.000 гектараў, а сярэдняя выпрацоўка па Саюзу—усяго толькі 440 гектараў (па папярэдніх даных на 1 снежня 1937 года).

Поўная адсутнасць барацьбы за зніжэнне сабекошту трактарных работ, недапушчальныя адносіны да перавыдаткаў гаручага і злачынная няўважлівасць да фінансавага становішча МТС—гэта пакуль яшчэ агульная з'ява, і на гэтым мы трацім многія мільёны рублёў.

Работнікі многіх абласцей, краёў і рэспублік настойваюць перад Наркомземам на павелічэнні норм гаручага, матывуючы гэта патрабаванне неабходнасцю паглыбіць ворыва. Ва многіх раёнах ворыва

безумоўна трэба паглыбіць, але гэта мы можам зрабіць і без павышэння нормы гаручага. Трэба мець на ўвазе, што каласальную колькасць гаручага мы злачынна растранжырваем. Дастаткова сказаць, што толькі неадрэгуляванасць карбюратараў павялічвае выдатак гаручага да 10 процантаў. А значная-ж частка трактараў, бадай, большасць, працуе з дрэнна адрэгуляванымі карбюратарамі. За трактарамі, калі яны працуюць, у полі сцелецца воблака дыму. Уся нафтавая гаспадарка МТС вядзецца выключна безгаспадарча.

Неабходна навесці строгі парадак у нафтавай гаспадарцы МТС і разгарнуць барацьбу за зніжэнне сабекошту трактарных работ.

Вялікую шкоду сельскай гаспадарцы нанеслі трацкісцка-бухарынскія шкоднікі. Зямельная сістэма аказалася выключна засмечанай. Злейшыя ворагі партыі і народа звілі сабе гняздо ў радзе звенняў зямельнага апарата. Контррэвалюцыйная падрыўная работа шкодніцкіх элементаў, арудаваўшых у зямельных органах, ішла перш за ўсё па лініі разлажэння кадраў.

Цяжка сабе ўявіць больш расхлябаную і недысцыплінаваную сістэму, чым сістэма зямельных органаў. Калі раней у адносінах дрэнна працуючых органаў кааперацыі гаварылі: працуюць «з кааператыўным прывітаннем», то зараз у адносінах зямельнай сістэмы можна сказаць, што яна па частцы расхлябанасці перашчыгаляла нават самыя дрэнныя кааператыўныя органы.

На МТС дзяржава траціць велізарныя сродкі, і элементарна, што Наркомзем павінен жорстка правяраць, як і куды выдаткоўваюцца гэтыя сродкі. Гэта наўмысна не рабілася і гэтым заахвочваліся рвацкія і антыдзяржаўныя элементы і прамыя шкоднікі. За апошнія два гады Наркомзем не абрэвізаваў ні адной МТС.

Ворагі народа разлагалі кадры, не спыняючыся перад подкупам у выглядзе рознага роду незаконных дапамог і «прэмій».

Разлажэнне кадраў у радзе выпадкаў даходзіла да выключнай нагласці. Напрыклад, інспектар рамонтнага аддзела Галоўзярно Касілаў, камандзіраваны для абследвання Чэлябінскага абласнога зямельнага аддзела, атрымаў ад Чэлябінскага аблвыканкома і аблза «прэмію за добрую праверку»—1.600 рублёў грашыма і кавёр.

Варожыя элементы ўсяляк адхілялі навукова-даследчыя ўстановы ад вырашэння практычных задач, якія стаяць перад сельскай гаспадаркай. У сістэме Наркомзема ёсць сотні розных навукова-даследчых устаноў. Многія з іх вырашалі праблемы, якія не маюць ніякіх адносін да ўздыму сельскай гаспадаркі.

На правядзенне навуковай работы ў сельскай гаспадарцы сістэма інстытутаў Акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна за апошнія тры гады затраціла каля 200 мільёнаў рублёў дзяржаўных сродкаў. Не малая частка гэтых сродкаў выдаткавана ўпустую, растранжырана. Напрыклад, з 1932 года Акадэміяй вывучаліся такія тэмы, як: «Скарыстоўванне сабак рознай папуляцыі», «Тэхніка штучнага асемянення сабак», «Рэгістрацыя патомства імпартных вытворнікаў сабак-кобеляў». На ўсе гэтыя «сабачыя праблемы» толькі ў 1936 годзе было выдаткавана каля 100 тысяч рублёў. У тэматыцы Акадэміі была і такая тэма, як: «Адамашненне лісіцы». Усё гэта вельмі нагадвае акадэмікаў з Лапуты, якія распрацоўвалі праблему развядзення ва ўсім каралеўстве голых авец.

На працягу раду год шкодніцкія элементы ўсяляк перашкаджалі павышэнню ўраджайнасці і зрывалі ўвядзенне правільных севазваротаў.

Ворагі народа, якія пракраліся ў Наркомзем Саюза, каб замаскаваць шкодніцтва ў галіне ўвядзення севазваротаў, прадстаўлялі очкаўціраўцельскія весткі аб тым, што каля двух трэцей калгасаў маюць зацверджаныя севазвароты. Гэта не адлюстроўвае сапраўднага становішча з севазваротамі.

На 1 кастрычніка 1937 года па даных аператыўнага ўліку севазвароты мелі толькі 51.677 калгасаў, што складае 21,2 процанта да агульнага ліку калгасаў, але нават і ў гэтых калгасах значная частка севазваротаў павінна быць зменена, як не адпавядаючая ўмовам развіцця калгаснай вытворчасці.

Такое-ж очкаўціраўцельства было і ў пытанні аб выдачы калгасам актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Наркомзем прадстаўляў даныя, якія сведчаць аб тым, што, быццам, за калгасамі дзяржаўнымі актамі замацавана на вечнае карыстанне 400 мільёнаў гектараў зямлі. Фактычна-ж на 1 кастрычніка 1937 года было замацавана дзяржаўнымі актамі толькі 312.099 тысяч га. Прычым, праверка паказала, што не менш 10 процантаў гэтых актаў былі выданы шкодніцкі і павінны быць зменены. 20—25 процантаў актаў патрабуюць значных спраўленняў. У Кіраўскай вобласці, напрыклад, як паказала спецыяльнае абследванне, 25 процантаў актаў з'яўляюцца поўным бракам, а 48 процантаў патрабуюць значных змен.

Асабліва разбураючая шкодніцкая работа была ў галіне жывёлагадоўлі. У рэзультаце гэтага шкодніцтва соцыялістычная жывёлагадоўля панесла вялікую страту.

У 1934 годзе рашэннем Пленума ЦК ВКП(б) Наркомзему быў перададзены рад племсоўгасаў для вытворчасці племяннной жывёлы для калгасна-жывёлагадоўчых ферм. На ўтрыманне гэтых племсоўгасаў за тры гады выдаткавана па дзяржаўнаму бюджэту звыш 133 мільёнаў рублёў. Між тым, колькасць племсоўгасаў за тры гады скарацілася з 82 да 70; агульнае пагалоўе буйнай рагатай жывёлы ў іх зменшылася з 50 тысяч да 40 тысяч.

У радзе племсоўгасаў жывёла была заражана рознымі хваробамі, і перадача яе ў калгасы фактычна служыла распаўсюджванню эпізаотый.

Шкодніцкія элементы наўмысна стварылі такое становішча, пры якім штогодна павялічваўся разрыў паміж завозімым у сельскую гаспадарку машынна-трактарным паркам і рамонтнаю базай.

Цяпер у Саюзе ёсць 5.819 МТС, а майстэрань толькі 3.731, у тым ліку майстэрань капітальнага рамонту 1.200. Такім чынам, 2.088 МТС не маюць ніякай рамонтнай базы. У МТС і МТМ ёсць толькі 18.337 станкоў. Значыць, на адзін станок, які знаходзіцца ў МТМ і МТС, прыходзіцца: 45 трактароў, 15 аўтамашын, 14 камбайнаў, 13 малатарань.

Таварыш Сталін на XVII з'ездзе партыі ўказаў, што аснову рамонту трактароў павінен складаць бягучы і сярэдні рамонт, а не капітальны. Арудаваўшыя ў зямельных апаратах шкоднікі ўсімі спосабамі зрывалі арганізацыю бягучага і сярэдняга рамонту. Кошт бягучага рамонту наўмысна быў запраектован вельмі нізкім.

Напрыклад, фактычны кошт бягучага рамонту ў 1935 годзе па Саюзу выразіўся ў суме 1 руб. 44 кап. на кожны выпрацаваны гектар мяккага ворыва, у 1936 годзе—1 руб. 24 кап. А Наркомземам на 1937 год быў запраектован кошт бягучага рамонту 52 кап. на гектар мяккага ворыва.

Варожыя элементы ўсяляк зрывалі будаўніцтва машынных сараяў. У рэзультаце каштоўнейшыя машыны ў вельмі многіх МТС знаходзіліся пад адкрытым небам.

Гэтым далёка не вычэрпваецца падрыўная варожая работа ворагаў, якія акапаліся ў зямельным апараце. Задача зямельных работнікаў — здолець пад кіраўніцтвам партарганізацый быстра і да канца ліквідаваць вынікі шкодніцтва.

Важнейшым этапам у ліквідацыі вынікаў шкодніцтва з'яўляецца веснавая пасеўная кампанія. Усе работнікі зямельных органаў у надыходзячую веснавую кампанію трымаюць перад партыяй экзамен на ўменне па-баявому выканаць пастаўленыя перад намі вялікія задачы ў барацьбе за далейшы ўздым і паляпшэнне арганізацыі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

## Забяспечыць далейшае павышэнне ўраджайнасці ўсіх культур

План асноўных сельскагаспадарчых работ не ахапляе ўсе галіны сельскай гаспадаркі. У ім няма, напрыклад, плана развіцця жывёлагадоўлі, які разглядаецца ўрадам асобна. У прадстаўленым плане сельскагаспадарчых работ уключаны работы, якія ствараюць ураджай.

Адно з важнейшых адрозненняў плана гэтага года ад плана мінулых год заключаецца ў тым, што ён адначасова вызначае заданні па ўсіх важнейшых сельскагаспадарчых работах: па веснавой і азімай сяўбе, па ўздыму чыстых папараў, па зяблівy. У мінулыя гады, як вядома, у плане прадугледжваліся толькі веснавая сяўба і ўздым папараў. План уздыму зябліва, а таксама план азімай сяўбы даваліся пазней.

Зараз урад у пачатку года адначасова плануе ўсе важнейшыя гадавыя сельскагаспадарчыя работы.

Гэта стала магчымым у рэзультаце новых поспехаў у арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў і сведчыць аб тым высокім узроўні арганізаванасці, якога дасягнула соцыялістычная сельская гаспадарка.

Атрымаўшы ў пачатку года дзяржаўныя заданні па ўсіх важнейшых сельскагаспадарчых работах, калгасы маюць магчымасць, асноўваючыся на гэтых заданнях, больш чотка спланаваць сваю вытворчасць, прадугледзець поўнае скарыстанне ўсіх наяўных рэсурсаў.

Уся пасеўная плошча калгасаў і аднаасобнікаў у 1938 годзе складзе 117.693,5 тысячы гектараў, г. зн. на 1.714,6 тысячы гектараў больш, чым было фактычна засеяна ў 1937 годзе.

Аднячасова з агульным расшырэннем пасеўных плошчаў скарачаецца пасеўная плошча зернавых. У параўнанні з фактычнымі пасевамі 1937 года плошча зернавых у гэтым годзе скарачаецца на 2.967,5 тысячы гектараў.

Аб чым гэта сведчыць?

Па-першае, гэта сведчыць аб тым, што, вырашыўшы зернавую праблему, мы дасягнулі ў галіне вытворчасці зярна таго ўзроўню, які дазваляе скараціць пасеўную плошчу зернавых культур і сканцэнтраваць асноўную ўвагу на павышэнні ўраджайнасці і ўвядзенні правільных севазваротаў.

Таварыш Сталін на XVII з'ездзе партыі, гаворачы аб лініі развіцця сельскай гаспадаркі краіны, адзначыў, што адзіна правільнай лініяй у сельскай гаспадарцы з'яўляецца лінія на «пераход ад агульнага

расшырэння плошчаў да паляпшэння апрацоўкі зямлі, да ўкаранення правільнага севазвароту і папару, да падняцця ўраджайнасці і, калі гэтага патрабуе практыка,—да часовага скарачэння існуючых пасеўных плошчаў».

Па-другое, гэта азначае, што створаны неабходныя прадпасылкі для больш быстрага развіцця цэлага раду іншых культур, у прыватнасці, для расшырэння пасеўнай плошчы кармавых культур.

Пасеў кармавых культур у 1938 годзе ў параўнанні з фактычным пасевам мінулага года, павялічан на 1.691 тысячу гектараў, а з укоснымі травамі—на 4.452 тысячы гектараў. Павелічэнне плошчы пасеву кармавых культур расшырае кармавую базу для соцыялістычнай жывёлагадоўлі і палягчае ўвядзенне правільных севазваротаў.

Па плану пасеву шматгадовых траў на 1938 год запраектавана пасеяць у калгасах канюшыны 2.635 тысяч гектараў і люцэрны 1.308 тысяч гектараў.

Расшыраецца плошча пасеву гародне-бахчавых культур на 437 тысяч гектараў, у прыватнасці бульбы. У першую чаргу пашырэнне пасеваў гародне-бахчавых культур прадугледжваецца ў Чэлябінскай і Свердлоўскай абласцях і Далёка-Ўсходнім краі, якія ў мінулыя годы не забяспечвалі свае патрэбнасці за кошт мясцовых пасеваў гародніны.

У 1938 годзе гэтыя вобласці павінны поўнасцю забяспечыць сябе гароднінай за кошт мясцовых пасеваў.

У вытворчасці тэхнічных культур асноўны ўпор зроблен таксама не на расшырэнне пасеўных плошчаў, а на мерапрыемствы, якія забяспечваюць высокі ўраджай гэтых культур.

Плошча пасеву тэхнічных культур скарачаецца супроць фактычнай пасеўнай плошчы мінулага года на 208,2 тысячы гектараў, галоўным чынам за кошт скарачэння пасеваў ільна-даўгунца.

Вядома, што ў мінулыя годы варожыя элементы, якія арудвалі ў зямельных органах, планавалі пасевы лёну па-шкодніцку. Давалі такія заданні па пасеву лёну, якія фактычна ламалі севазвароты і прыводзілі да такога становішча, калі лён па некалькі год сеяўся па ільну. Напрыклад, у Смаленскай вобласці пасеў ільну па ільну ў 1937 годзе быў праведзен на плошчы ў 2.485 га, у паасобных калгасах, як, напрыклад, калгасы «Товарищ» і «Ударник», пасеў лёну ў агульнай плошчы пасеву займаў больш 50 процантаў.

Задача ўсіх мясцовых арганізацый і, перш за ўсё, зямельных работнікаў заключаецца ў тым, каб пакончыць з ганебным адставаннем у вытворчасці ільну. Калгасная гаспадарка мае ўсё для таго, каб даць краіне багата высокаякаснага ільну. Для гэтага, перш за ўсё, трэба забяспечыць дакладнае захаванне севазваротаў і, па-другое, выкараніць кулацкія шкодніцкія адносіны да канюшыны. Трэба памятаць, што без канюшыны не можа быць высокага ўраджаю ільну.

Вялікая ўвага ў плане аддана такім культурам, як бавоўна і цукровыя буракі, якія маюць велізарнае значэнне ў справе задаволення шырокіх запатрабаванняў насельніцтва.

Пасевы бавоўны (па соўгасах і калгасах) у гэтым годзе некалькі расшыраюцца ў параўнанні з мінулым годам і складуць 1.991,2 тысячы гектараў. Па асобных рэспубліках намечана некаторае скарачэнне пасеваў бавоўны.

Пасеўная плошча цукровых буракоў у 1938 годзе складзе 1.184,3 тысячы гектараў. Некаторае скарачэнне пасеўнай плошчы

цукровых буракоў павінна быць намнога перакрыта павышэннем ураджайнасці гэтай культуры.

Як рэалізуецца ў прадстаўленым плане пастанова СНК СССР «Аб мерах па паляпшэнню насення зернавых культур», прынятая ў ажыццяўленне рашэння чэрвеньскага Пленума ЦК ВКП(б)?

Важнейшым звяном у справе паляпшэння насеннай справы павінны з'явіцца раённыя насенаводчыя гаспадаркі. Аднак, большасць рэспублік, краёў і абласцей надзвычай зацягнулі адбор і прадстаўленне на зацвярджэнне Соўнаркома Саюза раённых насенаводчых гаспадарак. А такія вобласці, як Смаленская, Валагодская і Свердлоўская, да гэтага часу не прадставілі на зацвярджэнне Соўнаркома Саюза спісы раённых насенаводчых гаспадарак.

Апрача таго, падбор аграномаў для раённых насенаводчых гаспадарак таксама праходзіць надта павольна.

Многія краі і вобласці пры адборы раённых насенаводчых гаспадарак значна расшырылі пасеўную плошчу іх у параўнанні з устаноўленымі Соўнаркомам СССР размерамі. Напрыклад, Свердлоўскай вобласці па пастанове Соўнаркома СССР план раённых насенаводчых гаспадарак устаноўлен у размеры 10 тысяч гектараў. Абласныя арганізацыі просяць Соўнарком СССР зацвердзіць 25 тысяч гектараў.

Такое агульнае расшырэнне плошчаў пасеваў раённых насенаводчых гаспадарак не выклікаецца неабходнасцю.

Дзяржава, ствараючы райнасенгасы, аказала калгасам велізарную дапамогу. Не толькі зямельныя органы, але і аблвыканкомы, крайвыканкомы, соўнаркомы рэспублік абавязаны быць заўсёды ў курсе справы кожнага райнасенгаса, канкрэтна кіраваць імі. Трэба памятаць, што зрыў арганізацыі раённых насенаводчых гаспадарак у кожным выпадку аддаліць, мінімум на цэлы год, выкананне ўказанняў чэрвеньскага Пленума ЦК ВКП(б) аб паляпшэнні насеннай справы.

Наступнае пытанне—гэта высвятленне з раду абласцей шкодніцкі ўкаранёных у іх малаўраджайных гатункаў і замена іх іншымі гатункамі.

Па прапанове Соўнаркома Саюза Наркомземам СССР прароблена вялікая работа па планаванню завозу гатункаў з края ў край. Упершыню ў гэтым годзе плануюцца гатунковыя пасевы па гатунках, і ўсе перасоўкі гатункаў узгоднены з мясцовымі кіруючымі арганізацыямі. Поўнасцю задаволіць патрабаванні месц мы не змаглі, але тое, што прынята ўрадам, дае магчымасць зрабіць вялікі крок наперад.

У прыватнасці, у нячорназемнай паласе намячаецца пашырэнне больш чым на 700 тысяч гектараў яравой пшаніцы гатунку «Лютэсцэнс 062» і адначасова змяншаецца больш чым на 300 тысяч гектараў пасеў пшаніцы «Цэзіум 0111», якая яўна непрыгодна для ўмоў нячорназемнай паласы.

Наступнае звяно—гэта поўнае і правільнае скарыстанне сабранага фонду гатунковага насення. Мы маем магчымасць вясной 1938 года засеяць гатунковым насеннем 33—35 мільёнаў гектараў, што складзе 60—64 процанты да агульнага плана яравой сяўбы (у мінулым годзе гатунковых пасеваў было 20.200 тысяч гектараў).

Але для таго, каб выканаць гэты план гатунковых пасеваў, трэба своечасова і поўнасцю правесці абменныя аперацыі.

План асноўных сельскагаспадарчых работ зацверджан як па Саюзу ў цэлым, так і па ўсіх абласцях, краях і рэспубліках.

Задача мясцовых партыйных, савецкіх арганізацый і зямельных

органаў заключаецца ў тым, каб своечасова і правільна давесці гэты план да раёнаў і калгасаў, правільна давесці заданні да аднаасобнікаў.

Аднаасобны сектар у нас невялікі, але ўвагі ён да сябе патрабуе. У мінулыя годы было не мала выпадкаў, калі на месцах механічна падыходзілі да ўстанаўлення планаў. Шкодніцкія элементы карысталіся гэтым для таго, каб заблытаць планаванне і дэзарганізаваць калгасы.

Пры вызначэнні плана сельскагаспадарчых работ 1938 года кіруючыя арганізацыі на месцах абавязаны ўлічыць усе канкрэтныя асаблівасці кожнага калгаса, улічыць уведзеныя і ўвадзімыя севазвароты.

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на тое, каб у такой важнейшай, закранаючай непасрэдныя інтарэсы велізарных мас працоўных, справе, якой з'яўляецца давядзенне плана да калгасаў і соўгасаў,—не было праяўлена голага адміністравання і пагардлівых адносін да прапаноў, указанняў і патрабаванняў калгаснікаў. На пасяджэннях прэзідыумаў райвыканкомаў пры зацвярджэнні планаў калгасаў павінны абавязкова прысутнічаць старшыні адпаведных калгасаў.

### Для выканання плана створаны ўсе ўмовы

Для выканання плана сельскагаспадарчых работ у 1938 годзе створаны ўсе ўмовы. Калгасы ўступаюць у гэты год узбагачанымі вопытам барацьбы за ўраджай мінулага года.

Урад адпусціў велізарную суму на далейшае развіццё і ўмацаванне механізацыі сельскай гаспадаркі.

У 1938 годзе арганізуецца 500 новых МТС.

Магутнасць трактароў, адпускаемых сельскай гаспадарцы ў 1938 годзе, складзе 1.138 тысяч конскіх сіл (у мінулым годзе было 934 тысячы конскіх сіл).

У гэтым годзе МТС будуць даны пераважна магутныя гусенічныя, дызельныя трактары.

Трактароў СТЗ і ХТЗ будзе адпушчана сельскай гаспадарцы 15.500 штук, ЧТЗ «С-65»—10 тысяч штук (у мінулым годзе трактараў ЧТЗ было завезена толькі 2.140).

Звяртаю ўвагу на дызельны трактар «С-65», які мае перад трактарам з карбюратарным маторам вялікія перавагі.

«Сталінец-65» працуе на цяжкім паліве, якое на 70—80 процантаў танней нафтапаліва.

Калі ліграінавы ЧТЗ выдаткоўвае 17—19 кілограмаў гаручага на гектар ворыва, то дызельны трактар выдаткоўвае толькі 10—12 кілограмаў, г. зн. на 35 процантаў менш.

Перад МТС стаіць важная задача—быстра асвоіць гэты новы выдатны трактар.

Асаблівая ўвага звяртаецца на тое, каб забяспечыць сельскую гаспадарку глебаапрацоўчымі машынамі. Гэта тлумачыцца неабходнасцю ўстараніць той разрыў, які ёсць паміж наяўнасцю трактароў і прычэпнага інвентара, асабліва трактарных плугоў, культыватараў, палявых лушчыльнікаў. Культыватараў будзе заказана прамысловасці 65 тысяч штук (у мінулым годзе было заказана 43.500 штук), лушчыльнікаў—33 тысячы штук.

Рэзка ўзрастаюць у 1938 годзе капіталаўкладанні на набыццё зернаачышчальных машын. Намечана набыць гэтых машын на суму 33.657 тысяч рублёў, г. зн. амаль у 3 разы больш, чым у 1937 годзе. Трактарных плугоў у гэтым годзе будзе завезена 3—4 корпусных 9.200 (у мінулым годзе было завезена 35.926). Асноўная ўвага ўдзя-

ляецца завозу 5-корпусных плугоў. Такіх плугоў завозіцца 72.500 (у мінулым годзе было завезена 43.381).

Асноўнай задачай у галіне механізацыі зараз з'яўляецца прывядзенне ў парадак наяўнага ў сельскай гаспадарцы велізарнага трактарнага і машыннага парка, максімальнае павышэнне яго скарыстання і зніжэнне сабекошту трактарных работ.

Трэба пакончыць з драпежніцкай эксплаатацыяй машын. Гэта, перш за ўсё, адносіцца да эксплаатацыі камбайнаў, якія часта выходзяць са строю, нават на другі і трэці год работы. Адбываецца гэта таму, што мы камбайн, як стары воз, часта пакідаем на зіму пад адкрытым небам. Неабходна правільна эксплаатаваць і беражна захоўваць кожную машыну.

Як бачыце, партыя і ўрад у гэтым годзе, як і ва ўсе папярэднія годы, аказваюць калгасам велізарную дапамогу новымі машынамі.

Некаторыя таварышы з месц настойвалі на вялікай колькасці новых МТС. Калі-б задаволіць гэтыя патрабаванні, то трэба было-б запраектаваць мінімум тысячу новых МТС.

Для паляпшэння рамонту і ўзмацнення рамонтнай базы ў гэтым годзе асігнаванні ў параўнанні з мінулым годам павялічваюцца амаль у два разы і складуць 64,1 мільёна рублёў.

Калі мясцовыя партыйныя, савецкія арганізацыі, а таксама ўсе нашы зямельныя органы па-сапраўднаму возьмуцца за ўзмацненне рамонтнай базы, то ўжо ў гэтым годзе будзе зроблен буйны крок наперад.

Асаблівая ўвага звяртаецца на станкавае абсталяванне як існуючых, так і новых машынна-трактарных майстэрань.

## Своечасова і добра падрыхтавацца да веснавой сяўбы

ЦК ВКП(б) і СНК СССР у апублікаванай у друку пастанове ўказалі, што падрыхтоўка да веснавой сяўбы праходзіць яўна нездавальняюча, пастаўлены пад пагрозу зрыву такія важнейшыя і неадкладныя работы, як засыпка і ачыстка насення, рамонт трактароў, завоз гаручага і абменныя аперацыі.

Добры ўраджай гэтага года ў некаторых краях стварыў атмасферу супакоенасці. Замест таго, каб па-баявому арганізаваць падрыхтоўку да веснавой сяўбы, прадаставілі гэту работу самацёку.

Наяўная супакоенасць выключна небяспечна. Трэба мець на ўвазе, што план зяблівага ворыва ў гэтым годзе не выканан. Значыць, прадстаіць вялікі аб'ём работы па веснаворыву.

У мінулым годзе веснаворыва было 25.513 тысяч гектараў. У гэтым годзе—29.424 тысячы гектараў.

Вялікую трывогу выклікае надта марудны ход рамонту трактарнага парка.

На 10 студзеня 1938 года па Саюзу адрамантавана ўсяго толькі 73.223 трактары, што складае 30 процантаў да плана. Гэта надзвычайна нізкі процант. Астаецца рамантаваць да поўнага выканання плана яшчэ 173.473 трактары.

Асабліва павінны ўзмацніць тэмпы рамонту паўднёвыя рэспублікі, краі і вобласці, якія першымі ўступаюць у пасеўную кампанію. Возьмем Растоўскую вобласць. У гэтай вобласці план рамонту выканан толькі на 19 процантаў; у Таджыкскай ССР план рамонту выканан на 16 процантаў; ва Узбекскай ССР—на 24 проценты; у Нікалаеўскай вобласці—на 35 процантаў; у Одэскай вобласці—на 24 проценты;

у Орджанікідзеўскім краі—на 36 процантаў; у Днепрапетроўскай вобласці—на 49 процантаў. Паўднёвыя краі, вобласці і рэспублікі, якія ўступаюць у сяўбу першымі, павінны ўзяцца за рамонт, як за першачарговую задачу.

З іншых рэспублік, краёў і абласцей, якія ў веснавую сяўбу ўступаюць некалькі пазней, асабліва павінны ўзмацніць тэмпы рамонту: Калінінская вобласць, якая выканала ўсяго толькі 8 процантаў плана рамонту трактароў, Татарская АССР—толькі 14 процантаў.

Для таго, каб дабіцца рашучага і быстрага пералому ў тэмпах рамонту, трэба неадкладна выкараніць арганізацыйна-тэхнічныя непарадкі ў саміх МТС і МТМ. У першую чаргу трэба звярнуць увагу на правільную арганізацыю працы і аплаты яе на рамонце, а таксама на палепшанне бытавых умоў рамонтных рабочых і трактарыстаў, занятых на рамонце.

Неабходна скарыстаць поўнасцю наяўнае абсталяванне шляхам арганізацыі работы ў дзве і ў тры змены, чаго няма да гэтага часу.

Рад абласцей, краёў і рэспублік прад'яўляе патрабаванні аб больш планамерным забеспячэнні запаснымі часткамі. Гэтыя патрабаванні ў вядомай меры законныя. Галоўаўтатрактарадэталь з адгрузкай раду дэталяў спазняецца і не выконвае ўстаноўленага ўрадам графіка. Аднак гэта не можа служыць апраўданнем тых надта нізкіх тэмпаў рамонту, якія мы маем. Цяпер колькасць завезеных на месцы дэталяў поўнасцю забяспечвае больш высокія тэмпы рамонту.

Некаторыя мясцовыя работнікі патрабуюць павялічыць плач капітальнага рамонту. Гэтыя патрабаванні ў абсалютнай большасці выпадкаў не абгрунтаваны. Аб гэтым сведчыць хоць-бы той факт, што гэтыя патрабаванні прад'яўляюцца ў той час, калі план рамонту выканан усяго на 8—10 процантаў і калі цяжка вырашыць пытанне, ці патрабуецца павелічэнне плана капітальнага рамонту. Трэба мець на ўвазе, што некаторыя дырэктары МТС усякімі спосабамі стараюцца пазбегнуць сярэдняга рамонту і здаць усе машыны ў капітальны рамонт. Справа ў тым, што сярэдні рамонт ідзе за кошт абаротных сродкаў МТС, а капітальны рамонт праводзіцца за кошт саюзнага бюджэта. Неабходна рашуча ўдарыць па антыдзяржаўных тэндэнцыях некаторых дырэктароў МТС.

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на праверку якасці рамонту. Ёсць рад трывожных сігналаў аб тым, што ў радзе МТМ трактары рамантуюцца дрэнна.

Работнікі Наркомзема, якія выехалі на месцы для праверкі ходу падрыхтоўкі да веснавой сяўбы і для аказання дапамогі мясцовым арганізацыям, правялі спецыяльную праверку якасці рамонту трактароў. Паведамленні аб гэтай праверцы, якія мы атрымалі, вельмі няўцешны. Значная частка трактароў, якія лічацца ўжо адрамантаванымі, мае рад сур'ёзных дэфектаў.

Вялікую трывогу выклікае марудная выбарка гаручага. Напрыклад, Растоўская вобласць мае на размеркавальных базах Галоўнафты астатак газы 13.925 тон. Мае ліміт 6.000 тон, а за 10 дзён выбрана толькі 499 тон. Мае на базах Галоўнафты ліграіна 3.865 тон. Мае ліміт 1.500 тон, а выбрала толькі 236 тон.

Такі-ж малюнак у Краснадарскім краі і ў радзе іншых абласцей.

Многія раёны скардзяцца на адсутнасць сродкаў на набыццё гаручага і запасных частак для рамонту. У той-жа час не прымаюць належных мер да ліквідацыі дэбіторскай запазычанасці.

Я павінен далажыць Пленуму ЦК, што, маючы такія велізарныя сродкі, як 900 мільёнаў рублёў у дэбіторскай запазычанасці на 1 кастрычніка 1937 года, Наркомзем вымушан быў звярнуцца да таварыша Сталіна і да таварыша Молатава з просьбай аб водпуску нам дадатковых сродкаў. ЦК ВКП(б) і СНК СССР нам аказалі выключна вялікую дапамогу: Наркомзему было адпушчана звыш плана фінансавання 120 мільёнаў рублёў.

Злачыннай антыдзяржаўнай практыцы з боку многіх дырэктараў МТС і начальнікаў краявых і абласных зямельных аддзелаў павінен быць пакладзен канец. З гэтай работай Наркомзем здолее справіцца толькі пры вялікай дапамозе абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый.

У сувязі з указаннямі СНК СССР у радзе рэспублік, краёў і абласцей за апошні час дасягнуты некаторыя рэзультаты па спаганяню дэбіторскай запазычанасці. Напрыклад, Туркменія ліквідавала за кастрычнік—снежань 91 процант дэбіторскай запазычанасці, Кіргізія—82,9 процанта, Данецкая вобласць—81,7 процанта, Паўднёва-Казахстанская вобласць—82,7 процанта.

Аднак, у цэлым па Саюзу гэта работа праходзіць нездавальняюча. Асабліва адстае Башкірыя, якая ліквідавала толькі 33 процанты дэбіторскай запазычанасці і мае зараз гэтай запазычанасці 10.290 тысяч рублёў. Орлоўская вобласць ліквідавала 37,6 процанта, мае зараз—8.732 тысячы рублёў. Растоўская вобласць ліквідавала 41,8 процанта, астаецца 1.434 тысячы рублёў.

Спіс абласцей і краёў, у якіх дрэнна ідзе ліквідацыя дэбіторскай запазычанасці, досыць вялікі, прычым у радзе месц няма рашучай барацьбы з рвацкімі, утрыманцкімі настроямі некаторых старшынь калгасаў. У Растоўскай вобласці паасобныя работнікі аказваюць прамое процідзеянне ліквідацыі дэбіторскай запазычанасці. Напрыклад, у Песчана-Окопскім раёне на пасяджэнні совета Песчана-Окопскай МТС старшыня райвыканкома Роцікаў на пытанне прадстаўніка Наркомзема СССР—чаму дрэнна ідзе ліквідацыя дэбіторскай запазычанасці—заявіў: «Нашы калгасы адчуваюць патрэбу ў дапамозе ад дзяржавы».

Між тым, калгасы гэтай МТС выдаюць на адзін працадзень па 7—10 кілограмаў хлеба. На аднаго працаздольнага там прыходзіцца ад 120 да 600 пудоў хлеба. 20 калгасаў набылі аўтамашыны.

Неабходна навесці ў фінансавай гаспадарцы МТС настражэйшы парадак і з усёй рашучасцю прысякаць малейшае праяўленне рвацкіх тэндэнцый.

## Па-большэвіцку клапаціцца аб насенні

Рашаючым звяном у пасеўнай кампаніі з'яўляюцца клопаты аб насенні.

Засыпка насення па Саюзу праходзіць нездавальняюча. На 1 студзеня 1938 года па Саюзу было засыпана толькі 87 процантаў насення зерневых і бабовых культур. Асабліва дрэнна абстаіць справа з засыпкай насення проса і бабовых культур. План засыпкі насення проса выканан на 71 процант, бабовых культур—на 55 процантаў.

Недапушчальна дрэнна ідзе засыпка насення ўсіх культур у Дагестанскай АССР, дзе план засыпкі выканан толькі на 48 процантаў, Чэчэна-Інгушскай АССР—44 проценты, Тамбоўскай вобласці—на 68 процантаў, Марыйскай АССР—53 проценты, Калмыцкай АССР—27 процантаў, Краснаярскім краі—44 проценты, Іркуцкай вобласці—29 процантаў.

Побач з гэтым неабходна адзначыць, што ў большасці рэспублік, краёў і абласцей, у якіх у цэлым па вобласці і краю засыпка насення скончана або набліжаецца да канца, ёсць раёны, дзе насенне да гэтага часу яшчэ не засыпана. Напрыклад, у Куйбышэўскай вобласці агульны план засыпкі насенфондаў выканан на 97 процантаў, а ў той-жа час ёсць рад калгасаў, у якіх засыпана насення не больш 20—30 процантаў і нават менш.

Такое-ж становішча і ў радзе іншых краёў. Гэта патрабуе неадкладнай праверкі засыпкі насення па кожнаму калгасу. Нельга супакойвацца сярэднімі паказчыкамі, неабходна дабіцца, каб у бліжэйшыя дні ў кожным краі, вобласці, рэспубліцы не было ні аднаго калгаса, не забяспечыўшага насеннем усёй пасеўнай плошчы.

Выключна дрэнна арганізаваны гатунка-абменныя аперацыі. Гатунка-абменныя аперацыі фактычна яшчэ не пачаты. План міжкалгаснага абмену гатунковага насення выканан усяго толькі на 10 процантаў.

Яшчэ горш абстаіць справа з гатунка-абменнымі аперацыямі па лініі Дзяржгатункафонда. Па лініі Дзяргатункафонда павінна быць выдзелена насення яравых культур у абмен на радавое зярно 258.066 тон, а абменена на 10 студзеня г.г. усяго толькі 3.757 тон, што складае 1,5 проціанта. Па лініі Заготзярно павінна быць выдзелена гатунковага насення яравых культур у абмен на радавое зярно 850.133 тоны. Абмен па лініі Заготзярно фактычна яшчэ не пачаты.

Будзе цяжкім злачынствам, калі па нашай неарганізаванасці мы своечасова не правядзем усіх абменных аперацый.

Асабліваe значэнне ў гэтым годзе мае своечасовая і высокаякасная ачыстка насеннага зярна. Аднак да ачысткі насення многія вобласці фактычна яшчэ не прыступілі. Напрыклад, у Армашэўскім раёне, Омскай вобласці, 29 калгасаў яшчэ не прыступілі да ачысткі насення. Скардзяцца, што нехапае трыераў. Праўда, трыераў не ўсюды дастатковая колькасць, але выйсці з становішча можна і трэба. Па-першае, неабходна ўсе трыеры паставіць на сані і забяспечыць іх кругласутачную загрузку, па-другое, трэба скарыстаць і такі спосаб ачысткі насення, як падсеў на так званых рэшатах-кружалах.

Выключную ўвагу неабходна аддаць загатоўцы і засыпцы насення траў. Напрыклад, люцэрны па плану веснавой сяўбы калгасы павінны пасеяць у гэтым годзе 1.300 тысяч гектараў. Для гэтага патрабуецца, як мінімум, 130 тысяч цэнтнераў насення.

Наяўны на складах і засыпаны ў насенфонды запас насення люцэрны забяспечвае толькі пасеў 960 тысяч гектараў, або 75 процантаў намечанага плана. Неабходна дазагатовіць насення люцэрны на 340 тысяч га.

Асабліваe значэнне люцэрна мае для баваўняных раёнаў. Рэспублікі, якія сеюць бавоўну, павінны памятаць, што яны абавязаны забяспечыць насеннем люцэрны не толькі сябе, але і даць гэтае насенне ў іншыя раёны Саюза. Аднак, загатоўкі насення люцэрны ў гэтых рэспубліках праходзяць надта нездавальняюча.

У радзе баваўняных раёнаў нават свае пасевы люцэрны да гэтага часу не забяспечаны насеннем. У Таджыкскай рэспубліцы нехапае насення люцэрны 2.346 цэнтнераў; у Азербайджане—860 цэнтнераў; у Кіргізіі—2.638 цэнтнераў і ў Арменіі—566 цэнтнераў.

У сярэднеазіяцкіх рэспубліках такое становішча стварылася, галоўным чынам, у выніку таго, што першы і другі ўкосы люцэрны

былі зроблены на сена, а на насенне пакідалі трэці ўкос, які не даспеў або даў надта нязначны ўраджай.

Трэба мець на ўвазе, што пасеў люцэрны мае рашаючае значэнне ў барацьбе за ўраджай бавоўны. Рэспублікі, якія сеюць бавоўну, павінны прыняць усе меры да таго, каб мабілізаваць максімальна насенне люцэрны.

Па канюшыне, прыкладна, такі-ж малюнак. У 1937 годзе па Саюзу было ўбрана насеннікаў канюшыны 566 тысяч гектараў. Абмалот і выціранне канюшыны да гэтага часу не закончана. На 5 студзеня г.г. абмалочана ўсяго 391 тысяча гектараў насеннікаў канюшыны, або 69 проц. убранай плошчы.

У выніку несвоечасовай уборкі, абмалоту і выцірання канюшыны ёсць велізарныя страты, і ўраджай насення ў сярэднім па Саюзу вызначаецца зараз усяго толькі ў 58 кілограмаў з гектара замест меркаваўшагася ўраджаю ў размеры 1,5 цэнтнера. Гэта ганебна нізкі ўраджай.

Па засыпцы насення канюшыны асоба адстаюць наступныя вобласці: Яраслаўская вобласць, якая выканала план на 22,1 процанта; Тамбоўская вобласць—на 25,1 процанта; Разанская вобласць—на 26,7 процанта; Смаленская вобласць—на 27,2 процанта; Курская вобласць—на 29,5 процанта; Калінінская вобласць—на 38,7 процанта.

Пара давесці да ўсведамлення кіраўнікоў калгасаў, што невыкананне планаў закладкі насеннікаў люцэрны і канюшыны, несвоечасовая ўборка і абмалот канюшыны цягнуць за сабой зрыў севазваротаў і зніжэнне ўраджайнасці, з'яўляюцца падкопам пад добрабыт калгаснікаў.

Востра стаіць пытанне аб насенні ільну. Каб забяспечыць устаноўлены план пасеву ільну, неабходна мець 233 тысячы тон насення. Засыпана ў калгасах на 1 студзеня 1938 года толькі 159 тысяч тон.

Выключна дрэнна праходзіць засыпка, ачыстка і падрыхтоўка насення ільну да пасеву ў наступных абласцях: Омская вобласць—засыпана насення 30 процантаў, з іх ачышчана 24 проценты; Іванаўская вобласць—засыпана 37 процантаў, ачышчана 24 проценты; Яраслаўская вобласць—засыпана 22 проценты, ачышчана 13 процантаў; Свердлоўская вобласць—засыпана 39 процантаў, ачышчана 20 процантаў; Кіраўская вобласць—засыпана 50 процантаў, ачышчана 24 проценты; Валагодская вобласць—засыпана 53 проценты, ачышчана 7 процантаў; Архангельская вобласць—засыпана 51 процант, ачышчана 6 процантаў.

У тым, што засыпка насення ільну ідзе дрэнна, вінаваты толькі мы, таму, што не забяспечылі належнага кіраўніцтва гэтай справай. ЦК ВКП(б) і Соўнарком СССР, як вядома, дазволілі засыпаць насенне ільну нават да выканання плана загатовак. І ўсё-ж, не гледзячы на гэта, мы не здолелі своечасова і поўнасцю засыпаць насенне ільну.

Рух пяцісотніц даў велізарны поспех у барацьбе за ўраджайнасць цукровых буракоў. Аднак, з боку земорганаў і мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый увага да барацьбы за ўраджайнасць цукровых буракоў аслабла. Аб гэтым сведчыць той факт, што рад абласцей не забяспечыў глыбокім ворывам намечаны па плану пасеў цукровых буракоў.

У Одэскай вобласці, напрыклад, план па глыбокаму ворыву выканан толькі на 68 процантаў; у Тамбоўскай вобласці—на 39 процан-

таў; у Кіргізскай ССР—на 34 процанты; у Казахскай ССР—на 24 процанты.

Гэта павінна быць кампенсіравана ўзмоцненым унясеннем угнаенняў. Патрабуецца ўнесці вясной гэтага года пад пасеў буракоў 3.970 тысяч тон перагною, а сабрана перагною ўсяго толькі 723 тысячы тон. Значыць, і ў гэтай галіне пакуль не ўсё добра, і патрабуюцца тэрміновыя меры, каб паправіць становішча.

* * *

У невялікі тэрмін, які застаўся да пасеву, павінна быць усё зроблена, каб нагнаць упушчанае і каб выйсці к пасеву падрыхтаванымі лепш, чым у папярэдні год.

ЦК ВКП(б) папярэдзіў партыйныя арганізацыі, што буйныя поспехі, якія ёсць у сельскай гаспадарцы, не павінны паслужыць повадам да супакоенасці і аслаблення работы па кіраўніцтву сельскай гаспадаркай, па ўмацаванню зямельных органаў.

Аднак, дырэктыва ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб падборы кадраў у МТС і зямельныя органы ў радзе краёў, абласцей і рэспублік выконваецца надта марудна. Напрыклад, у Беларускай ССР ёсць 200 МТС, а зацверджаны дырэктары толькі ў 144 МТС. У 24 МТС працуюць часова выконваючыя абавязкі дырэктароў. У 12 няма зусім нікога.

Такі-ж малюнак у Омскай, Орэнбургскай, Свердлоўскай і радзе іншых абласцей.

Неабходна прыняць самыя тэрміновыя меры і безагаворачна выканаць указанне ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб укамплектаванні МТС і райза кадрамі правераных работнікаў.

У зямельныя апараты зараз прышло шмат новых людзей. Трэба стварыць ім добрую абстаноўку для работы і забяспечыць канкрэтнае кіраўніцтва гэтымі новымі, яшчэ не маючымі практычнага вопыту работнікамі.

У 1937 годзе мы сабралі ўраджай каля 7 мільярдаў пудоў. Мы павінны правесці работу ў 1938 годзе так, каб забяспечыць яшчэ больш высокі прырост сельскагаспадарчай прадукцыі, чым у 1937 годзе, дабіваючыся ажыццяўлення пастаўленай таварышом Сталіным задачы—штогодняй вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў зярна.

На выкананне гэтай задачы неабходна мабілізаваць комуністаў, кіраўнікоў калгасаў і соўгасаў, калгасны актыў і ўсю масу калгаснікаў і рабочых соўгасаў, разгарнуць шырокае спаборніцтва за канкрэтныя паказчыкі плана сельскагаспадарчых работ на 1938 год.

**А. А. Жданаў**

# Ленінскія праднachартанні ўвасоблены ў жыццё*

## Перамога соцыялізма—галоўны вынік

Таварышы, чатырнаццаць год таму назад абарвалася жыццё вялікага настаўніка і кіраўніка працоўнага чалавецтва—Владзіміра Ільіча Леніна.

У гэты дзень працоўныя Совецкага Саюза разам з працоўнымі ўсяго свету падводзяць вынікі ажыццяўлення вялікіх ідэй, заветаў і праднachартанняў Владзіміра Ільіча Леніна, ацэньваюць пройдзены шлях і намячаюць перспектывы далейшай барацьбы за перамогу той справы, якой аддаў жыццё Владзімір Ільіч.

Самым выдатным вынікам ажыццяўлення ленінскіх заветаў і праднachартанняў з'яўляецца перамога соцыялізма ў нашай краіне, тая карэнная перабудова грамадства, якая дасягнута ў нашай краіне.

Таварыш Сталін у сваёй прамове на прадвыбарчым сходзе Сталінскай выбарчай акругі гор. Масквы ўказаў, што «у нас соцыялізм не проста будуецца, а ўжо ўвайшоў у быт, у штодзённы быт народа. Год дзесяць таму назад можна было-б дыскутыраваць аб тым, можна ў нас будаваць соцыялізм ці не. Цяпер гэта ўжо не дыскусійнае пытанне. Цяпер гэта пытанне фактаў, пытанне жывога жыцця, пытанне быту, які пранізвае ўсё жыццё народа».

Таварыш Сталін гаварыў далей:

«На нашых фабрыках і заводах працуюць без капіталістаў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам на справе. На нашых палях працуюць труджанікі зямлі без памешчыкаў, без кулакоў. Кіруюць работай людзі з народа. Гэта і называецца ў нас соцыялізмам у быту, гэта і называецца ў нас свабодным, соцыялістычным жыццём».

Найвялікшым заваяваннем і перамогай ленінскіх прынцыпаў, ідэй і заветаў з'яўляецца тое, што соцыялізм зараз стаў такой-жа дарагой і блізкай справай як для рабочага Масквы і Ленінграда, так і для народаў, раней самых адсталых, самых прыдаўленых капіталізмам і царызмам, самых прыгнечаных.

Цяпер соцыялізм пранік у самыя аддаленыя куткі совецкай краіны, увайшоў у быт і з'яўляецца неад'емным набыткам кожнага працоўнага чалавека нашай радзімы, бо нам удалося ўвасобіць у жыццё ленінскія заветы і праднachартанні, пабудаваць грамадства,

* Даклад 21 студзеня 1938 г. у Вялікім тэатры на ўрачыста-жалобным пасяджэнні, прысвечаным чатырнаццатай гадавіне з дня смерці В. І. Леніна.

у якім няма эксплаататараў і паразітаў, пабудаваць грамадства, аснованае на прыяцельскім супрацоўніцтве рабочых, сялян і інтэлігенцыі, пабудаваць грамадства, заснаванае на свабодным саюзе ўсіх народаў СССР.

Перамога соцыялізма ў нашай краіне—гэта значыць выкананне асноўнага завета нашага правадыра і настаўніка—Леніна. **(Апладысменты).**

Таварышы, я не буду тут прыводзіць лічбаў і фактаў, характарызуючых перамогі соцыялізма ў нашай краіне, перамогі нашай індустрыі і калектыўнай сельскай гаспадаркі. Яны дастаткова вядомы. Я хачу толькі напомніць тут указанне таварыша Сталіна аб тым, што наша рэволюцыя, у адрозненне ад усіх іншых рэволюцый, забяспечыла працоўным нашай краіны не толькі палітычную свабоду, але і матэрыяльныя багацці, стварыла ўмовы заможнага і культурнага жыцця. Гэта заваяванне з'яўляецца самым вялікім, самым каштоўным, самым важным заваяваннем нашай соцыялістычнай рэволюцыі. Яно забяспечвае далейшы пераможны рух рэволюцыі наперад. Гэта заваяванне глыбока пранізвае ўсё наша жыццё і трывала яднае ўсіх працоўных нашай краіны.

Афяры, прынесеныя працоўнымі масамі для забеспячэння перамог соцыялізма, не прапалі дарэмна. Гэтыя афяры акупіліся тым, што працоўныя атрымалі магчымасць заможнага і культурнага жыцця, атрымалі магчымасць усебаковага развіцця і ўдасканальвання сваёй культуры і матэрыяльных умоў жыцця. Гэта складае найвялікшую сілу нашай рэволюцыі і робіць рэволюцыю непераможнай.

## Адзінства совецкага народа—найвялікшае заваяванне соцыялізма

Таварышы! Асновай нашага новага ладу з'яўляецца тое, што працоўныя прымаюць непасрэдны ўдзел у дзяржаўным кіраванні.

Сталінская Канстытуцыя, у якой запісаны заваяванні соцыялізма, якая адлюстравала ўсё, што дасягнута працоўнымі ў рэзультаце доўгіх год барацьбы і будаўніцтва—гэта Сталінская Канстытуцыя прыведзена ў дзеянне. Выбары ў Вярхоўны Совет прайшлі на аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі, якая ажыццявіла ліквідацыю ўсякага роду абмежаванняў усеагульнага выбарчага права, забяспечыла поўнае роўнапраўе грамадзян нашай краіны незалежна ад полу, нацыянальнасці і расавай прыналежнасці. Гэта ёсць далейшы крок наперад у справе ажыццяўлення совецкага соцыялістычнага дэмакратызма ў нашай краіне.

Выбары 12 снежня, якія прывялі да выбарчых урнаў амаль 100 процантаў выбаршчыкаў, прадстаўляюць выдатную з'яву ва ўсім нашым жыцці. Выбары паказалі, што маральна-палітычнае адзінства совецкага народа вакол справы Леніна—Сталіна, вакол партыі Леніна—Сталіна ёсць неабвяргальны факт. Выбары паказалі, што наш народ абсалютна аднадушны ў сваім бязмежным давер'і да вялікай партыі Леніна—Сталіна. **(Бурныя апладысменты).**

Выбары, як і ўсё наша штодзеннае жыццё, паказалі, яшчэ і яшчэ раз, што толькі ў нашай краіне магчыма сапраўдная свабода працоўных, толькі ў нашай краіне магчыма сапраўднае брацтва працоўных, бо ў нас перамог соцыялізм. Збыліся прарочыя словы Леніна аб тым, што прыватная ўласнасць раз'ядноўвае, а соцыялізм яднае.

Імена на аснове трыумфу соцыялістычных парадкаў умацавалася ў нас сапраўднае брацтва працоўных. Інтарэсы працоўных нашай краіны адзіны і накіраваны да таго, каб узнімаць і ўдасканальваць соцыялістычную вытворчасць і культуру на карысць нашай радзімы, накіраваны да таго, каб мацаваць і павялічваць наша грамадскае багацце, якое з'яўляецца асновай шчаслівага жыцця кожнага тружаніка.

Владзімір Ільіч вучыў, што марксісты-большэвікі разумеюць роўнасць як знішчэнне класаў. У нашай краіне—краіне перамогшага соцыялізма—ажыццяўляецца сапраўдная свабода, сапраўднае брацтва працоўных, сапраўдная роўнасць, бо ў нашай краіне знішчаны эксплаататарскія класы і быстрымі крокамі ідзе знішчэнне класавых адрозненняў, знішчэнне процілегласці паміж горадам і вёскай.

У нас любы чорнарабочы—свабодны чалавек, які стаіць у сваім палітычным развіцці нязмерна вышэй, чым рабочы капіталістычнай краіны, дзе ён з'яўляецца рабом капітала, рабом эксплаататарскіх класаў.

Толькі на аснове перамогі соцыялізма мог расквітнець савецкі соцыялістычны дэмакратызм. Дыктатура пролетарыята, як вучыў Владзімір Ільіч, немінуча павінна была прынесці такое змяненне форм дэмакратызма, якое дало нябачанае расшырэнне фактычнага выкарыстання дэмакратызма з боку працоўных класаў.

З гэтага пункту погляду выбары ў Вярхоўны Совет прадстаўляюць выключнае па важнасці значэнне, бо працоўныя нашай краіны поўнасцю выкарысталі свае правы.

Наш совецкі дэмакратызм аснован не толькі на ўсеагульным, прамым і роўным выбарчым праве пры тайным галасаванні. Ён аснован на правах працоўных на працу, на адпачынак, на культурнае і заможнае жыццё,—на правах, абумоўленых перамогай соцыялізма.

Імена таму совецкі соцыялістычны дэмакратызм нязмерна вышэй любой буржуазнай дэмакратыі, якая ашуквае рабочых словамі аб брацтве, роўнасці і свабодзе, а на самой справе захоўвае гнёт капітала, захоўвае багацце на адным канцы і жабрацтва на другім, захоўвае ўсю эканамічную і маральную залежнасць працоўных мас ад капітала, усё іх няроўнапраўе. Працоўныя масы, пры панаванні капітала пазбаўлены магчымасці ажыццяўляць нават тыя куцыя палітычныя правы, якія фармальна прадастаўляе ім буржуазная дэмакратыя,—не гаворачы ўжо аб краінах, дзе нават ад гэтай куцай дэмакратыі не асталося і следу.

На аснове перамогі соцыялізма, на аснове брацтва і адзінства працоўных нашай краіны, аб'яднаных адзінай мэтай удасканалення і ўмацавання соцыялістычнай гаспадаркі, уздыму заможнасці і культуры,—на гэтай аснове былі праведзены самыя дэмакратычныя ў свеце выбары.

Маральнае адзінства нашага народа, якое з такой сілай сказалася ў дзень выбараў—12 снежня—з велізарнай сілай праявілася і ў ходзе першай Сесіі Вярхоўнага Совета.

Работа Вярхоўнага Совета паказала адзінадушша ўсіх дэпутатаў, і ў гэтым адлюстравалася адзінства волі ўсяго нашага совецкага народа, аб'яднанага адзінствам мэты.

Гэта выразілася і ў тым адзінадушшы, з якім Вярхоўны Совет выбраў Прэзідыум Вярхоўнага Совета і іншыя свае органы, а так-

сама Совет Народных Камісараў на чале з Вячэславам Міхайлавічам Молатавым. **(Апладысменты).**

У абстаноўцы магутнай падтрымкі, магутнай дэманстрацыі адзінства народа, якія акружалі ўсю работу Вярхоўнага Совета, сказаліся бязмежная любоў і давер'е народных мас да сваёй партыі і да свайго ўрада.

Такога адзінства паміж народам і яго кіраўніцтвам, яго ўрадам, няма і не можа быць ні ў адной краіне свету. Гэта ўласціва толькі нашай краіне, краіне перамогшага соцыялізма **(Апладысменты).**

Ва ўсіх кутках совецкай краіны працоўныя людзі, рабочыя і сяляне, робяць вялікую работу па будаўніцтву соцыялізма. У нас праца стала справай гонару, доблесці і геройства. У нас пашанай і клопатамі акружан кожны працоўны чалавек. Кожны працоўны адчувае гэтыя клопаты аб сабе з боку партыі і ўрада і ўсведамляе, што ён ёсць неадлучная частка калектыва будаўнікоў і тружанікаў соцыялізма.

Характэрнай асаблівасцю выбараў 12 снежня з'яўляецца тое, што кожная праслойка выбаршчыкаў—старыя і маладыя, рабочыя і інтэлігенцыя, сяляне і рамеснікі, жанчыны і мужчыны—ішла да урнаў, каб аддаць свой голас за нашу партыю, за новыя перамогі соцыялізма, за сваё шчаслівае культурнае жыццё.

Увесь народ аказаўся аб'яднаным ад мала да вяліка, і кожная праслойка народа ўсведамляе сваю ролю ў нашым грамадстве, усведамляе значэнне свайго ўдзелу ў агульнай справе. Кожны атрад працоўнага насельніцтва ведае, што ён атрымаў ад соцыялістычнай рэволюцыі тое, аб чым пры капіталізме і царызме нельга было і марыць. Кожны чэсны тружанік нашай краіны ведае, што ён акружан сталінскімі клопатамі, сталінскай увагай. Вось адкуль ідзе аб'яднанне і згуртаванне народа ў прайшоўшых выбарах 12 снежня 1937 года.

## Гераізм увайшоў у быт нашага народа

Таварышы! Наш лад выдатны тым, што ён рухае наперад непрыметных, невядомых пры капіталізме людзей, якія пры капіталізме засталіся-б людскім пылам, сталі-б «лішнімі» людзьмі, як іх называлі ў стары час. Успомніце, як Алексей Максімавіч Горкі маляўніча паказваў у сваіх творах жыццё гэтых «лішніх» людзей—людзей працы, заціснутых ярмом капіталізма, людзей, загубленых беспрасветным жыццём у старой, царскай Расіі.

У совецкай краіне няма лішніх людзей, лішнія людзі ў нас—гэта толькі тыя мізэрныя абломкі разбітых эксплаататарскіх класаў, якія не склалі зброі супроць совецкай улады. Тружанікам, людзям працы—пашана і павага на совецкай зямлі.

Людзі працы самі, уласнымі рукамі твораць новае жыццё. Вось чаму такім пышным цветам расцвітаюць у нас народныя таленты. Вось чаму народ вылучае сотні тысяч таленавітых кіраўнікоў на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Вось чаму, таварышы, у нас шырыцца стаханаўскі рух. Іменна таму народ вылучае кожны дзень усё новых і новых герояў працы, герояў абароны, авіяцыі, майстраў культуры, мастацтва, навукі і тэхнікі. У СССР гераізм людзей працы з'яўляецца агульнапрызнанай і агульнараспаўсюджанай з'явай.

У нас гераізм увайшоў у быт народа.

Нешта не чуваць аб гераізме ў капіталістычных краінах! Яно і зразумела. Чалавек там, у краінах капіталізма, цэніцца толькі як тавар. Там, дзе чалавек цэніцца на рублі, там, дзе цэніцца не чалавек, а яго рабочая сіла, як гэта мае месца ў капіталістычных краінах,—там няма месца для гераізма.

Толькі соцыялізм узнімае на нязмерную вышыню сапраўднае значэнне чалавека, ствapae магчымасць для ўсебаковага раскрыцця яго духоўных здольнасцей і талентаў. У СССР кожны можа праявіць свой талент і стаць героем.

Практыкай соцыялізма ў СССР ушчэнт разбіты фашысцкія і наогул буржуазныя тэорыі аб тым, што адны расы маюць асобыя здольнасці ў параўнанні з другімі, што мужчыны маюць асобыя здольнасці ў параўнанні з жанчынамі, што рабочы клас мае меншыя здольнасці, у параўнанні з буржуазіяй.

У нас гэтыя фашысцкія, чалавеканенавісніцкія тэорыі разбіты ўшчэнт. У нас даказана на справе, што кожны народ, на якой-бы ступені развіцця ён ні ўключыўся ў соцыялістычнае будаўніцтва, мае ўсе магчымасці дагнаць іншыя народы ў сваім культурным і гаспадарчым развіцці. У нас даказана на справе і ажыццёўлена на практыцы роўнапраўе жанчыны з мужчынай, узаконена палітычна і замацавана эканамічна роўнапраўе жанчыны з мужчынай, бо жанчына-работніца стаіць побач з мужчынам ля станка на заводзе, на фабрыцы, разам з мужчынай вядзе работу ў савецкіх установах. У вёсцы калгасны лад забяспечыў жанчыне-калгасніцы незалежнасць ад мужчыны ў быту. Працадзень дае магчымасць сялянцы атрымаць сваю долю благ у адпаведнасці з затрачанай працай. Гэта і складае сапраўдную аснову роўнапраўя паміж мужчынай і жанчынай, якое ў нас ажыццёўлена на справе. Жанчына ў СССР працуе ўсюды нароўні з мужчынай—і ў дзяржаўным кіраванні, і ў гаспадарчым і культурным жыцці.

Наша моладзь не атручана чалавеканенавісніцкімі, канібалісцкімі ідэямі. Совецкая моладзь мае выдатнае сучаснае і яшчэ больш цудоўнае будучае. Яна свабодна ад усякага роду шавіністычных, расісцкіх і іншых буржуазных, фашысцкіх рэакцыйных ідэй.

## Кіраўніцтва большэвіцкай партыі—аснова перамог рабочых і сялян

Таварышы! Владзімір Ільіч Ленін вучыў нас, што галоўнае для забеспячэння перамогі заключаецца ў тым, каб унушыць прыгнечаным і працоўным веру ў свае сілы.

Гэта ўказанне, гэты завет Владзіміра Ільіча Леніна цалкам і поўнасцю ажыццёўлен у нашай краіне. Працоўныя нашай краіны вераць у свае сілы. Яны ведаюць, што іменна дзякуючы іх барацьбе і працы забяспечана перамога соцыялізма. Яны ведаюць, што вера ў свае сілы дасць у далейшым яшчэ большыя перамогі.

З гэтага пункту погляду мае выключнае міжнароднае значэнне перамога соцыялізма ў СССР. Рабочы клас і сялянства СССР, верачы ў свае сілы, не далі сябе ашукаць усім, хто падказваў ім няўпэўненасць у сваіх сілах, усім, хто падобна апартуністам розных масцей, меншавікам, эсэрам і трацкісцка-бухарынскім здраднікам цягнуў рабочых і сялян у ярмо капіталізма. Рабочы клас і сялянства Совецкага Саюза на сваім прыкладзе паказваюць працоўным усяго

свету, што азначае вера ў свае сілы, што азначае—не паддавацца паніцы, не паддавацца нашэптванню ворагаў, якія сцвярджаюць, што рабочыя і сяляне не здольны будаваць новае социялістычнае грамадства. Гэту веру ў свае сілы ў рабочых і сялян выхавала і ўмацавала вялікая партыя большэвікоў.

Нябачанае адзінства народа, якое складае зараз аснову нашага жыцця і з'яўляецца рэзультатам перамогі социялізма, непасрэдна звязана з трыумфам нашай партыі, з трыумфам ленінізма.

Ні на адну мінуту мы не павінны забываць, што сваім трыумфам партыя большэвікоў абавязана геніяльным настаўнікам—Леніну і Сталіну, абавязана таму, што яна свята хавае і захоўвае ленінска-сталінскае вучэнне аб партыі.

Ленін—асновапаложнік нашай партыі—стварыў партыю новага тыпу, якая забяспечыла перамогу пролетарыяту.

Ленін вучыў, што наша партыя, для таго, каб атрымаць перамогу, павінна пастаянна мець на ўвазе вышэйшы прынцып пролетарскай дыктатуры,—захаванне саюза рабочага класа з сялянствам.

Ленін вучыў, што пролетарыяту, для таго, каб перамагчы, патрэбна партыя баявая, партыя рэволюцыйная, дастаткова смелая для таго, каб павесці пролетарыяў на барацьбу за ўладу, дастаткова вопытная для таго, каб разабрацца ў складаных умовах рэволюцыйнай абстаноўкі і дастаткова гібкая для таго, каб абыйсці ўсе і ўсякія падводныя камні на шляху да мэты.

Ленін, ствараючы партыю, як цудоўны інструмент пролетарыята, вучыў нас, што партыя ёсць вышэйшая форма класавай арганізацыі пролетарыята, у параўнанні з іншымі формамі арганізацыі пролетарыята—профсаюзы, кааперацыя, дзяржаўныя арганізацыі,—работу якіх яна заклікана рухаць і накіроўваць.

Ленін вучыў, што дыктатура пролетарыята можа быць ажыццёўлена толькі праз партыю, як накіроўваючую сілу.

Ленін вучыў, што дыктатура пролетарыята можа быць поўнай толькі ў тым выпадку, калі ёю кіруе адна партыя, партыя комуністаў, якая не дзеліць і не павінна дзяліць кіраўніцтва з іншымі партыямі.

Ленін вучыў нас, што без жалезнай дысцыпліны ў партыі не можа быць ажыццёўлена задача дыктатуры пролетарыята па падаўленню эксплаататараў і перабудове класавага грамадства ў грамадства социялістычнае.

Ленін, гаворачы аб нашай партыі, вучыў таму, што сіла нашай партыі заключаецца ва ўзаемадавер'і паміж авангардам рабочага класа і рабочай масай. Ён гаварыў, што партыя павінна чула прыслухоўвацца да голасу мас, уважліва адносіцца да рэволюцыйнага інстынкту мас, вывучаць практыку барацьбы мас, не толькі вучыць, але і вучыцца ў мас. Гэта стварае ўзаемадавер'е паміж авангардам рабочага класа, г. зн. партыяй, і ўсёй масай працоўных.

Гэта азначае, далей, што партыя павінна з дня ў дзень развіваць і заваёўваць сабе давер'е працоўных мас, што яна павінна заваяваць падтрымку мас і ўмець яднаць масы. Толькі тады яна можа быць правадыром і настаўнікам свайго класа.

Таварыш Сталін, развіваючы гэтыя палажэнні, указваў на тое, што «сіла большэвікоў, сіла комуністаў заключаецца ў тым, што яны ўмеюць акружаць нашу партыю мільёнамі беспартыйнага актыва». Ён указваў, што «мы, большэвікі, не мелі-б тых поспехаў, якія маем

цяпер, калі-б не ўмелі заваяваць на старану партыі давер'е мільёнаў беспартыйных рабочых і сялян».

А што патрабуецца для таго, каб заваяваць гэта давер'е?

Таварыш Сталін гаворыць, што «для гэтага патрабуецца, каб партыйныя не адгароджваліся ад беспартыйных, каб партыйныя не замыкаліся ў сваю партыйную шкарлупу, каб яны не кічыліся сваёй партыйнасцю, а прыслухоўваліся да голасу беспартыйных, каб яны не толькі вучылі беспартыйных, але і вучыліся ў іх». (Сталін—«Пытанні ленінізма», выд. 10, стар. 534).

Таварыш Сталін, далей, неаднаразова ўказваў на тое, што камуністы не павінны кічыцца сваёй партыйнасцю і аддаляцца ад беспартыйных, задзіраць перад імі нос. Партыйцы павінны памятаць, як гаварыў таварыш Сталін, што «не кічлівасць, а скромнасць упрыгожвае большэвіка».

Таварышы! Ці ёсць у нас такая партыя, якая ўсвоіла ўсе гэтыя асноўныя палажэнні ленінска-сталінскага вучэння аб партыі, усе заветы і праднячартанні Леніна аб тым, якой павінна быць партыя?

Так, таварышы, такая партыя ў нас ёсць. І гэту партыю, пасля Леніна, расціў і вёў у напрамку, указаным Ленінам, натхняў і арганізоўваў на барацьбу з усімі ворагамі за пабудову соцыялізма таварыш Сталін. **(Працяглыя апладысменты).**

Вучэнне Леніна—Сталіна зыходзіць з таго, што ўсю сваю дзейнасць мы павінны правяраць праз народ, маючы на ўвазе, што камуністы, як гаварыў Ленін, кропля ў народным моры, і што мы можам кіраваць тады, калі правільна выражаем тое, што народ усведамляе.

Сапраўдным трыумфам нашай партыі з'яўляецца заваяванне нашай партыяй давер'я народа. Факт галасавання амаль 100 процантаў выбаршчыкаў за кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных, сам факт нараджэння такога блока паказвае, што народнае давер'е да нашай партыі трывала і несакрушальна. Праверка палітычнай лініі і практычнага кіраўніцтва партыі праз народ была самай сапраўднай праверкай, і гэту праверку наша партыя з гонарам вытрымала.

Выбары ў Вярхоўны Совет усяму свету паказалі, што партыя большэвікоў сапраўды з'яўляецца перадавым авангардам працоўных СССР і карыстаецца бязмежным давер'ем усіх тружанікаў совецкай краіны. **(Апладысменты).**

### Да канца выкарчуем ворагаў народа

Пасля смерці Уладзіміра Ільіча нашу партыю павёў па ленінскаму шляху таварыш Сталін. Таварыш Сталін—прадаўжальнік справы Леніна, узброіўшы партыю на барацьбу за перамогу соцыялізма, стварыў і развіў тэорыю, тактыку і стратэгію барацьбы пролетарыята ва ўмовах аднаўленчага перыяда, а затым ва ўмовах разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва. Таварыш Сталін нястомна вядзе партыю ад перамогі да перамогі, натхняючы яе, навучаючы, як трэба біцца з ворагамі і перамагаць у эпоху вялікай соцыялістычнай рэволюцыі, у эпоху грандыёзных сусветных баёў. **(Бурныя апладысменты).**

Ленін і Сталін, гаворачы аб нашай партыі, указвалі аб неабходнасці жалезнай дысцыпліны ў радах партыі, аб неабходнасці сістэматычнага ачышчэння партыі ад апартуністычных элементаў. З гэтага пункту погляду ўрокі апошніх год, і ў асаблівасці 1937 года асабліва павучальны.

1937 год быў годам разгрому трацкісцкіх, бухарынскіх і іншых шпіёнаў, разведчыкаў, дыверсантаў і забойцаў, прабраўшыхся ў нашы рады.

1937 год быў годам, калі да дасягненняў у галіне гаспадаркі і культуры, у галіне будаўніцтва Чырвонай Арміі, у галіне развіцця мірных адносін з іншымі дзяржавамі, мы, большэвікі, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, дадалі яшчэ адно сур'ёзнае дасягненне. Я маю на ўвазе тое, што мы пачалі ўсур'ёз авалодваць спосабамі і метадамі барацьбы з буржуазнымі разведкамі, з іх агентурай у нашых радах.

Патрабаваўся моцны ўдар па тых работніках, якія забыліся аб непрыемным факце капіталістычнага акружэння, якія забыліся аб тым, што трацкізм ужо даўно перастаў быць палітычнай плынню ў рабочым класе і ператварыўся ў банду наёмных разбойнікаў і забойцаў.

Таварыш Сталін пастаянна вучыць нас таму, што мы не павінны забываць аб факце капіталістычнага акружэння, што капіталістычнае акружэнне засылае і будзе засылаць у наша асяроддзе сваіх разведчыкаў і агентаў. Таварыш Сталін даў нашай партыі прадметны ўрок, як арганізаваць пільнасць на справе, як граміць пасняхова ўсіх тых мярзаўцаў, якія двурушніцкім чынам прабраліся ў рады партыі і прабавалі падсячы і падарваць яе знутры, якія прадаліся заграпічнаму капіталу, якія здрадзілі нашай радзіме і прабавалі вярнуць у нашу краіну капіталістаў і памешчыкаў, зноў надзець на рабочы клас і сялянства ярмо прыгнечання і эксплаатацыі.

1937 год увойдзе ў гісторыю выканання ленінскіх заветаў і прадначартанняў, як год разгрому ворагаў народа. Уладзімір Ільіч вучыў нас,—як вучыць гэтаму і таварыш Сталін,—умець распазнаваць хады і выхады ворагаў, выкрываць і граміць ворагаў.

1937 год увойдзе ў гісторыю, як год узбраення супроць найбольш хітрых і каварных метадаў барацьбы ворагаў народа.

1937 год увойдзе ў гісторыю, як год, калі наша партыя нанесла сакрушальны ўдар ворагам усіх масцей, калі наша партыя стала моцнай і сільнай у барацьбе з ворагамі народа, дабіўшыся гэтага, дзякуючы ўмацаванню нашай савецкай разведкі на чале з Н. І. Ежовым. (Апладысменты).

Мы ведаем цяпер, хто з'яўляецца асновай страшэннай, здрадніцкай змовы супроць народа. Мы ведаем цяпер, з якіх колаў рэкрутуюцца гэтыя ворагі. Мы ведаем цяпер, як іх выхоўваюць у капіталістычных контрразведках і ўстановах, прызначаных для гэтага. Гэта—панікёры, труслівыя душонкі, здраднікі, прадажнікі, якія змагаліся ў свой час з Леніным, якія змагаліся на працягу дзесяткаў год з нашай партыяй, якія лічылі за лепшае лізаць боты ў фашыстаў.

Мы нанеслі гэтым здраднікам і агентам фашызма руйнуючы ўдар і будзем надалей выкараняць іх да тла. Гэтым гадзінам няма месца на нашай савецкай зямлі. (Апладысменты).

Калі многія з нас, з камуністаў, былі недастаткова моцна падкаваны, недастаткова пільны для таго, каб умець распазнаваць каварныя метады ворага, то за апошнія годы мы прайшлі суровую школу. Не малых афяр каштавала нам аслабленне рэвалюцыйнай пільнасці. Шкоднікі нанеслі нямалы ўрон нашай савецкай справе.

Цяпер мы сталі перамагаць у галіне выкрыцця і прадухілення варожай дзейнасці, і, бясспрэчна, разгромім ворагаў канчаткова,

якімі-б маскамі яны ні прыкрываліся, з якімі-б ярлыкамі яны да нас ні з'яўляліся. Цяпер гэта справа моцна завявана большэвіцкай партыяй і працоўнымі нашай краіны. Увесь народ дапамагае органам совецкай разведкі ў справе выкрыцця ворагаў народа.

## Не забываць аб капіталістычным акружэнні

Таварышы! Перамога соцыялізма, умацаванне абароназдольнасці СССР, паслядоўная мірная палітыка совецкага ўрада і партыі забяспечылі працоўным нашай краіны 16 год мірнай працы.

Мы ведаем, што гэты мір падтрымліваць было нялёгка. Мы ведаем, што авантурысты, рэакцыянеры, фашысцкія ўрады многа разоў імкнуліся парушыць мір і перашкодзіць нашаму мірнаму будаўніцтву. Ім не ўдалося гэта таму, што нас вядзе таварыш Сталін, які ўмее распазнаваць шляхі і перапуцці міжнароднай буржуазіі, які ўмее весці наш совецкі карабль у русле мірнай палітыкі, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці для захавання міру. Імення таму мы, працоўныя Совецкага Саюза, карыстаемся абстаноўкай мірнай працы (Апладысменты).

Аднак, мы не маем права забываць ні на мінуту аб капіталістычным акружэнні. Ужо той факт, што капіталістычнае акружэнне засылае да нас разведчыкаў, шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, паказвае, як мы павінны быць пільны, зоркі, як павінны глядзець у абодва для таго, каб нам не прычынілі якой-небудзь пакасці.

Мы ведаем, што рэакцыйныя фашысцкія дзяржавы рыхтуюць вайну супроць нас. З гэтым мы, вядома, павінны лічыцца. Але мы ведаем разам з тым, што растуць і мацнеюць сілы, якія гатовы даць адпор фашызму. **(Бурныя апладысменты).**

Совецкі Саюз, строга захоўваючы інтэрнацыянальныя прынцыпы, з'яўляецца магутным фактарам падтрымкі і развіцця руху ўсіх перадавых і прагрэсіўных элементаў чалавецтва.

Усім вядомы нашы сімпатыі да рэспубліканскай Іспаніі. Усім вядомы нашы найглыбейшыя сімпатыі да народа Кітая, які вядзе гераічную барацьбу супроць японскіх авантурыстаў.

Сёння, у дзень чатырнаццатай гадавіны смерці Леніна, нашы мыслі, нашы пачуцці, нашы самыя лепшыя пажаданні мы звварачаем да змагаючагася народа Іспаніі, да змагаючагася народа Кітая і цвёрда ўпэўнены ў тым, што яны перамогуць у барацьбе супроць імперыялістаў. **(Бурныя апладысменты).**

Мы не павінны забываць аб магчымасці ваенных авантур супроць Совецкага Саюза. Вось чаму мы павінны няўхільна мацаваць тэхнічнае ўзбраенне і магутнасць Чырвонай Арміі. Вось чаму мы горача вітаем і павінны ўсямерна выкарыстаць рашэнне ўрада і Вярхоўнага Совета аб арганізацыі Народнага Камісарыята Ваенна-Марскога Флота для таго, каб да нашай гераічнай Чырвонай Арміі дадаць вялікі, адпавядаючы значэнню і магутнасці Совецкага Саюза, адпавядаючы аўтарытэту нашай вялікай соцыялістычнай дзяржавы, моцны Ваенна-Марскі Флот. І гэта мы, бясспрэчна, зробім. **(Апладысменты).**

Мы не забываем аб магчымасці ваенных авантур і павінны быць на-чаку. Калі вораг пасмее парушыць свяшчэнныя граніцы Совецкага Саюза, то да сілы нашай Чырвонай Арміі, да сілы нашай доблеснай авіяцыі, да сілы нашага совецкага Ваенна-Марскога Флота мы да-

лучым усе сілы маральнага і палітычнага адзінства 170-мільённага савецкага народа, і гора будзе таму, хто пасмее парушыць савецкія граніцы: ён адчуе на сабе гіганцкую і неперарможную сілу адзінства савецкага народа! **(Бурныя апладысменты).**

## Быць дзеячамі ленінска-сталінскага тыпу

Таварышы! Нашы поспехі і дасягненні ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры сапраўды вялікія. Але Ленін і Сталін вучаць нас не зазнавацца, не кічыцца поспехамі, цвяроза іх ацэньваць. У сувязі з выкрыццямі ворагаў народа, у сувязі з выкрыццямі агентаў фашысцкіх разведак, мы ўбачылі, чаго нам каштавала пераацэнка нашых поспехаў і недаацэнка сіл праціўніка.

Нельга забываць указанняў Леніна і Сталіна аб тым, што мы не маем права пераацэньваць свае поспехі, аб найвялікшай шкодзе галавакружэння ад поспехаў.

Вось чаму ўказанні таварыша Леніна аб тым, якімі павінны быць нашы палітычныя дзеячы, каб пастаянна захоўваць давер'е народа, каб пастаянна быць сапраўднымі кіраўнікамі мас,—гэтыя ўказанні для нас з'яўляюцца законам.

Мы павінны быць дзеячамі ленінскага тыпу, як вучыць нас таварыш Сталін. Мы павінны быць такімі-ж яснымі і пэўнымі дзеячамі, як Ленін. Такімі-ж бясстрашнымі ў баі і бязлітаснымі да ворагаў народа, якім быў Ленін, такімі-ж свабоднымі, як Ленін, ад усякага падабенства панікі, калі справа пачынае ўскладняцца і на гарызонце пачынае вырысоўвацца небяспека. Мы павінны быць мудрымі і непаспешлівымі пры вырашэнні ўсякіх пытанняў, дзе патрэбна ўсебаковая арыентацыя і ўсебаковы ўлік усіх плюсаў і мінусаў, якім быў Ленін. Павінны быць такімі-ж праўдзівымі і чэснымі, якім быў Ленін, гэтак-жа любіць наш народ, як любіў яго Ленін. Трэба вучыцца быць такімі дзеячамі, якім быў Ленін і якім з'яўляецца таварыш Сталін. **(Бурная авацыя).**

Давер'е народа ёсць вышэйшае давер'е, якое кожны з нас абавязан заслужыць і захоўваць, як зяніцу вока,—вось што неабходна ўкараніць у свядомасць кожнага кіруючага работніка.

Мы павінны выганяць з сваіх радоў—і ў гэтых адносінах Савецкая Канстытуцыя прадастаўляе нам поўную магчымасць—работнікаў таго тыпу, якіх таварыш Сталін азначыў, як людзей «ні богу свечка, ні чорту качарга». **(Адабрэнне ў зале).**

Такіх людзей у нас ёсць яшчэ не мала.

Умець даражыць давер'ем народа, умець усюды і заўсёды, на кожным кроку лічыцца з думкай народа, чула прыслухоўвацца да яго голасу, правяраць свае дзеянні праз народ, як гэтаму вучыў Ленін і як гэтаму вучыць Сталін,—не зазнавацца і не паддавацца галавакружэнню ад поспехаў у сувязі з грандыёзнасцю нашых перамог—з аднаго боку, і не ўпадаць у паніку, калі на гарызонце вырысуецца якая-небудзь небяспека,—з другога боку,—такая задача.

З гэтага пункту погляду рашэнне апошняга Пленума ЦК партыі аб выпраўленні памылак, дапушчаных партыйнымі арганізацыямі пры выключэнні з партыі і пры разборы апеляцый выключаных, з'яўляецца выдатным урокам таго, якімі палітычнымі дзеячамі мы павінны быць.

У гэтым рашэнні Цэнтральны Камітэт партыі ўказвае, якую тонкую падрыўную работу можа праводзіць вораг, карыстаючыся слепатой,

даверлівасцю і дабрадушшам многіх комуністаў, як ён умее знеслаўляць чэсных партыйцаў, паклёпнічаць на іх, падводзячы іх пад выключэнне з партыі па ўсякага роду фармальных матывах.

Гэта рашэнне Цэнтральнага Камітэта са сталінскай мудрасцю і празарлівасцю ўказвае яшчэ на адзін тып работнікаў, які мае пэўнае распаўсюджанне ў нашых радах,—на тып кар'ерыстаў, якія прабуюць выслужыцца на выключэннях з партыі і дзейнічаюць на руку ворагу, бо яны азлабляюць і адштурхоўваюць ад партыі чэсных людзей.

Такога роду людзі, відаць, прадстаўляюць сабою даволі ўстойлівы тып, бо яшчэ Шчэдрын пісаў:

«Баюся—гэтых бойкіх маладых людзей, якія дзеля **кар'еры** гатовы адмовіцца ад бацькі і маткі, якія, так сказаць, ледзь вышаўшы з пялёнак ужо патрасаюць указальным пярстом, нібы пагражаючы нябачнаму ворагу: вось я цябе!» **(Вясёлае ажыўленне ў зале).**

Такога роду людзі маюць вядомае распаўсюджанне і ў нашай партыі. Іх якраз і мае на ўвазе рашэнне Цэнтральнага Камітэта, якое ўказвае, што неабходна выкрыць падобных кар'ерыстаў, як наносячых велізарнейшую шкоду партыі.

Рашэнне ЦК дае нам прадметны ўрок наконт таго, якімі дзеячамі ленінска-сталінскага тыпу павінны быць нашы кіраўнікі.

* * *

Таварышы! Мы ўступілі ў трэцюю сталінскую пяцігодку. Нашай задачай з'яўляецца далейшы ўздым прадукцыйнасці працы і далейшы ўздым культуры.

Быстра і няўхільна—і да гэтага мы маем поўную магчымасць—павінны мы ўзнімаць вышэй і вышэй культурнае і матэрыяльнае становішча працоўных, рухаць наперад іх заможнае і культурнае жыццё.

Вядома, якое велізарнае значэнне набывае зараз для нас з пункту погляду перспектыў развіцця соцыялізма іменна пытанне аб уздыме культуры. З пытаннем аб уздыме культуры наша партыя звязвае пытанне аб пабудове комунізма. Наша партыя і таварыш Сталін звязваюць нашы перспектывы, наша далейшае прасоўванне к комунізму з пытаннем аб стаханаўскім руху, якое мае на ўвазе ўзняць рабочых да культурнага ўзроўню перадавых інжынерна-тэхнічных работнікаў. Іменна таму стаханаўскі рух назван таварышом Сталіным «зярном комунізма». Мы павінны гэта зярно вырошчваць і пеставаць, каб яно прынесла свае багатыя плады.

Нам неабходна ліквідаваць адсталасць некаторых участкаў нашай работы, як водны транспарт, лясная гаспадарка і інш.

Разграміўшы шкоднікаў, мы вылучылі многа новых людзей. Мы абавязаны іх вучыць і выхоўваць па-ленінску, па-сталінску, ператвараючы іх у дзеячоў ленінска-сталінскага тыпу.

Перад намі задача: няўхільна шырыць і развіваць рух у карысць высокай прадукцыйнасці працы. Неабходна разгортваць ушыр і ўглыб стаханаўскі рух.

Не так даўно адбылося вядомае рашэнне ЦК, якое ўказвала, што ў стаханаўскім руху нам важны не толькі асобныя рэкорды, але важны агульны ўздым стаханаўскага руху і ўдарніцтва, важны агульны уздым усёй масы рабочых на глебе барацьбы за стаханаўскую прадукцыйнасць працы.

Перад намі задача: рухаць наперад культуру і заможнасць калгаснага сялянства, узнімаць вышэй і вышэй прадукцыйнасць сельскай

гаспадаркі, ператвараць у жыццё сталінскі лозунг «7—8 мільярдаў пудоў хлеба ў год», лозунг, які блізак да ажыццяўлення тым больш, што ў 1937 годзе ўраджай зярна з калгасных і соўгасных палёў ужо склаў 7 мільярдаў пудоў.

Задача павышэння ўраджайнасці зернавых і тэхнічных культур, павышэння прадукцыйнасці працы і выкарыстання велізарнай колькасці цудоўных машын, якія рабочы клас з кожным годам усё больш і больш дае калгаснай вёсцы, павінна быць вырашана паспяхова, і, бясспрэчна, будзе вырашана.

* * *

Таварышы! На нашу долю выпала велізарнае шчасце першымі пачаць соцыялістычную рэволюцыю. Капіталізм ідзе к канцу, ён ужо не ў стане вылучыць з сябе чаго-небудзь прагрэсіўнага і перадавога. Злоба і адчай ахопліваюць пануючыя класы капіталістычнага грамадства, якое не бачыць перспектыў свайго развіцця. Буржуазія смяротна ненавідзіць новы свет, свет соцыялізма.

Затое бадзёрым поступам ідуць наперад народы Совецкага Саюза, перамагаючы ўсе перашкоды на сваім шляху, шчаслівыя і гордыя тым, што іх вядзе, натхняе і арганізоўвае на новыя перамогі вялікі прадаўжальнік справы Леніна—наш Сталін. **(Працяглыя апладысменты).**

---

## ПЕРШАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

# Прамова Старшыні Совета Народных Камісараў СССР дэпутата В. М. МОЛАТАВА

**(Дэпутаты наладжваюць доўгую авацыю Старшыні Совета Народных Камісараў СССР таварышу Молатаву. Усе ўстаюць, раздаюцца воклічы: «Старшыні Соўнаркома таварышу Молатаву ўра!» Бурныя апладысменты, воклічы: «Ура!»).**

Таварышы, мы абмяркоўваем зараз вялікае пытанне, паколькі справа датычыць нашай Канстытуцыі, нашага Асноўнага закона. Прадстаўленыя на ваша зацверджанне рашэнні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў аб некаторых зменах і дадатках да паасобных артыкулаў Канстытуцыі датычаць, галоўным чынам, арганізацыйна-адміністрацыйных пытанняў, але яны ўносяць змены ў адміністрацыйны падзел унутры некалькіх саюзных рэспублік, датычаць агульнасаюзнага дзяржаўнага апарата і закранаюць жыццёвыя інтарэсы народаў Саюза.

У дакладзе тав. Горкіна і ў выступленнях прадстаўнікоў рэспублік ужо дастаткова асветлены пытанні, якія датычаць адміністрацыйнага падзелу і ўтварэння раду новых абласцей у РСФСР, Украіне, Узбекістане, Казахстане і Беларусі. Я спынюся на пытаннях, звязаных з работай агульнасаюзных органаў і з утварэннем новых агульнасаюзных наркаматаў.

Па першай Канстытуцыі Саюза, прынятай у 1924 годзе, у нас было створана 12 наркаматаў і Дзяржаўная Планавая Камісія. З таго часу многае змянілася ў жыцці краіны, размах дзяржаўнай работы намнога павялічыўся. Прыняўшы рашэнні, якія прадстаўлены цяпер на зацвярджэнне Вярхоўнага Совета, мы будзем мець у складзе Совета Народных Камісараў кіраўнікоў 26 наркаматаў, камітэтаў і пастаянных камісій, уключаючы Дзяржплан і Камісію Савецкага Кантроля. Апрача таго, пры Совеце Народных Камісараў існуе яшчэ 9 агульнадзяржаўных арганізацый, якія непасрэдна яму падпарадкаваны. Ва ўсім гэтым знайшлі свой адбітак не толькі велізарны рост народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва, але таксама і рост задач ваеннай абароны краіны і адпавядаючая ўсяму гэтаму патрэбнасць большай дыферэнцыяцыі ў дзяржаўным кіраўніцтве, немінуча патрабуючая новых арганізацыйных форм.

Наколькі хутка расце наша гаспадарка і наколькі расшыраюцца нашы задачы ў гэтых адносінах, відаць хоць-бы з наступнага. Прайшло крыху больш года з часу зацвярджэння нашай Канстытуцыі VIII Усесаюзным З'ездам Советаў, а мы ўжо стаім перад неабходнасцю правядзення раду новых арганізацыйна-адміністрацыйных мер

як у саюзных рэспубліках, так і ў агульнасаюзным дзяржаўным апараце.

Усім вядома, які вялікі шлях прайшла за гэтыя годы наша індустрыя. У асаблівасці гэта адносіцца да цяжкай прамысловасці, якая ішла наперадзе ўсіх іншых галін народнай гаспадаркі. У выніку гэтага Наркомцяжпром, да выдзялення з яго машынабудаўніцтва, зрабіўся непамерна вялікай арганізацыяй з велізарнай колькасцю хутка развіваючыхся галін індустрыі. Нават цяпер, калі з Наркомцяжпрома ўжо выдзелена машынабудаўніцтва і створан Народны Камісарыят Машынабудаўніцтва, нават цяпер Наркомцяжпром—самы буйны прамысловы наркамат, наркамат, які дае каласальную колькасць і прытым вельмі featured разнастайнай прадукцыі.

Нельга не згадзіцца з тым, што быстра растучае машынабудаўніцтва, у далейшым паскораным развіцці якога так зацікаўлены ўсе галіны народнай гаспадаркі, можна ў цяперашніх умовах правільна арганізаваць толькі пры дапамозе спецыяльнага наркамата. За гэта гавораць наступныя лічбы. Калі ўзяць толькі перыяд двух пяцігодак—першай і другой пяцігодкі—то толькі за гэты час, гэта значыць з 1928 года, машынабудаўніцтва вырасла ў Совецкім Саюзе у 13,5 раза. А вы ведаеце, што патрэбнасці тэхнічнай рэканструкцыі яшчэ далёка не задаволены, што гэтыя патрэбнасці прадаўжаюць быстра расці. Па сутнасці, мы маем ужо два буйныя камісарыяты машынабудаўнічага тыпу. Перш за ўсё, трэба сказаць аб Народным Камісарыяце Абароннай Прамысловасці,—гэта таксама, галоўным чынам, машынабудаўнічы камісарыят. Ён створан яшчэ пры прыняцці нашай Канстытуцыі, крыху больш, чым год таму назад, але ён ужо нагружан работай, так сказаць, да адказу. Ён дае патрэбныя машыны і абсталяванне для Чырвонай Арміі і Флота і вырабляе не малую колькасць другой, пераважна машынабудаўнічай, прадукцыі. Нам прыйшлося, аднак, стварыць спецыяльны наркамат машынабудаўніцтва, паколькі нашы патрэбнасці ў тэхніцы, у машынах, у станках неабмежаваны. Напомню яшчэ, што і другія агульнасаюзныя і саюзнарэспубліканскія наркаматы, а таксама наркаматы мясцовай прамысловасці вырабляюць нямалую колькасць машын і рознага абсталявання. Вядучае месца ў правядзенні далейшай тэхнічнай рэканструкцыі ў нашай краіне належыць цяпер Наркоммашу, створанаму некалькі месяцаў таму назад. Мы думаем, што Вярхоўны Совет адобрыць рашэнне аб стварэнні Наркоммаша. **(Апладысменты).**

Другі наркамат, аб якім ідзе гутарка ў прапановах, прадстаўленых на зацвярджэнне Вярхоўнага Совета,—Народны Камісарыят Загатовак. Ужо ў цяперашнім выглядзе Камітэт **Сельска-Гаспадарчых Загатовак** пры СНК Саюза ССР—арганізацыя наркамацкага тыпу ў поўным сэнсе гэтага слова.. У яго ёсць свае рэспубліканскія органы краявыя і абласныя, а таксама і раённыя органы. На справе, гэта вялікі агульнасаюзны наркамат, якому, як вы ведаеце, работы хапае.

Рост задач у галіне загатовак звязан з уздымам нашай сельскай гаспадаркі. Возьмем факты, якія адносяцца да росту сельскагаспадарчых загатовак за перыяд першай і другой пяцігодак, дакладней кажучы, за апошнія дзевяць год. За гэты перыяд загатоўкі зярна выраслі ў 2,5 раза; загатоўкі як цукровых буракоў, так і бульбы, павялічыліся ў два разы; загатоўкі бавоўны выраслі ў тры разы.

Цяпер, калі нашы ўраджаі пачалі хутка ісці ўверх, паколькі калгасны лад прыносіць ужо свае першыя спелыя плады, калі калгасы

і соўгасы сталі ўжо на ногі, яны пакажуць сябе па-сапраўднаму ў росце ўсёй сельскагаспадарчай, і ў тым ліку жывёлагадоўчай прадукцыі. **(Апладысменты).**

Калгасы пачалі ўжо паспяхова ажыццяўляць вялікую задачу ўтварэння заможнага жыцця калгаснікаў. Моцныя калгасы і заможныя калгаснікі—быстры рост гэтага роду фактаў ідзе на нашых вачах. Такія калгасы здолеюць яшчэ лепш забяспечыць і дзяржаўныя патрэбы. Загатоўкі асноўных прадуктаў, якімі снабжаецца насельніцтва, якімі снабжаецца наша прамысловасць, якія патрэбны для многіх важнейшых патрэбнасцей дзяржавы,—гэта такая справа, якая з кожным днём расце, становіцца ўсё больш сур'ёзнай. Арганізацыя справы загатовак на велізарнай тэрыторыі Саюза—складаная, вялікая справа. У гэтай справе ў нас яшчэ нямала буйных недахопаў. Хутчэйшае паляпшэнне справы арганізацыі загатовак у інтарэсах усёй дзяржавы і ў інтарэсах самой сельскай гаспадаркі, у інтарэсах калгасаў і калгаснікаў. Патрэбен наркамат, які-б наладзіў гэту справу па-сапраўднаму, які палепшыў-бы свой мясцовы і цэнтральны апарат, які адказваў-бы за выкананне ўсёй справы загатовак. Гэтым тлумачыцца прапанова аб утварэнні Наркомзага.

Цяпер перайду да Дзяржаўнага банка.

Наш Дзяржаўны банк—гэта ўжо велізарная арганізацыя, роўнай якой ні ў адной дзяржаве няма ў гэтай галіне. Дзяржбанк мае ва ўсіх рэспубліках, краях і абласцях і амаль ва ўсіх раёнах свае ўстановы. Гэта—велізарны, разгалінаваны апарат нашай фінансавай сістэмы. Яго работа мае першаступеннае значэнне для развіцця народнай гаспадаркі, у асаблівасці для развіцця гандлю, для разгортвання тавараабароту, для снабжэння прамысловымі і харчовымі таварамі як горада, так і вёскі. Разам з ростам народнай гаспадаркі, разам з быстрым ростам патрэбнасцей працоўных горада і вёскі растуць і задачы Дзяржаўнага банка.

З некалькіх лічбаў мы можам бачыць, што адбылося за апошнія гады ў гэтай галіне.

Абароты Дзяржаўнага банка, калі браць толькі разлікі Дзяржбанка з народнай гаспадаркай, без унутрыбанкаўскіх разлікаў, выраслі за апошнія восем год у 13 раз. У 1928—29 годзе гэтыя разлікі Дзяржбанка з народнай гаспадаркай складалі сто семдзесят шэсць мільярдаў шэсцьсот шэсцьдзесят два мільёны дзвесце дзевятнаццаць тысяч рублёў (176.662.219.000 руб.), а ў 1936 годзе яны склалі два трыльёны сто пятнаццаць мільярдаў семсот дзевяноста тры мільёны восемсот восемдзесят шэсць тысяч рублёў (2.115. 793. 886.000 руб.).

Так вырас маштаб работы Дзяржаўнага банка.

Дзяржаўны банк лічыцца ў нас па традыцыі, па старынцы, адной з арганізацый унутры Наркамата Фінансаў, як быццам ён не мае самастойнага значэння, як быццам ён не з'яўляецца самастойнай крэдытна-фінансавай арганізацыяй. На справе гэта, вядома, далёка не так.

З другога боку, маштаб работы самога Народнага Камісарыята Фінансаў у велізарнай меры вырас і прадаўжае расці з кожным годам. Аб гэтым красамоўна гавораць даныя аб бюджэце нашай дзяржавы.

Калі ўзяць наш бюджэт у цэлым, гэта значыць уключаючы саюзны, разам з рэспубліканскімі і мясцовымі бюджэтамі, то атрымаем такую

карціну. У 1928—1929 годзе гэты наш бюджэт быў 7,5 мільярда рублёў, а ў мінулым 1937 годзе ён ужо дасягнуў, па пярэдніх падліках, 101 мільярда рублёў, гэта значыць вырас за гэтыя 9 год у 13 раз. **(Апладысменты).**

Калі-б у нас не было такога хуткага росту дзяржаўнага, рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў, калі-б не было такога хуткага росту крэдытных абаротаў Дзяржаўнага банка, аб якіх мы зараз гаворым, у нас не магла-б расці такімі хуткімі тэмпамі наша гаспадарка, наша культурнае будаўніцтва і не магла-б так хутка ўмацоўвацца абарона краіны, як гэта мы маем за ўсе гэтыя апошнія годы.

Дзяржаўны бюджэт і фінансавыя абароты Дзяржаўнага банка, як люстра, адбіваюць тое, што ў нас адбываецца ў краіне Советаў, у простых лічбах, праўда, лічбах даволі салідных, даволі ўнушальных, даволі аўтарытэтных.

З гэтага трэба зрабіць, таварышы, некаторыя арганізацыйныя вывады. Мы, як быццам, не збіраемся скарачаць абароты Дзяржаўнага банка, а хочам іх далейшага росту. Мы, як быццам, не збіраемся скарачаць і наш бюджэт, а хочам ісці наперад па выпрабаванаму шляху, фінансуючы належным чынам узрастаючыя патрэбнасці дзяржавы, забяспечваючы яшчэ лепш растучыя патрэбнасці насельніцтва. Таму ўзнікае пытанне аб тым, каб надаць большую самастойнасць такой важнай фінансавай арганізацыі, як Дзяржаўны банк. Гэтым выклікаецца неабходнасць аддзяліць Дзяржаўны банк ад Народнага Камісарыята Фінансаў, надаць яму неабходную самастойнасць, а, значыць, і ўскласці на яго большую адказнасць за кіраўніцтва крэдытнай справай у Саюзе, падначаліўшы Дзяржбанк непасрэдна Соўнаркому і прадаставіўшы яго кіраўніку рашаючы голас у Совеце Народных Камісараў, на правах Народнага Камісара. Усё гэта дазваляе разлічваць на тое, што Вярхоўны Совет адобрыць нашу прапанову, як правільную, як своечасовую. **(Апладысменты).**

Затым, аб утварэнні яшчэ аднаго новага наркамата, аб утварэнні Народнага Камісарыята Ваенна-Марскога Флота. Нельга не прызнаць, што гэта і вельмі важнае і вельмі наспеўшае пытанне. У нас цяпер 4 ваенна-марскія флоты: Балтыйскі, Чорнаморскі, Паўночны і Ціхаакіянскі. Здаецца, не мала для адной краіны, тым больш, што нашы марскія флоты маюць непасрэдныя адносіны і да некаторых акіянаў. Але па-сапраўднаму ўзяцца за будаўніцтва марскога флота мы змаглі толькі ў апошнія годы. І Балтыйскі, і Чорнаморскі, і Паўночны, і Ціхаакіянскі флоты пачалі ўжо расці так, як належыць для Совецкай вялікай дзяржавы. Яны ўзмоцнена папаўняюцца новымі адзінкамі, пакуль больш дробнымі, а вось дабудуем некаторыя новыя заводы,— якія пастараемся пабудаваць хутчэй!—і пачнем папаўняць нашы флоты хутчэй і прытым магутнымі марскімі адзінкамі. **(Бурныя апладысменты).**

Мы павінны лічыцца з тым, што краіна наша вялікая, што яна абмываецца марамі на велізарным працягу, і гэта нам заўсёды напамінае аб тым, што флот у нас павінен быць моцны, магутны. **(Бурныя апладысменты).** Аб гэтым-жа нам напамінаюць і капіталістычныя дзяржавы тым, што за апошнія годы яны разгарнулі велізарнае ваенна-марское будаўніцтва. Мы не думаем аставацца роўнадушнымі да гэтага факта, тым больш, што імперыялістычныя дзяржавы ніяк не могуць дагаварыцца наконт хоць некаторых абмежаванняў гонкі

ў ваенна-марскім будаўніцтве. Напрыклад, такая агрэсіўная дзяржава, як Японія, да гэтага часу адмаўляецца ад якога-небудзь удзелу ў абмежаванні марскіх узбраенняў. Да гэтага часу, не гледзячы на ўсякія міжнародныя канферэнцыі,—напомнім хоць-бы Лонданскую канферэнцыю 1936 года па пытаннях абмежавання марскіх узбраенняў,—для марскіх узбраенняў нашага Далёкаўсходняга суседа—Японіі—абмежаванняў ніякіх няма. Хіба мы не павінны ўлічыць гэты факт? Відавочна, вы скажаце, што гэту акалічнасць мы павінны як след улічыць у нашай рабоце. **(Апладысменты).**

Вось другі факт. Не гледзячы на фармальны ўдзел у Лонданскай канферэнцыі 1936 года, фашысцкая Італія таксама, па ўсякіх несур'ёзных матывах, адмовілася падпісаць якое-небудзь пагадненне з іншымі краінамі аб абмежаванні марскіх узбраенняў. А Італія-ж цяпер прэтэндуе на тое, каб бескантрольна гаспадарыць ва ўсім Міжземным моры, што не можа не закранаць буйнейшых інтарэсаў Совецкага Саюза. Хіба мы не павінны ўлічыць і гэты факт у нашых рашэннях? **(Апладысменты).**

Гавораць, што фашысцкая Германія падпісала марское пагадненне, але мы яшчэ павінны паглядзець, чаго варты гэты подпіс. **(Смех, апладысменты).**

Ва ўсякім выпадку, усё гаворыць за тое, што нам трэба мець моцны ваенна-марскі флот. **(Апладысменты).**

Мы лічым так: галоўнае, каб быў моцны і магутны наш дзяржаўны карабль, а ён, як мы ведаем, моцны і ўсё больш мацнее. **(Бурныя апладысменты).** Наш совецкі лад магутны і хоча быць яшчэ магутней, хоча быць непрыступным для ворагаў. **(Бурныя, працяжныя апладысменты).** З гэтага мы робім вывад, што нам патрэбна моцная Чырвоная Армія і нам патрэбен моцны ваенна-марскі флот. **(Працяжныя апладысменты).** У магутнай совецкай дзяржавы павінен быць адпавядаючы яе інтарэсам, дастойны нашай вялікай справы марскі і акіянскі флот. **(Працяжныя апладысменты).**

Для таго, каб арганізаваць гэты флот з яго складаным тэхнічным аснашчэннем, з яго магутнай марской артылерыяй, з яго адпавядаючай дастойнасці совецкага флота марской авіяцыяй **(бурныя апладысменты)**, і для таго, каб выхаваць па-совецку шматлікія кадры кваліфікаваных маракоў і марскіх тэхнікаў, патрэбен новы наркамат, патрэбен Наркамат Ваенна-Марскога Флота. **(Апладысменты).**

Іменна таму, што вырасла наша Чырвоная Армія, што і тут патрэбна велізарная штодзенная работа па далейшаму яе ўмацаванню, па яе далейшаму тэхнічнаму аснашчэнню, патрэбна значна лепшая работа па большэвіцкаму выхаванню адданых радзіме чырвонаармейцаў і камандзіраў, іменна таму, што кіраўніцтва ўсёй гэтай справай у Чырвонай Арміі мае перад сабой велізарныя задачы, а ваенна-марскі флот патрабуе спецыяльнай і прытым узмоцненай да сябе ўвагі, мы лічым неабходным побач з Наркаматам Абароны, мець Наркамат Ваенна-Марскога Флота. **(Бурныя, працяжныя апладысменты).**

Наша задача—падняць яшчэ вышэй справу абароны сухапутных граніц і марскіх берагоў Совецкага Саюза. Спадзяемся, што нашы маракі з гонарам выканаюць сваю задачу, а Наркомморфлот настойліва і нястомна будзе працаваць над стварэннем моцнага совецкага ваеннага марскога флота. **(Працяглыя апладысменты).**

Нарэшце, таварышы дэпутаты, яшчэ некалькі слоў з поваду адной з прапаноў, уносімых на ваша зацвярджэнне,—а іменна аб дапаўненні артыкула 49-га Канстытуцыі. Справа ідзе аб тым, каб дапоўніць гэты артыкул указаннем на права Прэзідыума Вярхоўнага Совета вырашаць пытанне аб увядзенні ваеннага становішча там, дзе гэта будзе патрэбна.

Вы ведаеце, што на Совецкі Саюз за апошнія годы ніхто звонку не нападаў, хоць і не было недахвату ў рознага роду правакацыях з боку імперыялістычных агрэсараў. Не было таму і патрэбнасці ва ўказаных мерапрыемствах і ў асобых рашэннях па гэтаму поваду. І ўсё-ж мы павінны прадбачыць сёе-тое наконт магчымых ускладненняў. Таму, мне здаецца, прапанова, якая ўносіцца па гэтаму пытанню, вам зразумела і ўпаўне прыемлема. **(Дружныя апладысменты).**

Вось, таварышы, пытанні, на якіх я павінен быў спыніцца ў сувязі са зменамі ў Канстытуцыі.

У нас добрая совецкая Канстытуцыя, і таму народ назваў яе Сталінскай Канстытуцыяй. **(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты, усе ўстаюць, воклічы: «Ура!», «Няхай жыве таварыш Сталін!»).**

Жыццё ўсё-ж, сваёй чаргой, ідзе наперад. Наша краіна расце з дня на дзень і патрабуе новых арганізацыйных форм. Гэтым і выклікаюцца змены і дадаткі, унасімыя ў нашу Канстытуцыю. Гэта неабходна. Гэта адпавядае таму, што расце, мацнее і ўдасканальваецца наш совецкі лад.

Ва ўсім гэтым мы бачым сілу і значэнне той справы, якая цяпер у нашых руках, у руках працоўных,—ва ўсім гэтым мы бачым вялікае значэнне і магутную сілу справы Леніна—Сталіна! **(Бурныя, працяжныя апладысменты, усе ўстаюць, воклічы: «Ура!» «Няхай жыве таварыш Сталін!», «Няхай жыве таварыш Молатаў!»).**

---

# Прамова тав. В. М. МОЛАТАВА аб утварэнні Ўрада СССР

**(Калі старшынствуючы прадастаўляе слова таварышу Молатаву, усе прысутныя ў зале ўстаюць, бурна апладыруюць. Апладысменты пераходзяць у авацыю, авацыя працягваецца некалькі мінут. Нясуцца воклічы з месц: «Бліжэйшаму саратніку таварыша Сталіна—таварышу Молатаву—Ура!» Бурныя апладысменты, воклічы «Ура!»).**

Таварышы дэпутаты! Вярхоўны Совет даручыў мне прадставіць на зацвярджэнне склад Совета Народных Камісараў. У гэтым сваім рашэнні Вярхоўны Совет прапанаваў улічыць крытычныя заўвагі, выказаныя дэпутатамі ў ходзе спрэчак па пытанню аб утварэнні ўрада. Зразумела, з гэтага і будуць зыходзіць мае прапановы.

Перш чым перайсці да складу Совета Народных Камісараў, мне прыдзецца спыніцца на тых крытычных заўвагах, якія тут былі выказаны дэпутатамі Жданавым, Багіравым і Касіорам. Гэтыя таварышы ў сваіх прамовах спыніліся на рабоце раду наркаматаў, і я павінен сказаць, што з іх крытычнымі заўвагамі Совет Народных Камісараў цалкам згодзен.

Пачну з пытання аб некаторых баках работы Народнага Камісарыята Замежных Спраў. На што тут было ўказана? Тав. Жданаў адзначыў, што Вярхоўны Совет і ён, як прадстаўнік працоўных Ленінграда, поўнасцю падтрымліваюць праводзімую совецкім урадам знешнюю палітыку, якая нам забяспечвае мір, якая паспяхова абараняецца і практычна праводзіцца Народным Камісарыятам Замежных Спраў. Але ён указаў і на некаторыя моманты, якія нельга не лічыць ценявымі бакамі ў гэтай галіне.

Вось, напрыклад, пытанне аб замежных консулах у Совецкім Саюзе. Трэба прызнаць, што гэтым пытаннем у належнай меры мы не займаліся да апошняга часу. Між тым, гэтае пытанне заслугоўвае ўвагі, і, вядома, у першую чаргу ўвагі Народнага Камісарыята Замежных Спраў. Сапраўды, у Совецкім Саюзе аказаліся ў лішку замежныя консульствы ў раду дзяржаў, якія нічым не заслужылі асобага становішча і перавагі ў адносінах да іншых дзяржаў. Некаторыя з замежных дзяржаў, і ў тым ліку з такіх, якія ніяк нельга прызнаць прыяцельскімі да Совецкага Саюза, мелі гэтых консульстваў значна больш, чым Совецкі Саюз меў у гэтых дзяржавах. Паўстае пытанне, на якой гэта падставе?

Правільна і тое, што некаторыя замежныя консулы займаліся ў нашай краіне недазволенымі справамі, займаліся варожымі, антысовец-

кімі справамі шпіёнскага і шкодніцкага характару. Далей цярпець такое становішча безумоўна нельга.

Для ўнясення поўнай яснасці ў гэтае пытанне я павінен паведаміць, што некаторыя меры ў гэтых адносінах ужо прыняты. Закрыта пара японскіх консульстваў, у Новасібірску і Одэсе. Закрыта таксама пара польскіх консульстваў, у Харкаве і Тбілісі. Закрыты 5 германскіх консульстваў: у Ленінградзе, Харкаве, Одэсе, Тбілісі і Уладзівастоку. К 15 студзеня гэта ўжо было ажыццёўлена. Належыць закрыццю і рад іншых консульстваў. Належыць закрыццю рад консульстваў Італіі, Ірана, Турцыі, Афганістана, Латвіі і іншых краін.

Заўвагі тав. Жданава адносна замежных консульстваў, дружна падтрыманыя ўсім Вярхоўным Советам, Совет Народных Камісараў поўнасцю ўлічыць і правядзе ўсе належныя меры ў гэтых адносінах у бліжэйшы-ж час. **(Апладысменты).**

Тут зроблены былі таксама заўвагі адносна нашых узаемаадносін з двума дзяржавамі—з Японіяй і з Францыяй.

Перш за ўсё, наконт нашых узаемаадносін з Японіяй і наконт паводзін некаторых бесцарамонных агентаў японскага ўрада і нямала вядомага, але сапраўды марыянетачнага Манчжоу-Го.

Вы ведаеце, таварышы, што совецкаму ўраду прыходзілася не раз пратэставаць супроць некаторых недапушчальных дзеянняў з боку японскіх і манчжурскіх улад. Ніхто ў Совецкім Саюзе без абурэння не можа глядзець на тыя бесцарамонныя прыёмы з боку японаманчжурскіх улад, якія яны ўжываюць, напрыклад, цяпер у адносінах аднаго паштовага самалёта грамадзянскай авіяцыі на Далёкім Усходзе, заблудзіўшагася ў дарозе і выпадкова сеўшага на тэрыторыі Манчжоу-Го. Роўна месяц таму назад 19 снежня меў месца гэты факт, факт захвату нашага паштовага самалёта, захвату двух совецкіх людзей—лётчыка і яго памочніка—і захвату шматлікай паштовай карэспандэнцыі, якая была на гэтым самалёце. Але і да гэтага часу мы не маем ніякіх паведамленняў па гэтаму поваду ад японскага ўрада, не гледзячы на неаднаразовыя запросы і ў Токіо і ў Манчжоу-Го.

Совецкі ўрад вымушан быў 16 студзеня паслаць накіраваную да японскага ўрада ноту пратэсту супроць недапушчальных і незаконных дзеянняў япона-манчжурскіх улад. У гэтай ноце мы катэгарычна настойваем на неадкладным вызваленні затрыманых совецкіх грамадзян і на звароце самалёта і пошты, папярэджваючы японскі ўрад аб тым, каб ён не прымусіў нас стаць на шлях адказных рэпрэсалій. Мы разлічваем, што здолеем поўнасцю забяспечыць інтарэсы Совецкага Саюза супроць такіх і ўсякіх іншых бесцарамонных дзеянняў замежных дзяржаў. Мы можам запэўніць вас, таварышы, у тым, што ўсе тыя меры, якія патрабуюцца з нашага боку, мы сапраўды правядзем. **(Працяглыя апладысменты).**

Некалькі слоў аб нашых узаемаадносінах з Францыяй. Зноў-такі нельга не прызнаць грунтоўнасці заўваг тав. Жданава. Сапраўды, да сучаснага моманту, не гледзячы на наяўнасць прыязных адносін паміж Совецкім Саюзам і французскай рэспублікай, на тэрыторыі Францыі знаходзяць сабе ўсялякі прытулак такія авантурысты і такія злачынныя арганізацыі, якія з'яўляюцца нічым іншым, як змяінымі гнёздамі тэрарыстаў і дыверсантаў, якія адкрыта займаюцца гэтымі сваімі варожымі антысовецкімі справамі на вачах і пад апекай французскіх улад. Вядома, гэта нельга апраўдаць правам прытулку для іншаземцаў... краінцаў. Паўстае пытанне, каму патрэбна гэта заахвочванне ўсякага

роду злачынцаў рускага і нярускага буржуазнага паходжання, якія займаюцца антысовецкімі тэрарыстычнымі справамі на французскай тэрыторыі і адкрыта падрыхтоўваюць свае злачынныя справы супроць совецкіх дзеячоў, супроць совецкіх органаў? Чаму гэтых паноў так заахвочваюць ва Францыі і як гэта адпавядае прыязнаму совецка-французскаму пакту? Гэтым пытаннем безумоўна прыдзецца заняцца нашаму Народнаму Камісарыяту Замежных Спраў.

Вярхоўны Совет не палічыў магчымым прайсці міма гэтых абураючых і накіраваных супроць Совецкага Саюза фактаў. Нельга не згадзіцца з тым, што ён меў да гэтага поўную падставу. Соўнарком улічыць зробленыя на Сесіі Вярхоўнага Совета заўвагі па гэтаму пытанню і дасць адпаведныя ўказанні Народнаму Камісарыяту Замежных Спраў.

Тут былі закрануты таксама і пытанні, якія адносяцца да работы іншых народных камісарыятаў.

Тав. Жданаў адзначыў недахопы ў рабоце Народнага Камісарыята Воднага Транспарта. Сапраўды, часу прайшло нямала для таго, каб Наркомвод прыняў меры і зрушыўся з мелі, на якую ён сеў яшчэ ў пазалеташнім мелкаводным годзе. Як Соўнарком ні дапамагаў Народнаму Камісарыяту Воднага Транспарта злезці з гэтай мелі, пакуль нам не ўдалося гэтага дабіцца. Кіраўніцтва Наркомвода празмерна марудна раскачваецца і пакуль не забяспечвае належнага паляпшэння ў рабоце. Напомнім таварышам з Наркомвода, што хутка пачынаецца новая навігацыя, яна пачнецца ўсяго праз якіх-небудзь два-тры месяцы. Гэта будзе апошняе выпрабаванне для цяперашніх кіраўнікоў Наркомвода. Яшчэ не позна, каб тав. Пахомаў, нарком воднага транспарта, выправіў становішча, заняўся па-сапраўднаму рамонтам суднаў, разгарнуў рашучую барацьбу з аварыямі, па-сапраўднаму ўзяўся за ліквідацыю стратнасці воднага транспарта, а галоўнае—за падбор і выхаванне кадраў воднага транспарта. Кіраўніцтва Наркомвода атрымала тут сур'ёзнае папярэджанне, і калі яно быстра не выправіць сваю работу, яно павінна будзе наракаць на сябе. Таварышы воднікі, сярод якіх нямала добрых работнікаў і сапраўдных стаханаўцаў, павінны паказаць сваё ўменне выпраўляць недахопы і павінны ў 1938 годзе так падняць сваю работу, як гэта належыць перадавым транспартнікам і сапраўдным будаўнікам соцыялізма.

Больш рэзка тут былі падкрэслены недахопы трох агульнасаюзных органаў, а іменна: Наркомюста, Камітэта Загатовак і Камітэта Мастацтваў.

Нельга не прызнаць прамову тав. Багірава зусім аб'ектыўнай. Ён указаў у адносінах тав. Крыленка, наркома юстыцыі, не толькі на недахопы, але і на станоўчыя бакі, калі ён гаварыў наконт альпінізма, турызма і шахматнай справы. **(Смех у зале).** Але ў тым якраз і справа, што ў наркома юстыцыі былі адзначаны станоўчыя бакі, але зусім не ў галіне работы Наркомюста... А нам трэба, каб Наркомюст працаваў, як узорны совецкі наркамат, на які ўскладзены нашай Канстытуцыяй новыя велізарныя задачы, чаго, на жаль, не зразумеў тав. Крыленка. Відавочна, гэта прыдзецца ўлічыць пры зацвярджэнні складу Совета Народных Камісараў.

Далей—аб рабоце Наркомзага, створанага з Камітэта Загатовак. Правільна ўказаў тав. Касіор, што, вылучаючы кіраўніком Камітэта Загатовак тав. Кальцова, які мае нямалы мясцовы вопыт, мы разлічвалі на тое, што справы Камітэта Загатовак значна палепшацца. Між

тым, новы кіраўнік не зразумеў нават свайго абавязку расчысціць органы Камітэта Загатовак ад забраўшыхся туды шкоднікаў і ўсякай дрэні. Ён не праявіў ніякага густу ў гэтых адносінах, не паказаў сябе бальшэвіком у рабоце. Значыць, прыдзецца пры зацвярджэнні складу Совета Народных Камісараў лічыцца і з гэтым фактам.

Нарэшце, аб Камітэце Мастацтваў. Аб ім тут гаварылі двое з выступаўшых дэпутатаў. Абодва дэпутаты крытычна адзываліся аб кіраўніцтве Камітэта Мастацтваў, але я-б сказаў, што іх крытычныя заўвагі былі мінімальнымі. Справа з кіраўніцтвам Камітэта Мастацтваў у нас надта нядобра. Колькі мы ні прабавалі дапамагчы цяперашняму кіраўніку—тав. Кержэнцэву выправіць справу, сам ён сапраўднай ініцыятывы і разумення сваіх абавязкаў не праявіў. Значыць, трэба ўлічыць і гэту акалічнасць пры зацвярджэнні новага складу Совета Народных Камісараў.

Вось, таварышы, тыя заўвагі, якія я павінен быў зрабіць, перш чым перайсці да агалашэння складу Совета Народных Камісараў.

Цяпер дазвольце перайсці да складу Урада.

Я не спыняюся на пытанні аб Старшыні Совета Народных Камісараў, пераходжу да намеснікаў Старшыні Соўнаркома.

У сучасны момант у нас два намеснікі Старшыні Совета Народных Камісараў, якія разам з тым з'яўляюцца Народнымі Камісарамі. У інтарэсах далейшай работы Совета Народых Камісараў,—а работы ў Соўнаркома становіцца ўсё больш!—я прашу аб тым, каб намеснікі Старшыні Соўнаркома былі вызвалены ад наркамацкіх пасад і цалкам былі-б заняты работай у Совеце Народных Камісараў.

У адпаведнасці з гэтым, уношу наступныя прапановы:

Зацвердзіць намеснікам Старшыні Совета Народных Камісараў Власа Якаўлевіча **Чубара (Бурныя апладысменты),** з аслабаненнем яго ад абавязкаў Народнага Камісара Фінансаў.

Уношу, далей, прапанову—зацвердзіць намеснікам Старшыні Совета Народных Камісараў, Анастаса Іванавіча **Мікаяна (Бурныя апладысменты),** з аслабаненнем яго ад абавязкаў Народнага Камісара Харчовай Прамысловасці.

Уношу таксама прапанову—зацвердзіць яшчэ аднаго намесніка Старшыні Совета Народных Камісараў, назначыўшы яго і Старшынёй Камісіі Совецкага Кантроля—Станіслава Вікенцьевіча **Касіора. (Бурныя апладысменты).**

Прашу зацвердзіць Старшынёй Дзяржаўнай Планавай Камісіі Нікалая Алексеевіча **Вазнясенскага. (Апладысменты).**

Народным Камісарам па замежных справах—Максіма Максімавіча **Літвінава. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Унутраных Спраў—Нікалая Іванавіча **Ежова. (Працяглыя апладысменты).**

Народным Камісарам Абароны—Клімента Ефрэмавіча **Варашылава. (Бурныя, працяглыя апладысменты, усе ўстаюць, па зале пракатваецца магутнае «ура таварышу Варашылаву!», «Няхай жыве таварыш Варашылаў!»).**

Народным Камісарам Ваенна-Марскога Флота—Петра Александравіча **Смірнова. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Цяжкай Прамысловасці—Лазара Маісеевіча **Кагановіча. (Бурныя, працяглыя апладысменты, воклічы: «Няхай жыве таварыш Кагановіч!», «Ура таварышу Кагановічу!» Усе ўстаюць).**

Народным Камісарам Машынабудаўніцтва—Александра Давідавіча **Брускіна. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Абароннай Прамысловасці—Міхаіла Маісеевіча **Кагановіча. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Харчовай Прамысловасці—Абрама Лазаравіча **Гілінскага. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Лёгкай Прамысловасці—Васілія Іванавіча **Шэстакова. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Лясной Прамысловасці—Міхаіла Іванавіча **Рыжова. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Шляхоў Зносін—Алексея Венедзіктавіча **Бакуліна. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Воднага Транспарта—Нікалая Іванавіча **Пахомава. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Сувязі—Матвея Давыдавіча **Бермана. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Земляробства—Роберта Індрыкавіча **Эйхе. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Соўгасаў—Тіхана Александравіча **Юркіна. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Загатовак—Міхаіла Васільевіча **Папова. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Фінансаў—Арсенія Грыгор'евіча **Зверава. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Гандлю—Міхаіла Паўлавіча **Смірнова. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Знешняга Гандлю—Еўгенія Дзенісавіча **Чвялева. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Юстыцыі—Нікалая Міхайлавіча **Рычкова. (Апладысменты).**

Народным Камісарам Аховы Здароўя—Міхаіла Фёдаравіча **Болдырэва. (Апладысменты).**

Старшынёй Дзяржаўнага Банка—Алексея Петровіча **Грычманава. (Апладысменты).**

Старшынёй Камітэта па справах Вышэйшай Школы—Сергея Васільевіча **Кафтанава. (Апладысменты).**

Старшынёй Камітэта па справах Мастацтваў—Алексея Іванавіча **Назарава. (Апладысменты).**

Таварышы, мне няма неабходнасці даваць асобныя тлумачэнні аб кіраўніках наркаматаў, імёны якіх я тут агаласіў. Вы і без таго іх добра ведаеце.

Совету Народных Камісараў, які будзе вамі зацверджан, прадстаіць вялікая работа, прадстаіць рашэнне яшчэ больш складаных задач, чым было да гэтага часу. Расце наша справа, растуць і нашы задачы.

Мне прышлося ўжо гаварыць аб крытычных заўвагах, якія былі зроблены дэпутатамі ў адносінах паасобных наркаматаў. Нельга не прызнаць, што за работу наркаматаў адказвае Соўнарком, а таму павінна быць ясна, што крытычныя заўвагі аб рабоце наркаматаў адносяцца ў вядомай меры і да самога Соўнаркома. Зробленыя заўвагі павінны быць улічаны ўсімі наркаматамі і ўрадам у цэлым.

Крытыку недахопаў наркаматаў Соўнарком разглядае і будзе разглядаць, як дапамогу і падтрыманне ў яго рабоце. З гэтай крытыкі мы павінны зрабіць вывад—значыць, Соўнарком павінен яшчэ больш

і значна лепш дапамагаць больш слабым наркаматам, узмацніць свой кантроль у адносінах іх работы, своечасова замяняць не адпавядаючых справе кіраўнікоў.

Кіраўнікі, якія стаяць на высокіх дзяржаўных пастах, не павінны аддавацца зазнайству або самазадаволенню, павінны сур'ёзна прыслухоўвацца да крытыкі, павінны ўдасканальвацца ў рабоце. Зазнайства, якое выражаецца ў такім уяўленні: «Я высока стаю і таму я ўсё бачу і ўсё ведаю»,—мы павінны асудзіць, як палітычную блізарукасць, як чванства, як бюракратызм.

Лепш будзе, таварышы, калі мы будзем памятаць выдатныя словы таварыша Сталіна, сказаныя ім нядаўна на прыёме металургаў і гарнякоў.

> «Быць кіраўніком у савецкіх умовах—значыць удастоіцца высокага гонару і давер'я ў вачах народа... Кіраўнікі прыходзяць і ўходзяць, а народ астаецца. Толькі народ бессмяротны. Усё астатняе—мінаюча. Таму трэба ўмець даражыць давер'ем народа». **(Апладысменты).**

«Умець даражыць давер'ем народа»—такі асноўны абавязак Совета Народных Камісараў, такі асноўны абавязак кожнага з дзяржаўных кіраўнікоў.

Выбары ў Вярхоўны Совет і ўмацаваўшыйся за гэты час блок комуністаў і беспартыйных адкрываюць новую старонку ў гісторыі нашай краіны, у гісторыі соцыялізма. Вярхоўнаму Совету, выбранаму пераможным блокам комуністаў і беспартыйных, мы павінны заявіць: «Мы, кіраўнікі—**комуністы,** якія ведаюць, што поспех нашай работы будзе тым значней, чым больш і чым мацней будзе ажыццяўляцца наша штодзенная і жывая сувязь са шматмільённымі **беспартыйнымі** масамі працоўных. **(Апладысменты).**

У нас у Совецкім Саюзе склалася нябачанае раней і не існуючае ў іншых краінах, дзе капіталізм раздзірае грамадства на класы,—у нас склалася на аснове перамогі ўлады працоўных маральнае і палітычнае адзінства народа, таму што ў нашай краіне зблізіліся і злучыліся ў адно цэлае дзве вялікія сілы: народ і комунізм. **(Бурныя апладысменты).**

Усё гэта накладвае на нас, на кіраўнікоў, вялікія абавязкі. Каб зразумець гэтыя абавязкі, мы павінны памятаць аб тым, што гаварыў таварыш Сталін на сходзе выбаршчыкаў Сталінскай акругі ў Маскве напярэдадні выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Совета. Ён гаварыў:

> «Выбаршчыкі, народ павінны патрабаваць ад сваіх дэпутатаў, каб яны аставаліся на вышыні сваіх задач, каб яны ў сваёй рабоце не спускаліся да ўзроўню палітычных абываталяў, каб яны аставаліся на пасту палітычных дзеячоў ленінскага тыпу, каб яны былі такімі-ж яснымі і пэўнымі дзеячамі, як Ленін **(апладысменты),** каб яны былі такімі-ж бясстрашнымі ў баі і бязлітаснымі да ворагаў народа, якім быў Ленін **(апладысменты),** каб яны былі свабодны ад усякай панікі, ад усякага падабенства панікі, калі справа пачынае ўскладняцца і на гарызонце вырысоўваецца якая-небудзь небяспека, каб яны былі гэтак-жа свабодны ад усякага падабенства панікі, як быў свабодны Ленін **(апладысменты),** каб яны былі гэтак-жа мудры і непаспешлівы пры вырашэнні складаных пытанняў, дзе патрэбна ўсебаковая арыентацыя і ўсебаковы ўлік усіх плюсаў і мінусаў, якім быў Ленін

**(апладысменты)**, каб яны былі гэтак-жа праўдзівы і чэсны, які быў Ленін **(апладысменты)**, каб яны гэтак-жа любілі свой народ, як любіў яго Ленін **(апладысменты)**.

Таварыш Сталін гаварыў далей аб тым, што дэпутаты «павінны мець перад сабой вялікі вобраз вялікага Леніна і падражаць Леніну ва ўсім». **(Шумныя апладысменты)**.

Таварыш Сталін прад'явіў гэтыя высокія патрабаванні да дэпутатаў Вярхоўнага Совета. Тым больш усё гэта адносіцца да Народных Камісараў і да Совета Народных Камісараў у цэлым. Мы павінны памятаць аб тым, што Совет Народных Камісараў з самага пачатку яго ўтварэння ўзначальваў Ленін, і павінны імкнуцца да таго, каб быць дастойнымі вучнямі вялікага Леніна, заклаўшага аснову ўсёй нашай справы. **(Шумныя, працяглыя апладысменты)**.

Мы хочам быць вернымі памочнікамі нашага настаўніка і правадыра народаў Совецкага Саюза—вялікага Сталіна. Ва ўсіх важных пытаннях мы, Совет Народных Камісараў, звернемся за парадай і за ўказаннем да Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі, і, перш за ўсё, да таварыша Сталіна. **(Шумная авацыя, усе ўстаюць, воклічы з зала: «Няхай жыве правадыр вялікага совецкага народа вялікі Сталін!», «Правадыру і настаўніку таварышу Сталіну ўра!»)**.

Вы ведаеце, таварышы, што гэта і па сутнасці і па форме адпавядае нашай вялікай Канстытуцыі. **(Апладысменты)**.

Мы хочам быць дастойнымі нашага соцыялістычнага народнага парламента—Вярхоўнага Совета, хочам быць дастойнымі народа, які будуе сваімі працоўнымі намаганнямі, самаадданасцю і творчым энтузіязмам, наперакор усім і ўсякім перашкодам, комуністычнае грамадства. **(Шумныя апладысменты)**.

У заключэнне скажу словамі таварыша Сталіна: «Што датычыць нас, членаў ЦК, членаў урада, то няма ў нас іншага жыцця, чым жыццё для нашай вялікай справы, чым жыццё для барацьбы за ўсеагульны добрабыт народа, за радасць для ўсіх працоўных, для мільённых мас». **(Бурныя, працяглыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Усе ўстаюць. Прывітальныя воклічы па адрасу таварыша Сталіна і Молатава на мовах брацкіх рэспублік і воклічы «ура» пракатваюцца па зале.)**

---

## Інфармацыйнае паведамленне

### аб сумесным пасяджэнні Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей 17 студзеня 1938 года

17 студзеня, у 2 гадзіны дня, у Залі Пасяджэнняў Совета Саюза, у Крэмлі, адбылося другое сумеснае пасяджэнне Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей.

Старшынствуе Старшыня Совета Нацыянальнасцей **Н. М. Швернік.**

Вярхоўны Совет СССР прымае прапанову разглядзець на даным пасяджэнні першым пытаннем пункт 5 парадку дня сумеснага пасяджэння—аб аплаце дэпутатам выдаткаў, звязаных з выкананнем дэпутацкіх абавязкаў. Па прапанове дэпутата **П. Г. Маскатава** Вярхоўны Совет СССР прымае наступную пастанову:

1. Устанавіць для дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР узмяшчэнне выдаткаў, звязаных з выкананнем дэпутацкіх абавязкаў, штомесячна па 1.000 рублёў.
2. Для ўзмяшчэння выдаткаў дэпутатаў за перыяд Сесіі Вярхоўнага Совета СССР устанавіць сутачныя ў размеры 150 рублёў.
3. Устанавіць для дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР пастаянныя білеты на права бясплатнага праезду па ўсіх чыгуначных і водных шляхах СССР.
4. Прадугледзець па каштарысу Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР водпуск у распараджэнне як Старшыні і намеснікаў Старшыні Совета Саюза, так і ў распараджэнне Старшыні і намеснікаў Старшыні Совета Нацыянальнасцей па 300 тысяч рублёў у год па кожнай палаце на выдаткі па зносінах з дэпутатамі і на прадстаўніцтва.

Вярхоўны Совет СССР пераходзіць да абмеркавання пункта 2 парадку дня сумеснага пасяджэння—выбранне Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

Ад Совета Старэйшын Совета Саюза і ад Совета Старэйшын Совета Нацыянальнасцей выступае з прапановай дэпутат **С. В. Касіор.**

Выклаўшы меркаванні, якія па думцы Советаў Старэйшын павінны быць пакладзены ў аснову выбрання Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, дэпутат Касіор агалашае кандыдатаў, вылучаемых Советамі Старэйшын у Прэзідыум Вярхоўнага Совета. Перса-

нальным галасаваннем кожнага кандыдата Вярхоўны Совет выбірае Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР у наступным складзе:

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.**

1. **КАЛІНІН Міхаіл Іванавіч,** дэпутат ад Ленінградскай гарадской акругі, РСФСР.

**Намеснікі Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.**

2. **ХАХЛОЎ Іван Сергеевіч,** дэпутат ад Маскоўскай сельскай акругі, РСФСР.

3. **ПЕТРОЎСКІ Грыгорый Іванавіч,** дэпутат ад Днепрапетроўскай акругі, УССР.

4. **НАТАЛЕВІЧ Нікіфар Якаўлевіч,** дэпутат ад Слуцкай акругі, БССР.

5. **КАСУМАЎ Мір Башыр Фатдах оглы,** дэпутат ад Сабір-Абадскай акругі, Азербайджанская ССР.

6. **МАХАРАДЗЕ Філіп Есевіч,** дэпутат ад Самтрэдскай акругі, Грузінская ССР.

7. **ПАПЯН Мацак Петросавіч,** дэпутат ад Сцепанаванскай акругі, Армянская ССР.

8. **БАБАЕЎ Хівалі,** дэпутат ад Теджэнскай акругі, Туркменская ССР.

9. **АХУНБАБАЕЎ Юлдаш,** дэпутат ад Андзіжанскай акругі, Узбекская ССР.

10. **ШАГАДАЕЎ Мунавар,** дэпутат ад Гармскай акругі, Таджыкская ССР.

11. **УМУРЗАКАЎ Нурбапа,** дэпутат ад Чымкенцкай акругі, Казахская ССР.

12. **САЛІХАЎ Мурат,** дэпутат ад Ошскай акругі, Кіргізская ССР.

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.**

13. **ГОРКІН Александр Фёдаравіч,** дэпутат ад Канашскай акругі, Чувашская АССР.

**Члены Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.**

14. **БАГІРАЎ Мір Джафар,** дэпутат ад Бакінскай-Сталінскай акругі, Азербайджанская ССР.

15. **БЕРЫЯ Лаўрэнцій Паўлавіч,** дэпутат ад Тбіліскай-Сталінскай акругі, Грузінская ССР.

16. **БЛЮХЕР Васілій Канстанцінавіч,** дэпутат ад Варашылаўскай акругі, Далёка-Ўсходні край.

17. **БУДЗЁННЫ Семён Міхайлавіч,** дэпутат ад Шэпетоўскай акругі, УССР.

18. **ВОЛКАЎ Алексей Алексеевіч,** дэпутат ад Гомельскай гарадской акругі, БССР.

19. **ДЗІНМУХАМЕТАЎ Галей,** дэпутат ад Нова-Шэшмінскай акругі, Татарская АССР.

20. **ЖДАНАЎ Андрэй Александравіч,** дэпутат ад Валадарскай акругі, г. Ленінград.

21. **КАГАНОВІЧ Юлій Майсеевіч,** дэпутат ад Горкаўскай-Сталінскай акругі, Горкаўская вобласць.

22. **КОСАРЭЎ Александр Васільевіч,** дэпутат ад Орджанікідзеўскай акругі, УССР.

23. **КРУПСКАЯ Надзежда Канстанцінаўна,** дэпутат ад Серпухоўскай акругі, Маскоўская вобласць.

24. **МАЛЕНКОЎ Георгій Максіміліянавіч,** дэпутат ад Клінскай акругі, Маскоўская вобласць.

25. **МАСКАТАЎ Пётр Георгіевіч,** дэпутат ад Шахцінскай акругі, Растоўская вобласць.

26. **НІКАЛАЕВА Клаўдзія Іванаўна,** дэпутат ад Канынскай акругі, Калінінская вобласць.

27. **ПЕТРОЎСКІ Алексей Нікалаевіч,** дэпутат ад Краснагвардзейскай акругі, г. Ленінград.

28. **СІДАРАЎ Іван Іванавіч,** дэпутат ад Окцябрскай акругі, г. Масква.

29. **СТАЛІН Іосіф Вісарыёнавіч,** дэпутат ад Сталінскай акругі, г. Масква.

30. **ТАХТАРАЎ Адзіль-Гірэй,** дэпутат ад Махач-Калінскай гарадской акругі, Дагестанская АССР.

31. **ТІМАШЭНКА Семён Канстанцінавіч,** дэпутат ад Харкаўскай сельскай акругі, УССР.

32. **УГАРАЎ Александр Іванавіч,** дэпутат ад Смольнінскай акругі, г. Ленінград.

33. **ФЕДЗЬКО Іван Фёдаравіч,** дэпутат ад Жытомірскай акругі, УССР.

34. **ХРУШЧОЎ Нікіта Сергеевіч,** дэпутат ад Краснапрэсненскай акругі, г. Масква.

35. **ІБРАГІМАЎ Рахім Кірэевіч,** дэпутат ад Мелеузаўскай акругі, Башкірская АССР.

36. **ШКІРАТАЎ Матвей Фёдаравіч,** дэпутат ад Тульска-Разанскай акругі, РСФСР.

37. **ЮСУПАЎ Усман,** дэпутат ад Ташкенцкай-Сталінскай акругі, Узбекская ССР.

Пасля перапынку Вярхоўны Совет СССР пераходзіць да разгляду 3 пункта парадку дня сумеснага пасяджэння—утварэнне Ўрада СССР—Совета Народных Камісараў СССР.

Старшынствуючы Старшыня Совета Нацыянальнасцей **Н. М. Швернік** агалашае заяву Старшыні Совета Народных Камісараў СССР дэпутата **В. М. Молатава.**

«Старшыні сумеснага пасяджэння Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Совета СССР—тав. Шверніку.

У адпаведнасці з арт. 70-м Канстытуцыі СССР і ў сувязі з тым, што пытанне аб утварэнні Ўрада СССР пастаўлена на разгляд Вярхоўнага Совета СССР, Совет Народных Камісараў лічыць свае

абавязкі вычарпанымі і злагае свае поўнамоцтвы перад Вярхоўным Советам.

Совет Народных Камісараў СССР просіць Вас давесці аб гэтым да ведама Вярхоўнага Совета Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Старшыня Совета Народных Камісараў СССР—**В. Молатаў.**

17 студзеня 1938 года».

Вярхоўны Совет пераходзіць да абмеркавання заявы Старшыні Совета Народных Камісараў СССР.

Выступіўшыя ў спрэчках дэпутаты **А. А. Жданаў, М. Д. Багіраў, С. В. Касіор** падверглі крытыцы дзейнасць паасобных наркаматаў і камітэтаў Совета Народных Камісараў (Народны Камісарыят Замежных Спраў, Народны Камісарыят Воднага Транспарта, Народны Камісарыят Юстыцыі, Камітэт па справах мастацтваў і Камітэт Загатовак).

Па прапанове дэпутата **П. І. Шпілявога,** Вярхоўны Совет прымае наступную пастанову:

«Вярхоўны Совет СССР выказвае давер'е Совету Народных Камісараў СССР і даручае Старшыні Совета Народных Камісараў СССР таварышу Молатаву Вячэславу Міхайлавічу прадставіць прапановы аб складзе Ўрада, улічыўшы пры гэтым крытычныя заўвагі дэпутатаў, выказаныя ў ходзе спрэчак».

На гэтым другое сумеснае пасяджэнне Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей закрываецца.

# Інфармацыйнае паведамленне

## аб сумесным пасяджэнні Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей 19 студзеня 1938 года

19 студзеня, у 2 гадзіны дня, у Зале Пасяджэнняў Совета Саюза, у Крэмлі, адбылося трэцяе, заключнае сумеснае пасяджэнне Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей.

Старшынствуе Старшыня Совета Саюза **А. А. Андрэеў.**

Па пункту 5 парадка дня—аб назначэнні Пракурора СССР выступае дэпутат **Г. І. Петроўскі.** Ад імя Советаў Старэйшын Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей дэпутат Петроўскі прапануе назначыць пракурорам СССР дэпутата А. Я. Вышынскага.

Вярхоўны Совет назначае дэпутата **А. Я. Вышынскага** Пракурорам СССР.

Далей сумеснае пасяджэнне палат пераходзіць да разгляду пытання аб фармаванні Совета Народных Камісараў СССР. Дэпутат **В. М. Молатаў** уносіць на разгляд Вярхоўнага Совета склад Совета Народных Камісараў СССР.

В. М. Молатаў у сваёй прамове адказвае на заўвагі і пытанні дэпутатаў, зробленыя на папярэднім пасяджэнні ў спрэчках па пытанню аб утварэнні Ўрада СССР.

Персанальным галасаваннем Вярхоўны Совет утварае наступны склад Урада СССР—Совета Народных Камісараў СССР:

*Старшыня Совета Народных Камісараў СССР—*
**Вячэслаў Міхайлавіч МОЛАТАЎ.**

*Намеснікі Старшыні Совета Народных Камісараў СССР—*
**Влас Якаўлевіч ЧУБАР.**

**Анастас Іванавіч МІКАЯН.**

*Намеснік Старшыні Совета Народных Камісараў СССР*
*і Старшыня Камісіі Совецкага Кантроля—*
**Станіслаў Вікенцьевіч КАСІОР.**

*Старшыня Дзяржплана СССР—*
**Нікалай Алексеевіч ВАЗНЕСЕНСКІ.**

*Народны Камісар Замежных Спраў*
**Максім Максімавіч ЛІТВІНАЎ.**

*Народны Камісар Унутраных Спраў*
**Нікалай Іванавіч ЕЖОЎ.**

*Народны Камісар Абароны*
**Клімент Ефрэмавіч ВАРАШЫЛАЎ.**
*Народны Камісар Ваенна-Марскога Флота*
**Пётр Александравіч СМІРНОЎ.**
*Народны Камісар цяжкай прамысловасці*
**Лазар Майсеевіч КАГАНОВІЧ.**
*Народны Камісар машынабудаўніцтва*
**Александр Давідавіч БРУСКІН.**
*Народны Камісар абароннай прамысловасці*
**Міхаіл Майсеевіч КАГАНОВІЧ.**
*Народны Камісар харчовай прамысловасці*
**Абрам Лазарэвіч ГІЛІНСКІ.**
*Народны Камісар лёгкай прамысловасці*
**Васілій Іванавіч ШЭСТАКОЎ.**
*Народны Камісар лясной прамысловасці*
**Міхаіл Іванавіч РЫЖОЎ.**
*Народны Камісар шляхоў зносін*
**Алексей Венедыктавіч БАКУЛІН.**
*Народны Камісар воднага транспарта*
**Нікалай Іванавіч ПАХОМАЎ.**
*Народны Камісар сувязі*
**Мацвей Давідавіч БЕРМАН.**
*Народны Камісар земляробства*
**Роберт Індрыкавіч ЭЙХЕ.**
*Народны Камісар зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў*
**Ціхон Александравіч ЮРКІН**
*Народны Камісар загатовак*
**Міхаіл Васільевіч ПАПОЎ.**
*Народны Камісар фінансаў*
**Арсеній Грыгор'евіч ЗВЕРЭЎ.**
*Народны Камісар гандля*
**Міхаіл Паўлавіч СМІРНОЎ.**
*Народны Камісар знешняга гандля*
**Еўгеній Дзенісавіч ЧВЯЛЕЎ.**
*Народны Камісар юстыцыі*
**Нікалай Міхайлавіч РЫЧКОЎ.**
*Народны Камісар аховы здароўя*
**Міхаіл Фёдаравіч БОЛДЫРЭЎ.**
*Старшыня Праўлення Дзяржаўнага банка*
**Алексей Петровіч ГРЫЧМАНАЎ.**
*Старшыня Камітэта па справах вышэйшай школы*
**Сергей Васільевіч КАФТАНАЎ.**
*Старшыня Камітэта па справах мастацтваў*
**Алексей Іванавіч НАЗАРАЎ.**

На пасяджэнне Вярхоўнага Совета прыбываюць дэлегацыі ад рабочых, работніц, калгаснікаў, калгасніц, інтэлігенцыі і служачых раду рэспублік, гарадоў і абласцей, а таксама ад Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

Ад імя дэлегацыі горада Масквы і Маскоўскай вобласці выступае настаўніца школы імя Радзішчэва тав. **Астахава Н. Ю.;** ад Ленінградскай дэлегацыі—старшыня заўкома завода «Электросила» імя Кірава тав. **Скорабагацька Ю. Е.;** ад дэлегацыі Кіева і Харкава—рабочы стаханавец кіеўскага завода «Большэвик» тав. **Касцюк Н. Т.**; ад дэлегацыі Беларускай ССР—рабочы менскага завода імя Молатава тав. **Кускоў Ф. С.;** ад дэлегацыі Татарскай АССР—тав. **Мухаметаў Самат;** ад дэлегацыі шахцёраў і металургаў Донбаса і іншых раёнаў—упраўляючы трэстам «Донбасантрацит»—тав. **Рудэнка Ф. М.;** ад дэлегацыі Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота—капітан **Герасімаў Н. Н.** і младшы камандзір-падводнік—**Селязнёў А. Ф.**

Парадак дня Сесіі вычарпан. Старшынствуючы Старшыня Совета Саюза **А. А. Андрэеў** паведамляе, што па ўсіх пытаннях парадку дня Вярхоўным Советам прыняты аднагалосныя рашэнні і абвяшчае Першую Сесію Вярхоўнага Совета СССР закрытай.

---

# Пісьмо т. ІВАНОВА і адказ т. СТАЛІНА

## Тав. СТАЛІНУ

**ад штатнага прапагандыста РК ВЛКСМ Мантураўскага раёна. Курскай вобласці— ІВАНОВА Івана Філіпавіча**

Дарагі тав. Сталін, перараканаўча прашу растлумачыць мне наступнае пытанне: у нас на месцах, ды і ў абкоме комсамола ёсць дваякае разуменне аб канчатковай перамозе соцыялізма ў нашай краіне, г. зн. блытаюць першую групу супярэчнасцей з другой. У Вашых працах—аб лёсах соцыялізма ў Совецкім Саюзе ідзе гутарка аб двух групах супярэчнасцей—аб унутраных і знешніх.

Аб першай групе супярэчнасцей зразумела, што мы іх вырашылі— соцыялізм унутры краіны перамог.

Я хачу атрымаць адказ аб другой групе супярэчнасцей, г. зн. паміж краінай соцыялізма і капіталізма. Вы ўказваеце, што канчатковая перамога соцыялізма азначае вырашэнне знешніх супярэчнасцей, мае поўную гарантыю ад інтэрвенцыі, а значыць ад рэстаўрацыі капіталізма. А гэта група супярэчнасцей вырашыма толькі намаганнямі рабочых усіх краін.

Так, і тав. Ленін вучыў нас—«канчаткова перамагчы можна толькі ў сусветным маштабе, толькі сумеснымі намаганнямі рабочых усіх краін».

Будучы на семінары штатных прапагандыстаў у абкоме ВЛКСМ, я, грунтуючыся на Вашых працах, сказаў, што канчатковая перамога соцыялізма можа быць у сусветным маштабе, але абкомаўскія работнікі—Уражэнка (першы сакратар абкомола) і Казелкоў (інструктар па прапагандзе) маё выступленне кваліфікуюць, як трацкісцкую вылазку.

Я стаў ім зачытваць цытаты з Вашых прац па гэтаму пытанню, але Уражэнка прапанаваў мне закрыць трохтомнік, выказаўшы, што «тав. Сталін гаварыў у 1926 г., а мы ўжо маем 1938 г., тады мы не

мелі канчатковую перамогу, а цяпер маем, і нам цяпер думаць аб інтэрвенцыі і рэстаўрацыі ніяк не трэба»; далей, ён гаворыць—«мы цяпер маем канчатковую перамогу соцыялізма і маем поўную гарантыю ад інтэрвенцыі і рэстаўрацыі капіталізма». Ітак, мяне палічылі пасобнікам трацкізма, знялі з прапагандысцкай работы і паставілі пытанне аб прабыванні ў комсамоле.

Прашу, тав. Сталін, растлумачыць—ці маем мы канчатковую перамогу соцыялізма, ці пакуль яшчэ не? Можа быць я яшчэ не знайшоў дадатковага сучаснага матэрыялу па гэтаму пытанню ў сувязі са зменамі сучаснасці.

Я таксама лічу заяву Уражэнка антыбольшэвіцкай, што працы тав. Сталіна па гэтаму пытанню крыху ўстарэлі. І ці правільна паступілі работнікі абкома, палічыўшы мяне трацкістам. Гэта для мяне вельмі крыўдна і зняважліва.

Прашу, тав. Сталін, не адмоўце ў просьбе і дайце адказ па адрасу—Мантураўскі раён, Курскай вобл., 1-ы Засемскі с/совет ІВАНОВУ Івану Філіпавічу.

І. ІВАНОЎ.

18. I. 38 г.

## Адказ т-шу ІВАНОВУ Івану Філіпавічу

Вы, вядома, правы, т. Іваноў, а Вашы ідэйныя праціўнікі, г. зн. таварышы Уражэнка і Казелкоў—не правы.

І вось чаму.

Бясспрэчна, што пытанне аб перамозе соцыялізма ў адной краіне, у даным выпадку, у нашай краіне—мае ДЗВЕ РОЗНЫЯ стораны.

ПЕРШАЯ старана пытання аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне абнімае праблему ўзаемаадносін класаў унутры нашай краіны. Гэта—галіна ЎНУТРАНЫХ адносін. Ці можа рабочы клас нашай краіны перамагчы супярэчнасці з нашым сялянствам і наладзіць з ім саюз, супрацоўніцтва? Ці можа рабочы клас нашай краіны ў саюзе з нашым сялянствам разбіць буржуазію нашай краіны, адабраць у яе зямлю, заводы, шахты і т. п. і пабудаваць сваімі сіламі новае бяскласавае грамадства, поўнае соцыялістычнае грамадства?

Такавы праблемы, звязаныя з ПЕРШАЙ стараной пытання аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне.

Ленінізм адказвае на гэтыя праблемы станоўча. Ленін вучыць, што «МЫ МАЕМ УСЁ НЕАБХОДНАЕ ДЛЯ ПАБУДОВЫ ПОЎНАГА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА». Стала быць, мы можам і павінны ўласнымі сіламі адолець сваю буржуазію і пабудаваць соцыялістычнае грамадства. Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і іншыя паны, стаўшыя потым шпіёнамі і агентамі фашызма, адмаўлялі магчымасць пабудовы

*соцыялізма ў нашай краіне без папярэдняй перамогі соцыялістычнай рэволюцыі ў іншых краінах, у капіталістычных краінах. Гэтыя паны па сутнасці справы хацелі павярнуць нашу краіну назад, на шлях буржуазнага развіцця, прыкрываючы сваё адступніцтва фальшывымі спасыланнямі на «перамогу рэволюцыі» у іншых краінах. Аб гэтым іменна і ішла спрэчка ў нашай партыі з гэтымі панамі. Далейшы ход развіцця нашай краіны паказаў, што партыя была права, а Троцкі і кампанія былі не правы. Бо за гэты час мы паспелі ўжо ліквідаваць сваю буржуазію, наладзіць брацкае супрацоўніцтва са сваім сялянствам і пабудаваць у асноўным соцыялістычнае грамадства, не гледзячы на адсутнасць перамогі соцыялістычнай рэволюцыі ў іншых краінах.*

*Так абстаіць справа з ПЕРШАЙ стараной пытання аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне.*

*Я думаю, тав. Іваноў, што Ваша спрэчка з тт. Уражэнка і Казелковым датычыць не гэтай стараны пытання.*

*ДРУГАЯ старана пытання аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне абнімае праблему ўзаемаадносін нашай краіны з іншымі краінамі, з капіталістычнымі краінамі, праблему ўзаемаадносін рабочага класа нашай краіны з буржуазіяй іншых краін. Гэта—галіна ЗНЕШНІХ, МІЖНАРОДНЫХ адносін. Ці можа перамогшы соцыялізм адной краіны, які мае ў акружэнні мноства моцных капіталістычных краін, лічыць сябе зусім гарантаваным ад небяспекі ваеннага ўтаржэння (інтэрвенцыі), і, стала быць, ад спроб аднаўлення капіталізма ў нашай краіне? Ці могуць наш рабочы клас і наша сялянства ўласнымі сіламі, без сур'ёзнай дапамогі рабочага класа капіталістычных краін, адолець буржуазію іншых краін гэтак-жа, як яны адолелі сваю буржуазію? Інакш гаворачы: ці можна лічыць перамогу соцыялізма ў нашай краіне канчатковай, г. зн. свабоднай ад небяспекі ваеннага нападу і спроб аднаўлення капіталізма, пры ўмове, што перамога соцыялізма ёсць толькі ў адной краіне, а капіталістычнае акружэнне прадаўжае існаваць?*

*Такавы праблемы, звязаныя з ДРУГОЙ стараной пытання аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне.*

*Ленінізм адказвае на гэтыя праблемы адмоўна. Ленінізм вучыць, што «канчатковая перамога соцыялізма ў сэнсе поўнай гарантыі ад рэстаўрацыі буржуазных адносін магчыма толькі ў міжнародным маштабе» (гл. вядомую рэзалюцыю XIV канферэнцыі ВКП). Гэта значыць, што сур'ёзная дапамога міжнароднага пролетарыята з'яўляецца той сілай, без якой не можа быць вырашана задача канчатковай перамогі соцыялізма ў адной краіне. Гэта, вядома, не значыць, што мы самі павінны сядзець, склаўшы рукі, у чаканні дапамогі звонку. Наадварот, дапамога з боку міжнароднага пролетарыята павінна быць злучана з нашай работай па ўзмацненню абароны нашай краіны, па ўзмацненню Чырвонай арміі і Чырвонага флота, па мабілізацыі ўсёй*

*краіны на барацьбу з ваенным нападам і спробамі рэстаўрацыі буржуазных адносін.*

*Вось што гаворыць наконт гэтага Ленін:*

> *«Мы жывем не толькі ў дзяржаве, але і Ў СІСТЭМЕ ДЗЯРЖАЎ, і існаванне Совецкай рэспублікі побач з імперыялістычнымі дзяржавамі працяглы час нямысліма. Урэшце або адно, або другое пераможа. А пакуль гэты канец наступіць, рад самых жахлівых сутычак паміж Совецкай рэспублікай і буржуазнымі дзяржавамі немінучы. Гэта значыць, што пануючы клас, пролетарыят, калі толькі ён хоча і будзе панаваць, павінен даказаць гэта і сваёй ваеннай арганізацыяй» (т. XXIV, стар. 122).*

*І далей:*

> *«Мы акружаны людзьмі, класамі, урадамі, якія адкрыта выражаюць нянавісць да нас. Трэба памятаць, што ад усякага нашэствія мы заўсёды на валаску» (т. XXVII, стар. 117).*

*Сказана востра і моцна, але чэсна і праўдзіва, без прыкрас, як умеў гаварыць Ленін.*

*На аснове гэтых прадпасылак у «Пытаннях ленінізма» Сталіна было сказана:*

> *«Канчатковая перамога соцыялізма ёсць поўная гарантыя ад спроб інтэрвенцыі, а, значыць, і рэстаўрацыі, бо колькі-небудзь сур'ёзная спроба рэстаўрацыі можа мець месца толькі пры сур'ёзным падтрыманні звонку, толькі пры падтрыманні міжнароднага капітала. Таму падтрыманне нашай рэволюцыі з боку рабочых усіх краін, а тым больш перамога гэтых рабочых хоць-бы ў некалькіх краінах, з'яўляецца неабходнай умовай поўнай гарантыі першай перамогшай краіны ад спроб інтэрвенцыі і рэстаўрацыі, неабходнай умовай канчатковай перамогі соцыялізма» («Пытанні ленінізма», 1937 г., стар. 134).*

*На самой справе было-б смешна і глупа закрываць вочы на факт капіталістычнага акружэння і думаць, што нашы знешнія ворагі, напрыклад, фашысты не паспрабуюць пры выпадку зрабіць на СССР ваенны напад. Так могуць думаць толькі сляпыя бахвалы або скрытыя ворагі, якія жадаюць усыпіць народ. Не менш смешна было-б адмаўляць, што ў выпадку малейшага поспеху ваеннай інтэрвенцыі інтэрвенты паспрабуюць разбурыць у занятых імі раёнах совецкі лад і аднавіць буржуазны лад. Хіба Дзенікін або Калчак не аднаўлялі ў занятых імі раёнах буржуазны лад? Чым фашысты лепш Дзенікіна або Калчака? Адмаўляць небяспеку ваеннай інтэрвенцыі і спроб рэстаўрацыі пры існаванні капіталістычнага акружэння могуць толькі галавацяпы або скрытыя ворагі, якія жадаюць прыкрыць бахвальствам сваю варожасць і стараюцца дэмабілізаваць народ. Але ці*

*можна лічыць перамогу соцыялізма ў адной краіне канчатковай, калі гэта краіна мае вакол сябе капіталістычнае акружэнне і калі яна не гарантавана поўнасцю ад небяспекі інтэрвенцыі і рэстаўрацыі? Ясна, што нельга.*

*Так абстаіць справа з пытаннем аб перамозе соцыялізма ў адной краіне.*

*Выходзіць, што пытанне гэта мае дзве розныя праблемы: а) праблему ЎНУТРАНЫХ адносін нашай краіны, г. зн. праблему перадолення сваёй буржуазіі і пабудовы поўнага соцыялізма, і б) праблему ЗНЕШНІХ зносін нашай краіны, г. зн. праблему поўнага забеспячэння нашай краіны ад небяспек ваеннай інтэрвенцыі і рэстаўрацыі. Першая праблема ўжо вырашана намі, паколькі наша буржуазія ўжо ліквідавана і соцыялізм ужо пабудован у асноўным. Гэта называецца ў нас перамогай соцыялізма, або дакладней, перамогай соцыялістычнага будаўніцтва ў адной краіне. Мы маглі-б сказаць, што гэта перамога з'яўляецца канчатковай, калі-б наша краіна знаходзілася на востраве і калі-б вакол яе не было мноства іншых, капіталістычных краін. Але паколькі мы жывем не на востраве, а «у сістэме дзяржаў», значная частка якіх варожа адносіцца да краіны соцыялізма, ствараючы небяспеку інтэрвенцыі і рэстаўрацыі, то мы гаворым адкрыта і чэсна, што перамога соцыялізма ў нашай краіне не з'яўляецца яшчэ канчатковай. Але з гэтага вынікае, што другая праблема пакуль не вырашана і яе прыдзецца яшчэ вырашыць. Больш таго: другую праблему немагчыма вырашыць у тым-жа парадку, у якім вырашылі першую праблему, г. зн. шляхам толькі ўласных намаганняў нашай краіны. Другую праблему можна вырашыць толькі ў парадку злучэння сур'ёзных намаганняў міжнароднага пролетарыята з яшчэ больш сур'ёзнымі намаганнямі ўсяго нашага совецкага народа. Трэба ўзмацніць і ўмацаваць інтэрнацыянальныя пролетарскія сувязі рабочага класа СССР з рабочым класам буржуазных краін; трэба арганізаваць палітычную дапамогу рабочага класа буржуазных краін рабочаму класу нашай краіны на выпадак ваеннага нападу на нашу краіну, роўна як арганізаваць усялякую дапамогу рабочага класа нашай краіны рабочаму класу буржуазных краін; трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку...*

*З Вашага пісьма відаць, што т. Уражэнка трымаецца іншых, не зусім ленінскіх поглядаў. Ён, аказваецца, сцвярджае, што «мы цяпер маем канчатковую перамогу соцыялізма і маем поўную гарантыю ад інтэрвенцыі і рэстаўрацыі капіталізма». Не можа быць сумнення, што т. Уражэнка ў корані не праў. Такое сцвярджэнне т. Уражэнка можа быць растлумачана толькі неразуменнем акружаючай рэчаіснасці і ня-*

*веданнем элементарных палажэнняў ленінізма, або пустапарожнім хвастаўствам зазнаўшагася маладога чыноўніка. Калі мы на самай справе «маем поўную гарантыю ад інтэрвенцыі і рэстаўрацыі капіталізма», то ці патрэбны нам пасля гэтага моцная Чырвоная армія, Чырвоны флот, Чырвоная авіяцыя, моцны Асоавіяхім, узмацненне і ўмацаванне інтэрнацыянальных пролетарскіх сувязей? Ці не лепш будзе мільярды грошай, якія ўходзяць на ўзмацненне Чырвонай арміі, звярнуць на іншыя патрэбы, а Чырвоную армію скараціць да мінімума, або нават распусціць зусім? Такія людзі, як т. Уражэнка, калі яны суб'ектыўна нават адданы нашай справе, аб'ектыўна небяспечны для нашай справы, бо яны сваім хвастаўствам вольна або нявольна (гэта ўсёроўна!) усыпляюць наш народ, дэмабілізуюць рабочых і сялян і дапамагаюць ворагам засцігнуць нас знянацку ў выпадку міжнародных ускладненняў.*

*Што датычыць таго, тав. Іваноў, што Вас, аказваецца, «знялі з прапагандысцкай работы і паставілі пытанне аб прабыванні ў комсамоле», то апасацца Вам гэтага не варта. Калі людзі з абкома ВЛКСМ сапраўды захочуць упадобіцца чэхаўскаму унтэр-афіцэру Прышыбееву, можна не сумнявацца, што яны прайграюць на гэтым. У нашай краіне не любяць Прышыбеевых.*

*Цяпер Вы можаце судзіць, ці ўстарэла вядомае месца з кнігі «Пытанні ленінізма» па пытанню аб перамозе соцыялізма ў адной краіне. Я сам-бы вельмі хацеў, каб яно ўстарэла, каб не было больш на свеце такіх непрыемных рэчаў, як капіталістычнае акружэнне, небяспека ваеннага нападу, небяспека рэстаўрацыі капіталізма і т. п. Але, на жаль, гэтыя непрыемныя рэчы ўсё яшчэ прадаўжаюць існаваць.*

*І. СТАЛІН.*

12 лютага 1938 г.

# XX год Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота

## Прамова Народнага Камісара Абароны Маршала Совецкага Саюза тав. К. Е. ВАРАШЫЛАВА

**на ўрачыстым пасяджэнні Маскоўскага совета Рабоча-Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў з удзелам грамадскіх арганізацый і вайсковых часцей, прысвечаным 20-годдзю Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота**

Таварышы!

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот разам з усімі народамі Совецкай дзяржавы святкуюць дваццацігоддзе свайго існавання.

Армія і Флот пролетарскай рэволюцыі на працягу двух дзесяцігоддзяў былі верным аплотам новага соцыялістычнага грамадства і разам з сваёй дзяржавай безупынна раслі, удасканальваліся і к дадзенаму моманту прадстаўляюць сабой магутную ўзброеную сілу перамогшага соцыялізма.

У годы грамадзянскай вайны Чырвоная Армія і Чырвоны Марскі Флот, складаючы перадавы баявы атрад змагаючагася народа, крывёй адстаялі сваю Радзіму і вялікую справу Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыі. Яны на-галаву разбілі і знішчылі памешчыцка-буржуазную і кулацкую контррэволюцыю, без астатку ліквідаваўшы ўсе яе ўзброеныя полчышчы. У цяжкіх і кровепралітных бітвах Чырвоная Армія і Чырвоны Флот разграмілі арміі замежных інтэрвентаў і выкінулі іх з ганьбай за межы Совецкай дзяржавы.

Многія дзесяткі тысяч бясстрашных байцоў аддалі сваё жыццё за справу народа, змагаючыся ў радах Чырвонай Арміі і Чырвонага Ваенна-Марскога Флота. Імёны такіх народных герояў, як Чапаеў, Шчорс, Руднёў, Пархоменка, Лазо, Дундзіч, матрос Жэлезнякоў і многіх іншых, будуць пастаянна жыць у сэрцах пакаленняў. Аб іх удзячны совецкі народ складае свае песні, аб іх пішуць і яшчэ будуць многа пісаць кніг. Яны натхняюць нашу моладзь на подвігі і гераізм і служаць выдатным прыкладам бязмежнай адданасці свайму народу, Радзіме і вялікай справе Леніна—Сталіна.

Таварышы!

7 лістапада 1917 года рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна зверглі ўрад памешчыкаў і капіталістаў Расіі і ўзялі ўладу ў свае рукі. На свет з'явілася новая, яшчэ ніколі да таго не існаваўшая Совецкая соцыялістычная дзяржава на чале з Рабоча-Сялянскім Урадам. З гэтага моманту разгарэлася сапраўды гераічная барацьба рабочага класа, працоўнага сялянства і ўсяго чэснага, што

было ў нашым народзе, з азвярэлай расійскай контррэволюцыяй і іншаземнай інтэрвенцыяй. Пачалася ўзброеная схватка новага, толькі што нарадзіўшагася соцыялістычнага свету са светам гвалту і злачынстваў—са светам капіталістычным. Керэнскія і Гучковы, генералы Красновы, Каледзіны, Карнілавы, Дзенікіны і Калчакі—**усе** гэтыя абаронцы царскага самадзяржаўя і капіталістычнага ладу, агенты замежных інтэрвентаў і многія іншыя душыцелі рускага народа ўзначалілі чорныя сілы контррэволюцыі і прабавалі ў зародку разграміць і патапіць у крыві Рэспубліку Советаў.

Узброеныя сілы маладой Совецкай дзяржавы, якія складаліся ў той час са шматлікіх, але разрозненых і дрэнна арганізаваных атрадаў Чырвонай гвардыі, створаных рабочымі на фабрыках і заводах, і асобных часцей старой царскай арміі, перайшоўшых на старану пролетарскай рэволюцыі, не маглі, разумеецца, доўга процістаяць аб'яднаным сілам унутранай контррэволюцыі і іншаземнай інтэрвенцыі, у кароткі час ахапіўшай усе ўскраіны Совецкай Расіі.

Партыя Леніна—Сталіна, Рабоча-Сялянскі Ўрад на вопыце разгарнуўшайся крывавай барацьбы пераконваліся ў неабходнасці хутчэйшага пераходу да рэгулярнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якая магла-б адстаяць справу рэволюцыі ад унутранай контррэволюцыі і паспяхова адбіць шматлікія рэгулярныя войскі замежных інтэрвентаў.

28 студзеня 1918 года вялікі Ленін падпісаў дэкрэт аб арганізацыі новай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, а праз 15 дзён—другі дэкрэт аб роспуску старога марскога флота і стварэнні новага Рабоча-Сялянскага Чырвонага Флота.

Наступныя падзеі паказалі, наколькі мудры і дальнабачны былі гэтыя рашэнні.

Ужо к пачатку 1919 года ўнутраная контррэволюцыя, не лічачы замежных інтэрвентаў, мела звыш 700.000 белагвардзейскіх войск, зарганізаваных у атрады, дывізіі, карпусы і арміі, кіруемыя віднейшымі царскімі генераламі і генштабамі буйнейшых капіталістычных краін. Разгарнулася сапраўдная кровепралітная вялікая вайна.

На-смерць перапалоханае пролетарскай рэволюцыяй у Расіі імперыялістычнае звяр'ё ўсіх велічынь—ад буйных сланоў да мізэрных мосек уключна—спяшалася на дапамогу расійскай контррэволюцыі з мэтай урваць пажырней кавалак, забяспечыць за сабою долю ў грабяжы совецкага народа.

Знятыя спецыяльна з імперыялістычных фронтаў і кінутыя на нашу тэрыторыю войскі інтэрвентаў, разам з расійскай контррэволюцыяй, захватвалі адну за другою часткі совецкай тэрыторыі. Беларусь і Украіна, Паўночны Каўказ і Закаўказзе, Паволожжа і Сярэдняя Азія, Урал, Заходняя і Ўсходняя Сібір, Забайкалле і Далёкі Ўсход, Курск, Варонеж, Орол і непасрэдныя подступы да самога Ленінграда—усе гэтыя раёны і гарады палыхалі ў вогнішчы вайны, паліваліся свяшчэннай крывёю нашых рабочых і сялян.

Германія, Англія, Францыя, Італія, ПАЗШ, Японія, Польшча, Румынія, Эстонія, Латвія, Літва, Чэхаславакія, Фінляндыя, Грэцыя—такі няпоўны пералік краін, урады якіх прыкладалі тады ўсе намаганні, каб з дапамогай сваіх войск, разам з белымі арміямі, затапіць у крыві рабочых і сялян пролетарскую рэволюцыю, заняволіць нашы народы, знішчыць іх свабоду і незалежнасць, расчляніць і разграбіць па частках Совецкую дзяржаву.

Да 400. 000 адборных салдат, узброеных лепшай баявой тэхнікай на чале з няменш адборнымі афіцэрамі і генераламі, рушаных указанымі дзяржавамі з поўдню, захаду, поўначы і ўсходу, палілі нашы гарады і сёлы, грабілі, вешалі і расстрэльвалі совецкі народ,—словам, на справе дэманстравалі перад нашым народам сваю капіталістычную «цывілізацыю» і «культуру».

Паспяхова змагацца ў разліку на канчатковую перамогу з гэтымі сіламі ўнутранай контррэволюцыі і замежнай інтэрвенцыі маглі толькі рэгулярная, пабудаваная па ўсіх правілах ваеннай арганізацыі, Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Чырвоны Марскі Флот.

І наша партыя разгарнула тытанічную работу па арганізацыі рэгулярнай Чырвонай Арміі і Чырвонага Ваенна-Марского Флота, па стварэнню моцнай базы для баявога харчавання ўзнікшых ва многіх месцах баявых франтоў.

Нейма верна цяжкі былі ўмовы для гэтай работы. Страшэнная стомленасць народа ад шматгадовай імперыялістычнай вайны, разбураная і без таго нямоцная народная гаспадарка, кудасочная ваенная прамысловасць, сабатаж старога чыноўніцтва ўсіх ведамстваў, дзяржаўнага і грамадскага апарата—усё гэта, як здавалася многім, стаяла непераможнай перашкодай на шляху правадзіўшыхся партыяй і Ўрадам мерапрыемстваў па стварэнню сваіх боездольных узброеных сіл.

У дадатак да ўсяго сказанага, таварышы, унутры самой нашай партыі разгарнулі здрадніцкую работу трацкісцка-бухарынскія элементы, якія прабавалі з дапамогаю хлёсткіх, а на справе правакатарскіх лозунгаў, збіць з ленінскага шляху нашу партыю, перашкодзіць вялікаму Леніну і яго верным саратнікам ажыццяўляць адзіна правільную палітыку нашай дзяржавы.

«Не мір і не вайна», «Свяшчэнная вайна супроць сусветнай буржуазіі»—усе гэтыя і падобныя ім правакатарскія лозунгі Троцкіх, Бухарыных і інш. мелі адну адзіную мэту ўпутаць нашу краіну ва ўзброеную сутычку з імперыялістамі ў момант, калі Совецкая ўлада яшчэ не мела сваёй моцнай арміі і гэтым самым ліквідаваць Совецкую ўладу і расчысціць шлях для перамогі буржуазіі і поўнай рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне.

Але партыя Леніна—Сталіна, геніяльны Ленін усё перамаглі, разграмілі гэтых, як тады здавалася, левакомуністычных фразёраў, а на самой справе—здраднікаў і правакатараў, і, не гледзячы на ўсе труднасці, Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Чырвоны Флот былі створаны. У агні бітваў жорсткай грамадзянскай вайны гэтыя армія і флот складваліся ў магутную дысцыплінаваную пераможную шматмільённую сілу Совецкай дзяржавы, канчаткова разграміўшую айчынную контррэволюцыю і на-галаву разбіўшую замежных інтэрвентаў.

Наша партыя ўправе ганарыцца, таварышы, што ёй удалося стварыць такія ўзброеныя сілы перамогшага пролетарыята, якія з гонарам вышлі з цяжкага выпрабавання, адстаялі свабоду і мірную працу для рабочых і сялян вялікага Совецкага Саюза.

## У чым сіла Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Чырвонага Флота

Як магло здарыцца, што галодныя, змучаныя імперыялістычнай вайною, рабочыя і сяляне нашай краіны ва ўзброенай барацьбе перамаглі арміі царскіх генералаў і міжнародных інтэрвентаў?

Як магло адбыцца, што маладая Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот, колькасна ўступаўшыя сваім ворагам, слаба ўзброеныя, цярпеўшыя нястачу ў боепрыпасах і самым неабходным, апракінулі, разбілі на-галаву шматлікія, добра забяспечаныя баявою тэхнікай арміі ўнутранай і знешняй контррэвалюцыі?

Галоўная прычына бліскучых перамог Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота заключаецца ў тым, таварышы, што рабочы клас і працоўнае сялянства Расіі змагаліся за свае класавыя інтарэсы, за сваю кроўную справу, што яны, рабочыя і сяляне, самкнуліся ў цесны, брацкі саюз у барацьбе за гэтыя свае класавыя інтарэсы, за незалежнасць сваёй Радзімы, за сваю народную ўладу.

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот былі не толькі ваеннай, баявой арганізацыяй. Яны адначасова былі самай сапраўднай арганізацыяй неразрыўнай сувязі рабочых і сялян! Тут у цесным садружастве байцоў і камандзіраў—лепшых сыноў нашага народа—расла і мацнела ў баявых сутычках з ворагамі, ва ўмовах баявога паходнага жыцця, непарушная дружба, брацкі саюз рабочых і сялян.

Таварыш Ленін у адным са сваіх зваротаў да Чырвонай Арміі вясной 1919 г., растлумачваючы чырвонаармейцам мэты інтэрвентаў гаварыў:

> «Чырвоная Армія моцна тым, што свядома і аднадушна ідзе ў бой за сялянскую зямлю, за ўладу рабочых і сялян, за Савецкую ўладу.
>
> Чырвоная Армія непераможна, бо яна аб'яднала мільёны працоўных сялян з рабочымі, якія навучыліся цяпер змагацца... смялей і смялей ідуць на ворага, ведаючы, што блізка яго паражэнне» **(Ленін,** т. XXIV, стар. 197).

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот моцны тым, што яны не процістаяць народу, не пастаўлены над ім, не адгароджаны ад яго. Яны—самі складаюцца з лепшай часткі народа, служаць яму, абараняюць інтарэсы ўсяго народа, тым самым абараняючы свае ўласныя інтарэсы.

У рады Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота заўсёды ішлі перадавыя, свядомыя прадстаўнікі рабочага класа і сялянства. На ўсіх этапах грамадзянскай вайны, у самыя цяжкія моманты жыцця нашай дзяржавы, ні на міг не парывалася неразрыўная, арганічная сувязь Чырвонай Арміі са сваім народам. Армія і Флот безупынна і багата чэрпалі сілы з рабочых і сялянскіх мас, папаўняючы свае радзеўшыя рады. Усё лепшае, што мелася ў народзе, ішло ў Чырвоную Армію, ішло ў бой.

Пастаяннай любоўю і ўвагай акружаў народ сваю армію.

Таварыш Сталін у сваёй прамове, прысвечанай 10-годдзю РСЧА, гаварыў:

> «Нідзе ў свеце няма такіх любоўных і клапатлівых адносін з боку народа да арміі, як у нас... Наша армія ёсць адзіная ў свеце, якая мае спачуванне і падтрыманне з боку рабочых і сялян. У гэтым яе сіла, у гэтым яе моц» **(Сталін.** Аб трох асаблівасцях Чырвонай Арміі).

Узброеныя сілы Савецкага Саюза з'яўляліся своеасаблівым акумулятарам рэвалюцыйнай энергіі і энтузіязма мільённых мас працоўных. Тут, у радах Арміі і Флота, гэта воля, рэвалюцыйная энергія і энтузіязм рабочых і сялян арганізаваныя і накіраваныя бальшэвіц-

кай партыяй у русло барацьбы за Совецкую ўладу, за шчасце і новае жыццё народа, нязменна давалі пераможныя, бліскучыя рэзультаты.

У гэтым была, ёсць і будзе сіла і магутнасць нашай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота. Гэтага пазбаўлены арміі капіталістычных краін, назначэнне якіх заключаецца ў тым, каб абараняць інтарэсы невялікай кучкі эксплаатататараў капіталістаў супроць інтарэсаў мільёнаў працоўных, супроць сваіх уласных інтарэсаў.

Старая царская армія, як і іншыя буржуазныя арміі, была аплотам закабалення і прыгнечання народаў, насяляўшых царскую Расію.

Наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія, разграміўшы Калчака і Дзенікіна, Юдзеніча, Врангеля і інш. ворагаў працоўных, разбіўшы і выгнаўшы ў тры шыі з межаў нашай краіны замежных інтэрвентаў і іх агентуру—буржуазна-нацыяналістычныя ўрады, вызваляла прыгнечаныя народы і забяспечвала іх палітычную і эканамічную свабоду і незалежнасць. І таму яна была і ёсць блізкай і роднай вызваленым народам Совецкага Саюза.

З першых дзён свайго існавання Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот будаваліся і выхоўваліся ў духу сапраўднага інтэрнацыяналізма. Інакш і не магло быць. Дзецішча большэвіцкай партыі, яны цалкам успрынялі вялікія ідэі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Гэта рабіла і робіць чырвонаармейцаў і чырвонафлотцаў, нашых камандзіраў і начальніцкі састаў свядомымі барацьбітамі за соцыялізм, за справу вызвалення працоўных усяго свету ад капіталістычнага рабства.

Чырвонаармейцу і чырвонафлотцу, усяму асабоваму саставу Арміі і Флота чужды пачуцці расавай і нацыянальнай непрыязні, чаго не можа сказаць аб сабе ні адна армія капіталістычных дзяржаў. На адварот, асновай духоўнага і маральнага выхавання салдат любой капіталістычнай арміі з'яўляецца шавінізм, прывіццё салдату нацыянальнай і расавай нянавісці і варожасці да людзей не яго нацыі або расы.

Чырвонаармеец і чырвонафлотец, як і ўсякі совецкі грамадзянін, паважае працоўных усіх нацый і рас, адносіцца да іх, як да братоў па працы, па класу. Іменна таму нашы байцы, Чырвоная Армія і Чырвоны Флот карысталіся і карыстаюцца ў працоўных усяго свету нязменнай любоўю.

Крыніца сілы Чырвонай Арміі і Чырвонага Флота заключаецца, нарэшце, у тым, што іх стварыла, сваёй крывёю заўсёды змацоўвала наша партыя, што іх пеставалі, імі кіравалі таварышы Ленін і Сталін. **(Працяглыя апладысменты).**

Усе бліскучыя перамогі ў грамадзянскай вайне, усё жыццё і дзейнасць Чырвонай Арміі і Флота неразрыўна звязаны з нашай партыяй. Ваенныя Советы фронтаў і армій, партыйныя арганізацыі, ваенныя камісары і палітычныя аддзелы ў часцях—гэтыя органы камуністычнай партыі—былі і застаюцца тым цудоўным цэментам, які змацоўваў і змацоўвае ўвесь асабовы састаў арміі ў адзіны, маналітны, адданы большэвіцкай партыі і Совецкаму Ўраду баявы калектыў.

Ваенны камісар, яго арганізатарская і палітыка-маральная роля ў дзеючай арміі былі выключна вялікі.

«Без ваенкома мы не мелі-б Чырвонай арміі», гаварыў В. І. Ленін.

(Ленін, т. XXV, стар. 302).

Роля камісара ў даны час узрастае ў сувязі з новымі задачамі, якія стаяць перад Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміяй.

«Ваенкомы павінны быць душою ваеннай справы», гаворыць таварыш Сталін*).

Гэта ўскладае на ваеннага камісара надзвычай вялікую адказнасць і патрабуе ад яго напружанай большэвіцкай работы ва ўсіх галінах ваеннай справы.

Ваенны камісар абавязан ва ўсё ўваходзіць і абавязкова вывучаць і ведаць даручаную яму справу. Без сапраўдных палітработнікаў і ваенных камісараў у нас не можа быць той Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якая нам патрэбна для барацьбы і перамог над капіталістычнымі, фашысцкімі арміямі ў выпадку іх нападу на Совецкую краіну.

І ў годы грамадзянскай вайны і ў перыяд мірнага будаўніцтва партыя Леніна—Сталіна, яе лепшыя людзі, пастаўленыя на розныя пасты ў радах Чырвонай Арміі, забяспечвалі ёй боездольнасць, поспехі і паступальны рух.

Велізарна і рознастайна роля ў барацьбе і будаўніцтве Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Чырвонага Флота выдатных пролетарскіх рэволюцыянераў, верных сыноў партыі, Леніна—Сталіна, незабыўнай памяці нашых друзей—Фрунзе, Дзержынскага, Кірава, Куйбышэва і Орджанікідзе. Справы і подвігі гэтых выпрабаваных барацьбітоў і будаўнікоў нашай вялікай соцыялістычнай дзяржавы і яе ўзброеных сіл будуць служыць прыкладам для жывучых і будучых пакаленняў. Памяць аб іх для ўсіх працоўных свяшчэнна!

У годы грамадзянскай вайны наша партыя ператварыла большую частку сваіх радоў у ваенных арганізатараў і байцоў. Яна растлумачвала чырвонаармейскім і чырвонафлоцкім масам мэты і задачы ўзброенай барацьбы, згуртоўвала іх вакол зразумелых і дарагіх ім лозунгаў і паказвала прыклады сапраўднага гераізма ў барацьбе за іх ажыццяўленне.

Па далёка няпоўных даных к лютаму 1919 года, г. зн. праз год пасля выдання Ленінскіх дэкрэтаў аб арганізацыі ўзброеных сіл краіны, у Чырвонай Арміі і Флоце было ўжо 1.500 партыйных ячэек.

У жніўні 1919 года лік комуністаў дзеючай арміі перавышаў 120.000 чалавек. У «партыйны тыдзень», які адбываўся ў Чырвонай Арміі і Флоце ў кастрычніку—снежні 1919 года, у комуністычную партыю ўступіла да 25% усёй Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

Калі прыняць пад увагу, таварышы, ваенна-палітычнае становішча Совецкай Рэспублікі таго часу, калі вогненнае кальцо контррэволюцыі і замежнай інтэрвенцыі, безупынна сціскаючыся, пагражала самаму сэрцу пролетарскай рэволюцыі—Маскве, калі бядоты вайны дасягнулі свайго кульмінацыйнага пункту, калі голад, тыф і іншыя жахі гулялі па совецкай зямлі, стане зразумелым, якім бязмежным давер'ем і любоўю карысталася наша партыя ў байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі і Чырвонага Флота. Фактам свайго ўступлення ў рады нашай партыі вялізная маса байцоў падкрэслівала сваю бязмежную адданасць справе пролетарскай рэволюцыі, сваю поўную гатоўнасць змагацца ў радах партыі за ўладу Советаў, за справу соцыялізма да канца, да поўнай перамогі над капіталістамі і памешчыкамі, кулакамі і інтэрвентамі.

*) Тэзісы для прапагандыстаў к XX годдзю РСЧА і Ваенна-Марскога Флота. „Правда" ад 16. II. 1938 г.

К пачатку 1920 года ў Чырвонай Арміі і Флоце ўжо налічвалася каля 300.000 комуністаў і кандыдатаў, г. зн. большая палова ўсёй нашай партыі. Гэты трохсоттысячны масіў комуністаў, кіруемы Леніным і Сталіным, і быў, у канчатковым выніку, той арганізуючай і накіроўваючай сілай, якая стварыла магутнасць і несакрушальнасць Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота і прадвызначыла канчатковую нашу перамогу.

Вялікі Ленін з выключнай увагай і з асобым клопатам адносіўся да ўсяго, што датычыла арганізацыі ўзброеных сіл пролетарскай дыктатуры. Пад яго асабістым кіраўніцтвам вырашаліся ўсе важнейшыя пытанні арганізацыі і камплектавання, палітработы, снабжэння і баявой дзейнасці Чырвонай Арміі. Ленін часта асабіста даваў канкрэтныя ўказанні па рознастайнейшых пытаннях мабілізацыі, арганізацыі рэволюцыйнай актыўнасці мас для забеспячэння перамогі. Ён няўхільна і ўважліва сачыў за тым, каб фронты задавальняліся па магчымасці ўсім неабходным. Ён знаходзіўся ў безупыннай дзелавой, заусёды актуальнай перапісцы з многімі палітработнікамі, камандзірамі, установамі арміі і флота. Ён хацеў усё ведаць, што робіцца на фронтах, у арміях, у асобных часцях. Ён ва ўсё ўнікаў.

Аднак, сачыць, уздзейнічаць на баявыя фронты ён мог толькі праз сваіх верных, адданых справе і яму, нашаму Леніну, людзей. **Бліжэйшым саратнікам і пастаянным ваенным советнікам Леніна быў таварыш Сталін. (Бурныя апладысменты).**

На працягу трох год грамадзянскай вайны таварышу Сталіну прышлося падоўгу працаваць на розных баявых фронтах. Не было амаль ні аднаго баявога ўчастка, дзе-б не пабываў ці не працаваў таварыш Сталін. А там, дзе ваеннае становішча рабілася цяжкім, крызісным, ён з'яўляўся, як правіла, абавязкова. Ленін дасканала ведаў, што толькі Сталіну пад сілу справіцца з задачамі, якія ўзнікалі ў сувязі з небяспекай, а іншы раз і з пагражаўшай катастрофай на фронце. І Ленін у гэтым ні разу не памыліўся. **(Працяглыя апладысменты).**

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот перамагалі, былі і астаюцца моцнымі таму, што яны, апрача баявой тэхнікі, узброены яшчэ вялікімі ідэямі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, што кожны крок іх дзейнасці быў пранізан уплывам нашай партыі, што імі ў грамадзянскай вайне кіравалі вялікія стратэгі пролетарскай рэволюцыі Ленін і Сталін **(Апладысменты).**

## РСЧА расла і мацнела разам з ростам усёй краіны

Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот на працягу ўсіх 20-ці год будаваліся і ўдасканальваліся пад кіраўніцтвам партыі і ўрада, пад пільным і непасрэдным наглядам нашага Сталіна і к цяперашняму часу з'яўляюцца цалкам сучаснымі, тэхнічна добра аснашчонымі ўзброенымі сіламі, дастойнымі тых гістарычных задач, якія ўскладзены на іх нашай партыяй і Рабоча-Сялянскім Урадам. **(Апладысменты).**

Велізарныя дасягненні ў будаўніцтве ўзброеных сіл нашай краіны за 20 год мы маем таму, што ў самым соцыялістычным ладзе закладзены неабмежаваныя магчымасці росквіту ўсіх прадукцыйных сіл Совецкай дзяржавы; таму, што сама соцыялістычная дзяржава за 20 год вырасла ў магутную, культурную, безупынна квітнеючую соцыялістычную дзяржаву.

За дзве сталінскія пяцігодкі ў жыцці нашай краіны многае і карэнным чынам змянілася.

Гэтыя гады былі гадамі бурнага росту нашай соцыялістычнай індустрыі і калгаснай сельскай гаспадаркі. За гэтыя гады арганізавана занава або атрымалі велізарнае развіццё цэлы рад важнейшых галін прамысловасці.

Усё гэта непасрэдна і прама адлюстравалася на аснашчэнні і ўзбраенні Арміі і Флота; усё гэта прадаўжае служыць надзейнай і трывалай базай безупыннага росту і ўдасканальвання нашых узброеных сіл.

Таварышы! Мы ўсе добра ведаем, што такое сучасныя арміі буржуазных, імперыялістычных краін.

Гэта перш за ўсё баявыя машыны самых рознастайных канструкцый і баявога прызначэння. Яшчэ не так даўно паасобныя буржуазныя ваенныя спецыялісты—апалагеты танкаў і авіяцыі—так захапляліся машынай, што ўгледзелі ў ёй панацэю ад усіх бед, нават ад немінучых надыходзячых рэволюцый. Яны бачылі ў баявых машынах збаўленне ад неабходнасці мець шматмільённыя арміі, якія, як цяпер ужо добра вядома, не заўсёды паслухмяны і пакорны; марылі аб малых машынізаваных арміях, укамплектаваных надзейным, верным пануючаму буржуазнаму ладу асабовым складам. Апрача пісання і разгавораў, аднак, з гэтага нічога не вышла. Цяпер прызнана і праводзіцца ў жыццё ўсімі ўрадамі і генеральнымі штабамі капіталістычных краін правіла: пабольш баявых машын і сучаснай зброі, але абавязкова і самая большая армія, якую толькі ў сілах мець даная буржуазная дзяржава. Паглядзім, як толькі пры гэтым будзе вырашацца імперыялістамі пытанне наконт небяспекі магчымых «непрыемных непаразуменняў» (чытай рэволюцый), немінуча звязаных з вялікімі мабілізаванымі арміямі, але гэта ўжо іх справа.

Імперыялістычная буржуазія, асабліва фашысцкая яе частка, у пытаннях узбраенняў, можна сказаць, закусіла вудзіла. Зараз ужо не гонка паміж буржуазнымі дзяржавамі ў справе ўзбраенняў, а ўзнікла і дзейнічае нейкая дзікая скачка. Трацяцца шалёныя сродкі на ўзбраенні, і ўсё-ж усе не перастаюць крычаць: мала, мала, давай больш!

У шалёным ажыятажы ўзбраенняў буржуазія арганізоўвае сусветную бойню, якая гатова разразіцца ў любы момант. Арганізаваны і раздуты фашысцкімі краінамі—на Захадзе і Ўсходзе—ваенны пажар пагражае распаўсюдзіцца і ахапіць увесь свет.

Пад пастаяннай пагрозай нападу знаходзіцца наша Совецкая краіна. Яе баяцца, яе больш за ўсё ненавідзяць імперыялісты, яна папярок горла стала фашысцкім правадырам і заправілам. Яны гатовы ўтапіць нас у лыжцы вады.

Наша Армія і Флот, таварышы, існуюць не для агрэсіі. Цяпер гэта вядома і маломў дзіцяці. Яны не збіраюцца нападаць на каго-б там ні было. Але зорка сачыць, пільна наглядаць за адбываючыміся падзеямі, быць гатовымі кожны міг знішчыць ворага, не дапусціўшы яго перайсці нашы граніцы, гэта іх прамы і свяшчэнны абавязак. Армія і Флот заклікаены абараняць сваю Совецкую, соцыялістычную дзяржаву. Але яны, на-жаль, не могуць перашкодзіць любой буржуазнай арміі ці групе іх напасці на нашу Радзіму іншым шляхам, як толькі проціпаставіць ім сваю магутнасць і сілу. Вось чаму наша Армія і Ваенна-Марскі Флот не могуць, не маюць права быць горш, слабей, у якіх бы там ні было адносінах, армій і флотаў сваіх капіталістычных суседзяў.

Нашы ўзброеныя сілы прыведзены ў належны баявы парадак, яны машынізаваны не горш, чым у любой капіталістычнай краіне. Мы ведаем, што партыя і ўрад, наш мудры Сталін будуць і надалей рабіць усё, каб нашы Армія і Флот безупынна атрымлівалі высокую баявую тэхніку, а, значыць, каб узброеныя сілы соцыялізма былі самымі магутнымі, самымі машынізаванымі і таму ніколі, нідзе і нікім непераможнымі. **(Працяглыя апладысменты).**

## Сухапутныя сілы

Нашы стралковыя войскі маюць у поўнай меры сучаснае і ў патрэбнай колькасці ўзбраенне.

Аснашчонасць баявой тэхнікай і ўзбраеннем нашай стралковай дывізіі к данаму часу стаіць на належным узроўні і не ўступае дывізіям самых перадавых капіталістычных краін.

Пяхотныя войскі Чырвонай Арміі заслугоўваюць таго, каб імі ганарылася ўся Совецкая краіна.

Колькі-б мы ні мелі танкаў, авіяцыі і іншых навейшых сродкаў барацьбы, пяхота пакуль што астаецца асноўным родам войск. Без пяхоты ні танкі, ні авіяцыя, ні конніца выра шыць поўнасцю задач баёў і вайны не могуць.

Нашы скромныя, але выдатныя стралкі і камандзіры і на манеўрах, і пры ахове совецкіх граніц паказваюць узоры баявой вывучкі, самаадданасці, вынослівасці, рухавасці, стойкасці і высокай баявой гатоўнасці. Мы ведаем, што гераічныя стралковыя войскі, не гледзячы на дрэннае ўзбраенне і аснашчэнне, былі галоўнай і пераможнай сілай у грамадзянскай вайне. Яны і надалей астануцца грознай сілай для ворага, надзейным вартавым Совецкай Рэспублікі.

## Артылерыя

Артылерыя, не гледзячы на наяўнасць новых сур'ёзных баявых сродкаў падаўлення, як танкі і авіяцыя, астаецца адным з важнейшых родаў войск у сучаснай вайне. Гэта палажэнне поўнасцю пацвярджаецца іспанскай і япона-кітайскай войнамі, дзе артылерыя, мяркуючы па даных прэсы, займае адно з галоўных месц у баявых аперацыях. Таму намі, побач з развіццём новых родаў войск, артылерыі заўсёды аддавалася і аддаецца асабліва вялікая ўвага. Даволі сказаць, што гэтай справай непасрэдна і ўшчыльную займаецца сам таварыш Сталін. **(Бурныя апладысменты).**

Асабовы састаў нашай артылерыі цалкам падрыхтован і добра ведае сваю справу. Быць добрым артылерыстам, асабліва артылерыйскім камандзірам, азначае быць усебакова адукаваным чалавекам.

Бадай, ні адзін род зброі не патрабуе ад камандзіра і байца такой дысцыпліны, розуму, волі і ведаў, як артылерыя. Рабоча-сялянскія камандзіры і байцы Чырвонай артылерыі, не пакладаючы рук працуюць над сваім удасканаленнем і дабіваюцца нядрэнных рэзультатаў. Наша артылерыя расце, удасканальваецца і знаходзіцца на вышыні вялікіх, баявых задач, якія стаяць перад ёю.

## Конніца

Конніца ва ўсіх арміях свету перажывае, вярней перажыла ўжо, крызіс і ва многіх арміях амаль што зышла на нішто. Вопыт сусветнай, пазіцыйнай вайны і асабліва пасляваеннае развіццё авіяцыі, танкаў і насычэнне сучасных баявых фронтаў артылерыйскім і кулямётным агнём,—усё гэта, разам узятае, прывяло генеральныя штабы

многіх капіталістычных краін да пераканання, што конніца ў будучай вайне не знойдзе свайго месца.

Мы стаім на іншым пункце погляду. Зразумела, умовы для дзеяння ў конніцы ў будучых войнах будуць рэзка адметнымі ў параўнанні з тым, што было раней, і ранейшая гордая назва царыцы палёў зараз не зусім да яе падыйдзе. Гэта ўсё бясспрэчна, асабліва для заходніх краін. Аднак, мы перакананы, што наша доблесная конніца яшчэ не раз прымусіць аб сабе гаварыць, як аб магутнай і пераможнай Чырвонай кавалерыі. Наша конніца поўнасцю і адпаведна сучасным умовам рэарганізавана. Яна не безабаронна супроць авіяцыі і танкаў і пабудавана так, што і ва ўзаемадзеянні з іншымі родамі войск і самастойна можа вырашаць сур'ёзныя баявыя задачы. Нашы граніцы, таварышы, неабсяжны і ворагаў у Совецкай дзяржавы нямала. Чырвонай конніцы, яе доблесным байцам і камандзірам таму будзе дзе прыкласці свае намаганні і справай даказаць, што Чырвоная кавалерыя па-ранейшаму з'яўляецца пераможнай і сакрушальнай узброенай сілай і можа і будзе вырашаць вялікія задачы на ўсіх баявых франтах. **(Апладысменты).**

### Механізаваныя войскі і танкавыя часці

Мотамеханізаваныя і танкавыя часці мы будуем, выходзячы з вопыту імперыялістычнай вайны і ўліку вопыту войнаў Іспаніі і Кітая. Мы ўлічваем таксама і своеасаблівасць і асаблівасці нашых граніц, прымаем пад увагу таксама змены ў арганізацыі іншых родаў войск.

К данаму моманту мы маем даволі добрыя ў колькасных і якасных адносінах мотамеханізаваныя і танкавыя войскі.

Асабовы састаў гэтых войск у адносінах ведання сваёй тэхнікі і вынослівасці на ўсіх вучэннях і манеўрах нязменна паказвае сябе дастойным даверанай ім гэтай магутнай зброі. Доблесныя танкісты ўладаюць сваімі танкамі выдатна, нярэдка прама мастацкі, ведаюць і любяць сваю справу. Танкавыя войскі будуць адыгрываць на вайне, як гэта мае месца ў Іспаніі і Кітаі ўжо зараз, вялікую і сур'ёзную ролю.

Я магу вас запэўніць, таварышы, што танкавыя войскі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі заўсёды ў поўнай гатоўнасці выступіць на абарону сваіх граніц, кінуцца на ўзброеныя сілы нападаўшага на нашу Радзіму ворага. **(Апладысменты).**

### Хімічныя часці

Яны маюць абарончае значэнне. Як вядома, у 1925 г. мы ў Жэневе падпісалі пратакол, які забараняе выкарыстоўванне хімічнай і бактэрыялагічнай зброі на вайне. Совецкая дзяржава ўзятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы выконвае няўхільна. На-жаль, па-іншаму глядзяць на такога роду акты некаторыя іншыя дзяржавы і ўрады. Асабліва небяспечны погляд на гэты прадмет у фашысцкіх дзяржаў. Вось чаму і нам прыходзіцца праграму абучэння хімічных войск дапаўняць раздзеламі, якія выходзяць за рамкі падрыхтоўкі часцей толькі да абароны ад хімічнага нападу. Мы не хочам, не маем права быць засцігнутымі знянацку.

Хімічныя часці ідуць нага ў нагу з іншымі родамі войск і працуюць многа і нядрэнна і, калі агрэсіўнаму ворагу ўздумаецца калі-небудзь акрапіць нашы войскі хімічнымі сродкамі, ён атрымае ў адказ тую-ж страшную хімію на сваю ўласную галаву. **(Бурныя апладысменты).**

## Ваенна-паветраныя сілы

Партыя, Урад і асабліва асабіста таварыш Сталін заўсёды аддавалі і нязменна аддаюць вялікую ўвагу развіццю ваенна-паветраных сіл. Авіяцыйным часцям у будучых войнах адводзіцца, як вядома, сур'ёзная рознабаковая, у тым ліку і вялікая самастойная роля. На іх будуць ускладзены задачы не толькі камбінаваных ва ўзаемадзеянні з іншымі родамі войск удараў, ім будзе прадастаўлена рашэнне і самастойных стратэгічных задач. Ужо цяпер Франко ў Іспаніі, японцы ў Кітаі скарыстоўваюць свае авіясілы не толькі як дапаможныя сродкі, але прабуюць рашаць і вялікія аператыўныя задачы.

Сучасная авіяцыя пры яе вялікім радыусе дзеянняў становіцца сродкам, з дапамогаю якога любы агрэсар можа ажыццявіць напад на іншую дзяржаву, калі яму ўздумаецца, нават не маючы з ёю агульных граніц.

Совецкі Саюз мае граніцы са многімі капіталістычнымі краінамі. Мы павінны быць заўсёды і як належыць на-пагатове. Мы абавязаны ўважліва прыглядацца і сачыць за развіццём авіяцыі за граніцай. У гонцы ўзбраенняў паміж буржуазнымі краінамі самая шалёная гонка адбываецца ў галіне будаўніцтва авіяцыі. Буржуазныя краіны, асабліва фашысцкія, не шкадуюць ні сродкаў, ні намаганняў, каб безупынна павялічваць свае і без таго ўжо вялізарныя авіяцыйныя сілы, каб быць мацней адна другой. Само сабою зразумела, таварышы, мы ні ў якіх спаборніцтвах і гонках не ўдзельнічаем. Аднак, мы не астаемся сляпымі і глухімі да адбываючагася за рубяжом. Мы робім усё, каб Ваенна-Паветраны Флот Совецкага Саюза быў на вышыні, на якой ён абавязан быць. Я павінен сказаць, што Паветраныя Сілы не адстаюць ад іншых нашых, больш старых родаў войск, а ў тымсім іх выпярэджваюць. Гэта справа таксама знаходзіцца пад асабістым і няўхільным кіраўніцтвам таварыша Сталіна. **(Апладысменты).**

Нашы выдатныя лётчыкі—гордасць совецкага народа—на совецкіх самалётах не раз паказалі сябе сапраўднымі героямі. Нашы лётчыкі ўладаюць поўнасцю, па-сапраўднаму тэхнікай авіяцыйнай справы; яны ведаюць і любяць яе, як належыць ведаць і любіць сваю справу ўсякаму чэснаму партыйнаму і непартыйнаму большэвіку, усякаму чэснаму байцу РСЧА.

Совецкія лётчыкі, моцныя духам, з непахіснай сталінскай воляй, справай даказваюць, на што яны здольны. Лётчыкі—Героі Совецкага Саюза становяцца прызнанымі героямі і за межамі нашай Радзімы. Яны—пераможцы непрыступных паветраных прастораў—увасабляюць сабой духоўную сілу, спакой і непахісную волю совецкага народа і баявую магутнасць нашай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота. **(Працяглыя апладысменты).**

## Іншыя роды войск

У складзе РСЧА і Ваенна-Марскога Флота, побач з асноўнымі родамі войск, ёсць войскі дапаможнага назначэння,—войскі сувязі, інжынерныя, чыгуначныя, проціпаветранай абароны і інш. Аб іх мала гавораць, яны скромны, але гэта не менш патрэбныя, а галоўнае—не менш добрыя, чым любыя іншыя войскі. Людзі і тут, як правіла, дасканалыя, шмат працуючыя і ведаючыя сваю справу.

## Марскі флот

Капіталістычныя краіны, побач з узмацненнем сваіх сухапутных і паветраных сіл, прадаўжаюць фарсавана і ўзмоцнена ўзбройвацца на моры.

Наша краіна на дзесяткі тысяч кілометраў амываецца марамі і акіянамі. Ахоўваць совецкія берагі справа не лёгкая. Таму партыя і Ўрад аддаюць нашаму Ваенна-Марскому Флоту і берагавой абароне асабліва сур'ёзную ўвагу.

У даны час Ваенна-Марскі Флот прадстаўляе велічыню сур'ёзнага значэння. Ён ужо настолькі моцны, каб надзейна ахоўваць усе нашы блізкія і далёкія марскія граніцы. Воляю партыі і Совецкага Ўрада, пад непасрэдным наглядам і кантролем таварыша Сталіна, прыняты меры да таго, каб наш Ваенна-Марскі Флот у бліжэйшыя гады вырас, стаў на ўзровень тых задач, якія стаяць перад краінай па абароне сваіх марскіх граніц.

У мэтах далейшага развіцця Марскога Флота партыя і Ўрад прызналі неабходным выдзяленне Ваенна-Марскіх Сіл у самастойны агульнасаюзны Народны Камісарыят Ваенна-Марскога Флота.

Ваенна-Марскі Флот, яго выдатныя кадры—чырвонафлотцы, камандзіры і палітработнікі заўсёды прадстаўлялі сабою лепшую баявую часць узброеных сіл Совецкага Саюза. Цяпер-жа, калі Ваенна-Марскі Флот стаў самастойным Народным Камісарыятам, яго выдатныя людзі зрабілі ўсё, а стала быць тое, што трэба, каб у невялікія тэрміны дабіцца вялікіх рэзультатаў па будаўніцтву магутнага Чырвонага Ваенна-Марскога Флота. **(Апладысменты).**

Мы дасканала ведаем асабовы састаў Марскіх Сіл, ведаем яго ўпартасць, баявую загартоўку, беззаветную адданасць справе соцыялізма, справе партыі Леніна—Сталіна і мы перакананы ў паспяховым вырашэнні Народным Камісарыятам Ваенна-Марскога Флота, на чале з Петром Александравічам Смірновым, усіх пастаўленых перад ім задач. **(Апладысменты).**

* * *

Таварышы! Уся наша соцыялістычная індустрыя і Народны Камісарыят Абароннай Прамысловасці ў першую галаву прарабілі і прадаўжаюць весці гіганцкую работу па аснашчэнню і ўзбраенню сваіх Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

На падставе перамог двух сталінскіх пяцігодак, праведзена карэнная тэхнічная рэканструкцыя нашых узброеных сіл. Соцыялістычныя фабрыкі і заводы далі і даюць Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскому Флоту сучасную баявую тэхніку ўсіх найменаванняў і назначэння.

Сёння, у дзень свайго юбілея, Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот прыносяць сваю чырвонаармейскую падзяку ўсім стаханаўцам, рабочым, інжынерам, тэхнікам і кіраўнікам, асабліва ваеннай прамысловасці, так многа і бліскуча папрацаваўшым для стварэння баявой магутнасці ўзброеных сіл Совецкага Саюза. **(Апладысменты).** Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот абяцаюць умела ўладаць усёй атрымліваемай імі зброяй і калі вораг прымусіць прымяніць яе на справе—узяць з яе ўсю яе знішчальную здольнасць. **(Апладысменты).**

**Чырвонаармейцы, чырвонафлотцы, камандзіры і начальнікі**

Таварышы!

Сіла і баявая магутнасць Чырвонай Арміі і Чырвонага Флота заключаецца не толькі і нават не столькі ва ўзбраенні і спецыяльнай тэхніцы, колькі ў совецкіх людзях, кадрах арміі—камандным, начальніцкім і палітычным складзе і радавых байцах.

«Кадры рашаюць усё»—гаворыць таварыш Сталін. І калі гэта няўхільная ісціна наогул, то ў прымяненні да ўзброеных сіл нашай краіны гэта ісціна памнажаецца на спецыфіку ролі і значэння людзей, кадраў у вайне.

Што-ж сабой прадстаўляюць кадры нашых узброеных сіл у даны час? Я думаю, што мне няма патрэбы даказваць, што байцы, камандзіры і палітработнікі Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота—гэта лепшыя сыны свайго народа, людзі, якія душой, усім жыццём адданы сваёй вялікай Радзіме, людзі, якія напружана і не без поспеху працуюць над сабой, каб поўнасцю ўладаць даручанай ім справай і быць сапраўднымі барацьбітамі за вялікую справу соцыялізма, быць заўсёды і як належыць гатовымі абараніць сваю Радзіму.

Адной з асноўных труднасцей у першыя годы будаўніцтва ўзброеных сіл было стварэнне сваіх, падрыхтаваных у ваенных адносінах, камандных і начальніцкіх кадраў.

Камандныя пасады ў годы грамадзянскай вайны замяшчаліся салдатамі, унтэр-афіцэрамі, афіцэрамі старой арміі, а часта і проста перадавымі рабочымі і сялянамі, хоць і не маючымі ніякай ваеннай падрыхтоўкі. Але з таго часу шмат вады ўцякло, і былыя царскія салдаты, унтэры, калісьці простыя рабочыя і сяляне, ператварыліся ў адукаваных, ведаючых ваенную справу, чырвоных камандзіраў і начальнікаў.

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот у сучасны момант распалагаюць дванаццаццю спецыяльнымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, якія выпускаюць штогод не адну тысячу камандзіраў, інжынераў, урачоў і інш. спецыялістаў ваеннай справы.

Ваенныя вучылішчы за апошнія 10 год даюць Арміі і Флоту штогод дзесяткі тысяч камандзіраў і тэхнікаў.

Адным з найбольш істотных дасягненняў у справе фармавання камандных кадраў мы лічым стварэнне патрэбнага кадра моцных, ведаючых, палітычна пісьменных малодшых камандзіраў. Наш малодшы камандзір гэта не толькі бліжэйшы для чырвонаармейца клапатлівы начальнік. Гэта яго пастаянны таварыш, настаўнік і друг у баявой вучобе і рабоце. Малодшы камандзір на вайне будзе адыгрываць выключна вялікую і надзвычай важную ролю. Гэтыя кадры мы ўсяляк расцім і ўдасканальваем. Многія сотні і тысячы з іх атрымліваюць патрэбную падрыхтоўку і становяцца лейтэнантамі.

Баец Чырвонай Арміі і Флота быў заўсёды, а за апошнія годы стаў у асаблівасці ведаючым сваю справу воінам, дысцыплінаваным салдатам рэволюцыі, адданым сваёй Радзіме і справе соцыялізма. Не баючыся ўпасці ў перапавелічэнне, прама скажу—лепшых людзей, чым нашы чырвонаармейцы, чырвонафлотцы, цяжка выдумаць.

Наш камандзір усіх ступеней і рангаў і чырвонаармеец і чырвонафлоцец—гэта браты па класу. Іх інтарэсы адзіны, яны служаць адной вялікай справе соцыялізма, аднолькава змагаюцца за свой народ, за сваю вялікую Совецкую Радзіму. Яны прадстаўляюць адну згуртаваную брацкую сям'ю.

Людзі Чырвонай Арміі—гэта перадавыя людзі нашай краіны.

Салдат буржуазнай арміі выкрэсліваецца з жыцця працоўнага калектыва. Буржуазныя законы накіраваны да таго, каб засцерагчы армію ад пабочнага ўздзеяння. Армія па-за палітыкай—гаворыць хлуслівы дэвіз буржуазіі.

Па-за палітыкай толькі салдацкая маса, яна пазбаўлена і грамадзянскіх правоў і якога-небудзь уплыву на дзяржаўнае жыццё, але затое яна—паслухмяная зброя ў руках правячай буржуазіі і вернага ёй начальства.

Наша армія і флот жывуць поўным жыццём сваёй краіны. У першым Совецкім парламенце—Вярхоўным Совеце СССР—86 чалавек дэпутатаў ад Чырвонай Арміі і Чырвонага Флота. Разам з іншымі прадстаўнікамі працоўных яны заклікаиы рашаць лёс Совецкай дзяржавы, кіраваць шматмільённай совецкай краінай.

Байцы і камандзіры, знаходзячыся ў Чырвонай Арміі і Флоце, не перастаюць быць барацьбітамі і будаўнікамі свайго жыцця. Больш таго. У Чырвонай Арміі людзі развіваюць і ўмацоўваюць тыя рысы, якія ўласцівы новаму соцыялістычнаму чалавеку. Малады рабочы, селянін або служачы за годы ваеннай службы змяняецца да непазнавальнасці. К моманту ўходу яго з радоў Чырвонай Арміі і Флота ён становіцца ўжо палітычна зрэлым чалавекам, з патрэбным запасам ведаў, з культурным кругазорам, адданым справе комунізма, справе сваёй соцыялістычнай Радзімы. Ён ідзе ў запас арміі дысцыплінаваным тружанікам, будаўніком сваёй соцыялістычнай Радзімы і свайго чалавечага шчасця.

Чырвоная Армія і Чырвоны Флот з'яўляюцца школай соцыялістычнай культуры і соцыялістычнай асветы.

Яны распалагаюць багацейшай сеткай самых рознастайных культурна-асветных устаноў, забяспечваюць магчымасць байцу і камандзіру безупынна развівацца. Дамы Чырвонай Арміі і Флота, клубы і бібліятэкі—гэта, па сутнасці справы, своеасаблівыя чырвонаармейскія і чырвонафлоцкія універсітэты, дзе разгорнуты рознабаковыя віды вучобы—ваеннай, палітычнай і агульнаадукацыйнай.

Мы з удзячнасцю адзначаем вялікую і каштоўную дапамогу ў гэтай справе Чырвонай Арміі і Флоту людзей навукі і мастацтва—шэфаў РСЧА і Флота—сваімі лекцыямі, дакладамі і паказам лепшых узораў совецкага мастацтва. **(Апладысменты).**

Байцы, увесь асабовы састаў РСЧА і Ваенна-Марскога Флота ведаюць, што толькі будучы культурнымі, палітычна свядомымі яны могуць забяспечыць умелае і ўсебаковае скарыстанне тэхнічнай магутнасці краіны і арміі для хутчэйшай перамогі ў прадстаячых бітвах з імперыялістамі, фашыстамі за сваю Радзіму, за соцыялізм.

Людзі Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота—стойкія і надзейныя абаронцы нашай Радзімы. Яны ўпарта працуюць над умацаваннем боездольнасці і магутнасці ўзброеных сіл сваёй краіны. Не адна тысяча з іх адзначана Совецкім Урадам вышэйшымі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

У радах Чырвонай Арміі 55 Герояў Совецкага Саюза. **(Апладысменты).** А быць героем сярод нашага гераічнага народа—гэта лёс самых перадавых з многіх тысяч лепшых людзей Совецкага Саюза.

Крыніцай гераізма, храбрасці, смеласці і адвагі байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі і Флота з'яўляецца іх адданасць справе нашай Комуністычнай Партыі, іх бязмежная любоў да сваёй Радзімы, да свайго народа і вялікага Сталіна.

Кадры ўзброеных сіл Саюза ССР моцны сваёй большэвіцкай ідэйнасцю і соцыялістычнай свядомасцю. Гэтай соцыялістычнай свядомасцю і разуменнем рэволюцыйных задач Чырвоную Армію ўзбройвае наша большэвіцкая партыя і яе армейская арганізацыя.

В. І. Ленін і таварыш Сталін не раз указвалі, што перамогі Чырвонай Арміі на фронтах грамадзянскай вайны былі магчымымі дзякуючы самаадданасці армейскіх комуністаў і той рабоце па соцыялістычнай асвеце і арганізацыі мас, якую партыйная арганізацыя, паліторганы і ваенныя камісары праводзілі сярод чырвонаармейцаў і камандзіраў.

Наша армейская партыйная арганізацыя прадстаўляе сабой у даны час шматлікі, моцна згуртаваны і адданы справе Леніна—Сталіна баявы атрад нашай партыі. Ён з'яўляецца палітыка-маральным стрыжнем, арганізуючым жыццё, усю дзейнасць узброеных сіл.

Бліжэйшым памочнікам армейскай партарганізацыі ў яе вялікай і рознабаковай рабоце з'яўляецца Ленінскі Комсамол, які налічвае ў Арміі да поўмільёна чалавек. **(Апладысменты).** Комсамольцы Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота гэта—дасканалы, залаты фонд абароны дзяржавы працоўных. Яны ідуць нага ў нагу з партыйцамі, паказваюць выдатныя ўзоры ўпартасці ў дасягненні пастаўленых мэт, ва ўменні перамагаць усе і ўсякія труднасці, у трывалым асваенні даручэнай ім справы, у беззаветнай адданасці большэвіцкай партыі і сваёй соцыялістычнай Радзіме.

Усесаюзны Ленінскі Комсамол, шэфствуючы над Ваенна-Марскім Флотам і Паветранымі Сіламі, аказвае ім вялікую і ўсебаковую дапамогу ў справе выканання імі сваіх задач.

Ваенныя Советы акруг, флотаў, паліторганы і ваенныя камісары ў часцях і ўстановах Арміі і Флота вядуць вялікую і напружаную работу па палітычнаму абслугоўванню байцоў і камандзіраў, па кіраўніцтву партыйным і грамадскім жыццём узброеных сіл. Іх задачы і роля велізарны цяпер, ва ўмовах мірнага часу, яны ўзрастуць яшчэ ў большай ступені ў часе вайны.

Таварышы!

Мы акружаны з усіх бакоў капіталістычнымі краінамі,—аб гэтым неаднаразова гаварыў Ленін, аб гэтым нястомна гаворыць таварыш Сталін. Капіталістычныя краіны гэта—іншы, заўсёды і немінуча варожы свет нашай краіне, краіне соцыялізма, дзяржаве рабочых і сялян.

Таму нашы класавыя ворагі, у першую галаву і ў асаблівасці фашысты, вельмі добра разумеюць ролю кадраў Чырвонай Арміі і Флота ў справе абароны соцыялістычнай бацькаўшчыны, рабілі і будуць надалей рабіць усё, ні перад чым не спыняючыся, каб мець доступ у іх асяроддзе, мець у іх сваю агентуру, шпіёнаў, здраднікаў і дыверсантаў.

Яно так і здарылася.

Фашысцкім і іншым правакатарам і разведчыкам удалося запусціць свае шчупальцы ў рады Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

На працягу раду год у Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскім Флоце, прытаіўшыся, арудавалі такія мацёрыя здраднікі Радзімы, шпіёны, як Тухачэўскі, Гамарнік, Якір, Убарэвіч, Орлоў, Корк, Лудры, Эйдэман, Сіўкоў і нямала іншых, не менш мацёрых і подлых здраднікаў.

Гэта ваенна-фашысцкая банда доўга і старанна скрывала свае здрадніцкія справы. Яна арудавала цішком, здраджваючы і прадаючы сваю бацькаўшчыну, сваю Армію і Флот.

За здраду Радзіме, за здраду Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі ваенна-фашысцкія бандыты, здраднікі і шпіёны панеслі заслужаную кару. Яны змецены з твару зямлі, знішчаны. **(Працяглыя апладысменты).**

Чырвоная Армія пасля знішчэння ваенна-фашысцкай банды і ачышчэння сваіх радоў ад прадажнай, здрадніцкай мярзотнасці стала нязмерна больш моцнай, яшчэ больш чым калі-небудзь маналітнай і спаянай вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол нашага Рабоча-Сялянскага Ўрада. **(Апладысменты).**

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот былі і заўсёды будуць неад'емнай, састаўною часткай свайго вялікага совецкага народа.

Усім, хто марыў праз здраднікаў і шпіёнаў, подла ашукаўшых народ і Армію, аслабіць магутнасць узброеных сіл Совецкага Саюза, зрабіць падкоп пад крэпасць нашай дзяржавы, мы скажам:—пралічыліся, паны! ваша карта яшчэ раз і канчаткова біта! **(Бурныя апладысменты).**

А тых, чыя парочная душа здольна на здраду Радзіме, на якую-б там ні было здзелку з класавым ворагам, мы папярэджваем—здрада, прадажніцтва, шпіёнства і ўсё падобнае на гэтыя гнусныя злачынствы супроць народа, дзяржавы будуць заўсёды і абавязкова канчацца для іх ганебнай смерцю.

Таварышы!

Класавы вораг хітры, наглы і каварны—гэта ўсім добра вядома. Ён не склаў і ніколі не складзе сваёй атручанай зброі. Мы не маем таму права аддавацца благадушнасці, манілаўшчыне. Мы—ваенныя людзі—павінны і будзем у сто разоў больш пільнымі, аглядальнымі, уважлівымі да акружаючых, лепш будзем будаваць нашу работу і тым забяспечым яшчэ больш бурны рост усіх старон жыцця, будаўніцтва і ўдасканальвання нашых Рабоча-Сялянскай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

Камандзірам, начальнікам і ў асаблівасці паліторганам і камісарам трэба памятаць і ніколі не забываць, што толькі бальшэвіцкай пільнасцю ў спалучэнні з напружанай, разумнай, арганізаванай работай мы забяспечым сябе ад пранікнення ў наша асяроддзе замежных разведак, толькі гэтым шляхам засцеражэм сябе ад гнусных спроб класавых ворагаў атручваць сваім ядам слабых духам. Паліторганы і камісары працуюць многа, але павінны працаваць яшчэ больш, яшчэ больш чотка, яшчэ лепш. Яны павінны і будуць працаваць па-сталінску. **(Апладысменты).**

## Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот свае задачы выканаюць поўнасцю

Таварышы!

Совецкі Саюз акружаюць з усіх бакоў капіталістычныя дзяржавы. Совецкі Саюз—адзіная пакуль на зямлі дзяржава рабочых і сялян. Яна, наша соцыялістычная дзяржава, як перадавы аванпост чалавецтва, стаіць на заваяваных у старога капіталістычнага свету пазіцыях, у гэтым найвялікшая заслуга нашых рабочых і сялян. Але, будучы пакуль адзінай краінай соцыялізма, яна падвергнута заўсёды небяспецы ваеннага нападу звонку.

Таварыш Сталін днямі ў сваім адказе комсамольцу тав. Іванову сказаў, між іншым, наступнае:

«На самай справе было-б смешна і глупа закрываць вочы на факт капіталістычнага акружэння і думаць, што нашы знешнія ворагі, напрыклад, фашысты, не паспрабуюць пры выпадку зрабіць на СССР ваенны напад. Так могуць думаць толькі сляпыя бахвалы або скрытыя ворагі, якія жадаюць усыпіць народ».

Гэтымі словамі таварыша Сталіна сказана ўсё.

Самая міралюбівая палітыка нашага Ўрада і народа не можа гарантаваць нас ад агрэсій.

Наш народ, яго магутная соцыялістычная дзяржава, Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот,—вось тыя сілы, якія служаць адзінай перашкодай для агрэсіўнай, асабліва для фашысцкай часткі буржуазіі, якая рыхтуецца абрушыцца вайной супроць нашай Радзімы.

У тым-жа адказе комсамольцу тав. Іванову таварыш Сталін сказаў:

«Трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку...»

Вось палітычнае евангеліе і праграма дзеянняў для нашай дзяржавы, для ўсяго народа ў галіне знешняй палітыкі, у справе абароны сябе ад ваенных нападаў. **(Апладысменты).**

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот—увесь асабовы склад узброеных сіл Совецкага Саюза, прыслухоўваючыся да слоў таварыша Сталіна, будуць рабіць усё ад іх залежнае, каб яшчэ больш узмацніць і ўмацаваць свае рады, яшчэ больш упарта працаваць над удасканаленнем сваёй баявой магутнасці і быць нязменна гатовымі і абавязкова здольнымі не толькі даць належны адпор якому ўгодна і дзе-б там ні было напаўшаму на нас ворагу, але і знішчыць яго, не дапускаючы на сваю совецкую зямлю. **(Апладысменты).**

Таварышы!

Нашы ўзброеныя сілы—гэта толькі перадавы атрад 170-мільённай арміі байцоў за справу соцыялізма, за вялікую справу Леніна—Сталіна. Яны ў авангардзе свайго магутнага народа ўскладзеныя на іх Урадам, партыяй, вялікім Сталіным задачы выканаюць поўнасцю. **(Апладысменты).**

Няхай жывуць нашы доблесныя Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот! **(Працяглыя апладысменты).**

Няхай жыве вялікі, магутны і непераможны совецкі народ! **(Працяглыя апладысменты).**

Няхай жыве слаўная пераможная партыя, партыя Леніна—Сталіна! **(Бурныя апладысменты).**

Няхай жыве наш вялікі Сталін! **(Бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты, усе ўстаюць, воклічы: «Ура таварышу Сталіну!», «Няхай жыве Маршал краіны соцыялізма таварыш Варашылаў!». Усе прысутныя наладжваюць авацыю таварышу Сталіну).**

# ГРЫГОРЫЙ КАНСТАНЦІНАВІЧ ОРДЖАНІКІДЗЕ

*(Біяграфічная даведка)*

Грыгорый Канстанцінавіч Орджанікідзе (партыйная клічка Серго) нарадзіўся 28 (15) кастрычніка 1886 года ў беднай сялянскай сям'і ў Заходняй Грузіі, у вёсцы Гарэша.

У 1898 г. Серго скончыў харагаульскае двухкласнае вучылішча. Восенню 1900 года Серго—у Тіфлісе, у фельчарскай школе пры гарадской больніцы.

17-гадовым юнаком, у 1903 годзе, Г. К. Орджанікідзе ўступае ў РСДРП. Рэволюцыйную барацьбу працоўных Закаўказзя супроць самадзяржаўя ў 900-ых гадах узначальвае тварэц і кіраўнік закаўказскай большэвіцкай арганізацыі таварыш Сталін. З юнацкіх год малады Серго праходзіць сталінскую школу большэвіцкай работы.

19-гадовы юнак, ён—член Сухумскага акруговага камітэта партыі. У студзені 1906 года адбываецца першы арышт Серго ў сяле Бомбары, недалёка ад Гудауці. Поўгода правёў малады рэволюцыянер у царскім засценку. Пасля вызвалення з турмы ён паехаў у Тіфліс. Тут Серго ўпершыню сустрэўся са Сталіным у рэдакцыі большэвіцкай газеты «Дро» («Час»), якая рэдагавалася Сталіным.

У сакавіку 1907 года Серго ў Баку, у самай гушчы рабочых Закаўказзя. Ён—член Бакінскага камітэта большэвікоў, узначальваемага таварышом Сталіным.

У лістападзе 1907 года Серго зноў арыштован і кінут царскімі жандармамі ў Баілаўскую турму. Асобая прысутнасць Тіфліскай судовай палаты ў красавіку 1908 г. прыгаварвае яго да вечнай ссылкі ў Сібір.

Вясной 1909 года, пасля адбыцця года зняволення ў крэпасці, Серго адпраўляюць у ссылку ў Сібір. Праз два месяцы ён бяжыць з ссылкі, варочаецца ў Баку і прадаўжае весці рэволюцыйную работу.

У лістападзе 1910 г. Серго едзе ў Парыж, да Леніна. У Лонжумо (недалёка ад Парыжа) у 1911 годзе Леніным была арганізавана партыйная рабочая школа, у якой займаўся і Серго. Неўзабаве па даручэнню Леніна Серго едзе ў Расію, каб правесці падрыхтоўку да склікання агульнарасійскай партыйнай канферэнцыі.

Не гледзячы на выключна цяжкія ўмовы, Серго ўдаецца бліскуча выканаць заданне Леніна. Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна Орджанікідзе стварае арганізацыйную камісію па падрыхтоўцы Ўсерасійскай партыйнай канферэнцыі (Пражскай).

Орджанікідзе быў дэлегатам на Пражскай канферэнцыі ад тіфліскай большэвіцкай арганізацыі. На канферэнцыі Грыгорый Канстанцінавіч выступіў са справаздачай Расійскай Арганізацыйнай Камісіі па

скліканню Пражскай канферэнцыі і быў выбран у склад ЦК РСДРП (б). Па прапанове Леніна, большасць членаў ЦК (5 з 7) павінны былі працаваць у Расіі. Было створана бюро ЦК для кіраўніцтва работай у Расіі ў складзе таварышоў Сталіна, Орджанікідзе і Спандарана.

У лютым 1912 года Серго выехаў у Пецербург, адкуль накіраваўся ў Валагодскую губернію, да таварыша Сталіна, які знаходзіўся там у ссылцы. Разам з бегшым з ссылкі таварышом Сталіным Серго паехаў у Баку, а затым у Тіфліс.

Вясной 1912 г. Серго зноў вярнуўся ў Пецербург, дзе быў арыштаваны. Пецербургскі акруговы суд прыгаварыў Орджанікідзе за пабег з ссылкі да трох год катаргі, а па адбыцці яе—да звароту на месца вечнай ссылкі. Царскія каты на тры гады заключылі Серго ў Шлісельбургскую крэпасць.

Пасля трохгадовага зняволення ў крэпасці, восенню 1915 года Серго адпраўляюць у якуцкую ссылку.

За пятнаццаць год рэволюцыйнай дзейнасці Г. К. Орджанікідзе—да 1917 года—восем год ён правёў у царскіх засценках: у турмах, Шлісельбургскай крэпасці, у ссылцы.

Лютаўская рэволюцыя застае Серго ў якуцкай ссылцы.

У маі 1917 года Серго выязджае ў Іркуцк, а адтуль у Петраград. Па прапанове Леніна Серго ўведзен быў у склад Петраградскага камітэта большэвікоў.

Збіраўся гістарычны VI з'езд большэвіцкай партыі, які нацэліў партыю на ўзброены пераварот. Праследуемы контррэволюцыйным Часовым урадам, Ленін пайшоў у падполле. Падрыхтоўваў скліканне з'езда і кіраваў ім таварыш Сталін. Серго па даручэнню Сталіна ездзіў да Леніна ў славуты сестрарэцкі шалаш за атрыманнем дырэктыў. Контррэволюцыйная буржуазія і яе прыслужнікі—меншавікі, эсэры патрабавалі суда над Леніным. Подлыя здраднікі Троцкі, Каменеў, Рыкаў настойвалі, каб Ленін з'явіўся на суд азвярэлай контррэволюцыі. На з'ездзе Орджанікідзе, следам за таварышом Сталіным, рэзка выступіў супроць яўкі Леніна ў буржуазны суд.

Серго прымаў актыўны ўдзел у Кастрычніцкім соцыялістычным перавароце ў Петраградзе. Выконваючы баявое заданне Петраградскага камітэта, Серго адпраўляецца на фронт пад Пулкава (недалёка ад Петраграда), адкуль Керэнскі на чале казачага корпуса спрабаваў наступаць на рэволюцыйны Петраград.

Серго паспяхова спраўляецца з ускладзеным на яго баявым заданнем партыі: казачыя часці Керэнскага былі раззброены.

У студзені 1918 г. па рашэнню ЦК і Соўнаркома Серго Орджанікідзе быў прызначан часовым надзвычайным камісарам раёна Украіны. Адначасова яму было даручана арганізаваць снабжэнне харчаваннем усіх мясцовасцей Совецкай Расіі, якія мелі патрэбу ў хлебе і іншых прадуктах.

Вясной 1918 г. Серго Орджанікідзе ў Растове-на-Дану. Германскія войскі і гайдамакі рухаліся на Дон і Кубань. Серго арганізуе супраціўленне інтэрвентам. У маі германа-гайдамацкія войскі і белыя казакі занялі Растоў. Серго са сваімі часцямі адступае к Батайску, затым к Тіхарэцкай, а адтуль з боем рушыў к Царыцыну. Ён быў верным памочнікам таварыша Сталіна, які арганізаваў геройчную абарону Царыцына.

На Кубань ішлі нямецкія войскі. Орджанікідзе спяшаецца на Кубань. У канцы 1918 года дзенікінскія орды падыходзілі да граніц

Терскай вобласці. Падтрыманыя інтэрвентамі, яны абрушваюцца на XI Чырвоную Армію, якая была адрэзана ад Совецкай Расіі, засталася без снарадаў і патронаў і была паражана эпідэміяй сыпняка. У найцяжэйшых умовах мужны Серго ўзначальвае барацьбу з дзенікінцамі.

У канцы студзеня дзенікінскія полчышчы падыйшлі да Владзікаўказа. Пасля сямідзённай гераічнай абароны горад прышлося пакінуць. Комуністы на чале з Серго ідуць у глыб гор. Пасля некалькіх месяцаў нелегальнай работы ў Тіфлісе, а затым у Баку, Серго прабіраецца на рыбалоўнай парусной лодцы па Каспійскаму мору ў Астрахань, а затым у Маскву.

У ліпені 1919 г. таварыш Орджанікідзе накіроўваецца партыяй на Заходні фронт да таварыша Сталіна і назначаецца членам Рэўваенсовета XVI арміі.

Восенню 1919 года Серго на Паўднёвым фронце. Ён—член Рэўваенсовета XIV арміі, якая дзейнічае супроць Дзенікіна. 20 кастрычніка, дзеючы па сталінскаму заданню, Серго на чале дывізіі з боем уваходзіць у Орол.

У лютым 1920 г. па рашэнню ЦК ствараецца Партыйнае Бюро па аднаўленню совецкай улады на Паўночным Каўказе. Старшынёй Бюро накіроўваецца Серго Орджанікідзе, яго намеснікам—С. М. Кіраў. Серго арганізуе дапамогу бакінскаму пролетарыяту. У ноч з 27 на 28 красавіка 1920 г. быў звергнуты мусаватысцкі ўрад, ненавісны працоўным Азербайджана. 30 красавіка Серго разам з С. М. Кіравым прыбылі ў вызвалены Баку. 25 лютага 1921 г. і сталіца Грузіі—Тіфліс—аслабанілася ад контррэволюцыйнага меншавіцкага засілля.

У часе прыёму азербайджанскай дэлегацыі ў Крэмлі ў 1936 годзе таварыш Сталін вітаў паяўленне Серго на трыбуне наступнымі словамі:

«Прывітанне вызваліцелю Азербайджана! Ён першы ўвайшоў у Азербайджан!».

Прэзідыум ВЦВК 19 мая 1921 г. узнагароджвае Серго ордэнам баявога Чырвонага Сцяга.

Гіганцкую работу па ўмацаванню совецкай улады ў Закаўказзі правёў таварыш Орджанікідзе. Ён—тварэц Закаўказскай фэдэрацыі совецкіх рэспублік, адыграўшай выключную ролю ў палітычным, гаспадарчым і культурным уздыме народаў Совецкага Закаўказзя.

На X, XI, XII, XIII, XIV з'ездах партыі Серго нязменна выбіраецца ў склад Цэнтральнага Камітэта партыі.

На XIV з'ездзе таварыш Орджанікідзе з усёй страсцю большэвіка абрушваецца на здраднікаў—Зіноўева і Каменева. Серго ў сваёй прамове на з'ездзе бязлітасна выкрывае гэтых гнусных здраднікаў.

Непрымірымы большэвік, бязмежна адданы партыі Леніна—Сталіна, Серго Орджанікідзе нястомна змагаўся за партыйнае адзінства, за маналітнасць партыйных радоў.

У лістападзе 1926 года аб'яднаны Пленум ЦК і ЦКК выбірае таварыша Орджанікідзе старшынёй Цэнтральнай Кантрольнай Камісіі. Разам з тым, пастановаю Прэзідыума ЦВК ён прызначаецца народным камісарам Рабоча-Сялянскай Інспекцыі і намеснікам старшыні Совета Народных Камісараў СССР.

Неўзабаве пасля разгрому блока трацкісцка-зіноўеўскіх рэстаўратараў капіталізма паднялі галовы правыя бандыты—Бухарын, Томскі, Рыкаў. Тав. Орджанікідзе бязлітасна граміў гэтых подлых здраднікаў, ворагаў партыі.

10 лістапада 1930 г. Серго Орджанікідзе быў прызначан старшынёй Вышэйшага Совета Народнай Гаспадаркі СССР, а ў снежні аб'яднаным Пленумам ЦК і ЦКК уведзен у склад Палітбюро ЦК ВКП (б).

З імем Серго звязаны найвялікшыя перамогі соцыялізма. СССР стаў агульнапрызнанай сусветнай індустрыяльнай дзяржавай—у гэтым велізарная заслуга вернага сына нашай партыі, сталінскага наркома Серго Орджанікідзе.

Падаючы прыклад глыбокай партыйнасці, Серго заклікаў гаспадарнікаў пранізаць ўсю работу большэвіцкай партыйнасцю. На студзеньскім Пленуме ЦК і ЦКК у 1933 г. таварыш Орджанікідзе гаварыў:

«**Партыйнасць—гэта галоўнае.** Нельга забываць, што гаспадарнік акружан усякімі людзьмі—і нашымі і чужымі, якія прабуюць на яго ўздзейнічаць, прабуюць разлажыць яго. Той гаспадарнік, той дырэктар, той начальнік цэха, які ўмее процістаяць гэтаму, захаваць цалкам сваё партыйнае нутро па-большэвіцку,—той маладзец. А той, хто збіваецца з гэтага шляху, той загіне, нічога з яго не выйдзе. **Партыйнасць—перш за ўсё і раней за ўсё».**

У сакавіку 1935 года Серго быў узнагароджан ордэнам Леніна.

У багатырскім удары адбойнага малатка Алексея Стаханава таварыш Орджанікідзе адразу ўбачыў вялікі пачатак магутнага ўсенароднага руху. З радасцю сустракаў ён перамогі стаханаўцаў, з ярасцю бічаваў сабатажнікаў стаханаўскага руху.

У студзені 1936 года ЦВК СССР узнагародзіў таварыша Орджанікідзе ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Год назад, 18 лютага 1937 г., абарвалася выдатнае жыццё Серго.

Совецкі народ назаўсёды захавае ў сваёй памяці вобраз любімага сына большэвіцкай партыі, які да апошняга ўздыхання змагаўся за справу Леніна—Сталіна, за трыумф соцыялізма—светлы вобраз Серго Орджанікідзе.

## Сталінскае заданне выканана

***Таварышам СТАЛІНУ, МОЛАТАВУ, ВАРАШЫЛАВУ, КАГАНОВІЧУ Л. М., КАЛІНІНУ, МІКАЯНУ, ЧУБАРУ, АНДРЭЕВУ, КАСІОРУ, ЖДАНАВУ, ЕЖОВУ, ледакол „Ермак"—ШМІДТУ***

Бязмежна шчаслівы рапартаваць аб выкананні даручанага нам задання. Ад Паўночнага полюса да 75° паўночнай шыраты мы правялі поўнасцю ўсе намечаныя даследванні і сабралі каштоўны навуковы матэрыял па вывучэнню дрэйфу ільду, гідралогіі і мэтэаралогіі, зрабілі шматлікія гравітацыйныя і магнітныя вымеры, выканалі біялагічныя даследванні.

З 1 лютага, калі на 74° наша поле разламілася на часткі, мы прадаўжалі ўсе магчымыя ў гэтых умовах нагляданні. Упэўнена працавалі, ні мінуты не трывожыліся за свой лёс, ведалі, што наша магутная радзіма, пасылаючы сваіх сыноў, ніколі іх не пакіне. Гарачыя клопаты і ўвага да нас партыі, урада, дарагога таварыша Сталіна і ўсяго савецкага народа безупынна падтрымлівалі нас і забяспечылі паспяховае правядзенне ўсёй работы.

У гэту гадзіну мы пакідаем крыгу на каардынатах 70° 54′ нордавай, 19° 48′ веставай і прайшоўшы за 274 сутак дрэйфу звыш 2.500 кілометраў. Наша радыёстанцыя першая паведаміла вестку аб заваяванні Паўночнага полюса, забяспечыла надзейную сувязь з радзімай і гэтай тэлеграмай канчае сваю работу.

Чырвоны сцяг нашай краіны прадаўжае развявацца над лёдавымі прасторамі.

***Папанін, Крэнкель, Шыршоў, Фёдараў.***

*Станцыя „Паўночны полюс",*

19 лютага, 15 гадзін 55 мінут.

---


СЛАВА СТАЛИНСКИМ ПИТОМЦАМ—
БЕССТРАШНЫМ ГЕРОЯМ-ЗАВОЕВАТЕЛЯМ И ИССЛЕДОВАТЕЛЯМ СЕВЕРНОГО ПОЛЮСА,
ТОВАРИЩАМ ПАПАНИНУ, КРЕНКЕЛЮ, ШИРШОВУ, ФЕДОРОВУ!

## ПАПАНІНУ, ШЫРШОВУ, КРЭНКЕЛЮ, ФЁДАРАВУ

*Віншуем вас з паспяховым выкананнем адказнага задання.*

*Уся наша краіна ганарыцца вашай гераічнай работай.*

*Чакаем вашага звароту ў Маскву.*

*Брацкае прывітанне!*

| | |
|---|---|
| І. СТАЛІН | А. АНДРЭЕЎ |
| В. МОЛАТАЎ | С. КАСІОР |
| К. ВАРАШЫЛАЎ | А. ЖДАНАЎ |
| Л. КАГАНОВІЧ | Н. ЕЖОЎ |
| М. КАЛІНІН | Г. ПЕТРОЎСКІ |
| А. МІКАЯН | Р. ЭЙХЕ |
| В. ЧУБАР | Н. ХРУШЧОЎ |

## ОСТАЛЬЦЭВУ, БАРСУКОВУ, КАТЦОВУ,

### Камандам „Таймыра“ і „Мурмана“

*Прыміце нашу ўдзячнасць і ўдзячнасць усяго совецкага народа за бліскучае выкананне задачы па аказанню дапамогі слаўнай экспедыцыі Папаніна.*

*Ганарымся вашай адважнай і самаадданай работай.*

*Брацкае прывітанне!*

| | |
|---|---|
| І. СТАЛІН | А. АНДРЭЕЎ |
| В. МОЛАТАЎ | С. КАСІОР |
| К. ВАРАШЫЛАЎ | А. ЖДАНАЎ |
| Л. КАГАНОВІЧ | Н. ЕЖОЎ |
| М. КАЛІНІН | Г. ПЕТРОЎСКІ |
| А. МІКАЯН | Р. ЭЙХЕ |
| В. ЧУБАР | Н. ХРУШЧОЎ. |

# XX год Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота

23 лютага ўвесь совецкі народ, уся наша цудоўная радзіма святкуе 20-годдзе Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота—дзецішча Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

СССР за дваццаць год пературыўся ў магутную квітнеючую соцыялістычную дзяржаву з высока развітой прамысловасцю і самым перадавым у свеце буйным соцыялістычным землярobствам. СССР стаў краінай, дзе ліквідавана эксплаатацыя чалавека чалавекам, дзе непахіснай асновай грамадства з'яўляецца соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, дзе ўся ўлада належыць працоўным горада і вёскі. Совецкі народ мае Сталінскую Канстытуцыю, самую дэмакратычную ў свеце.

Гэтыя сусветна-гістарычнага значэння перамогі заваяваны ў жорсткіх баях з унутранымі і знешнімі ворагамі за незалежнасць і свабоду совецкага народа. Яны магчымы былі толькі таму, што партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным стварыла непераможную Чырвоную Армію, якая з гонарам абараніла соцыялістычную радзіму ад нападу імперыялістычных драпежнікаў і выратавала яе ад замежнай кабалы і зняволення.

Неўзабаве пасля Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі Ленін і Сталін прыступілі да арганізацыі ўзброеных сіл рэволюцыі, да стварэння новай арміі—аплоту совецкай улады.

> «Без узброенай абароны соцыялістычнай рэспублікі мы існаваць не маглі. Пануючы клас ніколі не аддасць сваёй улады класу прыгнечанаму. Але апошні павінен даказаць на справе, што ён не толькі здолен звергнуць эксплуататараў, але і арганізавацца для самаабароны, паставіць на карту ўсё... Пролетарыят, калі толькі ён хоча і будзе панаваць, павінен даказаць гэта і сваёй ваеннай арганізацыяй...» *.

Рабочы клас маладой совецкай рэспублікі на справе паказаў, што ён мае даволі сілы, каб абараніць сваю ўладу ад ворагаў. Чырвоная Армія даказала ўсяму свету сілу і непераможнасць саюза рабочага класа і сялянства, кіруемага комуністычнай партыяй.

Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія нарадзілася ў агні грамадзянскай вайны. Яна расла, мацнела і гартавалася ў жорсткай барацьбе са шматлікімі ўнутранымі і знешнімі ворагамі, з арміямі інтэрвентаў і белагвардзейскіх генералаў. У грозныя дні барацьбы за ўладу Советаў, за дыктатуру пролетарыята, калі большэвікі вуснамі Леніна абвясцілі

---

* Ленін, т. XXIV, стар. 121, 122.

свяшчэннае права і абавязак працоўных са зброяй у руках абараняць сваю соцыялістычную радзіму, нарадзілася магутная, непераможная Чырвоная Армія.

Першую загартоўку атрымала яна ў баях з нямецкімі акупантамі, якія, карыстаючыся здрадніцтвам Іуды-Троцкага, рушылі свае палкі ўглыб Совецкай Беларусі і Украіны. Драпежныя германскія імперыялісты, уварваўшыся ў совецкую краіну, імкнуліся звергнуць дыктатуру пролетарыята і ператварыць нашу краіну ў сваю калонію. Маладыя, дрэнна ўзброеныя атрады Чырвонай Арміі—арміі рэволюцыйнага народа—гераічна адбівалі націск да зубоў узброеных армій кайзераўскай Германіі. Пад Нарвай і Псковам быў дан рашучы адпор нямецкім акупантам. На Совецкай Украіне атрады рабочых Донбаса на чале з Кліментам Варашылавым наносілі моцныя ўдары нямецкім акупантам.

Чырвоная Армія расла і мацнела ў баях з белагвардзейскімі арміямі Каледзіна, Краснова, Карнілава, Дутава, чэхаславацкімі легіёнамі, выступіўшымі ў паход супроць краіны Советаў. Руская буржуазна-памешчыцкая контррэволюцыя, разбітая ў Кастрычніцкіх баях, збірала свае сілы на ўскраінах маладой Совецкай рэспублікі. На дапамогу рускім памешчыкам і капіталістам спяшылі замежныя імперыялісты, якія смяротна ненавідзелі першую ў свеце рэспубліку Советаў. Перапалоханая пролетарскай рэволюцыяй і першымі поспехамі совецкай улады сусветная буржуазія не толькі арганізоўвала і ўзбройвала контррэволюцыйныя сілы Расіі, але пачала ваенную інтэрвенцыю супроць краіны Советаў.

На Поўначы англійскія імперыялісты высадзілі свае войскі і захапілі Мурманск, а потым Архангельск і Онегу. На Ўсходзе японскія войскі захапілі Владзівасток і мелі намер прасунуцца ўглыб совецкай краіны. На Каўказе гаспадарылі нямецкія, турэцкія і англійскія акупанты. На Поўдні высадзіўся аб'яднаны дэсант імперыялістаў на чале з французскімі інтэрвентамі.

Маладой Чырвонай Арміі ў першы-ж год свайго існавання прышлося вытрымаць жорсткую няроўную барацьбу з аб'яднанымі сіламі міжнароднай і ўнутранай контррэволюцыі, з узброенымі да зубоў арміямі інтэрвентаў і белагвардзейскіх генералаў. Былі месяцы, калі вогненнае кальцо контррэволюцыі з усіх бакоў сціскала совецкую рэспубліку, калі паўстала рэальная пагроза самому існаванню совецкай улады. Краіна была ператворана ў суцэльны ваенны лагер, усе яе рэсурсы былі мабілізаваны на абарону.

Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскому Флоту ўдалося прарваць цеснае кальцо контррэволюцыі, у гераічных баях яна абараніла незалежнасць і свабоду совецкага народа.

Аднак, мацёрыя ваўкі Антанты не пакінулі ў спакоі маладую совецкую рэспубліку. На працягу 1919—20 гг. яны арганізавалі супроць яе адзін за другім тры паходы. На Совецкую Расію былі кінуты сілы белагвардзейскіх армій Калчака, Дзенікіна, Юдзеніча, Мілера, белапанскай Польшчы. Але ўсе паходы Антанты, у тым ліку і паход 14 дзяржаў, скончыліся поўным крахам. Гераічная Чырвоная Армія разграміла ўшчэнт узброеныя міжнароднымі імперыялістамі полчышчы царскіх генералаў.

Летам 1920 года Чырвоная Армія нанесла сакрушальны ўдар войскам белапанскай Польшчы і прагнала іх з Украіны і Беларусі. Чырвоныя палкі падыйшлі да сцен Варшавы і Львова.

Позняй восенню 1920 года Чырвоная Армія, якая стала ўжо магутнаю сілай, разграміла і скінула ў мора армію барона Врангеля.

І, нарэшце, у Кастрычніку 1922 года японскія захватчыкі апошнімі пакінулі совецкую зямлю. Краіна Советаў была канчаткова ачышчана ад інтэрвентаў. На ўсёй совецкай зямлі назаўсёды ўмацаваўся непераможны чырвоны сцяг Леніна—Сталіна.

Як магло здарыцца, што галодныя, разутыя і дрэнна ўзброеныя палкі Чырвонай Арміі атрымалі перамогу над узброенымі да зубоў першакласнымі арміямі інтэрвентаў і белагвардзейскіх генералаў? Чаму Чырвоная Армія і Чырвоны Марскі Флот гранілі адзін за другім паходы імперыялістычных дзяржаў? У чым сіла Чырвонай Арміі, сіла, якую на сваёй спіне адчулі нямецкія акупанты, англійскія лорды, японскія самураі, яснавяльможныя польскія паны і старыя царскія генералы?

Важнейшая крыніца сілы і магутнасці Чырвонай Арміі ў тым, што яе арганізатарам і кіраўніком была і ёсць партыя большэвікоў, партыя Леніна—Сталіна. Партыя была жалезным станавым хрыбтом Чырвонай Арміі і вяла яе ад перамогі да перамогі.

Чырвоную Армію—магутны аплот нашай соцыялістычнай радзімы—стварыла, вырасціла і выхавала партыя Леніна—Сталіна.

«Гэта яна загартавала яе рады ў духу адданасці інтарэсам рабочых і сялян, гэта яна напоўніла яе непахіснаю воляй да барацьбы, спаяла жалезнай дысцыплінай і надала ёй стойкасць у перамаганні перашкод» **(К. Е. Варашылаў** «Артыкулы і прамовы»). Ленінска-сталінскае кіраўніцтва—вось тая магутная сіла, якая забяспечыла Чырвонай Арміі яе вялікія і слаўныя перамогі ў жорсткіх баях грамадзянскай вайны.

У годы грамадзянскай вайны большэвіцкая партыя мабілізуе дзесяткі і сотні тысяч сваіх членаў і пасылае іх на самыя адказныя ўчасткі для барацьбы з узброенымі сіламі ўнутранай контррэволюцыі і інтэрвенцыі. Комуністы, паказваючы прыклады гераізма, самаадданасці і высокай свядомасці, згуртоўвалі байцоў і камандзіраў вакол партыі большэвікоў, мабілізавалі іх на гераічную барацьбу са шматлікімі ворагамі. 300 тысяч комуністаў, г. зн. больш паловы ўсёй партыі, змагаліся на фронтах грамадзянскай вайны.

Выключна адказную ролю ў арміі выканалі ваенныя камісары і партыйна-палітычныя работнікі РСЧА. Партыйныя арганізацыі і палітапарат Чырвонай Арміі на працягу ўсяго яе гістарычнага шляху былі магутным праваднікам волі нашай партыі. У перыяд грамадзянскай вайны паліторганы і партыйныя арганізацыі Чырвонай Арміі, згуртоўваючы рады байцоў, натхнялі іх на бой з ворагамі.

Ленін і Сталін—геніі чалавецтва, найвялікшыя стратэгі пролетарскай рэволюцыі—былі арганізатарамі і правадырамі Чырвонай Арміі.

Ленін заўсёды прымаў актыўны непасрэдны ўдзел у кіраўніцтве баявой дзейнасцю і будаўніцтвам Чырвонай Арміі. Да яго сходзіліся ніці з усіх франтоў грамадзянскай вайны, а ад яго ішлі ў армію дырэктывы, указанні. Ён разглядаў і зацвярджаў планы ўсіх важнейшых баявых аперацый. Ленін уваходзіў ва ўсе пытанні фармавання і снабжэння часцей Чырвонай Арміі, клапаціўся аб патрэбах чырвонаармейцаў, аб іх сем'ях.

Разам з Леніным велізарную работу па арганізацыі ўзброеных сіл і перамог Чырвонай Арміі выконваў таварыш Сталін. У годы грамадзянскай вайны таварыш Сталін асабіста кіраваў найбольш адказнымі

і рашаючымі ўчасткамі. Калі абстаноўка на фронце патрабавала выключнай энергіі, рэвалюцыйнай цвёрдасці і бальшэвіцкага кіраўніцтва, Ленін пасылаў тады таварыша Сталіна. Таварыш Варашылаў указвае, што «...ЦК, вярней, Ленін, ператварыў Сталіна ў спецыяліста па выратаванню становішча амаль на ўсіх фронтах, дзе навісала небяспека або справе пагражала катастрофа. Так было на царыцынскім фронце, на пермскім участку ІІІ арміі, у Ленінградзе, на захадзе, на поўдні, скрозь і ўсюды—Сталін у якасці чалавека, які выцягвае справу з хаосу і неразбярыхі, выратоўвае становішча на фронце» (К. Е. Варашылаў «Артыкулы і прамовы», стар. 557).

Разам з Леніным і Сталіным, пад іх кіраўніцтвам, мацаваў магутнасць Чырвонай Арміі і біў ворагаў соцыялістычнай радзімы выпрабаваны саратнік і вучань Леніна і Сталіна—Клімент Ефрэмавіч Варашылаў. Увесь першы этап будаўніцтва Чырвонай Арміі (1918—1923) таварыш Варашылаў правёў у жорсткіх баях з ворагамі на франтах грамадзянскай вайны, плячо к плячу з радавымі байцамі, на чале атрадаў, а потым і армій. Дзейнасць таварыша Варашылава неразрыўна звязана з усёй гісторыяй нашай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Разам з Леніным і Сталіным, пад іх кіраўніцтвам, мацаваў магутнасць Чырвонай Арміі, арганізоўваў перамогі совецкага народа М. В. Фрунзе, які ўвайшоў у гісторыю, як адзін з найбольш выдатных палкаводцаў і правадыроў Чырвонай Арміі.

Лепшыя сыны партыі, бліжэйшыя саратнікі Леніна і Сталіна—тт. Свердлоў, Калінін, Дзержынскі, Орджанікідзе, Ежоў, Кіраў, Куйбышэў—адыгралі буйнейшую ролю ва ўмацаванні Чырвонай Арміі, у арганізацыі яе перамог. Партыя выхавала такіх бясстрашных легендарных герояў, як Чапаеў, Шчорс, Катоўскі, Лазо і інш. Іх імёны ніколі не забудуць народы краіны Советаў.

Чырвоная Армія перамагла таму, што большэвіцкая партыя правяла рашучую барацьбу з варожай дзейнасцю здраднікаў народа—трацкістаў-бухарынцаў, таму што партыя бязлітасна выкрыла іх паражэнчую лінію, іх здрадніцкую палітыку, накіраваную на разгром Чырвонай Арміі, іх спробы ўсадзіць нож у спіну рэволюцыі.

Чырвоная Армія заваявала сусветна-гістарычныя перамогі таму, што яна з самага пачатку была цесна звязана з народам, таму што яна абараняла кроўную справу народа.

Галоўная і карэнная асаблівасць Чырвонай Арміі заключаецца ў тым, што ў нас, як гаворыць таварыш Сталін, «народ і армія складаюць адно цэлае, адну сям'ю». Наша армія—армія вызваленых рабочых і сялян, армія брацтва народаў, армія вызвалення прыгнечаных нацый. Совецкі народ з'яўляецца магутным, несакрушальным аплотам сваёй роднай і любімай Чырвонай Арміі.

Больш 16 год народы СССР жывуць ва ўмовах мірнай соцыялістычнай працы. На варце яе стаіць магутная Чырвоная Армія і Ваенна-Марскі Флот. Дзве сталінскія пяцігодкі надзвычай узмацнілі абаронную магутнасць краіны Советаў.

«З краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны, Совецкі Саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абароназдольнасці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасцей, у краіну, здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя сродкі абароны і забяспечыць імі сваю армію ў выпадку нападу звонку».

За годы сталінскіх пяцігодак праароблена гіганцкая работа па тэхнічнай рэканструкцыі Чырвонай Арміі, па ліквідацыі яе тэхнічнай

адсталасці. Тэхнічная ўзброенасць у свой час з'яўлялася самым слабым месцам у сістэме абароны краіны. У рэзультаце гэтай работы Чырвоная Армія ператварылася ў перадавую па сваёй тэхніцы армію. У прамысловасці створана вытворчая база, якая можа выраблядь усе сучасныя сродкі абароны.

За мінулыя годы рос і мацнеў Ваенна-Марскі Флот Совецкага Саюза. Улічваючы неабходнасць яго далейшага развіцця, Вярхоўны Совет СССР 15 студзеня 1938 года зацвердзіў утварэнне Народнага Камісарыята Ваенна-Марскога Флота. Гэта мерапрыемства забяспечыць далейшы рост і ўмацаванне Ваенна-Марскога Флота, дастойнага вялікай социялістычнай дзяржавы, слаўнага атрада ўзброеных сіл нашай радзімы.

Народы Совецкага Саюза імкнуцца да міру, жадаюць жыць у міры з усімі краінамі. Але Чырвоная Армія заўсёды гатова да абароны, гатова разграміць ворага, калі ён адважыцца напасці на социялістычную дзяржаву рабочых і сялян. Згуртаваная вакол большэвіцкай партыі, вакол любімага Сталіна і свайго жалезнага наркома Варашылава Чырвоная Армія па першаму закліку партыі разам з усім совецкім народам выступіць на абарону сваёй Радзімы.

Да свайго 20-годдзя Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія стала самай магутнай арміяй у свеце. Яе сілу прымушаны прызнаць нашы ворагі. Калі вораг адважыцца на нас напасці, дык няхай ведае, што «наша армія існуе не для нападу, але толькі да моманту нападу на нашу Радзіму. Яна будзе самай нападаючай з усіх калі-небудзь нападаўшых армій, калі вораг яе прымусіць да гэтага». (Варашылаў).

Совецкі народ, магутны сваёй маналітнасцю, акружае сваю Чырвоную Армію любоўю і клопатам. Ён нястомна мацуе абаронную магутнасць краіны Советаў. Ён ведае, што вораг шалёна рыхтуецца да нападу на СССР—цытадэль сусветнай пролетарскай рэволюцыі. Ён добра памятае словы таварыша Сталіна:

> «Трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку...»

Упэўнены ў сваёй сіле, горды сваім несакрушальным адзінствам, совецкі народ з радасцю сустракае дваццатую гадавіну Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота. Ён ведае, што пад абаронай сваіх узброеных сіл ён можа спакойна, цвёрдым крокам ісці наперад да новых перамог социялізма.

Т. Петроўская

# Міжнародны Комуністычны жаночы дзень

Працоўныя жанчыны ўсяго свету адзначаюць сёлета дваццаць восьмы Міжнародны Комуністычны жаночы дзень.

Але не ў аднолькавых умовах святкуюць 8-е сакавіка працоўныя жанчыны свету з таго часу, як на адной шостай частцы зямнога шара ўзняўся чырвоны сцяг вызваленай працы.

У краіне, якая будуе новае жыццё, асветленае праменнямі Сталінскай Канстытуцыі, дзень гэты да краёў напоўнен народным лікаваннем.

У Сталінскай Канстытуцыі, якая ўвасобіла думкі і надзеі лепшых прадстаўнікоў чалавечага розуму, упершыню ў гісторыі народаў на ўвесь свет заяўлена аб неад'емным праве жанчыны карыстацца аднолькавымі правамі з мужчынай. Вымаўляючы з удзячнасцю імя тварца бяссмертнай хартыі свабод, любімага правадыра таварыша Сталіна, жанчыны нашай краіны чытаюць і перачытваюць артыкул 122, які трактуе аб роўнапраўі жанчыны, аб роўным удзеле яе ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага жыцця.

Жаночае роўнапраўе! Сотні год патрабавалася, каб напоўніць рэальным зместам гэтыя два простыя словы. Яшчэ на зары цывілізацыі жанчына была ператворана ў рабыню. Ішлі стагоддзі, мяняліся формы эксплаатацыі, але лёс жанчыны рабіўся ўсё больш змрочным і бязвыхадным. Капіталізм, адкрыўшы эру самай дзікай эксплаатацыі працоўнага чалавека, утаптаў у гразь дастойнасць жанчыны, у маладосці пасерабрыў яе валасы, нізка сагнуў спіну.

Толькі пролетарская рэволюцыя, знішчыўшы эксплаатацыю чалавека чалавекам, прынесла вызваленне жанчыне, на нябачаную вышыню ўзняла яе гонар, уважлівым клопатам акружыла яе працу, адпачынак, здароўе і, нарэшце, прыгажэйшы час яе жыцця—мацярынства.

Партыя Леніна—Сталіна ніколі не аддзяляла задач жаночага рабочага руху ад агульнай барацьбы ўсяго рабочага класа. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі жанчыны змагаліся за сваё вызваленне разам з усім рабочым класам. Многа слаўных старонак герайізму і адвагі ўпісалі рэволюцыйныя жанчыны ў гісторыю барацьбы рабочага класа за вызваленне ад капіталістычнага ярма, за перамогу вялікай Соцыялістычнай Кастрычніцкай Рэволюцыі. На шматлікіх фронтах грамадзянскай вайны з вінтоўкаю ў руках, ля куляміта жанчыны паказвалі цуды адвагі і геройства, мужна афяруючы сваім жыццём.

Гістарычныя сталінскія пяцігодкі, канчатковая перамога калгаснага ладу забяспечылі совецкай жанчыне эканамічную незалежнасць, выклікалі вялікі рост яе вытворчай і палітычнай актыўнасці.

Совецкая жанчына стала актыўнаю сілай у соцыялістычным будаўніцтве. Гіганцкі вырасла армія жанчын на вытворчасці. У 1936 годзе на вытворчасці працавала 8.492.000 жанчын. У буйнай прамысловасці жанчыны складалі 38,8 проц. агульнага ліку працуючых, на транспарце—17,5 проц., на будаўніцтве—19,5 проц., у горна-

заводскай прамысловасці—26,9 проц., дрэваапрацоўчай—39 проц., хімічнай—41 проц., харчовай—45 проц., тэкстыльнай—72,2 проц., папяровай і паліграфічнай—51,4 проц.

У розных галінах прамысловасці Беларусі на 1 ліпеня 1937 г. працавала 87 тысяч жанчын.

Па аб'ёму прымянення жаночай працы Совецкі Саюз апярэдзіў самыя буйныя прамысловыя краіны свету. У нас жанчына занята ў такіх працаёмкіх галінах вытворчасці, як апрацоўка метала, машынабудаўніцтва, прамысловае і жыллёвае будаўніцтва.

Совецкая ўлада ўцягвае жанчыну ў вытворчасць, робіць яе роўнапраўнай з мужчынай, выкоўвае з яе актыўнага будаўніка соцыялістычнага грамадства, узнімае яе культурны ўзровень, паляпшае яе матэрыяльны дабрабыт. Наша краіна—адзіная ў свеце, дзе няма розніцы ў аплаце жаночай і мужчынскай працы, калі выконваецца яна аднолькава па якасці і па колькасці.

У капіталістычных краінах прымяняюць жаночую працу, як больш таннуў. Жанчыну выкарыстоўваюць галоўным чынам на чорнай рабоце, якая не патрабуе ні кваліфікацыі, ні спецыяльнасці. У нашай краіне, наадварот,—праводзіцца вялікая работа па падрыхтоўцы жаночых кваліфікаваных кадраў. Жанчына, як і мужчына, можа па свайму жаданню спецыялізавацца ў любой галіне.

Перамога калгаснага ладу непазнавальна змяніла жыццё і жанчыны-сялянкі. Яна стала роўнапраўнай і эканамічна незалежнай ад мужчыны. Нароўні з мужчынай яна выконвае ў калгасе кваліфікаваную работу, авалодвае тэхнікай сельскагаспадарчай вытворчасці, знаходзіцца на кіруючых участках, займае адказныя пасты.

Інтарэсы сялянкі-аднаасобніцы не ішлі далей сваей сям'і. Калгасніцы блізкі інтарэсы ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Яна цікавіцца ўсімі пытаннямі палітычнага і культурнага жыцця сваёй радзімы і ўсяго свету. Незалежная сялянка стала зараз гаспадыняй свайго становішча.

Таварыш Сталін у прамове на прыёме калгасніц-ударніц бурачных палёў сказаў: «Зараз жанчына, калі яна працуе і ў яе ёсць працадні, яна сама сабе гаспадыня...»

Совецкая ўлада адкрыла працоўнай жанчыне шырокую дарогу для творчай работы. Няма такой кваліфікацыі ў любой галіне нашай гаспадаркі, дзе-б не працавала жанчына. Урачы і настаўнікі, мораплаваццелі і лётчыкі, дзяржаўныя дзеячы і вучоныя, стаханаўцы на вытворчасці і ў сельскай гаспадарцы—скрозь і ўсюды працоўная жанчына, як актыўны ўдзельнік вялікай соцыялістычнай будоўлі.

У магутным стаханаўскім руху на вытворчасці, ва ўздыме ўраджайнасці соцыялістычных палёў працоўная жанчына праявіла творчую ініцыятыву, актыўнасць і гераізм. У гэтым выдатным руху будаўнікоў соцыялізма вылучылася нямала гераінь працы, шырока вядомых не толькі ў Совецкім Саюзе, але і далёка за яго межамі. Дуся і Маруся Вінаградавы, Марыя Дземчанка, пілот-лейтэнант Паліна Асіпенка, капітан далёкага плавання Шчацініна—усё гэта выдатныя жанчыны, якіх не было і не магло быць у стары час.

Іх заслугі перад партыяй і краінай адзначаны з асаблівай сталінскай чуласцю. За выдатную работу яны ўзнагароджаны ордэнамі.

Не мала такіх гераінь, знатных жанчын мае і Совецкая Беларусь. Усёй рэспубліцы вядомы імёны слаўных ордэнаносцаў: Соф'і Антонаўны Рыгаровіч—знатнай даяркі соўгаса «Рачкавічы», Чырвона-

Слабодскага раёна; Ефрасінні Сільвестраўны Башкіравай—Лёзненскага раёна; Марыі Францаўны Каўдэркі—Ельскага раёна; Елізаветы Васільеўны Белай, Анны Андрэеўны Канстанцінавай і іншых.

У вялікай меры ўзрасла і палітычная актыўнасць совецкай жанчыны. Яркім паказчыкам можа служыць падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Совет, у якой актыўны ўдзел прымалі жанчыны. Многія з іх з'явіліся лепшымі агітатарамі і арганізатарамі агітацыйна-прапагандысцкай работы сярод выбаршчыкаў.

У дзень выбараў—12 снежня—жанчыны нашай краіны аддалі свае галасы за лепшых сыноў і дачок радзімы, за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных. Усё гэта ярка сведчыць аб высокай палітычнай свядомасці нашых жанчын.

Сярод дэпутатаў у Вярхоўны Совет значнае месца займаюць жанчыны. У вярхоўныя органы краіны абрана 189 лепшых дачок совецкага народа. Так ажыццяўляецца вялікая ідэя Леніна аб тым, што «кожная кухарка павінна навучыцца кіраваць дзяржавай».

Беларускі народ ганарыцца сваімі пасланцамі ў Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей—дэпутатамі-жанчынамі. Хто не ведае ордэнаноску Елізавету Белую або знатнага брыгадзіра трактарнай жаночай брыгады Соню Рачок, або Надзею Лёліну, або Ніну Лісунову? Гэта імёны знатных жанчын нашай рэспублікі.

Совецкія жанчыны, самыя шчаслівыя ў свеце, горача любяць сваю радзіму і гатовы ў любы момант аддаць за яе сваё жыццё. Ва ўмовах росту ваеннай небяспекі мільёны палкіх совецкіх патрыётак з энтузіязмам працуюць над умацаваннем абароназдольнасці краіны, авалодваюць ваеннай справай. Мільёны жанчын працуюць у Асоавіяхіме, Чырвоным Крыжы і іншых масавых абаронных арганізацыях.

Совецкія жанчыны дабіваюцца выдатных рэзультатаў у сваіх смелых пераходах, паветраных палётах, снайперскіх спаборніцтвах. Без адрыву ад вытворчасці яны навучаюцца лётнай справе, парашутызму. Совецкія работніцы і калгасніцы, хатнія гаспадыні актыўна займаюцца ў гуртках санітарнай, процілаветранай абароны і іншых.

Бяздрадасна, бесперспектыўна жыццё працоўнай жанчыны ў буржуазных краінах. Палітычнае бяспраўе, эксплаатацыя і тэрор нязносным цяжарам падаюць на яе плечы. Капіталізм прыгнятае працоўную жанчыну як работніцу і як чалавека. У Англіі, якая лічыць сябе адной з самых дэмакратычных капіталістычных краін, у поўнай сіле застаюцца феадальныя законы, згодна якім муж з'яўляецца гаспадаром жонкі. Ва Францыі жанчына таксама не мае ніякіх грамадзянскіх правоў. Французскі закон разглядае жанчыну, як уласнасць мужа, як рэч, як яго маемасць. Гэты закон гаворыць, што «жанчына абавязана жыць пад адным дахам са сваім мужам і следаваць за ім, дзе ён знойдзе патрэбным пасяліцца».

На працягу стагоддзяў буржуазныя вучоныя, палітыкі, мастакі, паэты, папы, умацоўваючы лад эксплаататараў, імкнуцца даказаць, што жанчына—няпоўнацэнны чалавек, што яе ўдзел—пакора, рабства, падначаленне.

У фашысцкай Германіі налічваюцца зараз тысячы беспрацоўных жанчын. Многія з іх не атрымліваюць дапамогі па беспрацоўю. Дзе-ж выхад з голаду і галечы? У прастытуцыі, у самагубстве—такі адказ дае жыццё. У рабочых сем'ях часты трагедыі. Буржуазная статыстыка вымушана канстатаваць рост самагубстваў, забойства

дзяцей. У Германіі штодзенна канчаюць самагубствам звыш 52 чалавек, пераважна жанчын. У Берліне 21-гадовая Юнеман была пакарана смерцю за тое, што збегла ад сваіх траіх дзяцей, бо не магла бачыць іх галоднай смерці. У Шпрэмбергу жонка беспрацоўнага кінула ў раку Шпрэ трох сваіх дзяцей ва ўзросце ад 6 месяцаў да 3 з паловай год, а потым утапілася сама.

Сотні тысяч беспрацоўных жанчын туляюцца па вуліцах у пошуках кавалка хлеба для сябе і дзяцей. Фашысцкі рэжым праследуе іх на кожным кроку. Тысячы працоўных жанчын, узняўшыя свой голас пратэсту, пакутуюць у фашысцкіх засценках.

Толькі партыя Леніна—Сталіна магла ацаніць значэнне совецкай жанчыны, паклапаціцца аб ёй, зрабіць яе шчаслівейшай грамадзянкай свету. Нідзе ў свеце дзяржава не клапоціцца аб мацеры і дзіцяці так як у нас. Совецкая жанчына—шчаслівейшая маці. Яе інтарэсы ахоўваюцца законам. З года ў год расце сетка ўстаноў, якія абслугоўваюць маці і дзіця. Павялічваюцца сродкі па дзяржаўнаму бюджэту на будаўніцтва ясляў і іх утрыманне. Толькі ў 1937 годзе адпушчана на гэту справу звыш 1 мільярда рублёў. На малочныя кухні—звыш 57 мільёнаў, на дзіцячыя сады—звыш 1 мільярда 167 мільёнаў. Партыя і ўрад дапамагаюць совецкай жанчыне выхоўваць здаровае і моцнае пакаленне.

Няўхільна растуць асігнаванні на будаўніцтва радзільных дамоў. У 1937 годзе на радзільныя дамы і акушэрскія пункты было асігнавана звыш 327 мільёнаў рублёў. На дапамогу па цяжарнасці і кармленне адпушчана ў 1937 годзе звыш 484 мільёнаў рублёў. Згодна закону ад 27 чэрвеня 1936 года аб забароне абортаў і дапамозе многасямейным, у 1937 годзе выдана звыш 400 мільёнаў рублёў. Толькі па адной БССР многасямейныя атрымалі 51 млн. 432 тыс. рубл. дзяржаўнай дапамогі.

Паміж мацярынствам у нас і ў краінах капіталізма—вялікае бяздонне. Там працоўная жанчына родзіць у жудасных умовах. Не ў больніцах, не ў радзільных дамах, а на кухні, у чуланах, ля станкоў. Многія паміраюць. У Амерыцы за 20 год ад родаў і абортаў памерла жанчын больш, чым салдат ва ўсіх апошніх войнах якія вяла Амерыка. У Германіі ў 1936 годзе ад радзільнай гарачкі памерла 23 проц. рожаніц. У Англіі, у раёне Концыпрыд—Рондэ ў 1936 годзе смяротнасць дасягнула 8,6 на 1.000 рожаніц. Так «клапоціцца» капіталістычны свет аб жанчыне-мацеры.

Мацярынства ў капіталістычных краінах—вялікае няшчасце, кожнае дзіця—гэта лішні рот у сям'і. Венская газета «Кляйнэс блат»—адданы служка фашызма—не можа ўтоіць пісем, якія тысячамі паступаюць у рэдакцыю ад няшчасных матак. Вось якія просьбы абяздоленых галодных матак вымушана яна змяшчаць на сваіх старонках:

«Жанчына без усякіх сродкаў, якая мае 6 дзяцей і цяжарна сёмым, просіць старую вопратку і бялізну для груднога дзіцяці». «Маці дзевяці дзяцей, муж якой сем год пазбаўлен дапамогі па беспрацоўю, просіць вопратку, абутак, бялізну».

Гэта патрасаючыя дакументы гора і беднасці, цяжкое абвінавачванне фашызму і ўсёй капіталістычнай сістэме.

Працоўныя жанчыны ненавідзяць фашысцкі лад, які прыгнятае іх, адбірае дзяцей і мужоў. Яны не хочуць больш цярпець фашызма, не хочуць жыць у голадзе і галечы, паміраць у цёмных падвалах.

Яны ўступаюць ў рады народнага фронта супроць фашысцкага тэрору.

Ва ўсім свеце расце і шырыцца антыфашысцкі рух, мацнее народны фронт. У яго радах працоўныя жанчыны займаюць усё больш пачэснае месца. Работніца і сялянка рэспубліканскай Іспаніі плячом к плячу з мужам і братам абараняе свабоду і дэмакратыю сваёй радзімы. У працоўнай жанчыны няма іншых інтарэсаў, акрамя вызвалення ад гнёту капіталістаў і памешчыкаў.

Германскі, італьянскі, польскі, японскі фашызм, буржуазныя ўлады іншых капіталістычных краін, імкнучыся затрымаць рост рэволюцыйнага руху сярод рабочага класа, кідаюць у турмы яго лепшых сыноў і дачок. Але нішто не можа спыніць барацьбы за вызваленне з-пад ярма капітала.

Шчаслівыя жанчыны краіны Советаў, акружаныя клопатамі і ўвагай нашай партыі, радасна сустракаюць 8-е сакавіка. У гэты дзень яны дэманструюць усяму свету, што заваяванае і запісанае ў Сталінскай Канстытуцыі яны не аддадуць ніколі і нікому, што ні трацкісцка-бухарынска-рыкаўскай зграі, ні фашысцкім катам не адабраць у совецкай жанчыны соцыялістычнага ладу, які яна беражэ, як зрэнку вока!

Сэрцы совецкіх жанчын напоўнены гневам і агідай да фашысцкіх псоў, правакатараў, шпіёнаў і забойцаў—Бухарына, Рыкава, Ягоды і іх паплечнікаў, якія сядзяць зараз на лаве падсудных, бо яны хацелі вярнуць ярмо капіталізма, імкнуліся адабраць у нашых шчаслівых жанчын іх свабоду, роўнасць і надзець на іх шыю ланцугі фашызма. Ніколі фашысцкім бандытам не ўдасца здзейсніць свае крывавыя замыслы!

Работніцы і калгасніцы СССР адзначаюць сваё міжнароднае свята магутным творчым уздымам, новымі рэкордамі, папаўненнем стаханаўскіх радоў, арганізацыяй дапамогі адстаючым.

Дзень 8 сакавіка мабілізуе ўвагу ўсіх партыйных і грамадскіх арганізацый на яшчэ большае ўзмацненне палітыка-выхаваўчай работы сярод жанчын, на поўнае выкананне рашэнняў партыі і ўрада ў гэтай галіне.

Партыйныя арганізацыі павінны пакончыць з фактамі недаацэнкі ролі жанчыны на прадпрыемствах і ў калгасах, упарта працаваць над далейшым уцягненнем яе ў грамадска-карысную працу.

Соцыялізм патрабуе ўсё новых і новых сіл. Трэба смялей вылучаць жанчын на кіруючую работу, на адказныя партыйныя і совецкія пасты. Хіба мала ў нашай рэспубліцы здольных, таленавітых жанчын, якіх можна вылучыць зараз? Сілы многамільённай жаночай арміі невычарпальны. Смела і энергічна трэба ўзнімаць іх на новыя справы, на новыя гераічныя ўчынкі.

У радаснае свята Міжнароднага Комуністычнага жаночага дня жанчыны Совецкага Саюза шлюць сваё палкае прывітанне гераічным жанчынам Іспаніі, якія на перадавых участках фронта змагаюцца за мір, за сваё вызваленне.

З любоўю і надзеяй пазіраюць жанчыны капіталістычных краін на СССР, дзе так лёгка і свабодна дышыцца совецкай жанчыне. Дзень 8 сакавіка будзе магутнай дэманстрацыяй мільёнаў працоўных жанчын усяго свету, мабілізацыяй іх гатоўнасці на самаадданую барацьбу пад вялікім сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

---

В. Белзін і Н. Сігналаў

# Партыйную прапаганду—на ўзровень палітычных задач

Пленум Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі, які адбыўся ў студзені г.г., спецыяльна абмеркаваў пытанне аб становішчы і задачах партыйнай прапаганды, аб выкананні ўказання таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам. Пленум выявіў, што ў партыйнай прапагандзе ёсць рад буйнейшых недахопаў, што партыйныя арганізацыі не ўзначалілі справу ідэйнага ўзбраення комуністаў, не прынялі ўсіх неабходных мер да канчатковай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў партыйнай прапагандзе. Пленум у сваім рашэнні даў ацэнку становішча партыйнай прапаганды ў КП(б)Б і намеціў рад канкрэтных мерапрыемстваў, якія для ўсіх партыйных арганізацый павінны стаць праграмай практычных дзеянняў у галіне партыйнай асветы. Поўнае ажыццяўленне гэтых мерапрыемстваў забяспечыць высокую якасць партыйнай вучобы, яе глыбокі ідэйна-палітычны змест.

* * *

Партыйная прапаганда заўсёды з'яўлялася і з'яўляецца, асабліва цяпер, у святле ўказанняў таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам, магутным сродкам распаўсюджвання і ўкаранення ў найшырэйшыя масы працоўных, у першую чаргу сярод членаў і кандыдатаў партыі, тэорыі рэволюцыйнага марксізма-ленінізма.

Прапаганда—важнейшая зброя, пры дапамозе якой партыя выкоўвае сваіх арганізатараў, прапагандыстаў і агітатараў.

Арганізатар і правадыр комуністычнай партыі Владзімір Ільіч Ленін не раз указваў, што без рэволюцыйнай тэорыі не можа быць і рэволюцыйнага руху, што ролю перадавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй.

У шматлікіх выказваннях геніяльнага прадаўжальніка справы Леніна—І. В. Сталіна падкрэсліваецца велізарнае значэнне рэволюцыйнай тэорыі:

> «Тэорыя ёсць вопыт рабочага руху ўсіх краін, узяты ў яго агульным выглядзе. Вядома, тэорыя становіцца беспрадметнай, калі яна не звязваецца з рэволюцыйнай практыкай, акурат так сама, як і практыка становіцца сляпой, калі яна не асвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй. Але тэорыя можа ператварыцца ў найвялікшую сілу рабочага руху, калі яна складаецца ў непарыўнай сувязі з рэволюцыйнай практыкай, бо яна, і толькі яна, можа даць руху ўпэўненасць, сілу арыентыроўкі і разуменне ўну-

транай сувязі акружаючых падзей, бо яна, і толькі яна, можа дапамагчы практыцы зразумець не толькі тое, як і куды рухаюцца класы ў сучасным, але і тое, як і куды павінны рушыць яны ў бліжэйшым будучым».

Гэтыя словы таварыша Сталіна нельга забываць ні на адну мінуту. Узбраенне членаў партыі марксісцка-ленінскай тэорыяй—адна з асноўных задач кожнай партарганізацыі. Вывучаючы гісторыю большэвіцкай партыі, кожны комуніст, кожны беспартыйны большэвік чэрпае з яе выдатны вопыт стратэгіі і тактыкі, вучыцца, як трэба змагацца з ворагамі, змагацца і перамагаць.

Гісторыя ВКП(б)—гэта непрымірымая барацьба партыі супроць эсэраў, меншавікоў, трацкістаў, бухарынцаў, буржуазных нацыяналістаў, барацьба за прынцыпы марксізма-ленінізма, барацьба за чыстату радоў комуністычнай партыі. У гэтай барацьбе выкоўваліся і гартаваліся партыйныя кадры, на прыкладах яе растуць і загартоўваюцца маладыя комуністы, якія не праходзілі суровай школы падполля, не бачылі грамадзянскай вайны і разрухі.

На лютаўска-сакавіцкім пленуме 1937 г. таварыш Сталін яшчэ раз з асобаю сілай падкрэсліў усё значэнне палітычнай работы і выхавання шырокіх мас комуністаў і беспартыйных. Ён гаварыў:

«Неабходна ўзняць палітычную работу нашай партыі на належную вышыню, паставіўшы ва главу вугла задачу палітычнай асветы і большэвіцкай загартоўкі партыйных, совецкіх і гаспадарчых кадраў».

Без такой палітычнай работы ў масах нашы агромныя поспехі, гаварыў таварыш Сталін, могуць аказацца пабудаванымі на пяску. Каб паспяхова вырашыць задачу палітычнага большэвіцкага росту і выхавання нашых кадраў, якія разумеюць складанасць абстаноўкі перажываемага перыяда, неабходна аўладаць большэвізмам.

«Я думаю,—гаворыць таварыш Сталін,—што калі-б мы змаглі, калі-б мы здолелі нашы партыйныя кадры, знізу даверху, падрыхтаваць ідэалагічна і загартаваць іх палітычна такім чынам, каб яны маглі свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, калі-б мы здолелі зрабіць іх зусім зрэлымі ленінцамі, марксістамі, здольнымі вырашаць без сур'ёзных памылак пытанні кіраўніцтва краінай, то мы вырашылі-б гэтым дзевяць дзесятых усіх нашых задач».

Такі нястомны клопат таварыша Сталіна аб тэарэтычным і палітычным росце партыйных кадраў выцякае з асобай ролі нашай партыі, як авангарда, як перадавога байца міжнароднага пролетарыята.

Недаацэнка ведаў тэорыі, запушчанасць палітычнай і тэарэтычнай работы ў партыйных арганізацыях з'яўляюцца паказчыкам тэарэтычнай адсталасці саміх кіраўнікоў гэтых арганізацый, іх бесклапотнасці і палітычнай няграматнасці.

Ворагі народа, трацкісцка-бухарынскія агенты фашызма, свядома шкодзілі і шкодзяць выхаванню мас. Яны разварвалі гурткі і школы, яны засмечвалі прапагандысцкія кадры варожымі нам людзьмі, яны штучна затрымлівалі вывучэнне паслякастрычніцкага перыяда гісторыі нашай партыі, яны прабавалі пратаскваць у гуртках і школах варожую ленінізму контррэволюцыйную трацкісцкую кантрабанду, яны культывавалі варожы большэвіцкай партыйнасці погляд, што справа кіраўніцтва партыйнай прапагандай—не справа кіраўнікоў партарганізацыі.

Вось некалькі прыкладаў таго, як шкодзілі і развальвалі работу ворагі, якія ашуканчым шляхам прабраліся да кіраўніцтва.

У Полацкай партыйнай арганізацыі былыя кіраўнікі, ворагі народа, давялі вучобу да поўнага развалу. Школы, гурткі, завочная вучоба былі арганізаваны фармальна, толькі на паперы, у радзе гурткоў і школ на працягу 1937 г. праведзены 2—3 заняткі.

У Петрыкаўскай партыйнай арганізацыі заняткі ў гуртках па вывучэнню гісторыі ВКП(б) скрозь і ўсюды зрываліся, гадамі не працавалі гурткі.

Надта нізкае наведванне гурткоў і школ па сутнасці зводзіла на нішто ўсю іх работу.

У большасці партарганізацый процант наведвання школ хістаўся ад 40 да 50.

У Горацкім раёне былы сакратар райкома, выкрыты як вораг народа, з мэтай развaліць партыйную вучобу, узяў на сябе кіраўніцтва прапагандысцкім семінарам па гісторыі ВКП(б). На працягу 6-ці месяцаў ён не правёў ні аднаго занятка, чым развaліў работу гуртка.

Ворагі, прабраўшыся да кіраўніцтва партыйнымі органамі, засмечвалі кадры прапагандыстаў варожымі, чуждымі партыі людзьмі. Так было ў Менскай, Гомельскай, Магілёўскай, Лепельскай і радзе іншых партыйных арганізацый.

Аб вялікай засмечанасці прапагандысцкіх кадраў сведчаць наступныя лічбовыя даныя.

У Сталінскім райкоме (Менск) са 130 прапагандыстаў адстаронена ад работы 48 чалавек, у Кагановіцкім са 154 чалавек адстаронена 30, у Варашылаўскім са 115 прапагандыстаў, прапушчаных праз камісію, адстаронена 38 чалавек.

У Магілеве адстаронена ад прапагандысцкай работы 16 чалавек, ў Бабруйску 48, ў Гомелі 20, у Лепелі 4.

У Старобінскай арганізацыі 8 прапагандыстаў выключаны з партыі, як ворагі народа.

Такія-ж, прыкладна, вынікі дае ачыстка прапагандысцкіх кадраў ад чуждых і варожых нам людзей амаль ва ўсіх партыйных арганізацыях рэспублікі. А работа гэта яшчэ далёка не закончана.

Кіраўнікі паасобных партыйных арганізацый, не разумеючы значэння партыйнай прапаганды і не ўмеючы ўвязваць яе з чарговымі палітычнымі задачамі, заяўлялі, што ў час падрыхтоўкі да выбараў ў Вярхоўны Совет няма калі займацца партыйнай прапагандай. У выніку ва многіх раёнах партыйная вучоба зусім спынілася.

У Багушэўскім раёне сакратар райкома Дзенісаў так і заявіў: «Гаворачы адкрыта, у нашым раёне за перыяд выбарчай кампаніі зусім спынілі заняткі ўсе партыйныя гурткі». Партыйная вучоба ў раёне была ў той час развалена. Адзін з лепшых гурткоў па гісторыі ВКП(б) пачаў працаваць у красавіку 1936 года. У гэтым гуртку займалася 23 чалавекі: 13 членаў партыі, 9 кандыдатаў і 1 спачуваючы. Склад слухачоў за гэты час значна змяніўся, хоць гурток далёка яшчэ не закончыў сваёй праграмы. А з 26 верасня 1937 г. заняткі зусім спыніліся і гурток па сутнасці самаліквідаваўся.

Буда-Кашалеўскі райком партыі вынес рашэнне перанесці партвучобу на перыяд пасля выбараў. Культпропу райкома тав. Галавачу прышлося прасіць Цэнтральны Камітэт партыі дапамагчы яму ўздзейнічаць на райком, каб ён не зрываў партыйнай вучобы.

Уваравіцкі райком партыі сам канстатуе і лічыць недапушчальным, што за апошнія тры месяцы зусім спыніліся партыйныя заняткі ў школах і гуртках.

За апошні час, на аснове рашэння бюро Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б, у Мазырскай і Менскай партарганізацыях намеціўся бясспрэчны зрух у пастаноўцы партыйнай прапаганды. Ва многіх партарганізацыях ажывілася работа гурткоў і школ, умацоўваецца сець нізавой партыйнай асветы, праводзіцца ачыстка прапагандысцкіх кадраў ад варожых партыі элементаў. У Гомелі, Менску, Магілеве, Рэчыцы і іншых гарадах адкрыты агульна-адукацыйныя школы, каб канчаткова ліквідаваць няграматнасць і малаграматнасць сярод комуністаў.

Калі яшчэ не так даўно адзначалася, што ў Менскай партыйнай арганізацыі гурткі і школы, вывучаючы гісторыю партыі, ледзь дайшлі да кастрычніцкага перыяда, то зараз мы адзначаем тут некаторы зрух. Так, у Сталінскім райкоме (Менск) паслякастрычніцкі перыяд вывучаюць больш паловы гурткоў і школ. У Варашылаўскім райкоме 60 проц. школ па гісторыі партыі вывучаюць ужо паслякастрычніцкі перыяд. Не адстаюць у гэтай справе Глуская, Гомельская і рад іншых партарганізацый.

Аднак трэба сказаць, што ў справе ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў партыйнай прапагандзе зроблены першыя крокі. Вялікая, сур'ёзная работа яшчэ толькі пачалася. Партыйныя арганізацыі Беларусі павінны разгарнуць далейшую ўпартую работу па ліквідацыі шкодніцтва ў партыйнай прапагандзе, па павышэнню яе якасці і ўмацаванню школ кваліфікаванымі, чэснымі партыйнымі кадрамі. Неабходна стварыць усе ўмовы для таго, каб поўнасцю правесці ў жыццё ўказанні таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам.

Пленум ЦК КП(б)Б указаў, што для таго, каб забяспечыць высокі ідэйна-палітычны ўзровень большэвіцкай прапаганды, неабходна правільна размяркаваць у гуртках і школах слухачоў, у адпаведнасці з узроўнем іх ведаў і запросаў, добра ведаць прапагандыстаў, сістэматычна правяраць і дапамагаць ім у рабоце, прыцягнуць да справы партыйнай асветы кіраўнікоў партыйнага, гаспадарчага і совецкага апарата.

Каб гурткі і школы працавалі прадукцыйна, неабходна з самага пачатку правільна ўкамплектаваць іх, улічваючы агульна-адукацыйныя веды і ўзровень палітычнага развіцця кожнага комуніста. Трэба раз і назаўсёды пакончыць з механічным залічэннем усіх у адзін гурток, з арганізацыяй іх па вытворчаму прынцыпу, як гэта мела месца ў Гомелі на паравоза-рамонтным заводзе, дзе быў створан цэх-гурток, або ў Скрыгалаўскай кандыдацкай школе палітграматы (Петрыкаўскі раён), куды залічаны былі разам таварышы, якія скончылі соўпартшколу, і комуністы з элементарнай агульна-адукацыйнай падрыхтоўкай. Камплектаванне школ—не тэхнічнае пытанне. Ад яго залежыць якасць вучобы. Яно патрабуе неаслабнай увагі.

Трэба зразумець, што ў гуртку, які з'яўляецца асновай масавай партыйнай асветы, неабходна ўстанавіць элементарны парадак. На ўвесь перыяд работы гуртка трэба скласці цвёрды план вучобы, устанавіць сталыя дні заняткаў, завесці журнал для ўліку паспяховасці і наведвання, забяспечыць гурткі наглядными дапаможнікамі, картамі, замацаваць за імі памяшканні з належнай класнай абстаноўкай.

Шмат часу траціцца яшчэ на выдумванне новых форм партыйнай вучобы, тады як ёсць старыя формы і метады, якія ўпаўне сябе апраўдалі і могуць шырока ўжывацца.

Адна з важнейшых задач у гэтым годзе—канчаткова ліквідаваць малапраматнасць сярод комуністаў. У асяроддзі перадавога атрада рабочага класа і працоўных мас Совецкага Саюза не павінна быць малапраматных людзей.

У гарадах і раённых цэнтрах трэба стварыць спецыяльныя агульнаадукацыйныя школы, скарыстаўшы мясцовыя настаўніцкія сілы і сродкі, адпускаемыя па лініі гарана.

Вопыт Менска, Гомеля, Магілева паказвае, што поспех залежыць ад правільнай арганізацыі гэтай справы. Сталінскі райком гор. Менска адкрыў агульнаадукацыйную 4-класную школу для малапраматных комуністаў. Пры камплектаванні школы былі праведзены спецыяльныя іспыты. Слухачы ў колькасці 122 чал. размеркаваны па класах у адпаведнасці з узроўнем ведаў. У школе выкладаецца арыфметыка, руская мова, геаграфія, прыродазнаўства, гісторыя партыі і пытанні бягучай палітыкі. Заняткі адбываюцца рэгулярна 10 раз у месяц па 4 гадзіны ў дзень. Слухачы забяспечаны ўсімі неабходнымі дапаможнікамі і праяўляюць вялікі інтарэс да вучобы. У Варашылаўскім райкоме створана такая-ж школа.

У Гомелі ў школах для малапраматных вучацца 150, у Магілёве 136 комуністаў. Нават у такім невялікім раённым цэнтры, як Ельск, створана агульнаадукацыйная школа для комуністаў.

Вопыт паказвае, што пры бальшэвіцкай напорыстасці, якая перамагае ўсе перашкоды, справа ліквідацыі малапраматнасці сярод комуністаў будзе забяспечана.

Некаторыя цяжкасці сустракаюцца ў вёсцы. Але і тут можна добра арганізаваць вучобу. Настаўнікаў школ трэба прымацаваць да комуністаў-адзіночак, забяспечыўшы іх неабходным навучальным матэрыялам.

ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час указваў, што прапагандыст з'яўляецца рашаючым звяном у сістэме партыйнай прапаганды. Тым часам прапагандыст у нас скрозь і ўсюды прадастаўлен яшчэ самому сабе. Семінары—гэты важнейшы від работы з прапагандыстамі—месяцамі не склікаюцца. Сталінскі райком не збіраў прапагандыстаў на працягу 2—3 месяцаў. Рад прапагандыстаў Варашылаўскага райкома сам патрабуе ад райкома дапамогі, але культпроп адсылае іх у Дом партактыва, які паказаў поўную няздольнасць арганізаваць гэту работу.

У Глускім раёне семінар прапагандыстаў не склікаўся 3 месяцы. У Лёзненскім, Чырвонаслабодскім, Кіраўскім, Лоеўскім і многіх іншых раёнах семінары наогул не арганізаваны.

Партыйныя кабінеты не выконваюць сваёй асноўнай ролі, не дапамагаюць прапагандыстам у рабоце. У Смалявічах, у Пухавічах партыйныя кабінетыператварыліся, у лепшым выпадку, у бібліятэку або ў месца, дзе можна пагуляць у шашкі, даміно, шахматы. Для павышэння ідэйнага і палітычнага ўзроўню прапагандыстаў партыйныя кабінеты абавязаны арганізаваць лекцыі, даклады, кансультацыі на паасобныя тэмы па вывучэнню класікаў марксізма-ленінізма.

Новыя кадры, вылучаныя за апошні час на прапагандысцкую работу, патрабуюць сур'ёзнай тэарэтычнай падрыхтоўкі. Пленум ЦК КП(б)Б адобрыў план перападрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў. Сёлета праз т[illegible]хмесячныя к[illegible]сы будзе прапушчана 650 прапаганды-

стаў, праз шасцімесячныя курсы пройдуць спецыяльную падрыхтоўку 50 штатных прапагандыстаў і загадчыкаў партыйнымі кабінетамі, праз двухмесячныя курсы мы павінны будзем прапусціць усіх загадчыкаў культпропамі, асабліва загадчыкаў партыйнымі кабінетамі і ўсіх штатных прапагандыстаў. Для падрыхтоўкі прапагандыстаў, якія працуюць непасрэдна на прадпрыемствах, мяркуецца арганізаваць у чатырнаццаці гарадскіх і раённых цэнтрах гадовыя курсы на 400 чалавек без адрыву ад вытворчасці.

За мінулы год праз сістэму трохмесячных курсаў прашло каля 600 прапагандыстаў, большасць якіх скарыстоўваецца зараз на прапагандысцкай рабоце. З пачатку студзеня да заняткаў на трохмесячных курсах прыступіла першая група прапагандыстаў у колькасці 184 чал.

Пасылка прапагандыстаў у Маскву для азнаямлення з гістарычнымі экспанатамі Музея Леніна садзейнічае павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў. У мінулым годзе Музей Леніна наведала каля 500 прапагандыстаў.

Цэнтральнае месца ў прапагандысцкай рабоце павінна заняць барацьба за якасць вучобы. Ворагі народа, імкнучыся разваліць справу партыйнай прапаганды, пратасквалі ў выкладанне гісторыі партыі трацкісцкую кантрабанду, у скажоным выглядзе прадстаўлялі барацьбу нашай партыі на розных этапах яе гісторыі.

Якасць партыйнай вучобы з'яўляецца яшчэ самым слабым месцам у сістэме партыйнай асветы. Схематызм, схаластыка, шаблон у выкладанні, а часам і прамое скажэнне гістарычных фактаў і падзей усё яшчэ не зжыты ў практыцы паасобных гурткоў і школ.

Для ілюстрацыі прывядзем факт, які меў месца ў адным з гурткоў па гісторыі партыі павышанага тыпу ў Гомелі. Заняткі праводзіў прапагандыст Тюфаеў. На пытанне аб эканамічным ладзе дарэволюцыйнай Расіі ніхто са слухачоў не мог адказаць. Тады прапагандыст, не даўшы разгорнутай характарыстыкі эканамічнага ладу ў Расіі (заняткі адносіліся да першай тэмы), сам адказаў на пастаўленае пытанне ў некалькіх словах: «У Расіі быў тады феадальны лад». Перашоўшы затым да народніцтва, ён заявіў: «Народнікі хацелі будаваць соцыялізм, але гэта была чапуха, утопія. Калі яны праз абшчыну пацярпелі крах, то перайшлі на другую форму—«Зямля і воля» і «Чорны перадзел». «Чорны перадзел» быў на ранейшых пазіцыях, а «Зямля і воля»—за тэрор». Не растлумачыўшы толкам справы, прапагандыст пытае ў слухача Лізунова: «Як Ленін ацэньваў народніцтва?». Слухач адказаць не можа. Тады Тюфаеў задае дадатковае пытанне: «Народнікі 60-х гадоў былі рэакцыйны ці не?». Слухач адказвае: «Рэакцыйны».—«А чаму?»—«Не ведаю».—«Ну, дык пачытайце ў кніжцы». Лізуноў чытае, але і пасля гэтага адказаць на пытанне не можа. Тады Тюфаеў сам бярэцца растлумачыць, але ў яго нічога не выходзіць. Слухачы пакідаюць заняткі, не вынесшы з іх нічога пэўнага.

Тэхнічны дырэктар гомельскага паравоза-вагонарамонтнага завода тав. Лук'янаў, працуючы прапагандыстам, на заняткі прыходзіць непадрыхтаваным. Праходзячы другую тэму па гісторыі партыі, ён зусім абышоў такія пытанні, як прамысловы крызіс, рост рабочага руху, стачачная барацьба, растоўская стачка, батумская стачка, якою кіраваў таварыш Сталін. Ні слова не сказаў ён і аб ролі таварыша Сталіна ў стварэнні Закаўказскай арганізацыі

У Магілеве прапагандыст Маркоўскі на тэму аб рэволюцыі 1905 г сказаў, што ў той перыяд былі дзве тактыкі. Аднак аб сутнасці гэтых тактык слухачы нічога не пачулі. Зусім відавочна, што прапагандыст не рыхтаваўся да заняткаў.

На менскім заводзе «Большэвік» можна было наглядаць такі малюнак. Заняткі гуртка павінны пачынацца роўна а 5 гадзіне вечара. А 5 гадзіне 15 мін. з 15 слухачоў прышло толькі 6, праз мінут 20— яшчэ 2.

Прапагандыст тав. Нікіцін прыступае да сваёй справы:

— Ну, што мы сёння будзем, таварышы, рабіць? Як да заняткаў падрыхтаваліся?

Слухачы маўчаць.

— Ну дык як-жа, што будзем сёння рабіць? Пачыталі дома?

Слухачы маўчаць.

Праз пару мінут адзін слухач раіць:

— Будзем чытаць услух.

— Ну што-ж, калі не падрыхтаваліся, давайце чытаць услух.

Заняткі праходзяць марудна, нецікава.

Зразумела, у нас ёсць і добрыя ўзоры работы. Партыйныя школы і гурткі прадукцыйна працуюць тады, калі прапагандыст здолее зацікавіць слухача, расказаць гісторыю нашай партыі жывой і яркаю мовай, не злоўжываючы цытатамі і формуламі з кніжак і дапаможнікаў.

На Гомсельмашы гурток па гісторыі партыі вядзе прапагандыст Кацнельсон. Заняткі ў яго заўсёды праходзяць ажыўлена, актыўна. Слухачы з цікавасцю наведваюць гурток і добра рыхтуюцца да заняткаў.

Ва Уздзенскім раёне за апошні час значна палепшылася работа школ і гурткоў. Кожны прапагандыст узяў сабе за правіла дэталёва правяраць веды слухачоў пасля кожнай тэмы. З незасвоійшымі праграмнага матэрыялу прапагандысты праводзяць дадатковыя заняткі.

* * *

ЦК ВКП(б) у вядомай пастанове аб прапагандыскай рабоце ў бліжэйшы час асобую ўвагу зварачае на неабходнасць асвятляць у час заняткаў пытанні міжнароднага становішча, бягучай палітыкі, увязваць праграмны матэрыял з жыццём нашай партыі, нашай краіны, са становішчам за межамі Совецкага Саюза, што дае магчымасць слухачу лепш асэнсіць бягучыя падзеі. Аднак, у апошні час гэтым пытанням гурткі ўдзяляюць мала ўвагі. Практыка заслухоўвання на занятках пытанняў бягучай палітыкі павінна быць ва што-б там ні стала адноўлена і шырока ўжыта ва ўсіх гуртках і школах партыйнай сеці.

Нездавальняюча пастаўлена яшчэ і справа ідэйнага ўзбраення партыйнага актыва. Нават у такіх буйных партарганізацыях, як Менская, Гомельская, Віцебская, работнікі партыйных, совецкіх і гаспадарчых кіруючых арганізацый вучобай не займаюцца. Лекцыі і даклады для іх не арганізуюцца. Менскі Дом партактыва фактычна самаўхіліўся ад работы з партыйным актывам. У Мазыры 40 чал. з акруговага і раённага актыва нідзе не вучацца. У Капаткевічах 24 чал. з партактыва не ахоплены ніякімі школамі.

Пленум ЦК КП(б)Б асоба падкрэсліў значэнне ідэйнага ўзбраення кіруючых кадраў. Акруговыя, гарадскія і раённыя партыйныя камітэты павінны зразумець, што найвялікшая сіла большэвізма заключаецца ў рэволюцыйнай тэорыі марксізма-ленінізма, узбагачанай шмат-

гадовай практыкай барацьбы нашай партыі за справу рабочага класа, вопытам трох рэвалюцый і пабудовы сацыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

Таварыш Сталін з асобаю сілай падкрэслівае велізарнае значэнне тэорыі для практычнай работы партыі.

Наша партыя—авангард рабочага класа Краіны Советаў, перадавы атрад міжнароднага пролетарыята. І зусім зразумела, што аўладанне марксісцка-ленінскай тэорыяй, палітычнае выхаванне шырокіх мас комуністаў мае для нашай партыі выключнае значэнне.

* * *

Каля года назад ЦК ВКП(б) дазволіў прыём новых членаў у рады партыі. Аднак гэта ўказанне Цэнтральнага Камітэта выконваецца ў нас, на Беларусі, надта марудна, што асоба адзначыў пленум ЦК КП(б)Б. Прыём у партыю—выключна важная і адказная справа. Новапрынятых у рады КП(б)Б таварышоў неабходна ўцягнуць у гурткі і школы. Партыйныя арганізацыі і прапагандысты павінны вывучыць кожнага новапрынятага таварыша, вызначыць для яго гурток або школу, у якой ён хоча вучыцца, і аказаць яму максімальную ўвагу і садзейнасць. Разам з тым у сецць партыйнай асветы неабходна ўцягнуць і беспартыйных таварышоў, якія найбольш выдзеліліся ў перыяд выбарчай кампаніі.

Арганізацыя вучобы комуністаў-адзіночак—адна з важнейшых нашых задач. Найбольш апраўдаў сябе вопыт склікання комуністаў-адзіночак для вучобы ў раённы цэнтр на цэлы дзень, які поўнасцю выкарыстоўваецца па строга ўстаноўленаму вучэбнаму плану. Калі ў раённы цэнтр немагчыма склікаць усіх комуністаў-адзіночак, то трэба практыкаваць і метад куставання. Пры гэтым для кіраўніцтва вучобай неабходна вылучыць спецыяльных прапагандыстаў.

Практыка паказвае, што ў паасобных раёнах выкліканыя на вучобу комуністы скарыстоўваюцца зусім для іншых мэт: для іх наладжваюць вытворчыя нарады, інструкцыйныя нарады і т. п. Так зрываецца часам партыйная вучоба комуністаў-адзіночак.

Сістэма партыйнай асветы ўсё яшчэ слаба выкарыстоўвае такі магутны рычаг ідэйнага выхавання, як кіно. Тым часам, кінофільмы «Юнасць Максіма», «Ленін у Кастрычніку», «Чапаеў», «Мы з Кранштата», «Апошняя ноч» і т. д. могуць з'явіцца выдатным наглядным дапаможнікам. Яны ў яркіх вобразах паказваюць гістарычныя перамогі, якіх дабілася наша партыя на ўсіх этапах барацьбы з царызмам, на фронтах грамадзянскай вайны, у перыяд разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва і выкарчоўвання ворагаў народа.

Зусім слаба выкарыстоўваецца радыё. Перадаваемыя з Масквы радыё-лекцыі кваліфікаваных выкладчыкаў з'яўляюцца буйным дадатковым фактарам выхавання комуністаў. Раённыя радыё-аудыторыі павінны сачыць за расписаннем усіх радыё-лекцый з Масквы і часткова з Менска, шырока паведамляць аб іх усёй партыйнай арганізацыі, усім слухачам гурткоў і школ. Радыё-ўстаноўкі павінны ўтрымлівацца ў поўнай спраўнасці. Мы не маем права ігнараваць радыё—гэты магутны рычаг павышэння палітычнага і культурнага светапогляду шырокіх партыйных мас.

У сістэме партыйнай асветы вялікае месца займае завочнае радыёпартнавучанне, як адзін з відаў партыйнай прапаганды. Асновай радыёпартнавучання з'яўляюцца лекцыі, якія перадаюцца па радыё Інсты-

тутам масавага завочнага навучання партактыва пры ЦК ВКП(б). Гэты від вучобы сябе ўпаўне апраўдвае, што пацвярджаецца вялікім інтарэсам, які праяўляе да яго раённы партыйны і комсамольскі актыў. У мінулым годзе 62 раёны Беларусі вынеслі рашэнне аб арганізацыі ў іх завочнага радыёпартнавучання. Аднак яны не маглі быць абслужаны поўнасцю з-за недахопу выкладчыцка-прапагандысцкіх кадраў.

На аснове дырэктыўных указанняў ЦК кантынгент завочнікаў установлен у 40 раёнах і 2 палітаддзелах чыгункі. На 1 студзеня 1938 г. навучаюцца 2244 завочнікі з партыйна-комсамольскага актыва і 1900 з актыва калгасаў, соўгасаў і МТС. Аднак установлена, што большасць завочнікаў слухае радыёлекцыі нерэгулярна, а частка зусім не слухае. Вінаваты ў гэтым перш за ўсё раённыя камітэты партыі, якія не выканалі пастановы Цэнтральнага Камітэта ВКП(б). Гэта пастанова абавязвае сакратароў райкомаў партыі падрыхтаваць усе наяўныя ў раёне радыёпартаудыторыі да прыёму радыёлекцый інстытута пры ЦК ВКП(б), забяспечыць для радыёслухання выгодныя памяшканні.

У радзе раёнаў завочнікам не створаны ўмовы для рэгулярнага слухання радыёлекцый. У гадзіны перадачы радыёлекцый завочнікі не аслабаняюцца ад наведвання нарад, сходаў, пасяджэнняў. Райкомы партыі большасць інструктароў-прапагандыстаў, якія абавязаны арганізаваць завочнае радыёпартнавучанне, скарыстоўваюць на розных гаспадарчых кампаніях. Аб гэтым паведамляюць самі інструктары.

Тав. Рабая з Нароўлі піша: «Адкрыта кажучы, па сваёй асноўнай рабоце мала раблю, акрамя таго што ўкамплектавала школу калгаснага актыва і правяла адзін занятак». На адной нарадзе тав. Рабая заявіла, што райком партыі ёй зусім не дапамагае, а сакратар райкома не дазваляе завочнікам з'яўляцца на вучэбныя канферэнцыі.

Інструктар Любаньскага райкома тав. Каган піша: «Прашу аслабаніць мяне ад абавязкаў інструктара-прапагандыста, бо не маю часу займацца гэтай справай. Я з 14 лістапада да 13 снежня працаваў на выбарчым участку, а з 14 снежня камандзіраван на лесазагатоўкі да канца выканання ўсіх сельскагаспадарчых работ».

Многія сакратары райкомаў не выконваюць пастановы ЦК ВКП(б), якая абавязвае аслабаняць завочнікаў ад работы для яўкі на штомесячныя трохдзенныя заняткі, пяцідзенныя ўстановачныя заняткі ў пачатку навучальнага года і дзесяцідзенныя заключныя ў канцы навучальнага года. У кастрычніку, лістападзе і снежні заняткі завочнікаў былі сарваны ў Сіроцінскім, Полацкім, Расонскім, Заслаўскім, Мсціслаўскім і іншых раёнах.

Завочная вучоба павінна стаць у цэнтры ўвагі партыйных арганізацый.

* * *

Кіраўнікі партыйных арганізацый павінны ў бліжэйшы час дабіцца карэннага пералому ў пастаноўцы справы партыйнай прапаганды. Пытанні партыйнай прапаганды неабходна часцей ставіць на пленумах акруговых, гарадскіх і раённых камітэтаў партыі. Трэба ўвесці ў сістэму, каб на кожным пасяджэнні бюро гаркомаў і райкомаў слухаліся справаздачы аб рабоце школ і паасобных слухачоў.

Партыйныя арганізацыі звычайна ўзвальваюць партыйную вучобу на плечы прапагандыстаў. Самаўхіліўшыся ад гэтай работы, яны зусім не цікавяцца школамі і гурткамі, поспехамі слухачоў, не кантралююць прапагандыстаў. Такую шкодную практыку неабходна спыніць.

Кожная пярвічная партарганізацыя, кожны партком павінны не фармальна, а па сутнасці заняцца пытаннямі партыйнай вучобы. Кіраўнікі партыйных арганізацый самі абавязаны весці прапагандысцкую работу ў школе, гуртку, семінары. Толькі пры такіх умовах мы здолеем узняць справу партыйнай асветы.

* * *

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР з усёй нагляднасцю паказалі, што наша партыя мае невычэрпную крыніцу прапагандысцкіх кадраў для агітацыйнай работы сярод шырокіх мас працоўных і ў першую чаргу сярод членаў і кандыдатаў партыі, спачуваючых і комсамольцаў. Ушчэнт разбіта гнілая «тэорыя» аб адсутнасці кадраў. Кадры ёсць. Трэба толькі ўважліва вырошчваць гэтыя кадры, клапаціцца аб іх, вучыць, кантраляваць і дапамагаць ім у рабоце.

Рэвалюцыйная тэорыя Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна ўзбройвае кожнага комуніста, кожнага працоўнага нашай краіны рэволюцыйнай пільнасцю, мабілізуе на выкананне вялікіх задач, што стаяць перад нашай краінай, узмацняе сілы і магутнасць совецкага народа, згуртоўвае ўсіх працоўных вакол большэвіцкай партыі і яе геніяльнага кіраўніка—вялікага Сталіна.

---

Р. Рутман і Г. Сямёнава

# Вынікі выбарчай кампаніі і задачы агітацыйна-масавай работы

Выбары ў Вярхоўны Совет Саюза ССР прайшлі пры небывала высокім уздыме палітычнай актыўнасці мас. Выбары паказалі ўсяму свету сілу і магутнасць совецкага ладу, непахіснае давер'е і любоў працоўных нашай краіны да комуністычнай партыі і яе правадыра— таварыша Сталіна. Яны з'явіліся грандыёзнай дэманстрацыяй брацкай дружбы вялікай сям'і народаў Саюза ССР, перамогай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Рабочыя, сяляне, працоўная інтэлігенцыя Совецкай Беларусі, як і ўсёй нашай краіны, аддалі свае галасы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных.

Бліскучая перамога блока комуністаў і беспартыйных сведчыць аб маральнымі і палітычным адзінстве працоўных Совецкай Беларусі, аб глыбокай сувязі большэвіцкай партыі з масамі, аб найвялікшай арганізаванасці і бязмежнай адданасці нашага народа партыі Леніна—Сталіна. Ушчэнт разбіты каварныя замыслы міжнароднай контррэволюцыі і яе трацкісцка-бухарынскай і буржуазна-нацыяналістычнай агентуры—адарваць беларускі народ ад Совецкага Саюза. Выдатныя вынікі галасавання паказалі, што Беларусь—роўнапраўны член вялікай сям'і народаў Совецкага Саюза—з'яўляецца яго сапраўды баявым непрыступным фарпостам на граніцы з капіталістычным Захадам.

Сваім аднадушным галасаваннем беларускі народ выразіў глыбокую любоў і бязмежную адданасць свайму лепшаму другу, правадыру і настаўніку—вялікаму Сталіну.

Працоўныя Беларусі аднадушна абралі сваім дэпутатам у Вярхоўны Совет Саюза ССР вернага саратніка вялікага Сталіна—першага маршала Совецкага Саюза, жалезнага наркома абароны, правадыра Чырвонай Арміі Клімента Ефрэмавіча Варашылава.

12 снежня выбаршчыкі беларускай сталіцы, апускаючы ў выбарчыя урны свае бюлетэні за Клімента Ефрэмавіча Варашылава, выразілі пачуцці ўсяго беларускага народа ў палкіх словах работніцы тав. Хвашчэўскай: «Калі настане грозны час, калі абнаглелы вораг асмеліцца сваім брудным ботам ступіць на нашу свяшчэнную совецкую зямлю, мы ўсе, як адзін, па першаму закліку партыі і таварыша Сталіна пойдзем у бой пад кіраўніцтвам слаўнага нашага палкаводца таварыша Варашылава і разгромім ворага на яго тэрыторыі».

Дзень 12 снежня ў Совецкай Беларусі ператварыўся ва ўсенароднае свята. Рабочыя і калгаснікі на ўпрыгожаных сцягамі аўтамашынах і фурманках сабраліся да выбарчых участкаў. Усеагульнае ліка-

ванне вылілася ў радасных песнях і вясёлых плясках. Цалкам збыліся словы таварыша Сталіна:

«Надыходзячыя выбары—гэта не проста выбары, таварышы. Гэта сапраўды ўсенароднае свята нашых рабочых, нашых сялян, нашай інтэлігенцыі».

Кожны выбаршчык стараўся раней прыйсці на выбарчы ўчастак, каб першым аддаць свой голас лепшым сынам вялікай радзімы.

Працоўныя Совецкай Беларусі паслалі ў вышэйшы орган дзяржаўнай улады лепшых сваіх сыноў, палкіх патрыётаў радзімы, вядомых стаханаўцаў прадпрыемстваў і калгасных палёў.

Грыгорый Альтшулер—стаханавец завода «Гомсельмаш», Ольга Багачова—стаханаўка віцебскай фабрыкі імя Кагановіча, Нікіта Батоўкін—вядомы конюх Прапойскага раёна, Іван Значонак—вядомы трактарыст Заслаўскай МТС. Дзенісаў Сяргей—герой Совецкага Саюза. выдатны абаронца радзімы, Елісей Гарачоў—слаўны сын Чырвонай Арміі, Масленікаў, Абрамаў—бясстрашныя пагранічнікі, прафесар Белкін—адзін з лепшых прадстаўнікоў працоўнай інтэлігенцыі і многа іншых. Усе яны—плоць ад плоці рабочага класа, працоўнага сялянства і совецкай інтэлігенцыі. Усе яны—верныя сыны сваёй радзімы, сапраўдныя прадстаўнікі беларускага народа.

Выбарчая кампанія далучыла да палітычнага жыцця сотні тысяч непартыйных большэвікоў, да канца адданых партыі Леніна—Сталіна.

Палітычная актыўнасць мас суправаджалася магутным вытворчым уздымам. Ка дню выбараў дзесяткі буйных прадпрыемстваў рэспублікі датэрмінова выканалі свае гадавыя вытворчыя планы. Стаханаўцы прадпрыемстваў паказалі ўзоры соцыялістычных адносін да працы. На Гомельскім паравоза-рамонтным заводзе тав. Капульцэвіч выканаў план на 628 проц., тав. Байкачоў—на 462 проц. Токар бабруйскага завода імя Сталіна тав. Копель выканаў план на 750 проц. Брыгада грузчыкаў ст. Слуцк у дзень выбараў выканала сваё зменнае заданне на 2000 проц. Такіх фактаў мы маем многа.

Рашэнне ЦК ВКП(б) і саюзнага ўрада аб дапамозе беларускаму народу, накіраванае на ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы, узняло новую хвалю актыўнасці сялянскіх мас. У калгасах і соўгасах рэспублікі шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу дня выбараў.

Партарганізацыі Беларусі па-большэвіцку ўзначалілі гэты ўздым працоўных, яшчэ бліжэй звязаліся з масамі, яшчэ цясней згуртавалі іх вакол комуністычнай партыі. Шырокай агітацыйна-прапагандысцкай работай яны здолелі давесці жывое слова большэвіцкай праўды да кожнага працоўнага, уцягнулі ў актыўную дзяржаўную работу тысячы партыйных і непартыйных большэвікоў. Каля 40 тысяч перадавых людзей Беларусі працавалі ў складзе ўчастковых, акруговых і рэспубліканскіх выбарчых камісій, 4257—даверанымі і больш 40 тысяч агітатарамі. Гэтая агромная армія агітатараў ужывала розныя формы і метады ў сваёй практычнай рабоце.

Да выбарчых участкаў у гарадах і вёсках былі прымацаваны партыйныя арганізацыі. Яны размеркавалі свой актыў па вуліцах, дамах, дзесяцідворках, каб лепш падрыхтаваць выбаршчыкаў, растлумачыць ім тэхніку выбараў, Сталінскую Канстытуцыю, азнаёміць з біяграфіяй кандыдатаў. Пры такой арганізацыі работы кожны агітатар адчуваў высокую адказнасць за даручаны яму ўчастак.

Масавая сець гурткоў забяспечыла глыбокае вывучэнне Сталінскай Канстытуцыі і даклада таварыша Сталіна. Паводле даных толькі з 63 раёнаў, там працавала каля 13 тысяч гурткоў, якія ахапілі больш 500 тысяч чалавек. Па аднаму Гомелю працавала 2500 гурткоў.

Большасць гурткоў узорна паставіла работу. Заняткі праходзілі цікава і ажыўлена. Агітатары трымалі самую цесную сувязь са сваімі слухачамі. Самі ішлі да іх на дом, вялі гутаркі, уцягвалі ў гурткі, высвятлялі прычыны няяўкі на заняткі.

Выбарчая кампанія выклікала разнастайнейшыя формы і метады агітацыі і прапаганды. Гутаркі на кватэрах выбаршчыкаў, сходы, злёты, палітдні, вечары, прысвечаныя кандыдатам у дэпутаты, сходы старыкоў, хатніх гаспадынь, хатніх работніц, моладзі, равеснікаў Кастрычніка—усе гэтыя формы шырока ўжываліся выбарчымі ўчасткамі. У Менску праводзілі сходы начных вартаўнікоў, прыбіральшчыц, швейцараў, г. зн. такіх катэгорый працоўных, якія пры звычайных умовах работы на сходах не бываюць.

Шырока былі скарыстаны такія сродкі агітацыі, як кіно і радыё, патэфон і аласкопы, альбомы і геаграфічныя карты. У агромных тыражах выпускаліся спецыяльныя плакаты, лістоўкі, літаратура на розных мовах. Вялікае значэнне мелі шматлюдныя мітынгі з выступленнем кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР. У Віцебску былі праведзены 3 агульнагарадскія мітынгі, у якіх прынялі ўдзел 75.000 выбаршчыкаў. У Менску на мітынгу, дзе выступаў нарком абароны маршал Совецкага Саюза таварыш Варашылаў, прысутнічала 120.000 чалавек. У Асвеі—4.000 чалавек. У кожным раёне Беларусі праводзіліся такія мітынгі.

Вялікую ролю адыгралі агітбрыгады. Віцебскі гарадскі камітэт партыі ў дапамогу сельскім райкомам паслаў спецыяльныя агітмашыны з агітатарамі, якія працавалі ў Суражы, Лёзне, Багушэўску, Бешанковічах, Мехаве, Сіроціне па 16—20 дзён. Агітбрыгады былі забяспечаны літаратурай, кінаперасоўкамі, патэфонамі з камплектамі пласцінак, на якіх запісаны прамовы таварышоў Сталіна і Молатава.

У Сіроцінскім раёне агітбрыгада правяла вялікую работу ў 8 сельсоветах. Яна абслужыла 7200 чалавек і дала 18 кінасеансаў.

Партарганізацыі Менска, Гомеля, Віцебска, Магілева, Бабруйска і іншых гарадоў накіравалі ў раёны больш 900 агітатараў на ўвесь перыяд выбараў.

* * *

У выніку ўсёй гэтай работы ўзнялася палітычная актыўнасць выбаршчыкаў, павысілася іх рэволюцыйная пільнасць. Усе слаі насельніцтва далучыліся да палітычнага жыцця. Сярод комуністаў, комсамольцаў і беспартыйнага актыва выявіліся тысячы новых прапагандыстаў, агітатараў.

Цяпер ужо нашы партыйныя кіраўнікі не могуць сказаць, што ў іх няма актыва, няма з кім працаваць. Само жыццё паказала нікчэмнасць балбатні аб беднасці кадраў.

Тав. Жданаў на прадвыбарчым сходзе гаварыў аб нашых агітатарах:

> «У сэнсе яркасці, сакавітасці, поўнацэннасці іх выступленняў, у сэнсе выбару новых тэм, зместу і формы мовы, многія з іх, слова гонару, заткнуць за пояс іншых паліналых нашых агітатараў».

Жыццё паказала правільнасць гэтых слоў. Выдатныя ўзоры агітацыйнай работы паказаў беспартыйны актыў: настаўнікі, урачы, інжынеры, прафесары, актывісты-калгаснікі.

Аб росце новых кадраў агітатараў сведчыць хоць-бы такі факт. У Мазырскай акрузе, дзе было 1210 агітатараў, у час выбараў колькасць агітатараў дасягнула 3033 чалавек (814 комуністаў, 1112 комсамольцаў, 1107 беспартыйных).

Нававылучаныя таварышы здолелі папулярна, пераканаўча, з большэвіцкай завостранасцю расказаць выбаршчыкам аб кандыдатах блока комуністаў з беспартыйнымі, аб ролі нашай партыі ў будаўніцтве соцыялізма, аб велізарных дасягненнях за 20 год савецкай улады. У агітмасавай рабоце лепшыя агітатары ўмела выкарыстоўвалі мастацкую літаратуру.

У калгасе «Чырвонаармеец» Магілеўскага раёна даверанай асобай быў вылучан 62-гадовы калгаснік тав. Юрчанка. Ён правільна расставіў агітацыйныя сілы, сам правяраў работу кожнага агітатара. Яго ўчастак даў стопроцантную яўку на выбары. Тав. Юрчанка прадаўжае і зараз агітацыйную работу, увязваючы яе з падрыхтоўкай калгаса да веснавой сяўбы.

Тав. Мядзведзеў, даверааны Капаткевіцкага раёна, працаваў энергічна і ўмела. Ён падцягнуў свой участак да перадавых. Асабіста абходзіў і наведваў выбаршчыкаў у самых далёкіх кутках свайго ўчастка. Дастаў 3 патэфоны, і выбаршчыкі слухалі жывыя словы таварышоў Сталіна і Молатава. Усюды, дзе толькі збіраліся выбаршчыкі, пачыналася актыўная бяседа аб Сталінскай Канстытуцыі, аб пытаннях міжнароднага становішча.

З новых кадраў агітатараў і прапагандыстаў многія вылучаны цяпер на партыйную, савецкую і гаспадарчую работу.

Комсамолка тав. Лёліна, добра праявіўшая сябе на рабоце старшыні сельсовета, была абрана дэпутатам Вярхоўнага Совета СССР, а нядаўна яе абралі старшынёю Асіповіцкага райвыканкома.

Лепшага трактарыста рэспублікі тав. Значонка абралі дэпутатам Вярхоўнага Совета СССР, а зараз—старшынёй Заслаўскага райвыканкома.

Стаханавец бабруйскага машына-будаўнічага завода імя Сталіна тав. Каровін выбран дэпутатам і вылучан наркомам мясцовай прамысловасці БССР.

Старшыня ўчастковай выбарчай камісіі тав. Выхадцаў, які працаваў у Ваенгандлі, вылучан цяпер намеснікам Наркомгандля БССР.

Тав. Ідэльчык—старшыня выбарчай камісіі, працаваў экспедытарам Белрыбтрэста, вылучан дырэктарам Белкомунбанка.

Сотні лепшых агітатараў-актывістаў выбарчай кампаніі вылучаны інструктарамі райкомаў, дырэктарамі прадпрыемстваў, парторгамі, сакратарамі парткомаў, прапагандыстамі, начальнікамі цэхаў, старшынямі калгасаў, сельсоветаў.

Лепшыя актывісты выбарчай кампаніі—давераныя, агітатары, члены выбарчых камісій—уступаюць у рады большэвіцкай партыі.

Рэчыцкая фабрыка «Х Кастрычнік» за снежань прыняла ў партыю 6 рабочых з актыва выбарчай кампаніі. Сярод іх электраманцёр тав. Каўшэвіч, які працаваў сакратаром выбарчай камісіі.

Асіповіцкі райком прыняў у кандыдаты партыі дэпутата Вярхоўнага Совета СССР тав. Лёліну, члена акруговай камісіі па выбарах у Совет Саюза—настаўніцу тав. Сучок, члена акруговай выбарчай

камісіі комсамолку тав. Беляеву, старшыню ўчастковай камісіі тав. Астрэйка.

Партарганізацыя Магілеўскага трубаліцейнага завода з ліку лепшых агітатараў прыняла ў партыю 9 чалавек, у групу спачуваючых—8, у комсамол—14.

У выніку выбарчай кампаніі партарганізацыя Беларусі мае выключна спрыяючыя ўмовы для далейшага разгортвання палітычнай работы ў масах. Зусім правільна зрабілі партарганізацыі Менска, Гомеля, Шклова, Рэчыцы, Магілева, якія зараз-жа пасля выбараў замацавалі агітатараў для далейшай работы сярод насельніцтва.

Паводле даных з 55 раёнаў Беларусі, там створаны зараз 1.183 агіткалектывы, у якіх налічваецца 17.580 агітатараў. Большасць агітатараў прымацавана да паасобных дамоў, вуліц, дзесяцідворак для работы сярод неарганізаванага насельніцтва.

Бюро Сталінскага райкома партыі ўстанавіла цвёрдыя дні гуртковых заняткаў: 9, 19 і 29. Пры партыйных арганізацыях створана 8 агіткалектываў, якія прымацаваны да тэрыторый былых участкаў. У студзені райком правёў злёт дворнікаў, начных вартаўнікоў і прыбіральшчыц. На злёце прысутнічала больш 300 чалавек.

Рэчыцкі райком стварыў 22 агіткалектывы і зацвердзіў 1085 агітатараў, з якіх 226 працуюць на прадпрыемствах, 767 у калгасах, 55 ва ўстановах і 37 сярод неарганізаванага насельніцтва. 15 студзеня ў раёне быў праведзен палітдзень для абмеркавання звароту стахапаўцаў сельскай гаспадаркі.

Нашы агітатары з вялікай любоўю прадаўжаюць весці масавую работу. Аб сваім вопыце так расказвае тав. Севасцьянаў—беспартыйны рабочы гомельскага завода імя Ежова: «Выбаршчыкі майго ўчастка прасілі, каб я не спыняў заняткаў пасля выбараў. Я склаў план работы і абмеркаваў яго на гуртку. Пасля выбараў правёў заняткі на тэмы: аб выніках выбараў, аб 20-годдзі ВЧК—ОГПУ—НКВД, аб 15-годдзі ўтварэння СССР, аб прамове таварыша Сталіна, аб ходзе Сесіі Вярхоўнага Совета. Адну гутарку правёў на антырэлігійную тэму, адну прысвяціў мастацкай літаратуры—чытаў творы Некрасава.

Асноўная задача цяпер—замацаваць поспех у агітацыйнай рабоце, захаваць новыя кадры агітатараў і прапагандыстаў, сістэматычна павялічваючы іх рады.

14 снежня ў перадавым артыкуле «Правда» пісала:

> «Цяпер самае галоўнае заключаецца ў тым, каб партыйныя арганізацыі, советы працоўных не разгубілі гэтых выдатных, вырасшых на палітычнай рабоце шматлікіх кадраў грамадскіх дзеячоў, каб усюды—у горадзе і вёсцы—пусціць у ход іх творчую актыўнасць на карысць соцыялістычнага будаўніцтва».

ЦК КП(б)Б правёў рэспубліканскую нараду агітатараў, культпропаў, райпрапагандыстаў, загадчыкаў парткабінетамі. На гэтай нарадзе былі абмеркаваны першыя вынікі агітацыйна-прапагандысцкай работы ў перыяд выбараў, а таксама пытанне аб арганізацыі яе ў сучасны момант. Сярод прысутных было нямала беспартыйных актывістаў. У сваіх выступленнях агітатары з Барысаўскага, Бялыніцкага, Буда-Кашалеўскага, Лёзнянскага, Аршанскага раёнаў па заслугах крытыкавалі райкомы і гаркомы партыі за тое, што пасля выбараў яны закінулі работу з агітатарамі. Выступаўшыя прасілі дапамагчы ім у павышэнні тэарэтычнага і культурнага ўзроўню, выказвалі неабходнасць абмену вопытам агітацыйнай работы.

Некаторыя райкомы партыі разгубілі сваіх агітатараў. У Слуцкай акрузе працавала па выбарам каля 5.000 агітатараў, цяпер-жа на агітацыйна-масавай рабоце замацавана толькі 1400 чалавек, у Глускім раёне—50 чалавек, з якіх толькі 5 комуністаў, у Свяцілавіцкім—80 чал., сярод якіх 5 комуністаў. Мала таго,—гэтыя райкомы аднаўляюць старыя метады, ператвараючы свой партактыў у штатных упаўнаважаных па розных кампаніях.

ЦК КП(б)Б абавязаў партарганізацыі не аслабляць, а наадварот—узмацніць агітацыйную работу на прадпрыемствах, у калгасах, установах і па месцу жыхарства працоўных. Неабходна размеркаваць агітатараў па вуліцах, дзесяцідворках, паасобных дварах, хутарах. Арганізацыя гутарак, дакладаў, экскурсій, гурткоў, палітдзён, пасылка агітбрыгад, агітмашын, лыжныя прабегі, злёты жанчын, моладзі—усе гэтыя формы палітмасавай работы, якія цалкам сябе апраўдалі, неабходна выкарыстоўваць і ў далейшым.

Для агітпунктаў трэба скарыстаць памяшканні чырвоных куткоў, клубаў, дамоў соцкультуры, абсталяваць іх плакатамі, партрэтамі, лозунгамі, дыяграмамі, схемамі дзяржаўнага будаўніцтва СССР. Партарганізацыя адказвае за работу агітпункта. Бюро райкома зацвярджае кіраўніка агітпунктам і дае яму ў дапамогу групу агітатараў.

Усіх агітатараў і прапагандыстаў, якія праявілі сябе ў часе выбараў, партарганізацыі павінны ўзяць на ўлік і пасля ўважлівага азнаямлення з імі зацвердзіць на бюро. Адначасова трэба забяспечыць далейшы рост кадраў агітатараў за лік яшчэ не ўцягнутых у агітацыйна-прапагандысцкую работу. Арганізуючы дапамогу гэтым таварышам, лепшых з іх трэба ўцягваць у рады ВКП(б) шляхам суровага індывідуальнага адбору. Прадаўжаць смелае вылучэнне новых кадраў кіраўнікоў на розныя ўчасткі соцыялістычнага будаўніцтва.

ЦК КП(б)Б абавязаў аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі, гаркомы і райкомы партыі правесці ў лютым і сакавіку 10-дзенныя курсы нізавых агітатараў з аслабаненнем іх на гэты час ад работы. Праз курсы павінна прайсці 4000 чалавек. Ва многіх раёнах такія курсы прыступілі ўжо да работы. Менск выпусціў першую групу ў 90 чал., Гомель—110 чал., Магілеў—120 чал.

Для сістэматычнай работы з агітатарамі пры пярвічных арганізацыях павінны быць створаны агіткалектывы. Кіраўнікамі агіткалектываў райкомы партыі зацвярджаюць падрыхтаваных таварышоў. У агіткалектывах для агітатараў павінны рэгулярна праводзіцца даклады і лекцыі па гісторыі партыі, міжнароднаму становішчу, па пытаннях соцыялістычнага будаўніцтва, антырэлігійнай прапаганды.

Для агітатараў неабходна наладжваць наведванне тэатраў, кіно, музеяў, дапамагчы падпісацца на журналы, газеты, забяспечыць мастацкай літаратурай, арганізаваць у парткабінетах кансультацыі.

Задача агітацыі—давесці рашэнні студзеньскага Пленума Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) да свядомасці кожнага комуніста, кожнага працоўнага.

Зараз важнейшай задачай з'яўляецца разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва ў калгасах і соўгасах за лепшую падрыхтоўку да веснавой сяўбы. Агітацыя павінна весціся за тое, каб выканаць указанне таварыша Сталіна аб ураджаі ў 7—8 млрд. пудоў хлеба.

Неабходна растлумачыць працоўным палітычныя вынікі выбараў, бліскучую перамогу блока комуністаў і беспартыйных, расказаць аб прамове таварыша Сталіна перад выбаршчыкамі Сталінскай акругі,

аб рашэннях першай Сесіі Вярхоўнага Совета СССР, аб «Палажэнні аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» аб Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскім Флоце, разгарнуць антырэлігійную прапаганду, сістэматычна займацца пытаннямі міжнароднага становішча.

* * *

Партыйныя арганізацыі Беларусі, скарыстоўваючы багаты вопыт, накоплены ў перыяд выбараў, павінны неаслабна мацаваць саюз комуністаў і беспартыйных, як аснову поўнай перамогі ў барацьбе за комунізм. Трэба ўсямерна мацаваць сувязы з масамі, наблізіць да партыі шматлікі актыў беспартыйных большэвікоў, узняць на яшчэ больш высокі ўзровень усю партыйна-палітычную работу, каб яшчэ лепш правесці выбары ў Вярхоўны Совет БССР.

Прадаўжаючы ачышчацца ад варожых і чуждых элементаў, бязлітасна громячы трацкісцка-бухарынскую і буржуазна-нацыяналістычную агентуру фашызма, большэвікі Беларусі згуртаванымі вакол ЦК ВКП(б), вакол любімага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна радамі пойдуць уперад, да новых перамог.

**Аксёнаў**

# Пастанову Пленума ЦК ВКП(б) давесці да свядомасці кожнага комуніста

Пастанова студзеньскага Пленума ЦК ВКП(б) «Аб памылках партарганізацый пры выключэнні комуністаў з партыі, аб фармальна-бюракратычных адносінах да апеляцый выключаемых з ВКП (б) і мерах па знішчэнню гэтых недахопаў» з'яўляецца шырокай праграмай работы для ўсёй нашай партыі. Яна ўзбройвае нашы партыйныя арганізацыі, кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка новай сталінскай зброяй у барацьбе за ўмацаванне магутнасці партыі Леніна—Сталіна, за ўмацаванне яе сувязей з найшырэйшымі масамі працоўных, за поўны разгром і знішчэнне ўсіх ворагаў народа.

Гэта пастанова яшчэ мацней згуртуе баявыя рады слаўнай большэвіцкай партыі вакол яе Цэнтральнага Камітэта, вакол правадыра, настаўніка і друга—нашага Сталіна.

Пленум ЦК ВКП (б) з усёй рэзкасцю і сталінскай празарлівасцю ўскрыў грубейшыя памылкі і парушэнні, дапушчаныя партыйнымі арганізацыямі і іх кіраўнікамі пры выключэнні комуністаў з партыі і пры разборы іх апеляцый.

У сваім рашэнні Пленум указаў:

> «Многія нашы партарганізацыі і іх кіраўнікі дагэтуль не здолелі разгледзець і выкрыць майстэрскі **замаскаванага ворага, які стараецца крыкамі аб пільнасці замаскаваць сваю варожасць і захавацца ў радах партыі—гэта па-першае,—і, па-другое, імкнецца шляхам правядзення мер рэпрэсій—перабіць нашы большэвіцкія кадры, пасеяць няўпэўненасць і залішнюю падазронасць у нашых радах»...**
>
> ...«Сярод комуністаў існуюць, яшчэ не выяўлены і не выкрыты **паасобныя кар'ерысты-комуністы, якія стараюцца адзначыцца і высунуцца на выключэннях з партыі, на рэпрэсіях супроць членаў партыі, стараюцца застрахаваць сябе ад магчымых абвінавачванняў у недахопе пільнасці шляхам прымянення агульных рэпрэсій супроць членаў партыі».**

Кожная партыйная арганізацыя і яе кіраўнік, кожны комуніст павінны моцна ўсвядоміць гэтыя сталінскія ўказанні Пленума, выправіць дапушчаныя памылкі, вярнуць у партыю ў намечаны Пленумам тэрмін няправільна выключаных і рашуча ўдарыць па кар'ерыстах, паклёпніках і перастрахоўшчыках, якія за кошт партыі імкнуліся нажыць сабе аўтарытэт.

Студзеньскі Пленум ЦК КП (б) Беларусі аднадушна адобрыў пастанову Пленума ЦК ВКП (б) і адзначыў, што ўскрытыя памылкі пры выключэнні комуністаў з партыі маюць месца і ў партыйных арганізацыях Беларусі. Нашы партыйныя арганізацыі прарабілі вялікую работу па ачышчэнню сваіх радоў ад трацкісцка-бухарынскіх шпіёнаў, буржуазных нацыяналістаў і ўсякіх іншых фашысцкіх агентаў. Аднак цэлы рад партыйных арганізацый усё яшчэ недастаткова змагаецца за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ў партыйнай рабоце і дапусціў буйнейшыя скажэнні рашэнняў Цэнтральнага Камітэта ВКП (б) і ўказанняў таварыша Сталіна ў яго дакладзе «Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў».

Пленум ЦК КП (б) Беларусі адзначыў, што цэлы рад партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў не толькі не выканаў указанняў лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП (б) і ўказанняў таварыша Сталіна аб уважлівых і сур'ёзных адносінах да комуністаў пры выключэнні з партыі, а, наадварот,—падыходзіў да справы злачынна-нядбайна і лёгкадумна. Крыкамі аб пільнасці гэтыя гора-кіраўнікі падмянялі сапраўдную большэвіцкую пільнасць, якая заўсёды грунтуецца на штодзенным і ўсебаковым вывучэнні людзей, на ўвазе да іх. У мэтах самастрахоўкі яны выключалі комуністаў агулам, чым давалі магчымасць замаскаваўшымся ў партыі варожым элементам тварыць свае варожыя справы.

Ускрытыя пленумам ЦК КП (б) Беларусі факты паказваюць, што да агульнага выключэння з партыі прыбягалі яе заклятыя ворагі, якія хацелі перабіць нашы адданыя, чэсныя партыйныя кадры і адвесці ад сябе ўдар крыкамі аб пільнасці.

Прывядзем некалькі фактаў.

У Магілеўскім гарадскім камітэце партыі доўгі час арудаваў вораг народа Хрыпач. Ён пачкамі выключаў адданых партыі людзей. Каб замаскаваць сваю варожую дзейнасць, Хрыпач карыстаўся правакацыйнымі метадамі—узводзіў паклёп на чэсных комуністаў і выключаў іх з партыі нібыта «за сувязь з ворагамі народа».

Былы сакратар Суражскага райкома Чундэраў, цяпер выключаны з партыі, склаў правакацыйны спіс «палітычна нядобранадзейных» комуністаў. У гэты спіс ён уключыў вялікую колькасць членаў партыі, каб выклікаць да іх агульнае палітычнае недавер'е.

Член партыі з 1919 года тав. Ружын, працуючы на чыгуначнай станцыі Бабруйск, не мірыўся з бясчынствамі і рэзка крытыкаваў кіраўнікоў палітаддзела Жлобінскага аддзялення Беларускай чыгункі. Ворагі, якія прабраліся ў палітаддзел, дабіліся праз пярвічную партарганізацыю выключэння з партыі і зняцця з работы тав. Ружына. Патрабаваўся доўгі час, каб ні ў чым непавінны чалавек быў адноўлен у правах члена партыі і прынят на работу.

Пленум Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б рэзка асудзіў практыку некаторых кіраўнікоў партыйных арганізацый, якія ў парадку перастрахоўкі без разбору выганялі з партыі вялікую колькасць комуністаў, без усякай падставы абвяшчаючы іх ворагамі.

Так, партарганізацыя Кіраўніцтва Беларускай чыгункі ў снежні мінулага года толькі на адным партсходзе выключыла з партыі 12 комуністаў. У верасні партарганізацыяй Ленпартгарадка выключан з партыі Кугельман, «як стаўленік ворага народа». Рашэннем райкома тав. Кугельман адноўлен у партыі. Аднак у пратаколах чарго-

вых партсходаў пярвічнай партарганізацыі ён характарызуецца, як вораг народа.

З гэтых фактаў відаць, што некаторыя партарганізацыі і іх кіраўнікі не аказваюць няправільна выключанаму комуністу своечасовай дапамогі, не праяўляюць да яго належнай увагі, чулых, таварыскіх адносін як да роўнапраўнага члена пры вароце яго ў сваю партыйную сям'ю.

Некаторыя райкомы партыі сталі на шлях грубага скажэння ленінска-сталінскіх арганізацыйных прынцыпаў статута ВКП(б). Слуцкі райком выключыў з партыі 20 комуністаў, не абмеркаваўшы іх партыйнасці ў пярвічных арганізацыях. Чырвонаслабодскі райком такім-жа парадкам выключыў 19 комуністаў.

Падобных фактаў грубага скажэння статута, агульнага падыходу пры выключэнні з партыі можна прывесці вялікую колькасць.

Вось чаму студзеньскі пленум Цэнтральнага Камітэта ВКП (б) у сваёй пастанове адзначыў, што многія нашы «партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі, замест таго каб сарваць маску фальшывай пільнасці з такіх «комуністаў» і вывесці іх на чыстую ваду, самі нярэдка ствараюць ім арэол пільных барацьбітоў за чыстату радоў партыі».

Час выкрыць такіх, з дазволу кажучы, комуністаў і закляйміць іх як кар'ерыстаў, якія на выключэннях з партыі хочуць выслужыцца і перастрахавацца пры дапамозе рэпрэсій супроць комуністаў.

У радзе раёнаў Беларусі ворагі народа доўгі час праводзілі шкодніцкую работу ў галіне партыйнага будаўніцтва. У час праверкі і абмену партыйных дакументаў гэтыя агенты фашызма выключалі з партыі нібыта за пасіўнасць сотні чэсных, да канца адданых справе Леніна—Сталіна комуністаў. У Менскай, Гомельскай, Віцебскай, Магілеўскай, Мазырскай і Бабруйскай партарганізацыях ворагі за «пасіўнасць» выключылі з партыі больш 600 комуністаў. У адным толькі Менску ім удалося выключыць 280 комуністаў за «пасіўнасць» і 397 за так званыя малазначныя ўчынкі. Яны гэтым хацелі дабіцца азлаблення выключаных супроць партыі і штурхнуць іх у лагер нашых заклятых ворагаў. Але ворагі народа пралічыліся. Пераважная большасць «пасіўных» і пасля незаслужанага выключэння прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Яны з'яўляюцца стаханаўцамі на вытворчасці, яны былі актыўнымі праваднікамі большэвіцкіх мерапрыемстваў у час правядзення выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Пленум Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б падверг суровай, але ўпаўне заслужанай крытыцы тых партыйных кіраўнікоў, якія вельмі марудна ліквідуюць вынікі шкодніцтва ў галіне партыйнай работы, якія лічаць для сябе зазорным пераглядзець рашэнні аб выключэнні за «пасіўнасць» і аднавіць у радах партыі чэсных, адданых ёй людзей.

Студзеньскі пленум Цэнтральнага Камітэта ВКП (б) указаў:

> «Кіраўнікі партыйных арганізацый наіўна лічаць, што выпраўленне памылак у адносінах няправільна выключаных можа падарваць аўтарытэт партыі і пашкодзіць справе выкрыцця ворагаў народа, не разумеючы, што кожны выпадак няправільнага выключэння з партыі—на руку ворагам партыі».

Выходзячы з гэтага ўказання, Пленум ЦК КП (б) Б абавязаў партыйныя арганізацыі хутчэй выправіць усе дапушчаныя пры выключэнні комуністаў з партыі памылкі і забяспечыць ва ўстаноўленыя

ЦК ВКП (б) тэрміны разгляд усіх рашэнняў на выключаных у час праверкі і абмену партыйных дакументаў за пасіўнасць.

Пастанова Пленума ЦК ВКП (б) яшчэ астрэй ставіць пытанне барацьбы з ворагамі. Гэты дакумент сталінскай мудрасці абавязвае кожную партарганізацыю, кожнага кіраўніка, кожнага комуніста берагчы, абараняць, не дапускаць у крыўду нашых таварышоў, адданых ленінска-сталінскай партыі, яе генеральнай лініі.

Спробы ворагаў сказіць рашэнні студзеньскага Пленума ЦК ВКП (б) у сваю карысць, каб прыкрыць сябе і ўзвесці паклёп на чэсных большэвікоў, на слаўныя органы НКВД, сустрэнуць рашучы адпор як з боку партыйных, так і непартыйных большэвікоў.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі і кожнага комуніста на аснове рашэнняў і ўказанняў ЦК ВКП(б) узмацніць барацьбу з ворагамі ў КП(б)Б, выцягваць іх з усіх куткоў, як-бы хітра яны ні маскаваліся, у якую-б тогу ні апраналіся.

Пастанова студзеньскага Пленума Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)— баявая праграма дзеянняў для ўсіх партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў, для кожнага паасобнага комуніста. Давесці яе да свядомасці партыйных і непартыйных большэвікоў—ганаровая і разам з тым адказнейшая палітычная задача кожнага комуніста.

У няўхільным большэвіцкім выкананні рашэнняў студзеньскага Пленума Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)—залог поўнага разгрому ўсіх ворагаў нашай партыі і хутчэйшай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў галіне партыйнай работы КП(б)Б.

---


Библиотека

Уп. Галоўлітбела № 4240.
Тыраж 6.500 экз.
520.960 друк. зн (9½) арк.
Здана ў набор 16/II—38 г.
Падпісана да друку 10/III—38 г.

*Рэдкалегія*

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку. Зак. № 3178.

